BUNDESSTIFTUNG
AUFARBEITUNG



Анна Камінскі (Рэд.)

# МЕСЦЫ ПАМЯЦІ

## ахвяраў камунізму
## ў Беларусі







҂ацлз ☦ ҂ацли

упокой господи
души оусопшихъ
рабовъ твоихъ
зде убиенныхъ
и сотвори им
вечную памят
1937 – 1938

## Змест

## Прадмова

*Анна Камінскі*

У снежні 2010 года ў Беларусі былі сілай задушаны пратэсты супраць сфальсіфікаваных выбараў. Больш за 700 чалавек было арыштавана, сярод іх – амаль усе апазіцыйныя палітыкі, што прыймалі ўдзел у выбарах, выступіўшы супраць аўтарытарнага прэзідэнта Лукашэнкі, які кіруе краінай з 1994 года. Прымяненне сілы ў адносінах да дысідэнтаў падкрэслівае адсутнасць павагі да правоў чалавека і грамадзяніна ў гэтай апошняй дыктатуры Еўропы. Рухнулі надзеі на дэмакратычныя пераўтварэнні ў краіне, на збліжэнне з Еўрапейскім саюзам і яго нормамі ў сферы аховы правоў чалавека і грамадзяніна. У той жа час апошнія падзеі адлюстроўваюць бяссілле Еўрасаюза ў адносінах да дыктатуры, самавольства і злоўжывання ўладай у самым цэнтры Еўропы.

Прадстаўленыя ў гэтай кнізе памятныя знакі, мемарыялы і помнікі, якія нагадваюць пра злачынствы і ахвяры камуністычнай дыктатуры ў Беларусі, маюць актуальнае палітычнае значэнне. Многія з гэтых помнікаў і мемарыялаў прысвечаны масаваму супраціву дзяржаўнай уладзе. Многія неаднаразова разбураліся. Толькі ў рэдкіх выпадках удавалася арыштаваць злачынцаў. Цяжкую гісторыю будаўніцтва гэтых помнікаў і захавання памяці пра ахвяры несправядлівасці і злачынстваў дапаўняе той факт, што Лукашэнка загадаў стварыць копію помніка Феліксу Дзяржынскаму, арыгінал якой стаяў калісьці перад штабкватэрай органаў дзяржбяспекі на Лубянцы. Перад помнікам гэтаму злачынцу ў двары МУС Беларусі складаюць прысягу навабранцы для міліцыі і спецслужбаў, абавязваючыся выконваць бесчалавечныя дзеянні, традыцыі прымянення якіх, як здавалася, быў пакладзены канец у эпоху галоснасці і перабудовы.

На гэтым фоне асаблівую вагу набывае матэрыял аб захаванні памяці пра сталінскі рэжым, падрыхтаваны Федэральным фондам па вывучэнні дыктатуры САПГ у супрацоўніцтве са шматлікімі мужнымі партнёрамі з Беларусі. Пералічаныя ў кнізе помнікі, якія былі пабудаваны нягледзячы на гвалтоўны рэжым Лукашэнкі і якія патрабуюць пастаяннай аховы, сімвалізуюць грамадзянскую мужнасць і смеласць. Адначасова гэтыя помнікі нагадваюць пра небяспеку дыктатарскага праўлення і пра маштаб злачынстваў супраць асобнага чалавека, яго сям'і, але таксама грамадства ў цэлым. Усе помнікі прысвечаны лёсам людзей, якія ў эпоху камунізму па розных прычынах былі падвергнутыя праследу, якіх забівалі ці адпраўлялі ў ссылку. Падставы маглі быць самыя разнастайныя: адрозныя палітычныя погляды, прыналежнасць да непажаданых этнічных груп, рэлігійнасць, святарская служба, валоданне маёмасцю ці проста неабходнасць выканаць план па выяўленні і знішчэнні ворагаў народа. Гэтыя помнікі захоўваюць у сабе памяць пра жахлівыя людскія гісторыі і лёсы.

У гэтай кнізе прадстаўлена 141 месца, кожнае з якіх так ці інакш нясе у сабе памяць аб ахвярах камуністычнага рэжыму на Беларусі. Часта гэта проста крыжы, што былі ўстаноўлены як знак жалобы,памяці, як напамінанне і сімвал аднача-сова. Будаваліся гэтыя помнікі без дзяржаўнай падтрымкі. Тым больш дзіўным з'яўляецца тое, што, нягледзячы на ўмовы аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі, усё яшчэ знаходзяцца дзеячы, якім хапае адвагі напамінаць пра злачынствы эпохі, якая па-ранейшаму з'яўляецца ідэалагічным і палітычным арыенцірам для сённяшніх лідэраў.

З гэтай прычыны праца шматлікіх прыхільнікаў праекта дадзенай кнігі не магла быць ацэнена дастаткова высока ў самой Беларусі. Даследаваннем асобных месцаў займалася ў асноўным Ірына Кашталян. З 2009 года, не маючы ў Беларусі з-за сваёй навукова-даследчай дзейнасці сродкаў да існавання, яна вымушана жыць у Германіі.Фотаздымкі былі атрыманы дзякуючы беларускім партнёрам і ў першую чаргу Марыюшу Проскену, які прадаставіў іх для выкарыстання ў гэтай кнізе. За ўдзел у напісанні дадзенай кнігі мы сардэчна дзякуем Роні Хайдэнрайху, які кіраваў даследаваннямі і з'яўляецца аўтарам асобных апісанняў.

Пераклад нямецкага рукапісу на беларускую мову стаў магчымым дзякуючы Інстытуту імя Гётэ ў Мінску і яго дырэктару спадарыні Оствальд-Рыхтар. Менавіта гэта вялікая падтрымка зрабіла магчымым з'яўленне дадзенай кнігі на нацыянальнай мове Беларусі.

Шчыра дзякуем Міхаэле Пятковіч за складанне рэестра. Рут Глайніх кіравала працай над рукапісам, дакладна і дасведчана, як і пры стварэнні іншых кніг дакументальнай серыі "Памятныя месцы камуністычных дыктатур", у якую ўваходзяць том пра сталінскі тэрор у Расіі 1937/38 г. і кніга, прысвечаная Галадамору ва Украіне 1932/33 г. Вялікі дзякуй Томасу Клему за прывабнае афармленне, а таксама ўсім, хто прымаў удзел у стварэнні гэтай кнігі.

Кніга пачынаецца з апісання Курапатаў, затым апісваюцца помнікі горада Мінска і памятныя месцы ў Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Беларусі. Помнікі ў межах аднаго рэгіёну размешчаны ў алфавітным парадку.

Напрыканцы хочацца выказаць надзею, што гэтая кніга ў агляднай будучыні з'явіцца таксама і ў Беларусі. Пра актуальны палітычны клімат у краіне красамоўна сведчыць той факт, што ні адно беларускае выдавецтва ці друкарня не адважылася выдаць ужо існуючы на беларускай мове рукапіс. Будзем спадзявацца на лепшыя часы, і няхай гэта кніга не дасць Еўропе забыць пра дэмакратычныя сілы на Беларусі.

Берлін і Мінск, люты 2011 г.

Ана Камінскі　　　　Катрын Оствальд-Рыхтэр

# Беларусь пад уплывам палітычных рэпрэсій савецкага часу (1917–1953 гг.)

*Ірына Кашталян*

Беларускую складовую ў гісторыі палітычных рэпрэсій савецкага часу немагчыма разглядаць у адрыве ад аналізу нацыятворчых працэсаў у рэгіёне, спецыфікі яго геапалітычнага становішча і макра-падзей, якія яго закранулі. Беларусь у часе некалькіх войн на працягу XX стагоддзя была тэатрам ваенных дзеянняў, прадметам перадзелаў у межах розных дыпламатычных дамоў, нярэдка без уліку меркавання яе насельніцтва. Аднак нягледзячы на гэта і рэпрэсіі, якія закранулі амаль кожную сям'ю, з распадам Савецкага саюза беларуская дзяржава атрымала незалежнасць і існуе да цяперашняга дня.

Першая Сусветная вайна стала паваротным пунктам у гісторыі шэрагу народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у іх змаганні за сваю дзяржаўнасць. Падчас яе заходняя частка сучаснай Беларусі была акупавана нямецкімі войскамі. Лютаўская рэвалюцыя ў Расіі, выкліканая ваеннымі цяжкасцямі, паказала неабходнасць выбару далейшага шляху развіцця і для беларускіх земляў.[1] Актывізуюцца арганізацыі, якімі паступова акумулюецца ідэя стварэння асобнай беларускай дзяржавы. 15–24 кастрычніка 1917 г. адбываецца пасяджэнне Цэнтральнай рады беларускіх партый і арганізацый, пад час якога гэтаму ўтварэнню быў нададзены характар палітычнага цэнтра Беларусі і адбылося яго перайменаванне ў Вялікую Беларускую раду (ВБР).[2]

Захоп улады бальшавікамі ў Петраградзе 25 кастрычніка таго ж году не прывёў да аўтаматычнага падтрымання іх кіравання ў Беларусі, хаця на працягу кастрычніка-лістапада савецкая ўлада была ўстаноўлена на ўсёй свабоднай ад немцаў беларускай тэрыторыі. Яна грунтавалася на падтрымцы салдат, а не мясцовага насельніцтва. Прадстаўнікамі яе заканадаўчага органу – Абласнога выканаўчага камітэту саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыканкамзах) не разглядалася магчымасць існавання

1 Падобна як для польскіх, украінскіх, літоўскіх і латышскіх. Больш пра гэта у выданнях: Грицак, Ярослав: Нарис історії України. Формування модерної української нації XIX–XX ст. Київ, 2000; Державлюк, Микола: Міжнародне становище України та її визвольна боротьба у 1917–1922 рр. Київ, 1998.; Файзулін Я., Скальський В. Перелоги української революції: другий зимовий похід армії УНР. Київ, 2008; Kaczmarek, Ryszard: Historia Polski 1914–1989. Warszawa, 2010; Polska. Droga do niepodległości. Warszawa, 2008; Roszkowski, Wojciech: Historia Polski 1914–2005. Wyd. 11. Warszawa, 2007; Salon niepodległości. Warszawa, 2008; Eidintas, Alfonsas: Lithuania in European Politics: The Years of the First Republic, 1918–1940. New York, 1999; Liulevicius, Vejas Gabriel: War land on the Eastern Front: culture, national identity and German occupation in World War I. New York, 2000; Воробьёва, Л. М.: История Латвии: От Российской империи к СССР. Кн. 1–2. Москва, 2009–2010; История Латвии: XX век. Рига: Jumava, 2005.

2 Шыбека, Захар: Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002). Мінск, 2003. С. 185.

незалежнай беларускай дзяржавы. У сувязі з гэтым ВБР не прызнала ўладу Аблвыканкамзаха, расцэньваючы яго як выключна франтавы орган улады. Таму 30 лістапада 1917 г. прадстаўнікамі розных арганізацый у складзе ВБР было прапанавана склікаць 5 снежня таго ж году ў Мінску з'езд прадстаўнікоў усяго беларускага народа.

Усебеларускі З'езд, на якім прысутнічала 1872 дэлегаты,[3] павінен быў вырашыць пытанне аб самавызначэнні і дзяржаўнасці Беларусі. Прыкладна палова дэлегатаў падтрымала такую ідэю і было прынята рашэнне аб стварэнні органа краявой улады. Яно было ўспрынята бальшавікамі як пагроза іх кіраванню і з мэтай «абароны рэвалюцыі» 18 снежня з'езд быў разагнаны, а прэзідыум і шэраг дэлегатаў арыштаваны.

Аднак з наступленнем нямецкіх войск ў лютым 1918 г. кіраўніцтва з'езда здолела выдаць тры Устаўных граматы (21 лютага, 9 і 25 сакавіка 1918 г.), якімі была абвешчана незалежная, у першую чаргу ад Расіі, Беларуская народная рэспубліка (БНР), дэклараваўся шэраг дэмакратычных свабод. Рада Усебеларускага з'езда стала Радай БНР, якая выконвала функцыі парламента Беларусі. Так менавіта БНР стала першай спробай ў рэалізацыі беларускай ідэі дзяржаўнасці ў межах этнічнага пражывання беларускага народа.

Нягледзячы на спрыянне па шэрагу накірункаў (асабліва ў галіне культуры і адукацыі) нямецкія ўлады, звязаныя дыпламатычнымі дамовамі з Савецкай Расіяй,[4] не дазволілі развіцца БНР ў поўнавартасную дзяржаву і не рэагавалі на дыпламатычныя звароты яе Рады. Германія не дапусціла стварэння войска, фінансавай сістэмы, мясцовых органаў улады БНР. Фактычна функцыі ўрада рэспублікі абмяжоўваліся паўнамоцтвамі нацыянальнага прадстаўніцтва пры нямецкай акупацыйнай адміністрацыі.

Існаванне БНР паспрыяла перагляду ўрадам Уладзіміра Леніна палітыкі ў адносінах да Беларусі. У складзе бальшавікоў з'явіліся актыўныя выразнікі ідэі беларускай дзяржаўнасці (Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў, Язэп Дыла і інш.). У пачатку 1918 г. яны склалі аснову Беларускага нацыянальнага камісарыята, які існаваў на правах аддзела Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцяў Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі (РСФСР). Гэта стварыла будучыню для савецкай Беларусі як асобнага дзяржаўнага утварэння, хоць і абмежаванага ў правах.

Пасля нямецкай капітуляцыі ў лістападзе 1918 г. Чырвоная Армія рушыла на Захад. 10 снежня 1918 г. яна ўвайшла ў Мінск, а большасць членаў Рады БНР пакінулі яго, бо з-за разарваных дыпламатычных сувязяў не маглі супрацоўнічаць з Савецкай Расіяй. На вызваленай тэрыторыі была адноўлена савецкая ўлада і ўжо яна занялася беларускай дзяржаўнасцю. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску было абвешчана пра стварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь са сталіцай у Мінску. На гэты раз беларуская дзяржава была замацавана юрыдычна. Аднак няўзгодненасць пазіцый камуністаў адносна яе існавання, а таксама заха-

3 Касцюк, Міхаіл: Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мінск, 2000. С. 53.

4 Паказальным ўяўляецца Брэсцкі мір, падпісаны 3 сакавіка 1918 г. паміж Савецкай Расіяй і Германіяй, паводле якога Беларусь не прызнавалася самастойным нацыянальным утварэннем.

ванне тэндэнцыі не ўлічваць меркаванне мясцовага насельніцтва, паказала тое, што ўжо 27 лютага 1919 г. яе аб'ядналі з Літоўскай Савецкай Рэспублікай ў Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Вайна ненадоўга пакінула ў спакоі беларускія землі. Ужо у першай палове лютага 1919 г. Польшча з дапамогай Антанты пачынае ваенныя дзеянні супраць Савецкай Расіі, якія абцяжарылі становішча Беларусі. За час польскай акупацыі БНР зноў не мела шанцаў, бо польскі ўрад меў уласныя планы на беларускія землі і не прызнаваў на іх іншых дзяржаўных утварэнняў. 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе быў падпісаны папярэдні дагавор з Польшчай аб перамір'і, зноў без уліку меркавання беларускага насельніцтва. Гэта стала падставай для ўздыму актыўнага супраціўлення прабеларускіх сіл, якія ўжо сфармавалі сваю пазіцыю адносна незалежнасці Беларусі. Яскравым прыкладам ўяўляецца ўзброенае выступленне на Случчыне (Слуцкі збройны чын) у лістападзе – снежні 1920 г., удзельнікі якога выступалі за беларускую дзяржаўнасць.

Яшчэ з 1917 г. Случчына была вядома сваёй актыўнасцю у беларускім руху. Таму нядзіўна, што ўвосень 1920 г. на яе тэрыторыі быў скліканы I Беларускі з'езд сялянскіх прадстаўнікоў Случчыны, які прыняў рэзалюцыю пра падтрымку БНР і яе ўрада, вызнаў савецкую уладу, як акупацыйную і выбраў Раду Случчыны. Была створана Слуцкая брыгада стралкоў, у складзе якой было да 10 тыс. чал, у першую чаргу сялян з навакольных вёсак.[5] На працягу месяца яны ўтрымлівалі ўладу ў 15 валасцях. Аднак лёс паўстання быў вырашаны на карысць «ліквідацыі мецяжу» Польшчай і Расіяй. Чырвоная армія атрымала ад польскіх улад дазвол пераследаваць паўстанцаў і на польскай тэрыторыі.[6] Нягледзячы на паразу гэтага выступу і ў 1921 г. супраціўленне працягвалася. На беларускіх тэрыторыях было абвешчана ваеннае становішча, сцягнутыя вайсковыя часткі. З іх дапамогай сітуацыя была «стабілізавана». А 18 сакавіка 1921 г. у Рызе было падпісана пагадненне, па якім заходнія беларускія землі з 4-мільённым насельніцтвам увайшлі ў склад Польшчы. Усходняя частка Беларусі апынулася ў складзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР) і РСФСР.

Для Беларусі перыяд 1917–1920 гг., г. зв. Грамадзянскай вайны, які ўключае і савецка-польскую вайну, каштаваў па меркаванні гісторыка Ігара Кузняцова каля 400 тысяч загінулых.[7] Ужо з самага яго пачатку бальшавікі ўзялі курс на змаганне з тымі, хто перашкаджаў усталяванню рэвалюцыйнай улады. Шмат дзеячоў БНР, беларускіх палітычных партый, праваслаўных і каталіцкіх святароў былі рэпрэсаваны бальшавіцкімі ўладамі.

Пераход ад вайны да міру быў складаным. Пасля сямі год ваенных дзеянняў сацыяльна-эканамічны і палітычны стан рэспублікі быў катастрафічным. Палітыка ваеннага камунізму вычарпала сябе. Бальшавікамі праводзіцца шэраг мер для паляпшэння агульнага становішча: новая эканамічная палітыка (НЭП), індустрыялізацыя, беларусізацыя (палітыка бальшавікоў па нацыянальна-культурным будаўніцтве ў Беларусі). Аднак да канца 1920-х гг. свабода эканамічнага

5 Касцюк, Міхаіл: Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. С. 58.
6 Тамсама.
7 Пакаянне. Злачынствы камуністычнага рэжыму і антыкамуністычны супраціў. Даследаванні, дакументы, сведчанні. Праект «Пакаянне». 2007. С. 4.

развіцця паступова зацiскаецца, робiцца ўпор на каманднa-адмiнiстрацыйныя метады кiравання, з шырокiм выкарыстаннем гвалту праводзiцца калектывiзацыя. У палiтычным плане умацоўваецца манаполiя КП(б)Б на ўладу, праводзiцца знiшчальнае змаганне з палiтычнай апазiцыяй у рэспублiцы.

Больш жорсткiя палiтычныя рэпрэсii сталi iндыкатарам гэтых зменаў. У правядзеннi iх улада змагалася з рэальнымi i патэнцыяльнымi ворагамi, у першую чаргу з iншадумствам. Iнтэлiгенцыю масава абвiнавачваюць у г.зв. “нацыянал – дэмакратызме”, пад якiм разумелi аддаванне перавагi нацыянальным iнтарэсам над класавымi. Пачынаецца маштабная ачыстка дзяржаўных устаноў ад «нацдэмаўшчыны». Аднымi з самых вядомых ахвяр сталi тыя, хто стаяў ля вытокаў БССР: Аляксандр Чарвякоў (старшыня Цэнтральнага выканаўчага камiтэту (ЦВК) БССР), Змiцер Жылуновiч (дырэктар выдавецтва «Беларусь»), Усевалад Iгнатоўскi (першы прэзiдэнт Беларускай Акадэмii навук).

У рэспублiцы нагнятаецца атмасфера падазронасцi i варожасцi. Як снежны ком растуць фальсiфiкаваныя справы па г.зв. контррэвалюцыйных арганiзацыях, арганiзаваныя ОГПУ i КП(б)Б. Толькi за г. 22 такiх «утварэннi» было лiквiдавана у галiне сельскай гаспадаркi.[8] Самай вядомай справай стала па «Саюзе вызвалення Беларусi», у межах якой было абвiнавачана 108 прадстаўнiкоў беларускай iнтэлiгенцыi. У тым лiку акадэмiкi Беларускай Акадэмii навук Вацлаў Ластоўскi, Язэп Лёсiк, Сцяпан Некрашэвiч, прафесар Аркадзь Смолiч, нарком асветы Антон Балiцкi, нарком земляробства Дзмiтрый Прышчэпаў, пiсьменнiкi Максiм Гарэцкi, Уладзiмiр Дубоўка, Язэп Пушча, шмат iншых навукоўцаў. Сярод iншага iм савецкiмi органамi дзяржбяспекi iнкрымiнавалася: «ажыццяўлялi арганiзаванае шкоднiцтва на культурным, iдэалагiчным i iншых участках сацыялiстычнага будаўнiцтва, праводзiлi антысавецкую нацыяналiстычную агiтацыю, накiраваную на запавольванне тэмпаў развiцця Беларусi на сацыялiстычным шляху, ставячы канчатковай мэтай адарванне Беларусi ў этнаграфiчных межах ад Савецкага Саюза, стварэнне так званай Беларускай Народнай Рэспублiкi (БНР)».[9]

Справа «Беларускага нацыянальнага цэнтра» працягнула рэпрэсiўныя тэндэнцыi.[10] Амаль усе асуджаныя па ёй асобы зрабiлi значны ўнёсак у справу беларускага нацыянальнага адраджэння на тэрыторыi Заходняй Беларусi. Па ёй былi абвiнавачаны дзеяч БНР, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея, сябра ЦВК БССР Сымон Рак-Мiхайлоўскi, намеснiк дырэктара Iнстытута мовазнаўства Беларускай Акадэмii навук Iгнат Дварчанiн, старшыня Камiсii па вывучэннi Заходняй Беларусi пры Прэзiдыуме Беларускай Акадэмii навук Пётр Мятла i iнш.[11]

У вынiку у межах гэтай хвалi рэпрэсiй больш за тысячу пiсьменнiкаў, паэтаў, навукоўцаў было асуджана i выслана ў Сiбiр, Казахстан.[12] Для атрымання пат-

---

8 Касцюк, Мiхаiл: Бальшавiцкая сiстэма ўлады на Беларусi. С. 158.

9 Васiлеўская, Нона: Масавыя рэпрэсii iнтэлiгенцыi. Палiтычныя рэпрэсii на Беларусi ў XX стагоддзi: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыi (Мiнск, 27–28 лютага 1998 г.). Мiнск, 1998. www.belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/n_vasilevskaya.

10 Касцюк, Мiхаiл: Бальшавiцкая … С. 157.

11 Кузняцоў, Iгар. Носьбiты нацыянальнай iдэi – ахвяры таталiтарнага рэжыму. http://baj.by/belkalehium/tatalitarysm/lekcyja05.htm.

12 Пакаянне … С. 5.

рэбных паказанняў следчымі выкарыстоўваліся катаванні, які становяцца нормай пры вядзенні крымінальнай справы ў савецкай дзяржаве. Колькасць контррэвалюцыйных спраў становіцца такой вялікай, што з 1929 да 1938 г. уладамі выкарыстоўвалася «актыўная дапамога савецкаму правасуддзю» несудовых органаў – “двоек”, “троек”.

У склад “тройкі” ўваходзілі сакратар райкама партыі, старшыня райвыканкама, начальнік мясцовага аддзялення ОГПУ, якія без суда і следства абвінавачвалі г. зв. “ворагаў народа” і без пракурорскага нагляду і з завочным афармленнем пастаноў выносілі прысуд, часам нават пасля яго выканання.[13] Роля гэтых органаў у асуджэнні невінаватых была вызначальнай. Паводле статыстыкі з усіх спраў, па якіх былі зроблена рэабілітацыя, толькі прыкладна 11,7 % спраў прадстаўлялі незаконныя дзеянні афіцыйных судовых устаноў.[14]

За 1925–1935 гг. больш за 50 тысяч чалавек было рэпрэсавана па палітычных матывах.[15] Сярод іх і лідэры БНР, некаторыя з якіх была растраляны ў турмах – Вацлаў Ластоўкі, Аркадзь Смоліч, іншыя памерлі ў лагерах – Леанард Заяц, Язэп Лёсік і інш. Частку з іх, якія пражывалі ў 1920-я гады за межамі БССР, такі лёс мог не напаткаць. Але мерапрыемствы савецкай ўлады ў працэсах беларусізацыі, НЭПу, павелічэнне тэрыторыі БССР праз перадачу часткі этнічных беларускіх тэрыторый ад РСФСР у 1924 г., а таксама амністыя былым супраціўнікам савецкай улады раскалола беларускі эміграцкі асяродак на прыхільнікаў і праціўнікаў бальшавіцкага кіравання на тэрыторыі Беларусі. Спачатку ўрад БНР (адначасова ён абвяшчае пра сваю ліквідацыю), а пасля і Другая Усебеларуская канферэнцыя 1925 г. у Берліне падтрымалі дзеянні уладаў БССР і абвясцілі Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Частка прадстаўнікоў кіроўных органаў БНР не пагадзілася з гэтым і працягнула сваю дзейнасць у Празе. Тыя, хто паверылі ў станоўчасць зменаў на беларускіх землях і пераехалі ў БССР, у хуткім часе патрапілі пад жорсткія рэпрэсіі, большасці гэта каштавала жыцця.

Калектывізацыя, абвешчаная ў імя «мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі», стала прыкладам рэпрэсій у адносінах да аднаасобнага сялянства. XV з’езд ВКП (б), які адбыўся ў снежні 1927 г., абвясціў аб’яднанне аднаасобных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектыўныя (калгасы) у якасці асноўнай лініі партыі на вёсцы. Абвешчаны прынцып добраахвотнасці не захоўваўся, у хуткім часе быў пастаўлены курс на суцэльную калектывізацыю. Пік яе для Беларусі прыпаў на 1929–1931 гг. Інтэнсіўнасць працэсаў, у тым ліку з выкарыстаннем прымусу, паказвае факт, што ўжо ў лютым 1930 г. ЦК КП (б) Б прапанаваў ЦК ВКП (б) прызнаць БССР рэспублікай суцэльнай калектывізацыі.

У адказ на штодзённы ціск, пагрозы і гвалт пры аб’яднанні ў калгасы адбываюцца ўзброеныя сялянскія выступы. У 1930 такіх было зарэгістравана больш за

---

13 Адамушка, Уладзімір, Кузняцоў, Ігар: Тэхналогія гвалту. Полымя. 1995. №1. С. 133, 140, 150.

14 Адамушка, Уладзімір: Палітычныя рэпрэсіі 2–50-х гадоў на Беларусі. Мінск, 1994. С. 12; Канвэер сьмерці: Дакументы, Сьведчаньні, Успаміны / Уклад. І аўтар каментароў Ігар Кузьняцоў. Менск, 1997. С. 20.

15 Пакаянне … С. 4.

500.[16] У практыцы камуністычнай партыі было прынята распраўляцца з такімі незадаволенымі, вінаватых па меркаванні дзяржавы арыштоўвалі і асуджалі.[17] І хаця ў сакавіку 1930 г. кіраўніцтвам зверху была раскрытыкавана палітыка перагібаў, фарсіраванне калектывізацыі працягвалася. Больш таго, праводзяцца ўзмоцненныя рэпрэсіі за спробы пераадолець негатыўныя наступствы ўвядзення калектыўнага гаспадарання – голад 1932–33 гг., які хаця і быў меншым чым у суседняй Украіне ці Расіі, дзе памерлі мільёны, але быў вельмі цяжкім для беларускага насельніцтва. За крадзяжы паводле Закона аб ахове сацыялістычнай уласнаці (у народзе «Закон аб пяці каласках») з 7 жніўня 1932 г. пагражала крымінальная адказнасць ад 10 год з канфіскацыяй усёй маёмасці да скрайняй меры – расстрэлу.

У снежні 1932 г. БССР абвешчана рэспублікай суцэльнай калектывізацыі, да 1937 г. у яе калгасах было аб'яднана 87,5 % сялянскіх двароў. Пакуты людзей паказваюць лічбы рэпрэсіўнай палітыкі: у ходзе калектывізацыі Усходняй Беларусі было выслана ў аддаленыя раёны СССР не менш за 261 тысячу чалавек, абвінавачаных у кулацтве ці антысавецкай прапагандзе,[18] што часта выяўлялася ў нязгодзе з навязваннем калгаснага ладу. Да гэтай колькасці неабходна дадаць невядомую даследчыкам, але важную лічбу тых, хто быў пакараны смерцю за супраціўленне без завядзення крымінальных спраў, а таксама колькасць мігрантаў, хто пераехаў у горад, а нават і ў іншую савецкую рэспубліку, каб пазбегнуць уступлення ў калгас.

Навязваемая зверху прапаганда атэізму выклікала абмежаваньне свабоды выканання рэлігійных абрадаў. І хаця пасля польска-савецкай вайны 1919–1920 гг. актывізавалася дзейнасць культавых устаноў (у падтрымку праваслаўнай аўтакефаліі, увядзення беларускай мовы ў набажэнствах, адасаблення каталіцкага касцёла ад Варшавы і г.д.) наступ на рэгілію, асабліва на яе служыцеляў, быў знішчальным. У дарэвалюцыйнай Беларусі было 1445 цэркваў, 148 касцёлаў і капліц, 704 сінагогі. Да студзеня 1937 г. былі афіцыйна зачынены 1371 царква, 95 касцёлаў, 633 сінагогі.[19] Практычна ўсе святары, многія актыўныя вернікі былі асуджаны, а потым высланыя ў ГУЛАГ ці растраляныя.

Да 1938 г. рэлігійная сітуацыя яшчэ больш пагоршылася. У чэрвені гэтага года на ўліку засталося толькі 2 праваслаўныя царквы з 1445 дзеючых да рэвалюцыі з 15 служыцелямі культу, з якіх 13 знялі сан. Гэта было звязана, у тым ліку з тым, што ў ліпені-верасні 1937 г. у БССР была ліквідавана «шпіёнска-паўстанцкая арганізацыя «Беларуская праваслаўная аўтакефальная царква» з цэнтрам у Мінску. Да яе было залічана больш за 200 чал. Па іншых гарадах таксама знаходзілі падобныя арганізацыі.[20] Да гэтага часу ў Беларусі таксама былі арыштаваны і ў большасці расстраляны апошнія каталіцкія святары, зачынены ўсе дзейныя касцёлы. Быць каталікам фактычна было раўназначна знаходзіцца пад пагрозай абвінавачання ў шпіёнстве на карысць Польшчы і наступных рэпрэсій.

16 Шыбека, Захар: Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002). Мінск, 2003. С. 285.
17 Касцюк, Міхаіл … С. 87.
18 Адамушка, Уладзімір: Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі. Мінск, 1994. С. 9–10.
19 Саўко, Мікалай: Кароткі нарыс гісторыі культуры Беларусі. Мінск, 2003. С. 68.
20 Касцюк, Міхаіл … С. 174.

У БССР былі праведзены карныя кампаніі супраць прадстаўнікоў пэўных нацыянальных меншасцяў – палякаў, латышоў, літоўцаў, немцаў, яўрэяў.[21] Найбольш рэпрэсавалі палякаў, трэцюю пасля беларусаў і рускіх па велічыні нацыянальную групу. Супраць іх былі праведзены кампаніі 1929–1930, 1933–1934, 1937–1938 гг. (за апошнюю арыштавана 15 741 чал.)[22] З далучэннем Заходняй Беларусі рэпрэсіі ў адносінах да іх былі працягнуты.

У 1936–1938 гг. пачалася новая хваля масавых арыштаў. Гэта быў час Вялікага тэрору па ўсім Савецкім саюзе. У Беларусі за яго час рэпрэсіравана не менш за 400 тысяч чалавек. Толькі пры «выкрыцці» г. зв. «Аб'яднанага антысавецкага падполля» асуджана больш за 2,5 тысячы чалавек,[23] значная частка з якіх расстраляна. Асабліва крывавым стаўся 1937 год. Неабгрунтаваныя рэпрэсіі закранулі большасць тых, хто меў дачыненне да беларускай нацыянальнай эліты.[24] У беларускай гісторыі з'яўляюцца новыя чорныя даты: 27 жніўня ў Мінску адбыўся масавы расстрэл больш пяцідзесяці інтэлігентаў – групы археолягаў, настаўнікаў, каталіцкіх святароў; уначы 29 кастрычніка было расстраляна 22 беларускіх і яўрэйскіх літаратары, больш за 80 іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, духавенства і заможнага сялянства.[25] Вось некаторыя з імёнаў – літаратары Алесь Дудар, Міхась Чарот, Ізі Харык, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, наркамы асветы Аляксандр Чарнушэвіч і юстыцыі БССР Максім Ляўкоў, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ) Анані Дзякаў …

Агулам за даваенны перыяд было забіта каля 90 % супрацоўнікаў Беларускай акадэміі навук, большасць выкладчыкаў БДУ, работнікаў тэатра оперы і балета, Дзяржаўнай Філармоніі. У выніку пяці хваляў рэпрэсій да смерці Сталіна па меркаванні Леаніда Маракова было рэпрэсавана каля 500 літаратараў – чвэрць рэпрэсаваных у СССР, пры тым, што колькасьць беларускага насельніцтва

21 Паводле дадзеных гісторыка Таццяны Процькі было арыштавана немцаў 563 чал., латышоў 1459. (Протько, Татьяна: Политические репрессии в Беларуси. История и современность. Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27–28 лютага 1998 г.). http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/t_protsko. Па літоўцах і яўрэях дакладная інфармацыя па колькасці рэпрэсаваных адсутнічае.

22 Пакаянне, с. 4.

23 Тамсама.

24 Выданні Леаніда Маракова паказваюць трагедыю інтэлігенцыі таго часу на прыкладзе біяграфій больш 4000 рэпрэсаваных настаўнікаў школ і вучэльняў, 3000 каталіцкіх і праваслаўных святароў, 1500 медыцынскіх і ветэрынарных работнікаў, 1000 літаратараў і навукоўцаў і іншых дзеячаў культуры, грамадства, прамысловасці Беларусі: Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах (15 кнігах). Т. 1–2. Смаленск, 2003; Т. 3, 4. Мінск, 2004–2007; Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі 1917–1967. Энцыклапедычны даведнік у 2-х тамах. Т. 1, 2. Мінск, 2007; Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах (15 кнігах). Т. 4. Кніга 1, 2. Рэпрэсаваныя настаўнікі Беларусі. 1917–1954. Мінск, 2007; Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі. 1917–1964. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2009; Рэпрэсаваныя мэдыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі. 1920–1960. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2010.

25 Гэтаму прысвечана кніга Леаніда Маракова Толькі адна ноч. Мінск, 2006.

складала ў час рэпрэсіяў у СССР менш за 5 %.[26] Даследчык, аналізуючы тысячы і тысячы біяграфій рэпрэсаваных, звярнуў ўвагу на ўражваючы факт, што большасць карнікаў мела толькі пачатковую адукацыю і брала на сябе права распраўляцца з тымі, хто быў больш інтэлегентным, адукаваным, разумным за іх. Да гэтага дадаецца колькасны паказчык трагедыі: у час піку рэпрэсій за жнівень 1937 – лістапад 1938 гг. толькі ў мінскім НКВД было растраляна больш за 10 тысяч чалавек. Былі дні, калі расстрэльвалі па 200–250 чалавек, асабліва з нагоды савецкіх свят.[27]

Падпісаны 23 жніўня 1939 г. у Маскве пакт Молатава-Рыбентропа з дадатковым сакрэтным пратаколам дазволіў 17 верасня савецкай арміі перайсці польскую мяжу. Усходнія землі Польскай рэспублікі былі інкарпаваныя ў БССР і УССР. Для жыхароў заходнебеларускага рэгіёна гэта значыла патрапіць пад працэсы саветызацыі – адаптацыі да парадкаў, якія ўсталяваліся ва ўсходняй частцы Беларусі, раней далучанай да савецкай дзяржавы. Пераслед традыцыйных эліт, ганенні вернікаў пачаліся з першых дзён «аб’яднання». У першую чаргу пацярпелі ад рэпрэсій асобы польскай і яўрэйскай нацыянальнасцяў. Беларусы, якія віталі прыход савецкай улады і становішча якіх у чымсці палепшылася у параўнанні ў польскім часам, у хуткім часе, калі сутыкнуліся з эканамічнымі цяжкасцямі і тэрорам, выкліканымі унутранай савецкай палітыкай, у значнай меры расчараваліся ў новым рэжыме.

Пошукі ўладамі г. зв. «ворагаў народа» у Заходняй Беларусі прывялі да чатырох хваляў дэпартацый:

1. 10 лютага 1940 г. работнікаў лясной аховы і ваенных асаднікаў (50 тыс. чал.);
2. 13 красавіка 1940 г. сем’яў асобаў, якія знаходзіліся ў лагерах, турмах, турмах, збеглі за мяжу, раней арыштаваных паліцэйскіх, жандармаў, фабрыкантаў, памешчыкаў, дзеячоў некамуністычных партый (24 тыс.чал.);
3. 29 чэрвеня 1940 г. тых, хто збег з-пад нямецкай акупацыі – пераважна яўрэяў (90 % з 23 тыс. высланых);
4. 19 чэрвеня 1941 г. дзеячаў некамуністычных грамадска-палітычных арганізацый польскай, беларускай, яўрэйскай нацыянальнасцяў (22 тыс. чал.).

На 22 чэрвеня 1941 г. была запланавана яшчэ адна акцыя па высяленні кулакоў і іх сем‘яў, але пачатак ваенных дзеянняў Германіяй супраць Савецкага саюзу спыніў яе.[28] Яшчэ 30 тысяч асобаў былі арыштаваны і прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за г.зв. контррэвалюцыйныя злачынствы,[29] у тым ліку пры пошуку і ліквідацыі антысавецкіх падпольных арганізацый і груп. На 27 ліпеня 1940 г. у заходніх абласцях БССР органамі НКВД было выяўлена 109 такіх фарміраванняў

26 Маракоў, Леанід: Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991. Энц.ыклапедычны даведнік. У 10 т. Т. 1. Мінск, 2003. С. 8. Таксама: http://gazetaby.com/index.php?sn_nid=6463&sn_cat=35.

27 Впервые названы имена палачей, которые расстреливали белорусов в 37-ом. Комсомольская правда в Белоруссии. 16 жніўня 2007. http://www.kp.ru/daily/23951.3/145675.

28 Мірановіч, Яўген: Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток, 1999. С. 124–127.

29 Кузнецов, Игорь: История Беларуси. Мінск, 2005. С. 64.

з 3231 чал., сярод якіх большасць складалі палякі.[30] Усяго без уліку рэпрэсій супраць ваеннапалонных Польскага войска не менш 150 тыс. жыхароў Заходняй Беларусі было рэпрэсавана.[31]

Катынь для гісторыі Беларусі не менш трагічная старонка чым для Польшчы, бо ў складзе польскага войска, якое трапіла ў савецкі палон былі прадстаўнікі заходнебеларускіх тэрыторый, частка расстрэлаў была здзейснена на тэрыторыі БССР. Каля 3 тысяч афіцэраў польскай арміі, завочна асуджаных да смяротнага пакарання, былі дастаўлены ў сакавіку-красавіку 1940 г. у сталіцу БССР і далейшай інфармацыі пра іх перамяшчэнні няма. Магчымым месцам іх забойства вельмі верагодна з'яўляецца ўрочышча Курапаты каля Мінску.[32] З 4421 афіцераў польскай арміі, растраляных НКВД у Катыні ў красавіку – маі 1940 г. па меркаванні гісторыка Ігара Кузняцова 1 059 з'яўляюцца беларусамі. Разам з яўрэямі і палякамі з Заходняй Беларусі агульная колькасць растраляных пад Смаленскам афіцэраў польскай арміі – выхадцаў з Беларусі можа скласці не менш 30 %. Сярод растраляных польскіх вайскоўцаў на тэрыторыі БССР і УССР іх працэнт можа быць нават большым.[33]

З імклівым пачаткам нямецка-савецкай вайны 22 чэрвеня 1941 г. органы бяспекі не паспявалі вывезці углыб СССР усіх вязняў, якія ўтрымліваліся ў 32 унутраных турмах НКВД БССР. А такіх на 10 чэрвеня таго ж году налічвалася 25860.[34] 24 чэрвеня 1941 г. нарком НКВД СССР Лаўрэнцій Берыя выдае сакрэтны загад расстраляць усіх „контррэвалюцыйных элементаў" сярод зняволеных з тэрыторый, якія знаходзяцца пад пагрозай захопа ворагам. Асабліва жорстка, маючы больш часу да наступлення нямецкіх войск, распраўляюцца ва ўсходняй частцы БССР. Паводле даследавання Аляксандра Татарэнка ў Беразвецкім кляштары, непадалёк ад Глыбокага, які на той час з‘яўляўся турмой НКВД, у два этапы забілі больш за 2 тысячы чалавек. 26–27 чэрвеня ва ўрочышчы Цагельня (Чэрвеньскі раён) растралялі каля 3 тысяч зняволеных мінскіх турмаў.[35] На жаль, недаступнасць архіваў і недастатковасць суправаджальнай дакументацыі не дазваляе адсачыць інфармацыю па ўсіх турмах НКВД у Беларусі. Вядома, што ў шэрагу з іх у часе імклівага наступа нямецкіх войск зняволеныя ўсё ж здолелі збегчы.

З адступленнем Чырвонай арміі да ліпеня 1944 г. тэрыторыя Беларусі была акупіравана нямецкімі войскамі. Пэўная частка насельніцтва пайшла на калабарацыю з новай уладай, у тым ліку з-за адмоўнага ўспрыняцца савецкай улады і яе рэпрэсіўнай палітыкі супраць нявінных людзей. Аднак гэты выбар памылковым, бо дзеянні акупацыйных улад таксама аказаліся негатыўнымі і адкрыта знішчальнымі для беларускага насельніцтва. Было спалена 209 гарадоў

30 Касцюк, Міхаіл … С. 210.

31 Тамсама, С. 211.

32 http://katyn.ru/index.php?go=Pages&in=view&id=526.

33 http://charter97.org/ru/news/2009/12/12/24532; http://charter97.org/ru/news/2009/4/3/16907.

34 Приказано приступить: Эвакуация заключенных из Беларуси в 1941 году: сб. док. Сост. А. Кокурин. Минск, 2005. С. 7.

35 Татаренко, Александр: Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921–1954-е годы. Санкт-Петербург, 2006. С. 227–231. Таксама у Касцюк, Міхаіл: Бальшавіцкая сістэма … С. 215.

і райцэнтраў, 9200 сёл і вёсак, 628 з іх з людзьмі. Асабліва цяжкімі былі людскія страты, якія значна паўплывалі на састаў насельніцтва. Па Беларусі загінула, паводле афіцыйных дадзеных, больш за 2 мільёны 200 тысяч жыхароў – прыкладна кожны чацвёрты жыхар, асабліва пацярпела ў час Халакосту яўрэйскае насельніцтва.[36]

Вызваленню беларускіх тэрыторый спрыяла не толькі наступленне савецкіх войск, а і моцны партызанскі рух, хаця і неаднародны па сваім складзе. У некаторых выпадках лясныя атрады супрацьстаялі не толькі нямецкаму панаванню, але таксама змагаліся паміж сабой, як напрыклад, савецкія і польскія фарміраванні. Нацыянальна арыентаванае антысавецкае падполле на тэрыторыі Заходняй Беларусі працягне свае існаванне і пасля вайны, што захавае нестабільную сітуацыю ў рэгіёне.

Пасляваенныя рэпрэсіі – 1953 гг. менш вядомыяі налічваюць па меркаваннях даследчыкаў больш за 200 тысяч высланых і асуджаных на тэрыторыі рэспублікі.[37] Знаходзіліся яны пад моцным уплывам наступстваў ваенных дзеянняў. Тыя, хто заставаўся падчас вайны пад акупацыяй, маглі разглядацца як патэнцыйныя ворагі савецкай улады. Яшчэ складаней было тым, хто апынуўся па-за межамі рэспублікі на момант заканчэння вайны як астарбайтэры, вязні канцлагероў, удзельнікі войск саюзнікаў. Іх адпраўлялі ў праверачна-фільтрацыйныя лагеры, адкуль «ненадзейных» накіроўвалі далей у ГУЛАГ. Даследчыкі мяркуюць, што такім чынам маглі ў 1945–1955 гг. вывезці нават каля 1 мільёну чалавек.[38]

Важным вектарам штодзённасці БССР першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, звязаным з выкарыстаннем уладай рэпрэсіўных фактараў, былі працэсы саветызацыі заходніх абласцей. Колькасць нязгодных з увядзеннем савецкага вобраза жыцця, ідэалогіі сярод мясцовага насельніцтва была дастаткова вялікай. Абмен насельнітцвам з Польшчай 1944–1946 гг. паказаў стаўленне насельніцтва да новай улады, яе палітыкі рэпрэсій і калектывізацыі. Тады супраць савецкага ладу жыцця «прагаласавалі нагамі» нярэдка фармальна запісаўшыся палякамі 241 152 чалавекі.[39]

З-за наяўнасці ў рэгіёне актыўнага антысавецкага падполля працяглы час захоўваецца ваеннае становішча. Усе нацыянальна арыентаваныя антысавецкія падпольныя арганізацыі (акрамя маладзёжных, у першую чаргу Арганізацыя Украінскіх Нацыяналістаў-Украінская Паўстанцкая Армія (АУН-УПА), Армія Краёва (АК)) у дадзены перыяд мелі два падобных этапы дзейнасці: 1. Другая палова 1944–1946 гг. паказала актыўнасць удзельнікаў падполля ў правядзенні адкрытых акцый супраць савецкай улады і спадзяванні на змены дзяржаўнага ладу на беларускіх тэрыторыях пры шырокамаштабным задушэнні супраціўлення

36 Развитие народного хозяйства Белорусской ССР за 20 лет (1944–1963). стат. сб. Минск, 1964, с. 8; Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 2. Люты 1917–2004 г. / Новік Я. К., Марцуль Г. С., Качалаў І. Л. і інш. Мінск, 2006. с. 280.

37 Пакаянне… С. 4.

38 Мірановіч, Яўген: Навейшая гісторыя Беларусі. С. 174; Кузнецов, Игорь: Политические репрессии в Беларуси (1944–1953-е гг.). Гісторыя, якой няма ў падручніках: Матэрыялы навук.-практ. канф.; Мінск, 27 крас. 2002 г. Мінск, 2002, С. 17–24.

39 Белазаровіч В. А. Рэпатрыяцыя на Гродзеншчыне ў 1944–1948 гг. Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: мат-лы рэспуб. навук. канф.: у 4 ч.–ч. 3. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 88; НАРБ. Ф. 4. Воп. 29. Спр. 154, а. 287.

ў працэсе вялікай колькасці чэкісцка-вайсковых аперацый; 2. У 1947–1952 гг. раздробленыя структуры антысавецкага падполля існавалі ва ўмовах строгай канспірацыі і метадычна знішчаліся сілавымі органамі.[40]

Польскае антысавецкае падполле з'явілася ў адказ на падзел тэрыторыі Польшчы ў 1939 г. і стала выразнікам інтарэсаў значнай колькасці насельніцтва Заходняй Беларусі, што падкрэсліваецца найбольшым уплывам АК на дадзенай тэрыторыі. Рэпрэсіўныя фактары адыгралі асноўную ролю ў знішчэнні гэтай часткі арганізаванага супраціўлення. Але, нягледзячы на паступовую ліквідацыю, АК зрабіла ўплыў на ўвесь разглядаемы перыяд, з'яўляючыся істотным дэстабілізатарам унутрыпалітычнай абстаноўкі і аб'ектам увагі сілавых органаў як крыніца пагрозы існаванню савецкай улады на мясцовым узроўні.

Антысавецкае падполле АУН-УПА на тэрыторыі беларускага Палесся таксама з'яўлялася значнай структурай. Яе добра спланаваная дзейнасць і прывабнасць для насельніцтва палажэнняў аб зямельнай, сацыяльных рэформах, свабодзе перакананняў і іншае[41] прыцягнулі пэўную частку мясцовых жыхароў. Але рэпрэсіўная палітыка ўлад аказалася мацнейшай і прывяла да поўнай ліквідацыі ўкраінскіх паўстанцкіх структур у БССР.

Беларускае антысавецкае падполле было меншым за польскае і ўкраінскае з-за слабай выражанасці нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва. Кантынгент, які ўваходзіў у яго, быў розным: узброеныя групы на нелегальным становішчы, якія складаліся з тых, хто падчас нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскай адміністрацыі або служыў у беларускіх вайсковых фарміраваннях, і вучнёўская моладзь, якая, ствараючы ідэалістычныя арганізацыі, працягвала вучыцца і жыць мірным жыццём. Для савецкай улады найбольшую небяспеку ўяўлялі ўзброеныя фарміраванні, якія складаліся пераважна з былых калабарантаў і дзейнічалі пры падтрымцы замежных спецслужбаў. Супрацоўніцтва значнай часткі беларускага ўзброенага супраціўлення з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі і Абверам у час вайны стала асноўным негатыўным момантам у яго гісторыі.

У 1944–1947 гг. літоўскае антысавецкае падполле ўзброена змагалася з савецкай уладай, што прывяло да разгрому асноўных яго груп сілавымі органамі. Пасля 1948 г. літоўскае супраціўленне ператвараецца ў адасобленыя дробныя групы, якія перайшлі да дыверсійна-тэрарыстычнай дзейнасці ў адносінах да партыйна-савецкага актыву і мясцовага насельніцтва. Асаблівасцю было тое, што, нягледзячы на неарганізаваныя дзеянні, літоўскае антысавецкае падполле ў 1948–1953 гг. актывізавалася, што, магчыма, было звязана з задушэннем асноўных сіл АК.[42]

Улады называлі бандытызмам антысавецкую дзейнасць узброеных атрадаў, прыроўніваючы іх да звычайных грабежніцкіх банд. Пры гэтым трэба пазбягаць ідэалізацыі руху супраціўлення, у якім сустракаліся і злачынцы, што далучалі-

40 Волохонович, Игорь: Антисоветское подполье в Беларуси (1944–1946). Гістарычная навука і адукацыя: стан і перспектывы развіцця. Мат-лы II Усебел. канф. гісторыкаў. – Мінск, 10–11. верас. 1997. Мінск, 1999. С. 194.

41 Валаханович, Игорь: Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944–1953 гг. Минск, 2002. С. 100–101.

42 Тамсама. С. 122, 126.

ся з мэтай разбою.[43] Згодна з органах МВД БССР ад 3 чэрвеня 1953 г. з 1944 г. па 1 красавіка 1953 г. сіламі МГБ-МВД было арыштавана 5403 польскіх нацыяналісты, 1282 украінскіх нацыяналісты, 6913 бандыты, 4509 бандпасобнікі, забіта больш за 3000 бандытаў.[44] Пэўная частка з іх была арыштавана не ў ходзе аперацый, а на падставе матэрыялаў допытаў ужо абвінавачаных.

У выніку ўсіх вышэйзгаданых працэсаў абсалютная большасць насельніцтва БССР абірае як асноўную стратэгію канфармісцкія паводзіны. Смерць Іосіфа Сталіна 5 сакавіка 1953 г. стала вызначальнай ў памягчэнні рэпрэсіўнай палітыкі і для БССР. Палітычна рэпрэсаваных з 1953 па 1989 гг. было значна менш чым у сталінскі час, да іх выкарыстоўваліся больш мяккія формы пакарання.[45]

За працяглы час існавання савецкай улады на беларускіх тэрыторыях палітычныя рэпрэсіі закранулі ўсе слаі грамадства як па нацыянальнай, так і сацыяльнай прыкмеце. Прычым ахвярамі карных дзеянняў былі не толькі рэальныя і магчымыя ворагі савецкага ладу, але і цалкам лаяльныя да ўладаў грамадзяне. Як вынік, такія дзеянні выклікалі незваротныя змены ў нацыянальным складзе беларускага насельніцтва, яго рэлігійнасці, нарадзілі у звычайнага чалавека глыбокі і цяжка выкараняльны ўнутраны страх наступстваў учынкаў і слоў, якія не ўкладаюцца ў ідэалогію дзяржаўнай палітыкі.

---

43 НАРБ, ф. 4, воп. 29, спр. 582, а. 264.

44 Ермолович, Виктор, Жумарь, Сергей: Огнем и мечом: Хроника польского на-ционалистического подполья в Белоруссии (1939–1953 гг.). Минск, 1994. С. 99–100.

45 Больш падрабязна ў даведніках: Дэмакратычная апазіцыя Беларусі: 1956–1991 Персанажы і кантэкст. Менск, 1999; Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985. Дзярновіч Алег, аўтар-уклад Том: Т.1. Мінск, 2004.

## У пошуках праўды аб Трасцянцы

*Ігар Кузняцоў*

Калі чалавека прынізілі страхам, здзекваліся з яго права быць чалавекам, – пра гэта належыць прынамсі памятаць. Страта чалавечай годнасці складаецца з двух стадый. Спачатку чалавек прымае прыніжэнне як непазбежнасць, потым – увогуле забываецца на тое, што яго прынізілі. То бок успрымае прыніжэнне як штосці належнае.

Менавіта з такой меркай трэба ставіцца да таго, што ў Беларусі аддаваліся і аддаюцца забыццю злачынствы сталінізму – як да знішчэння пачуцця нацыянальнай годнасці цэлага народу. Знішчэнне чужога народу – злачынства, а свайго ўласнага – палітычны перагіб, тэарэтычная памылка?

Ёсць у крымінальным кодэксе артыкул пра адказнасць за ўтойванне злачынстваў. Ён мог абвясціць злачынкай, да прыкладу, і маці, якая не змагла данесці на роднага сына як на "ворага народу". Але затое ні разу яна, застаючыся глуханямой, не звярнулася да маючых уладу, калі тыя хвалілі злачынствы сваіх папярэднікаў, ад якіх ім у спадчыну перайшла ўлада. Бо калі прымаюць спадчыну – прымаюць і даўгі.

Гаворка ідзе не пра помсту, але пра выкананне законаў. Пра роўнае стаўленне да злачынцаў, які б партбілет яны не насілі ў кішэні. Міжнародную канвенцыю аб нестасаванні тэрміну даўнасці да ваенных злачынстваў супраць чалавечнасці падпісала і наша рэспубліка. І значыць – няма ім тэрміну даўнасці. Значыць – злачынна хаваць дакументы аб гэтых злачынствах, злачынна хаваць месцы масавых расстрэлаў і пахаванняў. Гэта не па-чалавечы. Ці не час для КДБ знайсці іх і абнародваць?

Паводле звестак, у Мінску сёння знаходзіцца не менш за дзесяць месц масавых расстрэлаў перыяду 1920–1940-х гадоў. Расстрэлы адбываліся яшчэ ў не меньш чым 40 населеных пунктах рэспублікі. А колькі месц масавых пахаванняў і расстрэлаў яшчэ не выяўлены да сёння?

Дагэтуль вядомыя далёка не ўсе месцы пахавання ахвяр сталінскага тэрору. Масавыя расстрэлы адбываліся ў лясным масіве Курапаты і ў раёне Лошыцы. Адзіночныя расстрэлы адбываліся на Кальварыйскіх могілках, а трупы пад покрывам ночы закапвалі ў магілах, якія ўжо існавалі. Яшчэ адно месца пахавання, пра якое вядома нямногім, было знойдзена падчас будаўніцтва станцыі метро "Пушкінская". Там дзеля канспірацыі ў скотамагільніку, дзе былі закапаны заражаныя сібірскай язвай жывёлы, ляжалі трупы 300 чыгуначнікаў, якія былі расстраляны ў 1937 годзе паводле асабістага загаду наркама Кагановіча *(пахаванне было знішчана падчас будаўніцтва метрапалітэну. – І. К.)*

У перыяд з 1937–1941 гады масавыя расстрэлы адбываліся таксама ў раёне цяперашняй прамысловай зоны Шабаны і ў раёне ляснога масіву Благаўшчына.

Нягледзячы на тое, што ў Благаўшчыне акупанты падчас вайны расстралялі больш за 140 тысяч мірных жыхароў, гэта не дае права забывацца на сотні і тысячы нашых суграмадзян, якія былі расстраляны супрацоўнікамі НКУС у 1937–1941 гады.

Як ставяцца беларускія ўлады да гэтай праблемы добра сведчыць справа аб масавых расстрэлах органамі НКУС людзей яшчэ да пачатку і ў пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

Узгадаем хаця б такі знамянальны факт – у красавіку 1999 году было завершана чацвертае следства, якое праводзілася па факце знаходжання масавых пахаванняў у лясным масіве Курапаты. Але дагэтуль яго вынікі так і не абнародаваны. Тым не менш "нямецкі след", дзеля знаходжання якога вайсковай пракуратурай на патрабаванне "грамадзкасці" у чарговы раз было праведзена новае следства па старой справе, знойдзены так і не быў.

Нягледзячы на тое, што Курапаты – адна з самых гучных і вядомых спраў у гісторыі Беларусі перыяду пасля перабудовы, вынікі апошняга следства так і не былі даведзены да ведама грамадзкасці. Архіўна-следчая справа засакрэчаная дагэтуль.

Толькі пасля шматразовых патрабаванняў шэрагу грамадзкіх арганізацый у адказ на чарговы зварот 7 снежня 2001 году рэспубліканская пракуратура фактычна пацвердзіла, што "*…як першым, так і дадатковым расследваннем устаноўлена, што ў 1937–1940 гадах органамі НКУС з месц зняволення вывозіліся ў лясны масіў "Курапаты" людзі і там расстрэльваліся…* "

Рассакрэціць матэрыялы справы і апублікаваць яго вынікі ў сродках масавай інфармацыі пракуратура адмовілася, спасылаючыся на "адсутнасць дастатковых падстаў".

Зрэшты, сама адсутнасць інфармацыі ўжо сведчыць аб яго выніках. Падчас шматлікіх праверак і экспертыз былі поўнасцю пацверджаны вынікі папярэдніх расследванняў.

Сёння з упэўненасцю можна сказаць, што вынік курапацкай справы не задавальняе тых, хто зацята не жадае чуць праўду аб трагічным мінулым Беларусі. Тым больш, можна меркаваць пра іх рэакцыю на расследванне абставін смерці нашых людзей ад рук катаў з НКУС у раёне былога нацысцкага лагера знішчэння. Усё астатняе ўжо вядома…

Што ж адбылося ў гэтым раёне больш за 60 год таму?

З восені 1941 году ў ваколіцы вёскі М. Трасцянец (тагачасны калгас імя К. Маркса) пачалі прыбываць першыя транспарты са смяротнікамі. Магчыма, месца было абрана невыпадкова. Яшчэ ў чэрвеньскія дні 1941 году часткі НКУС канваявалі па Магілёўскай шашы калоны арыштантаў з мінскіх вязніц, а таксама ахвяр нкусаўскай "зачысткі" першых дзен вайны.

Канваіравалі не далей за бліжэйшы лес, а гэта і былі ваколіцы Трасцянца. Раней, у канцы 1930-х гадоў, паводле паведамленняў навочных сведкаў, былі адселены хутары, што месціліся на поўнач ад таго самага ляснога масіву Благаўшчына, а частка тэрыторыі непадалёк ад Магілёўскай шашы адышла пад аб'ект, які ахоўваўся НКУС. Адтуль па начах часта чуліся стрэлы.

Пад Мінскам у лясным масіве Благаўшчына не толькі фашысты раправіляліся з мірнымі грамадзянамі, тут таксама нямала "паклалі" сваіх суайчыннікаў у

перадваенныя часы нкусаўцы, расстралялі тых савецкіх жаўнераў і афіцэраў, якія трапілі ў палон да фашыстаў у першыя дні вайны.

Вядома, што перад прыходам акупантаў у Мінск усе вязні і тыя, што знаходзіліся пад следзтвам за здзяйсненне так званых “контррэвалюцыйных злачынстваў” былі выведзены з горада некалькімі калонамі па 2–4 тысячы чалавек. 25 чэрвеня адна калона была расстраляная ў раёне Благаўшчыны, іншая – 26 чэрвеня за Чэрвенем. Аналагічныя расстрэлы былы праведзены ў чэрвені 1941 году і ў шэрагу населеных пунктаў Беларусі.

Гэты факт пацвярджаў таксама вядомы праз свае погляды зацяты прыхільнік сталінскіх рэпрэсій Адам Залескі ў кнізе “И. В. Сталин и коварство его политических противников”(Минск, 2002. С. 293–294).

Працытую даслоўна: “У экстрэмальнай сітуацыі першых дзён Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнікі нізавых звёнаў дзяржбяспекі самі вырашалі пытанне пра жыццё і смерць зняволеных… Са сталіцы Беларусі Мінска калоны зняволеных пад вартай накіроўваліся па Магілёўскай шашы. Аднак, у сувязі са сталымі налётамі нямецкай авіяцыі і скіданнем праціўнікам парашутных дэсантаў, афіцэры, якія суправаджалі гэтыя калоны, прымалі дастаткова своеасаблівыя самастойныя рашэнні. Часам з-за боязі, каб арыштаваныя ў такіх умовах не разбегліся, афіцэры, якія іх суправаджалі, бралі на сябе ролю судовых органаў”.

Праўда хітрыў прафесар, няўжо ж ён не ведаў, што 22 чэрвеня 1941 году на паседжанні Бюро ЦК КП(б) было прынята рашэнне аб выкананні прысудаў у дачыненні да тых, хто быў засуджаны да вышэйшай меры пакарання і ўтрымліваўся ў турмах БССР. На самой справе гэта азначала расстрэл усіх асуджаных паводле палітычных матываў “ворагаў народу”.

На жаль, акрамя паказанняў сведкаў сёння практычна няма іншых дакументальных доказаў, якія б сведчылі пра тое, у якіх месцах і колькі было расстраляна нашых суграмадзян супрацоўнікамі НКУС.

Для адказу на пытанне: як гэта было?, прывяду фрагменты ўспамінаў вязня мінскай унутранай турмы НКУС Цодзіка, якога апытаў А. Майсеня ў пачатку 1990-х гадоў.

…Ішоў трэці дзень вайны – 24 чэрвеня. Немцы імкліва прасоўваліся на Мінскім напрамку, бурачы абаронныя лініі нашых войск. Пра цяжкое становішча на фронце зняволеныя добра ведалі і бралі няўдачы нашай арміі блізка да сэрца. Праз турэмныя краты чуліся выбухі, цяжкі гул самалётаў, у вечаровым небе былі бачны водбліскі пажараў. На турэмным двары “энкэвэдэшнікі” грузілі ў крытыя машыны скрыні з архівамі, падносілі і запіхвалі ў кодаўб незгаральныя шафы – ішла эвакуацыя.

Пад вартай выводзілі і выпраўлялі на машынах партыі зняволенных. У турэмным калідоры штораз звінелі звязкі ключоў, рыпелі засовы і гучала адна і тая ж каманда: “Выходзь шыхтавацца”.

…Пасля поўначы, гадзіне а другой ночы, у турме зноў пачуўся гучны тупат ботаў і бягучых ног. Адразу пасля гэтага адначасова ў некалькіх месцах пачуўся стук жалезных запораў. Дзверы ў камеру Цодзіка адчыніліся напоўніцу, запусціўшы ўнутр палоску жоўтага дзяжурнага святла. “Усе на двор шыхтавацца! Хутчэй!”.

Зняволеныя, якія даўно чакалі на гэту каманду, без лішніх збораў пацягнуліся адзін за адным у асветлены праём дзвярэй. Цодзік таксама падхапіўся з нар і далучыўся да тых, што выходзілі. Па ўсім паверсе і на лесвічных клетках стаяла ўзмоцненая варта. Яшчэ з трох-чатырох камер выходзілі зняволеныя. Вартаўнікі прыспешвалі, падганялі несупынна, лаючыся матам і пагражаючы. Разам з усімі Цодзік выйшаў на вуліцу.

На турэмным двары, выхапленым промнем пражэктара, ужо стаяла калона зняволеных, чалавек сорак. Зняволеныя з камеры Цодзіка далучыліся да яе, да іх дадалася яшчэ адна група, затым другая – агулам набралося каля сотні чалавек. Магчыма, больш, мажліва, меньш. З усіх бакоў калона зняволеных была абкружана шчыльным колам вартаўнікоў з сабакамі. Трохі воддаль стаяла група турэмнага начальства, Цодзік пазнаў сярод іх Кобу з камендатуры і следчага Лебедзева.

Са стану здранцвення яго абудзіў гучны голас начальніка турмы. “Ну што, усе выйшлі?” – крыкнуў ён наглядчыкам. Тыя адзін за адным адрапартавалі, што зняволеныя ў поўным складзе пашыхтаваны на турэмным двары. “Значыць, так, за любую спробу ўцячы падчас транспартыроўкі – расстрэл на месцы. Зразумелі?” – працягваў начальнік. – “Хутка пагрузіць усіх у машыну, варце з сабакамі сесці ў апошнюю”, – закамандваў ён.

Аперацыя была загадзя прадумана і адрэпетавана – на загад начальніка ачапленне з вартаўнікоў адразу ж перашыхтавалася, падзялілася на каманды, кожная з якіх занялася сваёй групай зняволеных. Праз дваццаць хвілін пасадка ў машыны была скончана. Пералічаныя па галовах зняволеныя сядзелі, набіўшыся як селядцы ў бочцы, у крытых брызентам машынах, вуркаталі рухавікі, з глыбіні двара чуўся голас начальніка турмы, які аддаваў апошнія загады.

…Калона кранулася з месца, крытыя машыны адна за адной выпаўзлі з турэмнай брамы на начную мінскую вуліцу. Ехалі павольна – штораз прыходзілася абганяць вайсковыя часткі, якія маршыравалі ў начы; стукалі аб асфальт тысячы жаўнерскіх ботаў, грымелі гарматы, гулі рухавікі. У гэты гук стала ўрывацца зенітныя залпы, глухое водгулле гарматаў, якія стралялі. Сігналячы і манеўруючы падчас руху, калона ўрэшце вырвалася з вулічнай сумятні на Магілёўскую шашу.

Машыны паехалі шпарчэй, але і тут прыходзілася штораз прытармажваць, каб упісацца ў плыню людзей і тэхнікі, якая сунулася ўніз па шашы.

…Ехалі па шашы каля трыццаці хвілін, раптам машыну нахіліла на левы бок, яна пайшла носам наперад і з’ехала з шашы, пачаўшы трэсціся нэрвовым дрыжэннем на ямах і выбаінах палявой дарогі. Гукі калоны ўцекачоў на шашы аддаляліся, потым і зусім сціхлі. Сярод зняволеных у машыне расло напружанне.

Хутка машына сцішыла ход, пакацілася па схіле ўніз, а праз хвіліну спынілася на месцы. Пачулася каманда, было чуваць, як ззаду саскоквалі на зямлю вартаўнікі з сабакамі – адзін, другі, трэці. Вось цэлы іх аддзел прыляцеў з таго боку, дзе сядзеў Цодзік. Зарыпелі замкі, задні борт зваліўся ўніз. “Злазьце па аднаму. Хутчэй!”

Віднела. Начная цемра на небе распалзалася ад дотыку раніцы, якая набліжалася. Цодзік прапіхнуўся да задняга борту і саскочыў уніз, далучыўся

да сваёй групы. Следам за ім яшчэ саскоквалі іншыя, у Цодзіка быў час, каб агледзецца. Яны апынуліся на краі нешырокай нізіны, якая была парослая маладым сасоннікам і кустоўем.

Навокал, на адлегласці каля пяцідзесяці метраў, стаяў лес – сасонкі разам з елкамі, бяроза, альха. У рэдкіх прасветах відно было поле з жытам, што паднялося. Калі лічыць час у дарозе, то гэта было не так далёка ад Мінску – збольшага каля дваццаці кіламетраў.

Каля кожнай машыны стаяла напагатове пашыхтаванае падраздзяленне вартаўнікоў з сабакамі. Натрэніраваныя аўчаркі злосна гырчэлі. Здавалася, яны былі гатовыя парваць на шматкі гэтых вартых жалю людзей, якія збіліся ў кучу. Калі апошнія зняволеныя апынуліся на зямлі, усіх выстраілі ў шарэнгу па двое, Цодзік апынуўся другім нумарам, ён стаяў у задняй лініі.

Два вартаўнікі прыцягнулі аднекуль скрутак кавалкаў дроту. Пасля прагучала каманда: “Рукі ўсім назад, трымаць за спіной”. Вартаўнікі хадзілі ўздоўж шэрагаў – адзін падаваў дрот, другі звязваў ім запясці рук і хуткім рухам закручваў канцы.

Хутка пачулася шпаркае тупаценне ног. Ад групы зняволеных ля другой машыны аддзяліўся высокі малады дзяцюк і рвануў у кірунку лесу, потым крыкі варты: “Стой, навалач! Куды?!”, брэх спушчаных сабак, стрэлы – усё адначасова. Не паспеўшы адбегчы і дваццаці метраў, дзяцюк спатыкнуўся, пахіснуўся з боку на бок і, раскінуўшы рукі, нібыта спрабуючы ўхапіцца за паветра, рынуў тварам уніз. Сабакі, што падляцелі да яго, учапіліся яму ў спіну. Але ўцекачу было ўжо ўсё роўна. Ён быў мёртвы.

Усё адбылося так нечакана, так проста і так жорстка, што зняволеныя стаялі ў моцным узрушэнні. Нявыкрутка, страх і бяссілле моцна скавалі іх свядомасць.

*“Так будзе з усімі, хто паспрабуе ўцякаць!” – пракрычэў перад шыхтам начальнік варты, запіхваючы ў кабуру пісталет. Ён таксама паспеў стрэліць па бягучай мішэні. І, здаецца, застаўся задаволены сваім стрэлам. “А чаго шкадаваць гэту навалач, ворагаў народу, сёння была каманда іх усіх вынішчыць ноччу, няма чаго з імі валэндацца. Немец набліжаецца да Мінску, вось гэта страшна. А пакінеш іх жывымі, няйначай як перабягуць да немца”.*

…Надыйшла чарга Цодзіка – ад дотыку халоднага дроту да рук ён здрыгануўся. Тры хуткіх віткі вакол запясця і неахайна закручаныя канцы дроту – вось і ўсё. Цодік паспрабаваў пакратаць рукамі – дрот не даваў, балюча ўвайшоў у цела. Яшчэ раз – нібыта трохі паддаўся, але трохі. І дзеля чаго ўсё гэта? Усё роўна адзін канец.

…Іх пашыхтавалі на краі нізіны, усе чатыры групы зняволеных сцягнулі разам, у адзін шэраг. Спераду і з бакоў занялі свае пазіцыі вартаўнікі з вінтоўкамі наперавес. Афіцэры выцягнулі пісталеты. Усе рабілася моўчкі ў вусцішнай цішыні золку. Надзей на лепшы зыход ні ў кога сярод зняволеных не засталося.

…Разам з першымі стрэламі Цодзік зваліўся на зямлю – не, яго не параніла, нават не зачапіла. Спрацаваў рэфлекс “самазахавання”, усё адбылося неяк само сабой: стрэл, падкасіліся ногі, рынуў на зямлю. Стрэляніна працягвалася, на

зямлю падалі новыя целы. Яшчэ стрэлы, яшчэ… Потым усё раптам сціхла. Толькі глухія стогны параненых, мальба аб дапамозе ўрываліся ў гэту цішыню. Цодзік пачуў каманду, што прагучала, ён пазнаў гэты голас – камандаваў начальнік аховы: "Праверыць кожнага, у жывых нікога не пакідаць!"

Пачуліся таропкія крокі; яны набліжаліся, зусім ужо побач – Цодзік зжаўся ў пружыну, здранцвеў. Вартаўнік, што падбег, балюча, з усяго размаху ўдарыў Цодзіка ў бок – сціснуўшы зубы, Цодзік змаўчаў. Побач у забыцці прастагнаў паранены – гэта згубіла яго і выратавала Цодзіка, вартаўнік адразу ж пераключыўся на няшчаснага, пачуўся адзін, потым другі стрэл зблізу. Адзінкавыя стрэлы гучалі то тут, то там.

Хутка ўсё зноўку сціхла. Не было болей чуваць ні стогнаў, ні стрэлаў. І яшчэ раз ля самай галавы Цодзіка зашамацелі па густой траве чыесці ногі – відаць, начальнік аховы разам са сваімі спадручнымі правяраў выкананне загаду. Праз дзве хвіліны прагучала каманда: "Па машынах!" Завяліся рухавікі, "караван смерці" выправіўся ў зваротны шлях. З усяе моцы Цодзік прыслухоўваўся да гулу машын, які аддаляўся.

Колькі часу ён праляжаў у забыцці – невядома. Прыйшоў у сябе, калі праз шчыліны ў гары мёртвых чалавечых целаў прабівалася дзённае святло. Перад яго вачыма паўстала вусцішная карціна – у нізіне – сотні скурчаных, кінутых вобзем, распластаных целаў. У перакошаных ад болю тварах, пасінелых вуснах, што былі знявечаны агоніяй, у рыжых плямах крыві на траве застыла смерць.

Аглушаны ўбачаным, Цодзік кінуўся ўцякаць з усяе моцы да лесу і потым яшчэ доўга, не разбіраючы дарогі, прабіраўся наўпрост праз кусты ядлоўца і малады ельнік. Спатыкаўся, падаў, падхопліваўся зноў і зноў ляцеў.

На палове шляху да шашы справа віднелася вёска – каля сотні хат, не болей. Цодзік амаль што не ступіў за парог, як узгадаў, што хацеў яшчэ пра штосьці спытаць у старой:

А як называецца ваша вёска?
Трасцянец называецца.

Праз гады, пасля таго, як ён вярнуўся ў родную Беларусь і пад прозвішчам Дабравольскі асеў у Віцебску, ён пачуў пра трагедыю Трасцянца – пра праклятае месца, якое было ператворана фашыстамі ў концлагер-душагубку. Але мала хто ведаў, што трагедыя Трасцянца пачалася раней, што па волі злога лёсу ў гэтым месцы перапляліся не адна, а дзве трагедыі, дзве страшныя чалавеканенавісніцкія чумы. А хто мог ведаць? Адзіным сведкам той першай трагедыі застаўся Цодзік.

Можна прывесці яшчэ шэраг сведчанняў, якія пацвярджаюць перадваенную праўду аб Трасцянцы. Праўда былі і выпадкі вызвалення некаторых вязняў. З расповяду былога настаўніка Ю. А. Сабалеўскага вынікае, што ён быў арыштаваны ў Мінску органамі НКУС у першы дзень вайны. 24 чэрвеня 1941 году арыштаваных вывелі з камер і на турэмным двары пашыхтавалі ў калону, якая накіравалася на ўсход па Магілёўскай шашы. 25 чэрвеня на вялікай паляне ў

лесе калону спынілі і абвясцілі, што зараз адбудзецца суд. Вартаўнікі падзяліліся на некалькі груп, пачалі выклікаць арыштаваных і патрабаваць ад іх адказаў на пытанні. Сяржант НКУС, даведаўшыся, што ён настаўнік, адпусціў яго. Было адпушчана яшчэ некалькі чалавек з кола інтэлегентаў.

Астатнія падзялілі сумны лёс зняволеных, такіх як Цодзік.

Ёсць яшчэ шэраг дакументальных сведчанняў.

У прыватнасці, нямецкі журналіст Пауль Коль яшчэ ў 2000 годзе дэталёва паведаміў пра тэхналогію масавага знішчэння вязняў, якая, у прынцыпе, нам вядомая. Ён прадэманстраваў савецкую тапаграфічную карту 1939 году, дзе тэрыторыя ляснога масіву Благаўшчына была пазначана ўжо тады як закрыты аб'ект, які знаходзіўся пад аховай.

Ёсць меркаванне, што гэта было зроблена зусім не выпадкова, і непасрэдную датычнасць да “аб'екту” мае НКУС. Патрабуюцца толькі доказы. І яны ёсць. Як вядома, на месцы канцлагера ў 1944 годзе пачала працаваць Дзяржаўная Надзвычайная камісія.

Першапачаткова знайшлі пахаванні не там, дзе была яма-печ, не сам канцлагер, а злева ад Магілёўскай шашы ў лясным масіве Благаўшчына. У той час якраз і былі апублікаваны першыя афіцыйныя дадзеныя пра колькасць загінулых тут людзей. Паводле версіі чальцоў камісіі за паўгады да вызвалення фашысты выкопвалі парэшткі і спальвалі іх. Паводле колькасці пеплу і была зроблена выснова пра колькасць пахаваных у 34 ірвах.

Але ёсць, падаецца, і іншая частка таго заключэння Надзвычайнай камісіі, пра якую мала хто ведае. Аказваецца, калі Камісія пачала працаваць, яна знайшла пахаванні, частка з якіх знаходзілася на тэрыторыі цяперашней звалкі. Выявілася, што яны былі перадваеннымі. Раскопкі ў гэтым месцы былі зараз жа спынены і аднесены за 300–400 метраў. Затым раскрывалі 34 ірвы-траншэі.

Пра слушнасць гэтай версіі сведчаць таксама шмат гільз ад зброі савецкай даваеннай вытворчасці, якія былі знойдзены у 1994–1995 гадах супрацоўнікамі музею Вялікай Айчыннай вайны ў Благаўшчыне падчас здымак дакументальнага фільму “Трасцянец”.

Гэта пацвердзіла таксама былы вучоны сакратар музею ВАВ А. Валькевіч у 1994 годзе: *“Як стала вядома, у раёне Трасцянца загінула больш за 500 000 чалавек. Але даваць галоснасць гэтым звесткам забаранілі чальцы ДНК (Дзяржаўнай Надзвычайнай камісіі) з Масквы. Чаму?*

Таму што, на іх погляд, у гэта цяжка было паверыць… Можна было б запрасіць міжнародных экспертаў. Парэшткі паўмільёна загіблых не іголка ў сене. І тут нараджаецца яшчэ адна небеспадстаўная думка.

А ці не ўваходзяць у лік гэтай лічбы і ахвяры НКУС 30-х гадоў? Узгадвалі ж старыя жыхары в. Вялікі Трасцянец і Малы Трасцянец страляніну ў лесе па начах у даваенны час”.

У 1957 годзе на месцы перадваенных расстрэлаў з санкцыі ўлады цалкам свядома была зроблена гарадзкая звалка, каб такім чынам схаваць сляды злачынстваў. Іначай проста ніяк няможна растлумачыць з'яўленне тут гэтага “маскіруючага аб'екту”. І гэта было зроблена, як не дзіўна, пасля прыняцця ў 1950, а затым і ў 1956 годзе рашэнняў аб ушанаванні памяці ахвяр фашызму.

Сёння практычна ўжо немагчыма вызначыць колькі ахвяр сталінскага тэрору было пахавана на месцы цяперашняй звалкі і ў лясным масіве Благаўшчына.

Да вайны ў месцы, пазначаным на мапе як ахоўная зона, не знаходзіўся ні вайсковы палігон, ні які іншы вайсковы аб'ект. Ён з'явіўся там адно пасля вайны. Ніводнага дакумента, які б пацвярджаў факт расстрэлаў у тых жа Курапатах альбо ў іншых месцах, як мы ведаем, не ўдаецца знайсці даследчыкам у беларускіх архівах, а архіў КДБ наглуха закрыты і дагэтуль. Па ўсяму відаць, не будзе знойдзена і дакументаў і па "Трасцянцу", таму што яны, па ўсяму, даўно знішчаны з мэтай утойвання слядоў злачынства.

Нельга не згадзіцца з высновамі вядомага даследчыка трасцянецкай трагедыі Яўгена Цумарава аб тым, што "сёння небезпадстаўным належыць лічыць і верагодныя апасенні кіраўніцтва самога НКУС, што ў выпадку "выхаду" на Нюрнбергскі працэс Трасцянца як пахавання вялікай колькасці грамадзян еўрапейскіх краін давядзецца праводзіць эксгумацыю з удзелам адмыслоўцаў краін іх паходжання, а таксама магчымыя перазахаванні на падставе нацыянальных традыцый. А як жа тады адцягнуць увагу датошных іншаземных адмыслоўцаў ад брацкіх магіл "паходжання" 1930-х гадоў і чэрвеня 1941 году. Бо яны – тут жа … "

Сёння ўжо прыйшоў час назваць высветленыя не КДБ, а даследчыкамі імёны катаў, якія стралялі ў патыліцы нашых суграмадзянаў, у тым ліку і ў раёне Трасцянца. Гэта, у прыватнасці, супрацоўнікі камендатуры НКУС БССР: Нікіцін, Ермакоў, Коба, Якаўлеў, Астрэйка, Дуброўскі, Бачкоў, Бацян, Абрамчык, Мігно. Гэта далёка не поўны спіс нкусаўцаў, якія знішчылі тысячы ні ў чым не вінаватых людзей …

Сёння, зрэшты як і ўчора, можна задаць кампетэнтным органам шэраг пытанняў: чаму менавіта ў Трасцянцы, каля самай Благаўшчыны з пахаваннямі больш за 140 тысяч чалавек, была адкрыта пасля вайны і за дзесяцігоддзі вырасла самая вялікая пад Мінскам звалка?

Чаму Благаўшчына да пачатку 1990-х знаходзілася на тэрыторыі вайсковага палігону?

Чаму ўвосень 2002 году падчас правядзення даследчых прац адмысловым пошукавым батальёнам міністэрства абароны не ўдакладняліся месцы перадваенных расстрэлаў, хаця гэтыя факты былі апублікаваны ў друку?

Цалкам відавочна, што ў дадзеным выпадку ідзе фільтрацыя інфармацыі: пра ахвяр фашызму – можна, пра ахвяр сталінізму – "непажадана". Патрабаванні аднавіць ісціну ва ўсім аб'ёме трактуюцца як палітычная гульня. Замоўчванне, хаванне месц пахаванняў і колькасці ахвяр палітычных рэпрэсій – амаральна. Сорамна, што хтосьці можа мець права на магілы і памяць, а хтосьці ўсё яшчэ пазбаўлены яго.

У адпаведнасці з пастанаўленнямі ўраду ў бліжэйшы час на плошчы ў 400 гектараў будзе створаны мемарыяльны комплекс "Трасцянец". Упэўнены, што гэта мусіць быць мемарыял памяці не толькі ахвярам фашызму, але і сталінізму, напамінанне пра крывавую навуку двух таталітарных рэжымаў 20 стагоддзя.

# Памяць пра ахвяр сталінізму ў Беларусі

*Роні Хайдэнрайх*

Апошняя дыктатура Еўропы і рэлікт Савецкага Саюзу – вось распаўсюджаныя меркаванні пра Рэспубліку Беларусь. Гэта не здзіўляе. Той, хто падарожнічае па краіне, сустракае паўсюль парэшткі савецкай спадчыны. На галоўных плошчах стаяць помнікі Леніну, пяціканцовыя чырвоныя зоркі да сёння ўпрыгожваюць грамадзкія будынкі, а дзяржаўная служба бяспекі ўсё яшчэ мае сумна вядомы скарот КДБ. Побач з ўсім гэтым перш за ўсё Другая сусветная вайна, якая паранейшаму называецца Вялікай Айчыннай вайной, разам са сваімі помнікамі і святамі з'яўляецца важным складнікам для стварэння ідэнтычнасці. Здаецца, што краіна непарыўна звязана з Савецкім Саюзам і "гераічнай вайной" супраць нямецкіх акупантаў.[1]

Здаецца, што для крытычнага разгляду камуністычнага мінулага так, як гэта адбываецца ў амаль што ўсіх краінах Усходняй Еўропы, у афіцыйнай Беларусі няма месца. СМІ вельмі рэдка ўзгадваюць пра месца знаходжання масавых пахаванняў ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам, дзе ў 1930-я гады НКУС былі забіты і пахаваны тысячы ахвяр. Сутычкі паміж апазіцыяй і сіламі бяспекі выклікаюць увагу часцей, чым гісторыя гэтага месца.[2]

Для большасці насельніцтва сталініскія злачынствы адносяцца да схаванага ландшафту гісторыі, які дагэтуль не знайшоў месца ў афіцыйным вобразе гісторыі краіны. Аўтарытарны рэжым прэзідэнта Лукашэнкі, які знаходзіцца на пасадзе ўжо на працягу пятнаццаці гадоў, спыняе плюралістычныя гістарычныя дыскурсы і, такім чынам, даследванне злачынстваў камунізму.

Афіцыйнай палітыцы памяці, якая мае прасавецка арыентаваную канатацыю, спрабуе супрацьпаставіць альтэрнатыўны вобраз гісторыі, які ўключае ў сябе і ўшанаванне памяці пра ахвяр камуністычнага тэрору, толькі апазіцыйны рух, які за мінулы час стаўся маргінальным. Паміж гэтымі двума пазіцыямі, як здаецца, амаль нічога не адбываецца. Па-за асяродкам нацыянальнай апазіцыі не існуюць грамадзкія арганізацыі, якія б займаліся даследваннем цёмных старонак сталінізму.

1 Аб месцы нямецка-савецкай вайны 1941–1944 гг. у беларускай культуры ўшанавання памяці гл. Bernhard Chiari, Robert Maier: Volkskrieg und Heldenstädte: Zum Mythos des Großen Vaterländischen Krieges in Weißrußland. Гл. Monika Flacke (Hrsg.): Mythen der Nationen. Аб нямецкай акупацыі гл. Bernard Chiari: Alltag hinter der Front. Kollaboration und Widerstand in Weißrußland 1941–1944, Düsseldorf 1998.

2 Апошні раз гэта мела месца ў 2001 г., калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў шырокая кааліцыя, якая складалася з апазіцыйных і неўрадавых арганізацый, імкнулася перадухіліць знішчэнне месца пахаванняў у Курапатах у працэсе пабудовы аўтастрады.

Паводле гэтых высноў дадзенай кнігі пра месцы ўшанавання памяці ахвяр камунізму ў Беларусі, уласна кажучы, не павінна было існаваць. Збор матэрыялу да гэтай кнігі паказаў, што па-за палітычнай барацьбой за канкуруючыя міжсобку варыянты памяці ўнутры грамадства дагэтуль маюцца нішы, на якія звяртаецца мала ўвагі і ў якіх, нягледзячы на ўсе супярэчнасці, магчыма частковае даследванне сталінскіх злачынстваў і ўшанаванне памяці ахвяр.

**Даследванне тэмы сталінізму паміж 1985 і 1991 гг.**

Калі азірнуцца на пачатак даследвання тэмы сталінізму, то сённяшняя сітуацыя ў Беларусі здаецца парадаксальнай. Падчас унутрыпалітычных рэформ, якія ажыццяўляліся пры Міхале Гарбачове ў сярэдзіне 1980-х гг., даследванне "белых плям" недалёкай мінуўшчыны ў тагачаснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы было такое ж інтэнсіўнае, як у прыбалтыйскіх рэспубліках альбо ва Украіне. Таксама і тут гэты працэс ініцыяваўся маладым нацыянальным і праваабарончым рухам. Першай вехай лічыцца адкрыты ліст 27 беларускіх навукоўцаў да тагачаснага дзяржаўнага і партыйнага кіраўніка Гарбачова, напісаны ў ліпені 1985 г. У ім гаварылася пра адраджэнне беларускай мовы і вяртанне да нацыянальнай культурнай спадчыны беларусаў. Па ўсёй краіне ствараліся аб'яднанні, якія, між іншым, выступалі за рэстаўрацыю і захаванне гістарычных помнікаў. Зварот да гісторыі ўласнай краіны ўключаў даследванне недалёкага мінулага. Спачатку ў вузкім коле адбывалася даследванне гвалтоўнага вопыту 1930-х гг.[3] Гэта тэндэнцыя не абмяжоўвалася толькі тагачаснай БССР. Ва ўсім Савецкім Саюзе даследваць сталінскую спадчыну пачалі праваабарончыя рухі, а перадусім таварыства "Мемарыял" у Маскве.[4]

У тагачаснай БССР нацыянальны і праваабарончы рухі атрымалі трагічным чынам моцны імпульс у выніку чарнобыльскай катастрофы, якая адбылася 26 красавіка 1986 г. Кіраўніцтва падчас катастрофы, якое ажыццяўлялася дзяржаўным і партыйным апаратам, а таксама забруджванне вялікай часткі тэрыторыі краіны мелі вынікам шырокую грамадзкую незадаволенасць. Памер радыёактыўнага забруджвання выклікаў у публічных дэбатах асацыяцыі з падобным досведам знішчэння ў мінулым: такімі, як Другая сусветная вайна альбо сталінскае гвалтоўнае панаванне ў 1930-х гг.[5] Рэпрэсіі, якія ажыццяўляліся сталінскім рэжымам, сталіся на гэтым фоне часткай штодзённай палітыкі. 1

3 Захар Шыбека. Нарыс гісторыі Беларусі. 1795–2002. Мінск, 2003. Стар. 388 f. Погляд на дзейнасць розных дысыдэнцкіх груп і дыскусіі ў іх межах прадстаўляе кніга Нонканфармізм у Беларусі. 1953–1985. Даведнік, выдадзены Алегам Дзярновічам. Мінск, 2004. Абагульненне гл. у Astrid Sahm: Die weißrussische Nationalbewegung nach der Katastrophe von Tschernobyl, Münster 2004.

4 Elke Fein: Geschichtspolitik in Rußland. Chancen und Schwierigkeiten einer demokratisierenden Aufarbeitung der sowjetischen Vergangenheit am Beispiel der Tätigkeit der Gesellschaft Memorial, Hamburg/Münster 2000.

5 Rainer Lindner: Der „Genozid“ im kulturellen Gedächtnis der Ukraine und Weißrußlands. Vernichtungstraumata in sowjetischer und nachsowjetischer Zeit. Гл. у Forum für osteuropäische Ideen- und Zeitgeschichte, 2/2003.



*Помнік Леніну ў Слоніме* *Фота: Марыюш Проскень*

лістапада 1987 г. у Мінску перад помнікам Янку Купалу ўпершыню сабралася некалькі соцен чалавек, каб ушанаваць памяць ахвяр сталінізму.[6]

Даследванне злачынстваў 1930-х гг. дасягнула свайго апагею падчас публікацыі справаздачы аб месцы масавых пахаванняў у Курапатах (гл. артыкул Элены Тэмпер, які змешчаны ў дадзенай кнізе). У чэрвені 1988 г. у газеце "Лтаратура і мастацтва" быў надрукаваны шматстаронкавы артыкул археолагаў Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва.[7] Абодва навукоўцы на падставе вынікаў раскопак і сведчанняў сучаснікаў апісвалі, як НКУС забівала тысячы людзей у 1930-я гг.[8] Знаходка брацкіх магіл у Курапатах прыцягнула ўвагу грамадзкасці. Дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва было прымушана стварыць камісію па даследванні гэтай справы. У пачатку ліпеня 1988 г. у Курапатах пры удзеле грамадзкасці пачаліся новыя раскопкі з мэтай далейшага даследвання гісторыі гэтага месца.[9]

6 Rainer Lindner: Historiker und Herrschaft. Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weißrußland im 19. und 20. Jahrhundert, München 2001, стар. 391.

7 Курапаты – дарога смерці. Літаратура і мастацтва, 03.06.1988.

8 Гл. наступныя публікацыі, прысвечаныя тэме Курапатаў: Зянон Пазьняк, Мікалай Крывальцэвіч, Алесь Ёў. Курапаты. Мінск/Нью-Ёрк, 1993. На нямецкай мове: Kurapaty. Ausgrabung eines Gräberfeldes aus dem Stalinismus. Übersetzung eines 1994 in Minsk erschienenen Grabungsberichts, Hannover, 1997.

9 Sahm: Die weißrussische Nationalbewegung, стар. 66.

Гэта было першае месца пахаванняў сталінскага часу, якое трапіла ў поле зроку грамадзкасці на тэрыторыі Савецкага Саюзу.[10] Для дзяржаўнага і партыйнага кіраўніцтва ў Мінску і Маскве апублікаванне інфармацыі па гэтай справе азначала, што перад насельніцтвам, якое было раздражнёна, у БССР трэба было апраўдвацца не толькі з прычыны катастрофы на атамнай электрастанцыі, але і за злачынствы сталінізму.

У якасці непасрэднага выніку адкрыцця Курапатаў 18 кастрычніка 1988 г. была заснавана арганізацыя "Мартыралог Беларусі". Мэтай гэтага аб'яднання, да якога побач з археолагамі, якія ўдзельнічалі ў раскопках, належылі вядомыя інтэлектуалы, пісьменнікі і публічныя асобы, было распачаць даследванне сталінізму ў Беларусі і паклапаціцца пра захаванне памяці пра ахвяр. На той самай акцыі да жыцця быў пакліканы арганізацыйны камітэт першай незалежнай палітычнай арганізацыі – Беларускага Народнага Фронту. На ўстаноўчым з'ездзе, які адбыўся 24 чэрвеня 1989 г. у Вільнюсе, яго старшынём быў абраны Зянон Пазьняк, які ў значнай ступені вызначаў палітыку партыі да сваёй эміграцыі ў 1996 г.[11]

Арганізаваная Народным Фронтам акцыя ўшанавання памяці ахвяр сталінізму, якая праходзіла ў традыцыйны дзень успаміну памерлых – Дзяды, змабілізавала шырокія колы насельніцтва прынамсі ў Мінску. Кіраўніцтва дзяржавы намагалася разбурыць уплыў нацыянальнага руху. Народны Фронт разглядаў сябе ў якасці пачынальніка нацыянальнага адраджэння і паклікаўся пры гэтым на да- і антысавецкія традыцыі беларускай гісторыі. Гэту акалічнасць урад выкарыстоўваў для таго, каб дыскрэдытаваць чальцоў БНФ як "калабарантаў" альбо "фашыстаў". Вобразу, намаляванаму ў СМІ, БНФ, які да 1991 г. дзейнічаў у падполлі, не мог супрацьпаставіць амаль нічога. Народны Фронт, праграма якога спачатку мела нацыянал-камуністычныя рысы, адрэагаваў зменай кірунку сваёй палітыкі ў галіне гісторыі да яўна антысавецкай і пазней антырасійскай. Усталяванне ў грамадстве новага нацыянальнага вобразу гісторыі, які прадстаўляла апазіцыя, было пры такіх варунках вельмі цяжкім.

Для крытычнага разгляду сталінскіх злачынстваў палітызацыя тэмы сталінскіх рэпрэсій мела цяжкія наступствы. У палітычнай барацьбе для БНФ і іншых нацыянальна-дэмакратычных партый сталінізм быў важкім аргументам для дэлегітымізацыі пануючых эліт. Не толькі наменклатура, але перадусім уплывовыя ветэранскія арганізацыі не хацелі нічога чуць пра падобную новую ацэнку савецкай гісторыі. У адрозненне ад прыбалтыйскіх краін і Украіны ў Беларусі не ўдалося стварыць масавага руху з аб'яднання імкненняў да незалежнасці і гістарычнай асветы. На фоне гэтага ў Беларусі не адбыўся прынцыповы разрыў з савецкім мінулым.

10 Буйныя месцы масавых пахаванняў, як Бутава альбо Данское ў Маскве, сталіся прадметам публічных дыскусій толькі ў 1989 г. Толькі ў Чалябінску (Сібір) адначасова з гэтым было знойдзена адно з найбуйнейшых месцаў ля Залатой Гары, дзе адбываліся пакаранні смерцю. Параўн. Erinnerungsorte an den Massenterror. Russische Föderation, hrsg. von Anna Kaminsky, Berlin 2007.

11 Гл. Sahm: Die belarussische Nationalbewegung, а таксама David Marples: Belarus. A denationalized Nation, Amsterdam u.a.1999.

## Канкуруючая памяць

Аднак дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва не магло поўнасцю ігнараваць патрабаванне расследваць сталінскія злачынствы. Стварэнне дзяржаўнай камісіі па даследванні справы ў чэрвені 1988 г. было крокам насустрач, вынік якога быў зруйнаваны гвалтоўнымі захадамі супраць першай вялікай акцыі па ўшанаванні памяці ахвяр, якая адбылася ў Курапатах 30 кастрычніка 1988 г., што выклікала моцныя пратэсты. Адначасова з гэтым у дзяржаўным і партыйным апараце чуліся галасы, якія выступалі за абмежаваны разгляд тэмы. Зноў публічна ўшаноўваліся вядомыя прадстаўнікі культурнага і духоўнага жыцця міжваеннага часу. Страх перад стратай легітымнасці, якая пагражала Камуністычнай партыі, урэшце перамог боязь перад гістарычнай праўдай і прывёў да паступовай плюралізацыі дэбатаў. У студзені 1989 г. Вярхоўны Савет БССР спрабаваў зменшыць нанесеную шкоду шляхам прыняцця пастановы пра стварэнне ў Курапатах мемарыяльнага комплексу.[12] Праз некалькі дзён на месцы пахаванняў быў усталяваны масіўны валун, надпіс на якім абяцаў пабудову на гэтым месцы помніка ахвярам рэпрэсій. Разам з саступкай патрабаванням апазіцыі гэты крок быў зроблены пад уплывам савецка-польскага расследвання злачынстваў у Катыні.[13]

Дзякуючы намаганням Народнага Фронту і іншых арганізацый сталінскія рэпрэсіі заставаліся ў полі зроку грамадзкасці. Пасля выбараў у Вярхоўны Савет вясной 1990 г. БНФ атрымаў некалькі месцаў у парламанце і выкарыстоўваў гэту магчымасць, каб спрыяць даследванням рэпрэсій. Цягам 1990 г. былі прыняты розныя законы, якія вызначалі парадак рэабілітацыі і выплаты кампенсацый.[14] Адначасова з гэтым Дзяржаўная Пракуратура, Міністэрства ўнутраных спраў і служба дзяржбяспекі распачалі перагляд палітычных прысудаў. За два гады – 1988/89 – у БССР было рэабілітавана больш за 53.000 чалавек.[15] У 1990 г. была заснавана Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, якая пачала прадстаўляць іх інтарэсы. Побач з разглядам юрыдычных пытанняў было прадпісана апублікаванне спісаў ахвяр, а таксама іх публічнае ўшанаванне ў форме ўсталявання помнікаў.[16] У адукацыйнай і даследніцкай галінах змена парадыгмы была бачна лепш за ўсё. У 1993/94 навучальным годзе былі створаны новыя

12 Постановление Совета Министров Белорусской ССР об увековечивании памяти жертв массовых репрессий 1937–1941 годов в лесном массиве Куропаты, 18.01.1989.

13 Astrid Sahm: Von der BSSR zur Republik Weißrußland – Belarus. 1988–2001. Гл. у Beyrau, Dietrich; Lindner, Rainer (Hg.): Handbuch der Geschichte Weißrußlands. Göttingen 2001, стар. 178–198, гл. стар. 181. У архівах былі знойдзены пацверджанні, што ў 1940 г. у Курапатах у звязку са злачынствамі, здзейсненымі ў Катыні, магчыма, расстрэльваліся польскія вайскоўцы і цывільныя асобы

14 Падборку ўсіх адпаведных законаў і ўказаў гл. у кнізе Алега Дзярновіча. Рэабілітацыя. Зборнік дакуменаў і нарматыўных актаў па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, 1920–1980-х гг. у Беларусі. Мінск, 2001.

15 Дзярновіч. Рэабілітацыя, стар. 33.

16 Спісы імёнаў да сёння публікуюцца ў серыі "Памяць". Гэтыя зборнікі, якія змяшчаюць матэрыялы па мясцовай гісторыі, выходзяць кнігамі, кожная з якіх прысвечана адпаведнаму раёну Беларусі. Побач са спісамі ахвяр у іх часам змяшчаюцца невялікія артыкулы альбо ўспаміны сведкаў. Такім чынам, гэтыя зборнікі з'яўляюцца важнай крыніцай па гісторыі тэрору ў рэгіёнах.

падручнікі, у якіх Савецкі Саюз маляваўся таталітарнай дзяржавай.[17] З'явіліся новыя газеты і часопісы, якія падрабязна інфармавалі пра сталінскія злачынствы. Па ўсёй краіне ўсталёўваліся помнікі ахвярам рэпрэсій, а асобы са сферы культуры і палітыкі, якія сталіся ахвярамі тэрору ў 1930-х гг., публічна ўшаноўваліся. Адкрыццё ў цэнтры Мінску ў 1993 г. помніка расстралянаму ў 1938 г. пісьменніку Максіму Гарэцкаму альбо ўшанаванне забітага ў 1937 г. палітыка і заснавальніка БССР Цішкі Гартнага былі знакамі гэтага новага часу.[18]

Насуперак супраціву органаў дзяржбяспекі і касерватыўных сіл у грамадстве быў нават дасягнуты абмежаваны доступ да архіваў. Вярхоўны Савет задзейнічаў 1 лістапада 1991 г. урадавую камісію, якая павінна была займацца рэабілітацыяй і даследваннем справы, а таксама займацца пошукамі гістарычнай праўды. На яе чале стаяў мінскі гісторык Уладзімір Адамушка, які апублікаваў напачатку 1990-х гг. першыя працы па даследванні палітычнага пераследу ў Беларусі.[19]

Аднак у палітычным працэсе і далей дамінавалі камуністы, схільныя да рэформаў. Хаця нацыянальны рух з Народным Фронтам на чале меў падтрымку ў насельніцтва і выкарыстоўваў магчымасці палітычнага ўплыву, кіраўніцтву дзяржавы ўдалося весці працэс у выгадным для сябе накірунку. Абранне Станіслава Шушкевіча кіраўнікам дзяржавы ў верасні 1991 г. было ў звязку з гэтым пэўным знакам. Яго бацька, які быў пісьменнікам, правёў 15 гадоў у лагерах ГУЛАГу, таму Шушкевіч мог дзейнічаць у якасці аб'яднаўчай фігуры ў працэсе крытычнага перагляду тэмы рэпрэсій.[20]

На працягу чатырох гадоў пасля абвяшчэння незалежнасці спрэчнае крытычнае пераасэнсаванне сталінізму працягвалася. Па-за гістарычнай палітыкай маладая рэспубліка была занята перадусім эканамічнымі наступствамі распаду Савецкага Саюзу, таму сталінскія злачынствы адышлі на другі план і ў значнай ступені больш не карысталіся такой увагай як у 1989 г. Да аб'яднання ў пытанні ацэнкі недалёкага мінулага было вельмі далёка.[21]

Развіццё падзей можна прасачыць на прыкладзе Курапатаў. Ветэранскія арганізацыі і старыя камуністы спрабавалі адмаўляць існаванне месца пахаванняў і маглі разлічваць у гэтым выпадку як мінімум на частковую падтрымку дзяржаўнага апарату. У чэрвені 1991 г. Генеральная пракуратура ініцыявала но-

17 Sahm: Von der BSSR, стар. 185

18 Ініцыятыва ўсталявання мемарыяльных знакаў гэтым асобам, якія жылі ў міжваенны час, зыходзіла як ад ураду, так і ад Народнага Фронту. У Магілёве памяць аб Цішку Гартным ушанавана шляхам ўсталявання Народным Фронтам помніку на тэрыторыі псіхіятрычнай бальніцы. У той самы час урад усталяваў яму ў горадзе іншы помнік. Гл. інфармацыю па гэтай тэме ў дадзеным зборнку.

19 Уладзімер Адамушка. Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. Мінск, 1994.

20 Біяграфію бацкі Станіслава Шушкевіча гл. у кнізе Леаніда Маракова Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадзкія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991. Энцыклапедычны даведнік. Том II. Мінск, 2007. Стар. 354 f.

21 Сталінізм быў не адзіным спрэчным пунктам у новай версіі гісторыі краіны, гэта тычыцца і ролі Вялікага княства Літоўскага як папярэдніка беларускай дзяржавы альбо абвяшчэння ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была праектам, супрацьлеглым БССР. Lindner: Historiker und Herrschaft, а таксама: Helmut Altrichter (Hrsg.): GegenErinnerung. Geschichte als politisches Argument im Transformationsprozess Ost-, Ostmittel- und Südosteuropas, München 2006.

вае расследванне. Падставай для яго сталася сцверджанне заслужанай жанчыны-ветэрана Другой сусветнай вайны аб тым, што за забойствы ў Курапатах нясуць адказнасць нямецкія войскі.

У 1993 г. – у тым самым годзе калі Курапаты былі занесены ў спіс нацыянальных помнікаў культуры ў якасці месца пахавання ахвяр палітычнага пераследу - пачаліся пошукі ў нямецкіх і ізраільскіх архівах з мэтай знайсці пацверджанне датычнасці да злачынстваў нямецкіх акупантаў. Пошукі былі спынены ў 1995 г. пасля таго, як не ўдалося знайсці ніякіх пацверджанняў гэтага. Меркаванні пра "нямецкі след" настойліва працягвалі выкарыстоўвацца і служылі ўраду нагодай для таго, каб больш не займацца гэтай мясцовасцю.

### Крытычны разгляд тэмы ў рэгіёнах

У той час, як адкрыццё Курапатаў прыцягнула да сябе ўвагу далёка за межамі краіны, у рэгіёнах былі знойдзены іншыя месцы, дзе здзяйсняўся сталінскі тэрор. Яшчэ ў 1987 г. актывісты БНФ знайшлі месца пахаванняў НКУС у Магілёве, якое было даследвана афіцыйнай камісіяй падобна да падзей у Мінску ў 1988/89 г. Падобныя працэсы адбываліся ў Гомелі, Оршы і Мазыры.

Многія з гэтых ініцыятыў зыходзілі ад чальцоў альбо Асоб, якія сімпатызавалі Народнага Фронту і Мартыралогу Беларусі. Тым часам абедзве арганізацыі мелі сетку філіалаў па ўсёй краіне, аднак іхны ўплыў заставаўся абмежаваным. Па-за абласнымі цэнтрамі Мінск, Гомель, Віцебск і Магілёў не дайшло да ўзнікнення арганізацый, якія б займаліся ўсталяваннем помнікаў. Крытычны разгляд сталінізму ў сельскай мясцовасці быў нашмат цяжэйшы чымся ў вялікіх гарадах, дзе ў гэтым працэсе ўдзельнічала ўважлівае да тэмы і крытычна настроенае насельніцтва.

16 помнікаў, узведзеных "Мартыралогам Беларусі" і Народным Фронтам да сярэдзіны 1990-х гг., адлюстроўваюць тапаграфію сталінскага тэрору 1930-х гг.[22] Многія закрытыя тэрыторыі, якія выкарыстоўваліся абласнымі і раённымі ўправамі НКУС у якасці месцаў расстрэлаў падчас масавага тэрору 1937/38 гг., былі знойдзены, іх пазначылі помнікамі і мемарыяльнымі знакамі. Так на месцы масавых растрэлаў, якія ажыццяўляліся ўправамі НКУС у Віцебску (Вароны і пазней Паляі), Гомелі (Чарнігаўская шаша), Магілёве (праспект Дзімітрава), Мазыры (Рудня Мікалаеўская) і Полацку (Бельчыца пад Наваполацкам), сёння знаходзяцца мемарыяльныя знакі. Побач з мемарыяльнымі знакамі, прысвечанымі тэрору 1930-х гг., Народны Фронт і "Мартыралог Беларусі" усталявалі ў наваколлі Мінску помнікі антысавецкім выступленням, якія мелі месца падчас грамадзянскай вайны 1918/21 гг. Асаблівая ўвага надавалася так званаму Слуцкаму збройнаму чыну, які адбыўся ў лістападзе 1920 г. У галіне гістарычнай палітыкі яно было супрацлеглым полюсам да ўсё яшчэ існуючых савецкіх

22 Пералік мемарыяльных месцаў знаходзіцца ў дадатку да кнігі Курапаты. Зборнік дакументаў. Мінск, 2002, стар. 92–118.

помнікаў бальшавіцкаму рэвалюцыйнаму руху.[23] Таксама і гэта пераацэнка адбывалася не без канфліктаў. Калі ў 1995 г. у цэнтры вёскі Вызна, якая ў 1923 г. была пераназвана ў Чырвоную Слабаду, павінен быў быць адкрыты памятны знак паўстанцам, гэта выклікала супрацiў улад і мясцовых жыхароў. Хаця асвячэнне крыжа адбылося пры падтрымцы праваслаўнага святара, гэта не перашкодзіла таму, што памятны знак неаднаразова знішчаўся альбо дэмантаваўся ў наступныя гады.[24] У рамках "Слуцкіх акцый ушанавання памяці", якія, пачынаючы з 1990 г., арганізуюцца БНФ штогод напрыканцы лістападу, іх удзельнікі наведваюць гэту вёску і ўшаноўваюць памяць паўстанцаў.[25]

У заходняй частцы краіны, якая падчас сталінскіх рэпрэсій належыла да Польшчы, па ініцыятыве БНФ і Мартыралогу Беларусі не быў усталяваны ніводны значны помнік.[26] Імпульс да крытычнага пераасэнсавання мінулага, які зыходзіў ад Абедзвюх арганізацый, тычыўся найперш досведу 1937/38 г., які не мог мець адпаведніка на былых польскіх тэрыторыях. У адрозненне ад прыбалтыйскіх краін альбо Заходняй Украіны, дзе расследванне злачынстваў падчас першай савецкай акупацыі 1939/41 гг. было рухавіком нацыянальнага руху, у Беларусі не адбылося грунтоўнага даследвання дадзенай тэмы.[27] З афіцыйнага боку, а таксама з боку шырокіх колаў апазіцыі акупацыя Усходняй Польшчы разглядалася перадусім як ўз'яднанне беларускіх земляў, што мела пазітыўную канатацыю. Звязаныя з ёй злачынствы засталіся ў ценю з-за гэтага наратыву.[28]

Што тычыцца заходняй часткі краіны, то толькі забойствы, здзейсненыя савецкай дзяржбяспекай у звязку з эвакуацыяй турмаў НКУС летам 1941 г. уключаны ў кантэкст гістарычнай памяці. У гэтым выпадку Народны Фронт і Мартыралог Беларусі парупіліся аб абазначэнні масавых пахаванняў, якія знаход-

---

23 Напрыканцы савецка-польскай вайны 1920/21 гг. у дэмілітарызаванай зоне на ўсход ад Мінска была створана дабраахвотніцкая армія пад кіраўніцтвам Беларускага нацыянальнага камітэту, якая аказвала супрацiў Чырвонай Арміі. Гэта паўстанне было разгромлена пасля шматдзённых баёў у канцы лістапада 1920 г. Больш аб Слуцкім збройным чыне гл. у кнізе А. Н. Гесь, Уладзімера Міхнюка, Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах іўспамінах. Мінск, 2006.

24 Чыноўнікі не далі ўсталяваць памятны крыж героям Слуцкага збройнага чыну. Радыё Свабода, 08.07.2004.

25 Дзень Герояў на Случчыне. Радыё Свабода, 23.11.2008. www.svaboda.org/content/Article/1352021.html.

26 Толькі блізкая да абодвух арганізацый Асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій адкрыла пры падтрымцы абласной адміністрацыі помнік на Трышынскіх могілках у Брэсце ў 1993 г. Гл. стар. 128 у дадзенай кнізе.

27 Крытычны разгляд савецкага панавання 1939/41 гг. у Заходняй Украіне быў важкім рухавіком украінскага незалежніцкага руху, які пачынаўся ў заходняй частцы краіны.

28 Ушанаванне памяці ахвяр канкуруе з польскай палітыкай ушанавання памяці. Паколькі большая частка дэпартаваных з усходніх абшараў жыхароў была палякамі, гэты траўматычны досвед успрымаецца як спецыфічна польскі. Падчас дыскусій у 70-ю гадавіну падпісання пакта Молатава-Рыбентропа, якая адзначалася ў 2009 г., выявілася, што досвед перажывання гвалту ўсім насельніцтвам займае важнае месца ў беларускай гісторыяграфіі. Урад паранейшаму настойвае на наратыве ўз'яднання і вызвалення. Абласной адміністрацыяй у Брэсце быў усталяваны новы помнік, прысвечаны ўз'яднанню. Якая беларуская інтэрпрэтацыя падзеі 17 верасня 1939-га? http://represii-by.info/index.php?newsid=796.

зяцца перш за ўсё непадалёк ад раённага цэнтру Чэрвень.[29] Іншыя помнікі, якія належаць да падобнага кантэксту, былі ўсталяваны пад Вілейкай (у Вілейцы і ў Касуце) і ў Пінску (у Бульцы). Дэпартацыі дзесяткаў тысяч людзей з заходніх абласцей у 1940/41 гг., якія з'яўляюцца важным прыкладам рэпрэсій гэтых гадоў, да сёння не пазначаны ніводным помнікам ва ўсёй краіне.[30]

У адрозенне ад канфліктаў на палітычнай глебе пры ўсталяванні помнікаў у Мінску падобныя ініцыятывы ў рэгіёнах да сярэдзіны 1990-х гг. часта адбываліся пры падтрымцы дзяржаўнай адміністрацыі. На падставе існуючых законаў абласныя і раённыя адміністрацыі афіцыйна прызналі месцы масавых пахаванняў і, такім чынам, праклалі шлях да адкрыцця памятных знакаў.

У некаторых выпадках, якіх было няшмат, улады ўсталёўвалі ўласныя хай сабе і сціплыя памятныя знакі. Два сціплыя бетонныя помнікі, якія былі ўсталяваны ўвосень 1990 гг. пад Чэрвенем на ўспамін аб ахвярах масавага тэрору 1937/38 гг. і ахвяр з турмаў НКВД 1941 г., з'яўляюцца выразам асцярожнага набліжэння да гэтай тэмы. Разам з валуном у Курапатах яны да сёння з'яўляюцца адзінымі памятнымі знакамі ў Беларусі, якія былі ўсталяваны дзяржавай на ўспамін аб ахвярах.

### Адносіны да тэмы сталінізма падчас кіравання Лукашэнкі

Пасля абрання Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам краіны ў 1994 г. у галіне гістарычнай палітыкі адбылося вяртанне да савецкай версіі гісторыі. Калі чатыры гады пасля абвяшчэння незалежнасці вызначаліся спрэчным працэсам нацыянальнага пераасэнсавання, то цяпер гэтыя дэбаты былі спынены. Створаныя Лукашэнкам палітычныя структуры сталіся гістарычна савецкімі, а гісторыя больш чым раней выступае ў якасці важнага інструмента палітыкі.[31] Канкуруючыя вобразы гісторыі былі як і напрыканцы 1980-х гг. інструментамі барацьбы за ўладу паміж апазіцыяй і ўрадавым лагерам. Для крытычнага разгляду сталінскіх рэпрэсій гэта барацьба зноў мела цяжкія наступствы. Народны Фронт у якасці кіраўніка супраціву новаму рэжыму, які меў аўтарытарны характар, рупіўся пра стварэнне гістарычных паралеляў да савецкай дыктатуры, каб аспрэчыць легітымнасць адміністрацыі Лукашэнкі. І, наадварот, на прыхільнікаў БНФ як

29 Забітыя ў 1941 г. ля Чэрвеня вязні НКУС паходзілі пераважна з былых польскіх усходніх тэрыторый і Літвы, таму арганізацыі з гэтых краін рупяцца пра захаванне гэтых месцаў. Гэтыя старанні падрымліваюцца з боку беларускай апазіцыі, якая ўсталёўвае ўласныя памятныя знакі. У пачатку 1990-х гг. была заснавана традыцыя правядзення міжнароднага памятнага маршу (Ігуменскі шлях – паводле былой назвы Чэрвеня Ігумен), падобнага да шэсця, якое адбываецца на Дзяды, і які цяпер праходзіць нерэгулярна. Патрабаванні стварыць у адным з будынкаў, што засталіся ад турмы НКУС, музей не былі задаволены ўладамі.

30 Зусім інакш выглядае ландшафт ушанавання памяці ў Заходняй Украіне і прыбалтыйскіх краінах, дзе помнікі, прысвечаныя дэпартацыям, якія адбыліся падчас савецкай акупацыі 1939/41 гг. складаюць большую частку ўсталяваных пасля 1990 г. мемарыяльных знакаў. Гл. банк дадзеных Цэнтра Андрэя Сахарава: Памятники жертвам политческих репрессий www.sakharov-center.ru/asfcd/pam.

31 Lindner: Historiker und Herrschaft, стар. 402.

і напрыканцы 1980-х гг. навешваліся ярлыкі фашыстаў і нацыяналістаў. Такім чынам, у другой палове 1990-х гг. акцыі ўшанавання памяці ў Курапатах і іншых месцах сталіся маніфестацыямі палітычнага супраціву, правядзенню якіх заўсёды перашкаджалі сілы бяспекі.[32] Неаспрэчным і цэнтральным элементам новай афіцыйнай версіі гісторыі сталася “Вялікая Айчынная вайна”. Перамога Чырвонай Арміі і беларускага партызанскага руху над нямецкім фашызмам легітымізавала савецкае мінулае як адзіны слушны зыходны пункт.[33] Гэта вяртанне назад знайшло ясны выраз ва ўводзе злёгку зменага гербу БССР у якасці нацыянальнага сімвалу праз год пасля ўступлення Лукашэнкі на пасаду.

Адначасова з гэтым у новай гістарычнай палітыцы не назіраецца неабмежаванага сцвярджальнага стаўлення да Савецкага Саюзу. Рэактывацыя старога канону сімвалаў і святаў пасля 1994 г. была вынікам шырока распаўсюджанай у насельніцтве тугі па старому і добра вядомаму. Навонкі было паказана адмежаванне ад сацыяльнага, эканамічнага і гісторыка-палітычнага хаосу першых гадоў незалежнасці. Канон памяці не павінен быў мець спрэчных пунктаў для большасці насельніцтва, а, з іншага боку, мусіў спрыяць ідэнтыфікацыі яго з новым рэжымам. Гэта селектыўная інструменталізацыя галоўных дэкарацый савецкай культуры памяці прасочваецца ў высілках адміністрацыі прэзідэнта па стварэнні “ідэалагічнага канону”. Падобна як і ў Расіі савецкае мінулае ўсё больш нацыяналізуецца, хаця гэты працэс у Беларусі яўна ідзе вельмі павольна.[34]

Усталяванне новых помнікаў Ёсіфу Сталіну альбо заснавальніку бальшавіцкай тайнай паліцыі ЧК Феліксу Дзяржынскаму, якое было ўспрынята з абурэннем не толькі за мяжой, з’яўляецца на гэтым тле не толькі выключна доказам перамянення савецкага мінулага, але і адначасова выразам засваення гэтай часткі гісторыі.

Пабудаваныя ў 2005 г. з нагоды 50-х угодкаў перамогі для таго, каб прыцягнуць турыстаў, абарончыя ўмацаванні, так званая “Лінія Сталіна”, што знаходзіцца на ўсход ад Мінску, сталася за мінулыя гады ўлюбёнай мэтай выездаў за горад дзеля адпачынку. У кантэксце Другой сусветнай вайны частка насельніцтва лічыць Сталіна пазітыўнай фігурай. Спрэчнае адкрыццё манументальнага бюста савецкага дыктатара на тэрыторыі мемарыяла трэба разглядаць у гэтым святле.[35] За выключэннем гэтага праекту, які выклікаў міжнародную ўвагу, было б памылкова гаварыць пра агульнае ўшанаванне Сталіна ў Беларусі. Прапанова

32 Штогоднія ўскладанні вянкоў на дзень памяці продкаў Дзяды рэгулярна суправаджаюцца затрыманнямі.

33 Аб версіі гісторыі пры Лукашэнку гл.: Imke Hansen: Die politische Planung der Erinnerung. Geschichtskonstruktionen in Belarus zwischen Konflikt und Konsens. Osteuropa № 58 (2006), стар. 187–196, аб Другой сусветнай вайне гл. Petra Renntrop: Arbeiten an der Erinnerung. Geschichte und kollektives Gedächtnis. Osteuropa 54 (2/2004), стар. 146–157.

34 Паводле ўказу Лукашэнкі з 2003 г. ў органах дзяржаўнай адміністрацыі па савецкім прыкладзе былі створаны аддзелы ідэлагічнай работы, якія павінны распаўсюджваць афіцыйны вобраз краіны і яе гісторыі сярод насельніцтва.У школах і ВНУ курс ідэалогіі беларускай дзяржавы з’яўляецца абавязковым. Гэтыя высілкі накраваны на стварэнне (нацыянальнай) ідэнтыфікацыі грамадзян з рэжымам, таму афіцыйная гістарычная палітыка паслядоўна нацыяналізуецца. У Расіі гэты працэс быў распачаты падчас кіравання Уладзміра Пуціна.

35 Паводле незалежнага інстытута даследвання грамадзкай думкі НІСЭПД пазітыўнае ўспрыняццё Сталіна сярод насельніцтва ў працэнтных адносінах стала змяншаецца з1996 г. Калі тады яшчэ 10,3 % апытаных сцвярджалі, што Сталін нібыта быў добрым палітыкам,



*Бюст Сталіна на "Алеі герояў", Свіслач* *Фота: Марыюш Проскень*

беларускіх левых усталяваць у Мінску помнік з нагоды 130-х угодкаў з дня нараджэння дыктатара, была адхілена міністрам культуры Ігарам Чарняўскім як неабгрунтаваная.[36]

Іншая ініцыятыва па ўсталяванні помніка, якая зыходзіла ад работнікаў аўтамабільнага заводу ў Слуцку ў 2004 г., тлумачылася хутчэй настальгічнымі, чымся палітычнымі матывамі. Дэмантаваны помнік Леніну і стары бюст Сталіна былі размешчаны ля старога аўтамабілю маркі "Волга" у двары фабрыкі. Па словах кіраўніка прадпрыемства гэта ні ў якім разе не "выяўленне настальгіі па эпосе Леніна-Сталіна".[37]

Кольскасць помнікаў Сталіну, якія яшчэ засталіся ў Беларусі з савецкіх часоў, складае некалькі дзесяткаў, іх лік значна меншы ў параўнанні з Расіяй ці Грузіяй.[38] У горадзе Свіслач у 2000 г. дэмантаваны ў 1956 г. бюст Сталіна быў інтэграваны ў нядаўна створаную "Алею герояў". Ініцыятары стварэння ансамблю помнікаў хацелі такім чынам нагадаць пра гістарычных асоб, звязаных з гісторыяй

дык у 2008 г. гэты паказнік упаў да 6,3 %. Дадзены вынік з'явіўся ў асноўным дзякуючы тым апытаным, узрост якіх складаў больш за 60 гадоў. IISEPS News, ISSUE 2 (48), 2008, стар. 9 f.

36 В Минске собираются поставить памятник Сталину. http://charter97.org/ru/news/2009/10/14/22772.

37 Памятники эпохам. Инфо-курьер, 02.04.2008. http://kurjer.info/2008/04/02/pamyatniki-epoxam.

38 Паводле няпоўных звестак у Беларусі існуюць тры помнікі Сталіну. Для параўнання: у Расіі сёння існуюць больш за 40 помнікаў Сталіну, а ва Украіне ёсць яшчэ як мінімум 10 мемарыяльных месцаў, прысвечаных «бацьку народаў». Параўн. http://ru.wikipedia.org/wiki/Памятники_Сталину.

гораду. Побач са Сталіным меркавалася ўсталяваць помнікі цару Аляксандру II і беламу кіраўніку польскай дзяржавы Юзафу Пілсудзкаму. Пад ціскам мясцовых камуністаў бюст Сталіну быў зноў устаноўлены, хаця з боку насельніцтва раздаваліся і галасы супраць. Сёння ён знаходзіцца ў таварыстве Рамуальда Траўгута і Кастуся Каліноўскага, што былі правадырамі антырасійскага паўстання 1863/1864 гг.[39] Як лаканічна патлумачыла супрацоўніца гарадзкога музею ў 2009 г.: бюст – гэта проста гістарычны рэлікт, "іншыя часы, іншыя асобы".[40]

Сталін не адзіны прадстаўнік савецкага рэпрэсіўнага апарату, якога публічна ўшаноўваюць. Адкрыццё статуі заснавальніка бальшавіцкай тайнай паліцыі Фелікса Дзяржынскага на тэрыторыі Вайсковай Акадэміі ў Мінску ў 2006 г. суправаджалася пратэстамі праваабарончых арганізацый і апазіцыі.[41] Начальнік акадэміі заявіў, што народжаны непадалёк ад Мінску Дзяржынскі як сын гэтай краіны павінен займаць значнае месца ў калектыўнай памяці.[42]

Для нацыянальнага лагеру гэтыя помнікі з'яўляюцца доказам таго, што афіцыйная гістарычная палітыка закрыта для крытычнага асэнсавання сталінізму. На фоне адмовы ўраду публічна ўшаноўваць памяць ахвяр тэрору гэта стаўленне цалкам зразумелае. Рэвізія вобразу гісторыі пасля 1994 г. аднак не азначала поўнае адмаўленне эксцэсаў 1930-х гадоў. Прынятыя напачатку 1990-х гадоў законы аб рэабілітацыі і выплаце кампенсацый засталіся ў сіле, як застаўся некранутым і статус Курапатаў як нацыянальнага помніку культуры, прысвоены ім у 1993 годзе.[43]

Сталінскі тэрор дэградаваў да маргінальнай з'явы недалёкага мінулага. Рэкамендаваны міністэрствам адукацыі для абітурыентаў у 2001 г. падручнік усё яшчэ згадвае на двух старонках пад загалоўкам "учынкі супраць законнасці" пра рэпрэсіі супраць рэлігійных супольнасцей і чысткі ўнутры дзяржаўнага і партыйнага апарату.[44] Гаворка больш не ідзе пра расстрэл тысячаў чалавек падчас масавага тэрору і пра іх адпраўку ў лагеры ГУЛАГу. У Беларускай Энцыклапедыі, якая выйшла ў 1997 г., хаця і ёсць артыкул пра Курапаты, аднак звяртаецца ўвага на тое, што памерлыя, якія тут спачываюць, магчыма, з'яўляюцца ахвярамі нямецкай акупацыі. Таксама нават і Лукашэнка не аспрэчвае існаванне сталінскага тэрору, аднак, як ён сказаў у 1997 г., у Беларусі "ён не насіў масавага характару

39 Сталин дождался. Дождется ли Пилсудский? Белгазета, № 50 (266), 2000.

40 Белорусские коммунисты собирают миллиард на памятник Сталину. Еврорадио, 14.10.2009. www.euroradio.fm/ru/1002/reports/39448.

41 Belarus Unveils Monument to Secret Police. Radio Free Europe, 26.05.2006. www.rferl.org/content/article/1068704.html.

42 Фелікс Дзяржынскі нарадзіўся непадалёк ад гораду Койданава на паўднёвы захад ад Мінска. Гэты горад да сёння носіць яго імя. В Минске открылся памятник Ф. Дзержинскому. Интерфакс, 26.05.2006. www.interfax.by/news/belarus/4302.

43 Паводле ўказу прэзідэнта працэс рэабілітацыі павінен быў скончыца ў 1998 г., аднак быў працягнуты. Кампенсацыйныя выплаты і надалей выплочваюца ахвярам, аднак іх памер невысокі. У 2007 г. Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій звярнулася ў Вярхоўны Суд краіны, каб запарабаваць кампенсацыйных выплат для дзяцей рэпрэсаваных. Молодые белорусы думают, что Куропаты – это в России, 28.10.2008. http://news.tut.by/120163.html.

44 П. Г. Чигринов. История Беларуси. Минск, 2001. Стар. 309–310. Вельмі дрэнным з'яўляецца не тое, што гісторыя рэпрэсій падаецца скарочана, а тое, што гэта тэма не разглядаецца на школьных занятках і не ўключана ў праграму экзаменаў.

і спекуляцыі на гэту тэму (...) служаць толькі дыскрэдытацыі супрацоўнікаў органаў дзяржбяспекі".[45]

Гэта тэма амаль цалкам знікла з газет і часопісаў з падпарадкаваннем прэсы дзяржаўнай ідэалогіі напрыканцы 1990-х гг. Апазіцыйныя газеты паступова былі забаронены альбо практыкавалі самацэнзуру, каб мець магчымасць працягваць выходзіць. У блізкіх да ўраду органах прэсы згодна з прадпісаннем адміністрацыі прэзідэнта не знайсці згадак пра сталінскія злачынствы.

Да таго ж робяцца перашкоды гістарычным даследванням. Толькі нямногія навукоўцы не паддаюцца ціску і працягваюць займацца даследваннем сталінскіх рэпрэсій. Сёння далейшыя публікацыі выходзяць невялікімі накладамі толькі дзякуючы самаадданай працы мінскага гісторыка і навукоўца Ігара Кузняцова, які выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.[46] Гэтыя працы цяжка знайсці ў кніжных крамах, яны распаўсюджваюцца невялікімі накладамі як сучасны самвыдат. Паколькі іх афіцыйны распаўсюд амаль немагчымы, іх можна знайсці толькі ў Інтэрнэце.[47] Акадэмія Навук і ўніверсітэцкія асяродкі, якія рухалі наперад даследванне рэпрэсій у 1990-х гг., падобным чынам фактычна падпарадкаваны дзяржаўнай ідэалогіі.[48] Праца над тэмамі, якія лічацца непажаданымі, можа мець негатыўныя наступствы для акадэмічнай кар'еры.[49]

Сярод насельніцтва гэта тэма, такім чынам, амаль поўнасцю знікла з розумаў. Калі панятак "Курапаты" магчыма яшчэ выклікае асацыяцыі ў людзей старэйшага пакалення, то для тых, хто нарадзіўся пасля 1990 г. ён не мае ніякага значэння.[50] Палітызацыя даследванняў, магчыма, прывяла да таго, што зварот да гэтай тэмы не адбываецца з-за страху перад верагоднымі рэпрэсіямі. Адзіныя рамкавыя ўмовы, што засталіся, прапануе апазіцыйны лагер. Маўчанне ўраду стварыла перадумовы для таго, каб БНФ за мінулыя гады поўнасцю зрабіў гэту тэму сваёй уласнасцю. Унутры Беларускага Народнага Фронту Курапатамі інтэнсіўна займалася перадусім ягонае кансерватыўнае крыло, якім з эміграцыі кіруе Зянон Пазняк. Штогадовыя памінальныя мерапрыемствы ў Курапатах, Лошыцы і Парку Чалюскінцаў у значнай меры абмяжоўваліся межамі Мінску. Толькі ў Чэрвені вялікую ўвагу да сябе прыцягваюць памятныя шэсці, якія праводзяцца ў пачатку лета на ўспамін пра забойства вязняў НКУС у 1941 г. У іншых ускладаннях вянкоў на магілы ахвяр з нагоды дню памяці продкаў Дзяды ў рэгіёнах удзельнічаюць толькі жменькі людзей. Паспяховых ініцыятыў па ўсталяванні памятных знакаў амаль не было з сярэдзіны 1990-х гг. Хаця Народны Фронт і іншыя арганізацыі зноў намагаліся ўсталёўваць крыжы ў розных месцах, улады жорста рэагавалі

45 Звязда, 20.01.2007. Цытата паводле Рэабілітацыя, стар. 11.

46 Варта звярнуць увагу на серыю, якая выйшла ў трох тамах: Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Сборник научных работ. Минск, 2007.

47 Адрас буйнейшага парталу альтэрнатыўнай белетрыстыкі і галіновай літаратуры: www.kamunikat.org.

48 Lindner: Historiker und Herrschaft, стар. 400 ff.

49 Многія гісторыкі перанеслі акцэнт сваіх даследванняў на меньш небяспечныя тэмы альбо разглядаюць гісторыю рэпрэсій як частку гісторыі штодзённасці і культуры. Іншыя эміґравалі і працягваюць свае даследванні ў замежжы.

50 Молодые белорусы думают, что Куропаты – это в России, 28.10.2008. http://news.tut.by/120163.html .

на гэтыя ініцыятывы. Нярэдка акцыі кантралююцца сіламі бяспекі, адбываюцца арышты. Супраць іх арганізатараў заводзяцца адміністратыўныя справы, яны прысуджаюцца да грашовых штрафаў.[51] Усталяваныя памятныя знакі знікаюць праз кароткі час альбо робяцца мішэнню вандалізму. Здаецца, гаворка не ідзе пра памятныя знакі і звязаны з імі кантэкст ушанавання памяці – абодва бакі разглядаюць гэтыя ініцыятывы як частку палітычных спрэчак. Апошнія памятныя знакі, якія існуюць ужо працяглы час, былі ўсталяваны ў 1995/1996 гг. перад кансалідацыяй рэжыму Лукашэнкі.[52]

**Паміж канфрантацыяй і збліжэннем**

Гэта сітуацыя змянілася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 г., калі справа дайшла да гвалтоўных сутыкненняў паміж дэманстрантамі і сіламі бяспекі ля Курапатаў, якія доўжыліся некалькі тыдняў. Нагодай былі планы пашырыць дарогу, якая праходзіла праз месца пахаванняў.[53] Дэманстратыўная адсутнасць інтарэсу з боку адміністрацыі прэзідэнта да памерлых, што ляжаць тут, выклікала моцны супраціў. Чальцы моладзевай арганізацыі БНФ "Малады Фронт" зрабілі ў Курапатах намётавы лагер і спрабавалі такім чынам перашкодзіць правядзенню будаўнічых работ. Сілы бяспекі ўжылі гвалт супраць дэманстрантаў. У СМІ раптам зноў сталіся прысутнымі Курапаты, якія да таго былі забытыя. Сярод насельніцтва шырылася неразуменне паводзінаў ураду. Некаторыя будаўнікі з Мінску, якія былі задзейнічаны ў Курапатах, страйкавалі. Жыхары прылеглых жылых масіваў прыходзілі на месца пахавання, ускладалі кветкі і падтрымлівалі дэманстрантаў, прыносячы ім коўдры і прадукты харчавання.[54] У дзень памяці продкаў Дзяды ў 2001 г. у традыцыйных памінальных мерапрыемствах узялі ўдзел больш за 1500 чалавек – так шмат, як не было даўно з сярэдзіны 1990-х гадоў. Рупарам пратэстнага руху сталася аб'яднанне "За ўратаванне мемарыялу Курапатаў", якое было створана прадстаўнікамі розных грамадзкіх арганізацый, вядомымі інтэлектуаламі і мастакамі. Яно ініцыявала дыскусію пра стварэнне нацыянальнага мемарыялу, які быў абяцаны пастановай Савету Міністраў БССР у студзені 1989 г., але так і не быў пабудаваны. Паколькі з боку дзяржавы не варта было чакаць падтрымкі, нарадзілася ідэя стварыць "народны мемарыял" шляхам

51 Можна было б прывесці незлічоныя прыклады гэтых рэпрэсіўных захадаў уладаў.

52 Гэтыя мемарыяльныя знакі амаль без выключэння засталіся некранутымі, за імі і надалей ажыццяўляецца догляд. Дагэтуль не было выпадкаў дэмантажу памятных знакаў ахвярам. Толькі музей, які існаваў у Бабруйску і якім апекавалася Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, мусіў закрыцца ў 2001 г., бо не знайшлося грошай на яго ўтрыманне. Экспанаты былі перавезены ў прыватны музей, які знаходзіцца ў Старых Дарогах пад Мінскам, дзе іх можна бачыць да сёння. www.spadchyna.org.

53 Аб канфлікце вакол Курапатаў у 2001 г. гл. Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаванне мемарыялу Курапаты" (выдавец): Курапаты.Зборнік дакументаў. Мінск, 2002, а таксама кнігу рэпартажаў Радыё Свабода Дарога праз Курапаты. Радыё Свабода, 2002. Па гэтай тэме гл. таксама артыкул Элены Тэмпер, змешчаны ў дадзенай кнізе.

54 Гл. кнігу Дарога праз Курапаты.

пазначэння многіх сотняў брацкіх магіл сціплымі драўлянымі крыжамі.[55] Яшчэ падчас канфлікту вакол разбудовы дарогі былі дзясяткі тузіны новых памятных знакаў.

Хаця пашырэнне дарогі ўрэшце не ўдалося спыніць, канфлікт 2001 г. стаўся пачаткам асцярожнага збліжэння. Планы пабудовы жылога масіву непадалёк ад месца пахаванняў, аб якіх вялася гаворка годам пазней, былі зменены.[56] У лісце да аб'яднання "За ўратаванне Курапатаў" генеральная пракуратура ўпершыню пагадзілася з тым, што ўсе праведзеныя дагэтуль даследванні пацвердзілі, што "паміж 1937–1940 гг. у лясны масіў Курапаты органамі НКУС прывозіліся і расстрэльваліся людзі з турмаў."[57] Фактычнае прызнанне месца пахаванняў з боку дзяржавы было падкрэслена ў 2008 г. шляхам усталявання афіцыйнага ўказальніка міністэрства культуры, які паведамляе пра мемарыял. Аднак гэта не змагло спыніць таго, што ўсталяваныя тут мемарыяльныя знакі зноў станавіліся мэтай вандалізму, а некаторыя магілы былі апаганены падчас пошуку каштоўных рэчаў.[58] Разбурэнне мемарыяльных знакаў у Курапатах не было новай з'явай. Сярод арганізатараў існуе маркаванне, што гэтыя выпадкі мэтанакіравана арганізваны ўладамі, ці, прынамсі, яны ім не перашкаджаюць.[59] Гэты тэзіс немагчыма аспрэчыць. З іншага боку вандалізм у дачыненні да помнікаў у Беларусі не ёсць рэдкай з'явай, і не абмяжоўваецца толькі памятнымі знакамі ахвярам. Нягледзячы на тое, што месца пахаванняў афіцыйна знаходзіцца пад абаронай дзяржавы, улады доўгі час не займаліся пошукам вінаватых, тым больш іх пакараннем. У першы раз у 2008 г. два маладзёны былі арыштаваны міліцыяй і паўсталі перад судом. Яны, аднак, былі прызнаны невінаватымі. Міліцыя запэўніла, што будзе праводзіцца патруляванне ляснога масіву.[60] Гэта было перад 70-мі ўгодкамі масавага тэрору 1937/38 гг. У Беларусі быў заснаваны грамадзкі "Камітэт па ўшанаванні памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій", у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі розных арганізацый і Беларускага Народнага Фронту. Ён нагадваў пра масавы тэрор шляхам правядзення штомесячных памінальных акцый і публічных мерапрыемстваў. У дзяржаўных медыях краіны гэтыя ўгодкі не ўзгадваліся, таксама не знайшлі падтрымкі і высілкі камітэта.[61]

Нягледзячы на гэты негатыўны баланс выявілася, што па-за Мінскам існуюць пэўныя магчымасці для збліжэння. У пачатку лета 2007 г. ля Гомелю былі знойдзены парэшткі многіх дзесяткаў чалавек, якія з вялікай доляй пэўнасці

55 Параўн. з артыкулам Элены Тэмпер, які змешчаны ў дадзенай кнізе.

56 Курапаты: Будаўніцтва катэджнага пасёлку спыненае. Радыё Свабода, 20.06.2003.

57 Паведамленне Генеральнай пракуратуры надрукавана ў кнізе Курапаты. Зборнік матэрыялаў, стар. 79–81, гл. стар. 80.

58 Вандалы раскапалі курапацкія могілкі. Рыдыё Свабода, 03.03.2009.

59 Ганна Соўсь. Лібералізацыя для вандалаў 14.01.2009. http://represii-by.info/index.php?news-id=458.

60 Супраць курапацкіх вандалаў справа пакуль не заведзена. Радыё Свабода, 03.11.2008.

61 Толькі КДБ дало сігнал пра жаданне супрацоўнічаць у справе стварэння мартыралогу ахвяр. Аднак гэта незвычайная заява не суправаджалася канкрэтнымі крокамі. Нягледзячы на гэта, падаецца, што некаторыя супрацоўнікі дзяржбяспекі не ставяцца адмоўна да спробаў крытычнага разгляду тэмы. 1937–2007: ушаноўваць ахвяраў рэпрэсіяў дзяржава ня будзе. Радыё Свабода, 24.02.2007.

былі забіты НКУС. Вайсковая пракуратура распачала расследванне, вынік якога пацвердзіў гэтую гіпотэзу. У той час, як для камітэту па ўшанаванні памяці не існавала сумневаў, што тут былі знойдзены новыя Курапаты, адміністрацыя раёна захоўвала маўчанне. Немагчыма было сцвярджаць з абсалютнай пэўнасцю, што гаворка ідзе пра ахвяр рэпрэсій, бо сярод забітых нібыта знаходзіліся чырвонаармейцы. Дэбаты паміж камітэтам па ўшанаванні памяці і ўладамі пра тое, чые гэта былі парэшткі, вызначаліся ўзаемным недаверам.[62] 11 кастрычніка 2007 г. праваслаўны святар асвяціў памятны крыж "Пакутнікам Беларусі" у прысутнасці старшыні мясцовай адміністрацыі і ваенкома.[63] Камітэт па ўшанаванні памяці ўсталяваў праз два тыдні ўласны памятны знак у выглядзе валуна.

Таксама і ў выпадку іншых ініцыятыў па ўсталяванні помнікаў улады ішлі насустрач. Вялікі мемарыял быў адкрыты ў вёсцы Выня Мінскай вобласці, пры гэтым адміністрацыя не чыніла перашкодаў. У Мазыры, дзе ў скляпеннях сабору спачываюць парэшткі сотняў ахвяр НКУС, было распачата стварэнне капліцы для ўшанавання іх памяці. На інтэнэт-старонцы Гомельскага аблвыканкама былы бернардзінскі кляштар сёння ўзгадваецца не толькі як славутасць, але і як месца спачыну "ахвяр сталінскіх рэпрэсій"[64]

Кіраўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук сказаў у інтэрв'ю дзяржаўнаму агенству навін, што захаванне памяці пра ахвяр рэпрэсій з'яўляецца "шляхетнай справай", і што дзяржаве трэба заняцца гэтым.[65] Апагеем гэтай тэндэнцыі сталася апублікаванне шмастаронкавага артыкула пра Курапаты ў блізкай да ўлад газеце "Советская Белоруссия" у канцы кастрычніка 2009 г. Ва ўступным артыкуле галоўнага рэдактара газеты Паўла Якубовіча палітычныя супярэчнасці мінулых дзесяцігоддзяў былі адлюстраваны на дзіва адкрыта. Спробы прыпісаць месца пахаванняў нямецкім акупантам ён назваў "вяршыняй ідыятызму", бо даказана, што Курапаты з'яўляюцца месцам спачыну тысяч ахвяр рэпрэсій.[66] Яшчэ больш значнай падзеяй, чым дадзеная публікацыя, сталася размова за круглым сталом, на якую былі запрошаны і прадстаўнікі камітэту па ўшанаванні памяці ахвяр рэпрэсій і гісторыкі. Умераны тон дэбатаў з боку афіцыйных прадстаўнікоў сведчыў пра тое, што з боку дзяржавы магчыма прызнанне месца пахаванняў "месцам спачыну ахвяр таталітарызму" і нават пабудова помніка за кошт дзяржавы. Адначасова старанні Народнага Фронту і іншых арганізацый у гэтай справе, якія доўжыліся на працягу дзесяцігоддзяў, былі названыя Якубовічам "прыватызацыяй памяці". Значэнне Курапатаў як месца, дзе адбываўся сталінскі тэрор, заставалася спрэчным. У афіцыйнай версіі гаворка ід-

62 Праўрадавая газета "Гомельская праўда" закідала камітэту па ўшанаванні памяці, што ён ажыццяўляе палітычную барацьбу, выкарыстоўваючы памяць аб ахвярах. Камітэт па ўшанаванні памяці інтэрпрэтаваў маўчанне ўладаў як утойванне злачынстваў, якія, як лічыцца, былі здзейснены НКУС. Игра в кости? Гомельская правда, 105/106, 12.07.2007.

63 Под Гомелем в местах массовых захоронений людей установлен православный поклонный крест, 11.10.2007. http://naviny.by/rubrics/society/2007/10/11/ic_news_116_278397.

64 http://gomeltourism.com/index.php?option=com_content&task=view&id=80&Itemid=1

65 Директор института истории: Увековечение памяти жертв сталинизма – всенародное дело, 30.06.2009. http://news.tut.by/society/148295.html.

66 Куропаты: мир под соснами. Беларусь сегодня, 29.10.2009. www.sb.by/post/93010.

зе пра могілкі, дзе пахаваны ахвяры таталітарнага рэжыму.[67] Нягледзячы на гэтыя разыходжанні, упершыню былі вызначаны рамкі для паразумення паміж двума лагерамі. Пераход з абодвух бакоў да аб’ектыўнага разгляду Курапатаў, якія былі раней палітычнай з’явай, можа паспрыяць спробе перагляду месца сталінскіх рэпрэсій у вобразе гісторыі краіны.

Сярод часткі чальцоў камітэту па ўшанаванні памяці ахвяр распаўсюдзілася меркаванне, што палітыка малых крокаў у выпадку наяўнасці сумневаў можа быць лепшай для гэтай справы, чым працяг палітычнага канфлікту. Таварыства захавання гістарычнай спадчыны, у рамках якога ў 2007 г. быў створаны камітэт па ўшанаванні памяці ахвяр, крытычна выказалася наконт палітызацыі сваёй дзейнасці. Перадусім закід быў зроблены старшыню Мінскай арганізацыі БНФ Вячаславу Сіўчыку, які адначасова з’яўляецца і старшынём камітэту, што ён вядзе палітычную барацьбу, робячы крытычныя выказванні на адрас рэжыму.[68] Адначасова застаецца дачакацца, які кірунак на самой справе абярэ Адміністрацыя прэзідэнта. За мінулыя гады часта мелі месца тактычныя саступкі гісторыка-палітычным прынцыпам апазіцыі. У апошні раз у 2008 г., калі ўпершыню з 1996 г. афіцыйна святкавалася 90-я гадавіна заснавання Беларускай Народнай Рэспублікі.[69] Параджае лепшыя спадзяванні і той факт, што памінальная акцыя на Дзяды ў 2009 г., а таксама штомесячныя мерапрыемствы па ўшанаванні памяці ахвяр ў Курапатах да гэтай пары праходзілі без перашкодаў.[70]

### Культура памяці меншасцей: польская і габрэйская перспектывы

У той час, як у дачыненні да апазіцыі ў галіне гістарычнай палітыкі назіраецца верагоднае зняццё напружання, за мінулыя гады абвастрыўся канфлікт з найвялікшай меншасцю ў Беларусі. Саюз Палякаў Беларусі, які дагэтуль дзейнічаў незалежна, спрабуе, пачынаючы з 2004 г., бараніцца супраць апекі з боку ўладаў, якая ўсё ўзрастае. З часу расколу арганізацыі, калі паўсталі лаяльны Адміністрацыі прэзідэнта саюз і дэмакратычна абранае прадстаўніцтва меншасці, якое эміграваламу ў Польшчу, таксама і тут гісторыя ўсё часцей выкарыстоўваецца ў якасці сродку барацьбы ў палітычным канфлікце.[71]

67 Лукашэнка назваў маральны абавязак прычынай, па якой ён усклаў вянок ля мемарыялу ахвярам галадамору ў Кіеве. За год да таго разам з расійскім прэзідэнтам Мядзведзевым ён адмовіўся ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, прысвечаных 75-й гадавіне галадамору. Гл. Лукашэнка ўшанаваў памяць ахвяр галадамору. http://represii-by.info/index.php?newsid=889.

68 Таварыства аховы помнікаў адхрысцілася ад палітыкі, 04.08.2009. http://news.tut.by/society/144155.html.

69 Штогадовая акцыя апазіцыі ў Дзень Волі 25 сакавіка была афіцыйна дазволена, а мінская гарадзкая адміністрацыя нават арганізавала рок-канцэрт. Аднак у 2009 г. дэманстранты былі разагнаныя міліцыяй.

70 Ахвяраў сталінізму ў Курапатах ушаноўвалі пад наглядам міліцыі. 30.11.2009. http://represii-by.info/index.php?newsid=928.

71 Лідэраў СПБ у Гародні арыштавалі і аштрафавалі за несанкцыяваны мітынг супраць сталінскіх рэпрэсіяў і сучасных ганенняў палякаў у Беларусі. 15.01.2010. http://represii-by.info/index.php?newsid=984.

Адначасова з узнікненем беларускага нацыянальнага руху ў заходняй частцы краіны пачалося адраджэнне польскага культурнага жыцця. Летам 1988 г. у Гродне было паклікана да жыцця Польскае культунае аб'яднанне імя Адама Міцкевіча, з якога ў 1990 г. выйшаў Саюз палякаў Беларусі. Побач з падтрымкай польскай мовы і культурнай спадчыны ў абсяг дзейнасці саюзу ўваходзіць і даследванне досведу рэпрэсій. У той час, як для беларускага нацыянальнага руху зыходным пунктам для разгляду сталінізму з'яўляюцца 1930-я гг., для польскай меньшасці на першым плане стаяць 1939/41 гг. З пачаткам савецкай акупацыі тагачасных польскіх усходніх тэрыторый у выніку пакту Молатава-Рыбентропа пачалося пакрокавае выгнанне польскага насельніцтва з гэтага рэгіёну, якое скончылася планавым перасяленнем тысяч людзей пасля сканчэння Другой сусветнай вайны. Падтрымка польскай культуры і мовы, практыкаванне каталіцкай веры лічыліся ў Савецкім Саюзе непажаданымі да канца 1980-х гадоў, калі пачалася лібералізацыя. Даследванне тэмы дэпартацый і арыштаў, якія праводзіліся ў 1939/41 гг., было таксама немагчыма, як і ўшанаванне памяці антысавецкага паваеннага супраціву Арміі Краёвай на цяперашніх заходнебеларускіх тэрыторыях.

Гэтыя табу былі скасаваны пасля здабыцця Беларуссю незалежнасці перадусім дзякуючы моцнай падтрымцы з боку метраполіі. З паслабленнем памежнага рэжыму ў 1990 г. многія выгнаннікі наведалі сваякоў, а таксама гарады і вёскі, дзе нарадзіліся. Гэты абмен часта станавіўся пачаткам цесных кантактаў праз мяжу і моцна паспрыяў таму, што дэбаты аб злачынствах камунізму, якія вяліся ў Польшчы, паўплывалі на ход дыскусій у межах польскай меншасці ў Беларусі. Гэта тэндэнцыя была сустрэта ў Мінску не без падазрэння і дахавая структура СПБ мусіла сачыць за тым, каб не выклікаць недавер улад занадта радыкальнымі выказваннямі. З іншага боку мяжа ўплыву дыскурсаў амяжоўвалася польскай меншасцю, з-за чаго ім доўгі час не надавалася вялікай увагі. Сярод друкаванай прадукцыі СПБ з'явіліся ўспаміны ахвяр і расповяды аб сталінскіх рэпрэсіях.

Яшчэ ў 1990 г. на вайсковых могілках у Гродна быў адкрыты помнік ахвярам Катыні. У наступныя гады СПБ ініцыяваў усталяванне дзесятка іншых памятных знакаў, якое часткова адбывалася пры падтрымцы мясцовых улад.[72] З пачатку 1990-х гг. памінальныя акцыі праводзіліся перадусім у каталіцкія святы і карысталися вялікай увагай як з боку прадстаўнікоў меншасці, так і польскіх аганізацый. Супрацоўнікі польскіх консульстваў рэгуляна бяруць удзел ва ўскладаннях вянкоў і памінальных набажэнствах.[73]

У межах СПБ арганізаваліся розныя аб'яднанні, у склад якіх увайшлі розныя катэгорыі ахвяр рэпрэсій. У 1994 г. да жыцця былі пакліканы аб'яднанне сібіракаў (тых палякаў, якія былі высланы ў Сібір альбо ў Сярэднюю Азію ў 1939/41 гг.), а таксама арганізацыя ветэранаў Арміі Краёвай. Акрамя таго, існуе ветэранская арганізацыя польскіх камбатантаў, якія змагаліся ў шэрагах войска другой

72 Прыкладам з'яўляецца шыльда ахвярам турмы НКУС у Ашмянах. Гл. стар. 149–151 у дадзенай кнізе.

73 Генеральнае Консульства Польшчы актыўна падтрымлівае палітыку ўшанавання памяці, якую ажыццяўляе СПБ, перш за ўсё ў Гродне, які з'яўляецца гістарычным цэнтрам польскай культуры ў заходняй частцы краіны.

Польскай Рэспублікі і ў выгнанніцкіх арміях.[74] За мінулыя дваццаць гадоў паўстаў ландшафт памяці, на які ў значнай ступені не звяртаецца ўвага, але які, нягледзячы на агульнае развіццё падзей, з'яўляецца жывым і разнастайным.

Як моцна кантэксты памяці адрозніваюца як ад афіцыйнага прасавецкага вобразу гісторыі Адміністрацыі прэзідэнта, так і ад супрацьлеглых праектаў апазіцыі, можна ўбачыць на прыкладзе памятных знакаў байцам Арміі Краёвай. У афіцыйнай гісторыяграфіі байцы АК лічацца як і ў савецкія часы бандытамі. Таксама і ў беларускай нацыянальнай версіі гісторыі часцей падкрэсліваюцца злачынствы байцоў АК, здзейсненыя супраць беларускага насельніцтва, чым іх супраціў сталінскай сістэме.[75] Паколькі афіцыйнага абмену меркаваннямі наконт гэтых канкуруючых варыянтаў памяці амаль не адбываецца, можна назіраць асаблівае суіснаванне помнікаў. У 1992 г. у невялікім гарадку Ашмяны (польск.: Oszmiana) на знешняй сцяне каталіцкага храму была ўмацавана мемарыяльная дошка байцам АК і ахвярам палітычнага пераследу. На Савецкай плошчы, што месціцца перад касцёлам, знаходзіцца помнік супрацоўнікам міліцыі і дзяржбяспекі, якія змагаліся супраць байцоў АК. Яшчэ адна мемарыяльная дошка, усталяванне якой у значнай ступені было ініцыявана СПБ, нагадвае на адной з прылеглых вуліц пра ахвяраў турмы НКУС. Усе тры памятныя знакі афіцыйна прызнаны адміністрацыяй гораду ў якасці помнікаў гісторыі і культуры.[76]

Побач з грамадзкай заангажаванасцю польскіх арганізацый многія помнікі паўсталі дзякуючы падтрымцы польскага ўраду. Падпісаўшы дагавор аб добрасуседстве ў 1992 г. Польшча і Беларусь дамовіліся не толькі аб клопаце пра супольную гістарычную спадчыну, але і пра даследванне "белых плям" гісторыі. Да гэтага адносілася і вывучэнне сталінскіх рэпрэсій супраць польскага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Пасля заснавання Інстытута нацыянальнай памяці (Instytut Pamięci Narodowej/IPN), якое адбылося ў 1998 г. у Польшчы, былі распачаты расследванні, якія ажыццяўляла Камісія расследвання злачынстваў супраць польскага народу („Komisja Ścigania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu"). Да сёння як мінімум 18 спраў разглядаюць злачынствы супраць цывільных асоб і польскіх вайскоўцаў, якія загінулі перадусім падчас савецкай акупацыі 1939/41 гг. у Заходняй Беларусі. Беластоцкае аддзяленне ІНП займаецца перш за ўсё расследваннем забойстваў польскіх асаднікаў у верасні 1939 г., а таксама вывучэннем лёсаў польскіх вайскоўцаў, якія загінулі альбо былі забіты ў барацьбе супраць Чырвонай Арміі.[77] У 2000 г. гданьскім аддзяленнем ІНП было праведзена грунтоўнае даследванне дэпартацый 1940/41 гг. з тэрыторый Заходняй Беларусі

74 СПБ пра сябе: www.zpb.org.pl. Letzter Zugriff 19.04.2010.

75 Інфармацыя пра спрэчныя моманты, якая выйшла на нямецкай мове: Ivan P. Kren': Der Einsatz der Armia Krajowa auf dem Territorium Weißrusslands aus weißrussischer Sicht. Versuch einer Ortsbestimmung, ау таксама Sigizmund P. Borodin: Die weißrussische Geschichtsschreibung und Publizistik und die Heimatarmee in den nordöstlichen Gebieten der Republik Polen 1939 bis 1945. Абодва артыкулы змешчаны ў Bernhard Chiari (Hrsg.): Die polnische Heimatarmee. Geschichte und Mythos der Armia Krajowa seit dem Zweiten Weltkrieg, München 2003, стар. 585–598 і стар. 599–616.

76 Параўн. Памяць. Ашмянскі раён. Мінск, 2003. Стар. 621.

77 www.ipn.gov.pl/portal/pl/193/Oddzialowa_Komisja_w_Bialymstoku.html, 20.05.2010.

і Літвы.[78] Пры гэтым польскім уладам прадастаўляецца допуск да архіваў на падставе двухбаковых дагавораў. У 1996 г. паміж архіўнымі аддзеламі польскага міністэрства ўнутранных спраў і беларускім КДБ было заключана пагадненне з мэтай высвятлення "лёсаў людзей, якія зніклі падчас вайны і тэрору".[79] На практыцы гэта супрацоўніцтва развіваецца з цяжкасцю, бо беларускія ўлады не зацікаўлены ў расследванні злачынстваў. Аднак гэтыя старанні ўжо прывялі да поспеху, як гэта засведчыла праведзенае ў верасні 2008 г. урачыстае пахаванне знойдзеных пасля шматгадовых пошукаў парэшткаў польскіх салдат у Кобрыне, якія загінулі ў змаганні з нямецкімі і савецкімі войскамі ў 1939 г.[80]

Беларускі ўрад прыняў на сябе абавязак не толькі расследваць злачынствы, але і паклапаціцца пра годнае ўшанаванне памяці ахвяр. Абодва ўрады дамовіліся ў 1995 г. ў Брэсце пра тое, што кожны ў сваю чаргу будзе даглядаць мемарыяльныя месцы, прысвечаныя памяці ахвяр вайны і рэпрэсій. Гэта выразна ўключала ў сябе і ўсталяванне памятных знакаў.[81] За ўсталяванне памятных знакаў з польскага боку адказная Рада захавання памяці аб барацьбе і пакутніцтве („Rada Ochrony Pamięci Walk i Męczeństwa"). Разам з арганізацыяй "Страж польскіх магіл" з Уроцлава да сёння былі створаны як мінімум восем мемарыяльных месцаў, прысвечаных памяці ахвяр рэпрэсій, якія перш за ўсё знаходзяцца ў заходняй частцы краіны.[82] Да таго ж абедзве арганізацыі даглядаюць многія магілкі польскіх жаўнераў часоў грамадзянскай вайны 1918/21 гг., якія былі закладзены ў міжваенны час і ў адмысловы спосаб захоўваюць памяць пра антыбальшавіцкі супраціў. Некаторыя з гэтых мемарыяльных месцаў былі адноўлены пры ўдзеле беларускіх арганізацый. У Лынтупах, невялікім мястэчку непадалёк ад мяжы з Латвіяй, быў адрэстаўраваны ўсталяваны ў 1930 г. помнік жаўнерам, а надпісы па-польску, што існавалі дагэтуль, былі дапоўнены перакладамі на беларускую. Аднак гэта форма засваення польскіх мемарыяльных месцаў з'яўляецца хутчэй выключэннем.[83]

Побач з росквітам польскага жыцця пасля 1990 г. таксама пачало адраджацца і жыццё каталіцкае. У межах парафій захоўваецца памяць пра асоб духоўнага стану,

78 www.ipn.gov.pl/portal/pl/194/3324/Sledztwo_w_sprawie_deportacji_ludnosci_polskiej_z_terenow_bylego_wojewodztwa_wil.html. Колькасць даследванняў, якія праводзіліся галоўнай камісіяй ІПН у справе сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Беларусі, невядома, паколькі ў дадзенай арганізацыі не вялася адпаведная статыстыка. Ліст юрыста галоўнай камісіі ІПН Роберта Яніцкага да аўтара, 13.05.2010.

79 Соглашение Комитета Государственной Безопасности Республики Беларусь, 22.10.1996. http://arc.pravoby.info/megdoc/part3/megd3470.htm, 20.05.2010.

80 Паведамленне для прэсы Рады па захаванні памяці пра змаганне і пакутніцтва, 20.08.2008. www.naszdziennik.pl/index.php?typ=sw&dat=20080821&id=sw21.txt. Падрабязней пра гэта адкрыццё гл. у раздзеле, прысвечаным Кобрыну, на стар. 139 у дадзенай кнізе.

81 Umowa między Rządem Rzeczypospolitej Polskiej a Rządem Republiki Białoruś o ochronie grobów i miejsc pamięci ofiar wojen i represji, 21.01.1995. www.katowice.uw.gov.pl/mp/umowa_rp_bialorus.html.

82 Звярніце ўвагу на інфармацыю пра мемарыяльныя знакі, якія знаходзяцца ў Гродне (помнік ахвярам Катыні), Курапатах пад Мінскам, Індуры, Сурконтах, Сапоцкіне, Дзяржынску, Мікалаеве і Нецечы, змешчаную ў дадзенай кнізе.

83 Музей истории и культуры евреев в Беларуси/Museum of Jewish history and culture in Belarus, Minsk 2007 (рекламный проспект музея).

якія сталіся ахвярамі камуністычнага рэжыму. З’явіліся новыя мемарыяльныя знакі, якія ўшаноўваюць памяць перасьледваных сьвятароў, напрыклад, у Відзах альбо Міжэрычах. Іншыя помнікі, якія належаць да міжваеннага часу, былі адрэстаўраваны і нагадваюць сёння пра ахвяр чырвонага тэрору часоў грамадзянскай вайны (у Жупранах і Слоніме).

Для габрэйскай супольнасці Беларусі мае найважнейшае значэнне досвед Халакосту, які адбываўся падчас нямецкай акупацыі.[84] Такія арганізацыі як мінскі габрэйскі музей да таго ж займаюцца даследваннем габрэйскага жыцця ў Беларусі перад Другой сусветнай вайной. Зварот да наступстваў савецкай рэпрэсіўнай палітыкі адыгрывае пры гэтым вялікую ролю. Сталая экспазіцыя адкрытага ў 2002 г. габрэйскага музея ў Мінску падрабязна раскрывае тэму сталінскіх рэпрэсій. Паказваецца знішчэнне рэлігійнага жыцця, якое адбывалася шляхам пераследу духоўных асоб і закрыцця сінагог, а таксама рэпрэсіі супраць габрэйскіх пісьменнікаў і навукоўцаў падчас масавага тэрору 1937/38 гг.[85] Мемарыяльны камень у Курапатах, які быў выраблены з парэшткаў мінскага помніка Сталіну і ўсталяваны паводле ініцыятывы габрэйскіх арганізацый, нагадвае пра габрэяў, забітых у часы сталінізму.

Падобныя ініцыятывы ўсталявання помнікаў суправаджаюцца інтэнсіўнымі даследваннямі габрэйскай гісторыі, якія атрымліваюць падтрымку дзякуючы кантактам на захадзе. Існуюць адпаведныя даследванні і ўспаміны, якія дапаўняюць карціну савецкіх рэпрэсій супраць гэтай меншасці. [86] Як і ў выпадку з польскай меншасцю дэбаты па дазенай тэме адбываюцца ў абмежаванай частцы грамадзтва. Падобныя высновы можна зрабіць і ў дачыненні да літоўскай і латышскай меншасцяў у Беларусі.[87]

Яны амаль што не маюць уплыву на афіцыйную версію гісторыі, аднак захоўваюць памяць у лакальна абмежаваных рамках. Дагэтуль не існуе агульнага ўшанавання памяці ахвяр. Адпаведныя супольнасці ўшаноўваюць свае ўласныя мемарыяльныя мясціны і памяць.[88] Памінальныя службы і ўскладанні вянкоў адбываюцца асобна. Толькі Курапаты ў моц сваёй асаблівай гісторыі з’яўляюцца

84 Камень шмат разоў быў мішэнню для вандалаў-антысемітаў. Памятны знак ад беларускіх габрэяў ахвярам Курапатаў выраблены з каменя ад помніка Сталіна. Радыё Свабода, 29.10. 2004. www.svaboda.org/content/article/788092.html.

85 Гл. стар. 94–95 у дадзенай кнізе.

86 Э. Г. Иоффе: Страницы истории евреев Беларуси. Краткий научно-популярный очерк. Минск, 1996. Нядаўна выйшла другая кніга матэрыялаў, прысвечаных габрэйскаму жыццю ў Магілёве. У ёй разглядаюцца сталінскія рэпрэсіі і Халакост 1941–1944 гг.

87 Таксама, як і палякі Беларусі, літоўскае насельніцтва паўночна-заходняй часткі краіны разглядаецца як нацыянальная меншасць і знаходзіцца пад абаронай дзяржавы. Пры падтрымцы літоўскіх урадавых установаў паўсталі арганізацыі нацыянальнай меншасці, даследванне недалёкага мінулага ў якіх адыгрывае пэўную ролю. Літоўскія арганізацыі ўсталявалі мемарыяльны знак у Чэрвені (гл. стар. 227). У Пелясе, цэнтры літоўскай меньшасці, які знаходзіцца на поўнач ад Гродна, пра ахвяр вайны і рэпрэсій нагадвае манументальная скульптура ля касцёла. Гл стар. 181 у дадзенай кнізе.

88 Адзіная на сённяшні дзень кніга, якая змяшчае пералік памятных знакаў ахвярам камунізму ў Беларусі, выйшла пасля канфлікту вакол Курапатаў у 2001 г. Яна была створана аб’яднаннем “За захаванне Курапатаў”. Характэрна, што ў ёй пералічаны толькі тыя мемарыяльныя знакі, якія былі ўсталяваны паводле ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту, Мартыралогу Беларусі альбо арганізацыі, у якую ўваходзяць ахвяры рэпрэсій. Не ўзгаданы нават такія

аб'яднаўчым месцам, на якім кожная група ахвяр прадстаўлена мемарыяльным знакам.[89] Нягледзячы на гэтую акалічнасць, шматлікія мясцовыя суполкі робяць важны ўнёсак у плюралізацыю існага ландшафта памяці, які не трэба недаацэньваць.

## Роля праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў

Падобна як і ў Расіі пасля 1990 г. праваслаўная царква ў Беларусі дэ факта атрымала статус дзяржаўнай. Сёння яна лічыцца захавальніцай "духоўных асноў і нацыянальных традыцый" рэспублікі.[90] Дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы колькасць вернікаў моцна павялічылася. На сённяшні дзень вернікамі праваслаўнай царквы лічаць сябе 60 % насельніцтва. Епархіі на тэрыторыі рэспублікі аб'ядналіся ў 1991 г. ў Беларускую Праваслаўную Царкву, такім чынам падкрэсліўшы звонку адноўленую незалежнасць краіны. Адпаведна царкоўнаму праву прыходы падпарадкаваны Маскоўскаму Патрыярхату ў якасці экзархату, таму ўплыў расійскай маці-царквы застаецца і да сёння. Нягледзячы на стабілізуючую функцыю, якую адыгрывае царква для рэжыму Лукашэнкі, трэба адзначыць некаторыя гісторыка-палітычныя нюансы.

Разам з вяртаннем царкоўнай маёмасці і заснаваннем новых прыходаў была працягнута рэлігійная традыцыя, век якой складае больш за 1000 гадоў, і зварот да якой не пакінуў па-за ўвагай і час сталінскіх рэпрэсій. З 1992 г. адбываецца кананізацыя асабліва важных прадстаўнікоў, якія зазналі пераслед з-за сваёй веры. Малітоўны зварот да іх абываецца ў царкве "новамучанікаў і вызнаўцаў". Кананізацыя адбываецца паводле рашэння сінадальнай камісіі Маскоўскага Патрыярхату, адмыслова створанай для гэтай мэты.[91]

Беларуская Праваслаўная Царква стварыла напрыканцы 1990-х гг. пры Мінскай духоўнай акадэміі ўласную камісію пад кіраўніцтвам святара Фёдара Крываноса. 12 снежня 1999 г. на падставе праведзеных даследванняў у саборы, што знаходзіцца ў сталіцы, святымі былі абвешчаны 23 праваслаўных прадстаўніка з Мінскай епархіі. Наступныя кананізацыі знаходзяцца ў стане падрыхтоўкі. У апошні раз у 2007 г. у Віцебскай епархіі былі абвешчаны святымі два высокіх прадстаўніка, якія былі забіты савецкай дзяржбяспекай у 1930-х гадах.[92] Побач з ахвярамі сталінскага тэрору мінская камісія даследуе лёсы праваслаўных святароў, якія

вядомыя мясціны, як усталяваны палякамі ў Гродне памятны камень на ўспамін аб катынскай трагедыі. Параўн. Курапаты. Зборнік матэрыялаў, стар. 92–112.

89 На тэрыторыі месца масавых пахаванняў сёння знаходзяцца памятны крыж польскім ахвярам, камень беларускім габрэям і мусульманам, крыжы каталіцкім, праваслаўным і ўніяцкім святарам, а таксама шматлікія прыватныя памятныя знакі пісьменнікам, навукоўцам і звычайным людзям, якія сталіся ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

90 Інфармацыю аб Праваслаўнай Царкве гл. на сайце беларускага Міністэрства замежных спраў. www.mfa.gov.by/en/republic/religion.

91 New Martyrs unify us. Інтэрв'ю з протаіерэем Георгіем Мітрафанавым, снежань 2003 г. www.pravoslavie.ru/english/7170.htm.

92 Прамова Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта з нагоды кананізацыі новамучанікаў. Віцебск, 04.11.2007. www.church.by/resource/Dir0205/Dir0213/Dir0224/Dir0226/Page1784.html.

пераследваліся ў міжваенны час, альбо сталіся ахвярамі нямецкай акупацыі.[93] Жыцці новамучанікаў зачытваюцца падчас службаў, а для прыхаджанаў выходзяць публікацыі невялікага памеру, прысвечаныя гісторыі пераследу па рэлігійных матывах у Савецкім Саюзе.[94]

Таксама і па-за Мінскам у асобных епархіях даследуюцца лёсы новамучанікаў. На ўспамін пра пераследваных у прыходах кожны год 28 кастрычніка, які афіцыйна лічыцца днём успаміну новамучанікаў, служацца паніхіды. Тым часам арганізуюцца нават і выставы, як восенню 2009 г. у Бабруйску, на якой распавядалася пра лёс 116 вернікаў, якіх пераследвалі ў сталінскія часы.[95] Нягледзячы на нерашучы зварот да гэтай тэмы ў параўнанні з Расіяй, шанаванне новамучанікаў у Беларускай Праваслаўнай Царкве набыло важнае значэнне. Тры рэпрэсаваных верніка нават былі ўключаны ў шэрагі беларускіх нацыянальных святых. Вернікі малітоўна звяртаюцца сёння не толькі да легендарнай манахіні святой Ефрасінні Полацкай альбо сярэдневечнага епіскапа Кірылы Тураўскага, але і да святога Уладзіміра Эленеўскага (вязень ГУЛАГу), святой Валянціны Мінскай (вязень ГУЛАГу) і епіскапа Мікалая Віцебскага (загінуў у 1934 г. у турме НКУС).[96]

Нягледзячы на станоўчае развіццё падзей зварот да тэмы сталінскіх рэспрэсій абмяжоўвецца толькі царкоўнай гісторыяй. Грунтоўныя даследванні гэтай тэмы не з'яўляюцца мэтай царкоўнага кіраўніцтва. Таму кіраўніцтва дзяржавы не баіцца, што гэта фрагментарнае даследванне пашкодзіць афіцыйнай версіі гісторыі. Праваслаўная царква адпаведна не ўдзельнічае ў грамадзкай дыскусіі на гэту тэму. Гэтае маўчанне базуецца на ўзаемнай згодзе. Вясной 2006 г. у Гродне дайшло да канфлікту з-за размяшчэння ў храме іконаў новамучанікаў, на якіх быў намаляваны расстрэл святароў службоўцамі НКУС. Супрацоўнікі КДБ звярнуліся да кіраўніцтва царквы, каб перадухіліць асвячэнне іконаў, бо гэта шкодзіла іх рэпутацыі. Улады не ўмешваліся ў гэты канфлікт. Урэшце асвячэнне ікон адбылося без перашкод у чэрвені 2006 г.[97]

Распаўсюджаная ў Расіі практыка пабудовы святынь на месцы масавых пахаванняў сталінскага часу, дагэтуль не знаходзіць водгуку ў Беларусі. Манументальныя храмы, як на месцы пахаванняў у Маскве ў Бутаве альбо Камунарцы сёння немагчыма ўявіць.[98] Падчас пратэстаў супраць пашырэння аўтастрады праз Курапаты маскоўскі патрыярх выказаўся пра магчымую пабудову на гэтым месцы капліцы. Аднак гэта было аспрэчана прэсавым сакратаром Беларускага

93 Інтэрв'ю з Фёдарам Крываносам, 28.09.2009. www.religare.ru/2_68512_1_21.html.

94 Напрыклад, біяграфіі мінскіх новамучанікаў. Гл. Фёдар Крыванос (рэдактар). Жития священномучеников Минской епархии. 1-я половина 20-го века. Минск, 2002.

95 В Бобруйске проходит фотовыставка, посвященная новомученикам, 09.02.2010. http://bobruisk.hram.by/news/20100209.html.

96 Пералік нацыянальных святых: www.church.by/resource/Dir0262/Dir0263/index.html.

97 Выявы ікон новамучанікаў гл. на сайце праваслаўнага прыходу ў Гродне: www.orthos.org/grodno/gev/june2006/from_life.htm.

98 Выключэннем з'яўляецца пабудова капліцы ў сутарэннях царквы ў Мазыры. Будынак, што быў турмой НКУС, знаходзіцца ва ўласнасці Праваслаўнай Царквы. Гл. стар. 252 у дадзенай кнізе.

Экзархату па абсурднай прычыне, што няма доказаў пра забойства ў Курапатах праваслаўных духоўных асоб.[99]

Гэта стрыманасць парушаецца асобнымі прыхадзкімі святарамі. За адмовай царкоўнага кіраўніцтва ў Мінску пабудаваць капліцу ў Курапатах паследвала ініцыятыва святара аднаго з мінскіх прыходаў. Ён падтрымаў ідэю мастака Анатоля Кузняцова намаляваць на камянях, што знаходзяцца ў месцы пахаванняў, лікі пяці святароў, якія былі забіты на гэтым месцы ў 1937 г. Пазней з'явіліся іншыя выявы святых. Такім чынам, паўстала "царква пад адкрытым небам", стварэнне якой скончылася ў 2001 г. асвячэннем іконы Маці Божай на ўваходзе ў месца масавых пахаванняў.[100]

Іншыя праваслаўныя святары бяруць удзел у акцыях ушанавання памяці ахвяр, якія арганізуюцца Беларускім Народным Фронтам, і, такім чынам, надаюць ім сакральны характар.

Нашмат больш інтэнсіўна, чым праваслаўная царква прымае версію гісторыі нацыянальнай апазіцыі за ўласную створаная ў 1991 г. Уніяцкая Царква. Аднаўленне гэтай рэлігійнай супольнасці адбылося ў 1989/90 г. у працэсе станаўлення Беларускага Народнага Фронту. Яна павінна была стацца нацыянальнай царквой, адмяжоўваючыся ад Каталіцкага Касцёлу, што меў польскі характар, і Праваслаўнай Царквы, якая мела адпаведна характар расійскі. Як праваслаўнае, так і каталіцкае царкоўнае кіраўніцтва перашкаджалі аднаўленню ўніяцкіх парафій.

Прымусовае аб'яднанне ўніятаў з Праваслаўнай Царквой, якое адбылося ў 1839 г., не было скасавана, таксама заставалася ў моцы скасаванне апошніх уніяцкіх парафій на былых польскіх тэрыторыях, якое было праведзена савецкім кіраўніцтвам у 1946 г. з дапамогай сілы.[101] Каталіцкі Касцёл, якому згодна з царкоўным правам падпарадкоўваліся ўніяцкія парафіі, у адрозненне ад Заходняй Украіны не прадаставіў ім самастойнасці. Дзяржаўныя ўлады перашкаджаюць дзейнасці ўніятаў да сённяшняга дня. Парафіям не былі перададзены храмы, а магчымасці адукацыі святароў засталіся абмежаванымі. Сёння ва ўсёй краіне маецца не больш за 3000–4000 вернікаў гэтай канфесіі. Нягледзячы на гэта маргінальнае становішча нацыянальны аспект прыналежнасці да апазіцыі мае вельмі важнае значэнне. Уніяцкія святары бяруць удзел у шматлікіх памінальных мерапрыемствах і асвячаюць мемарыяльныя знакі. Вернуты ва ўжытак уніяцкі крыж у якасці нацыянальнага сімвалу ўшанавання памяці ахвяр. Канкрэтнай гістарычнай прывязкі аднак знайсці немагчыма, бо падчас савецкага панавання ва ўсходняй частцы краіны зусім не было ўніяцкіх парафій. Так прыцясненне ўніятаў змяшчаецца ў больш шырокі гістарычны кантэкст. Прыкладам можа з'яўляцца

99 Гісторыю канфлікта гл. на сайце http://churchby.info/rus/236. Без прывязкі да месцаў сталінскага тэрору будуюцца храмы новамучанікаў, якія асвячаюцца ў гонар некаторых kanанізаваных духоўных асоб. Свежым прыкладам можа служыць асвячэнне царквы на тэрыторыі бальніцы ў Гродне ў гонар святога Лукі (Война-Ясянецкага), які быў вязнем ГУЛАГу. www.newsby.org/by/2010/02/07/text13184.htm.

100 Ікона была створана мінскім мастаком Алесем Марачкіным і асвечана святарамі ўсіх канфесій. Гл. стар. 97 у дадзенай кнізе. Аб іконах на валунах: http://churchby.info/rus/236.

101 Інфармацыю аб гісторыі ўніятаў у Беларусі гл. у кнізе У. І. Навіцкага Канфесіі на Беларусі. Канец 17–20 ст., Мінск, 1998.

асвячэнне святаром з Гродна уніяцкага крыжа ахвярам таталітарызму ў 2007 г. У адным месцы на ўскраіне заходнебеларускага гораду Ваўкавыск знаходзіўся былы лагер НКУС, тут жа таксама стаяў уніяцкі храм, які быў разбураны ў 19 тагоддзі.[102]

## Формы і сімвалічная мова помнікаў

Умовы, у якіх ств575ралася большасць памятных знакаў, не прадастаўлялі вялікіх магчымасцей для мастацкага афармлення помнікаў. Тыповай з'явай ёсць іх часовы характар: яны створаны пераважна з дрэва, іх лёгка вырабіць. Большай часткай гэта чатырохканцовыя крыжы, якія ў залежнасці ад намераў ініцыятараў усталявання маюць пэўнае канфесійнае значэнне, але часцей за ўсё з'яўляюцца агульнапрынятым сімвалам ушанавання памяці памерлых.

Самы вядомы з гэтых крыжоў знаходзіцца ля ўваходу ў месца пахаванняў у Курапатах. Гэты "Крыж пакуты" замацаваны ў падмурку з камянёў. На месцы скрыжавання бэлек крыжа замацаваны цярновы вянец. Ён сімвалізуе гару Галгофу і тым самым у пераносным сэнсе пакуты ахвяр, памяць пра якіх павінна захоўвацца ў такой узвышанай рэлігійнай форме. Да сімволікі Галгофы звярталіся асабліва пры ўсталяванні першых памятных знакаў напачатку 1990-х гг. Сувязь з курапацкім крыжом можна заўважыць, разглядаючы падобныя памятныя знакі ў Варонах пад Віцебскам, Баранавічах, Грозаве альбо Чэрвені.

Побач з іншымі часта сустракаюцца шасціканцовыя крыжы, якія адрозніваюцца ад праваслаўных крыжоў, што маюць скошаную ніжнюю папярэчыну, дзвюма паралельна размешчанымі папярэчнымі бэлькамі. Гэты двайны альбо патрыяршы крыж мае шматузроўневую сімволіку. У канфесійным плане ён належыць да Уніяцкай Царквы, да якой пасля заключэння царкоўнай уніі ў Брэсце ў 1569 г. да сярэдзіны 19 ст. належала перш за ўсё пераважная большасць сельскага насельніцтва ў заходняй і цэнтральнай частках краіны. Прымусовы перавод у праваслаўе лічыцца ў нацыянальна арыентаваных колах сведчаннем прыгнёту падчас расійскага і савецкага панавання.

Падвойны крыж сведчыць пра іншую гістарычную традыцыю, бо з 14 ст. ён стаецца складовай часткай гербу Пагоня. У нядаўным мінулым падвойны крыж і герб Пагоня былі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., а таксама кароткі час і сімваламі Рэспублікі Беларусь з 1991 па 1995 гг.[103] Гэта злучэнне рэлігійнага і нацыянальнага значэнняў падвойнага крыжа асабліва добра прасочваецца на прыкладзе легендарнага крыжа нябеснай заступніцы Беларусі святой Ефрасінні Полацкай. Рэліквія 12 ст., якая была згублена падчас Другой сусветнай вайны, яўна паслужыла ўзорам пры стварэнні некаторых памятных знакаў. Так, напрыклад, у Наваполацку памятны крыж ахвярам рэпрэсій быў выраблены ў якасці копіі крыжа св. Ефрасінні, аднак праз кароткі час яго пабурылі. У Віцебску крыж нацыянальнай святой стаіць на Успенскай гары побач з саборам. Гэта

102 У Ваўкавыску ўсталявалі крыж ахвярам таталітарызму. Радыё Свабода, 14.07.2007.

103 Dmitri Semushin: Wappen und Staatssymbolik der Weißrussen vom Mittelalter bis in die Gegenwart. Гл. у Beyrau/Linder (Hrsg.): Handbuch der Geschichte Weißrusslands, Göttingen 2001, стар. 49–66.

месца свядома абрана месцам правядзення неафіцыйных памінальных акцый па ўшанаванні памяці ахвяр сталінскага пераследу.

Сярод мемарыяльных знакаў рэдка сустракаюцца праваслаўныя крыжы, хаця пераважная большасць насельніцтва ў Беларусі належыць да гэтай канфесіі. Гэта тлумачыцца тым, што ўшанаванне памяці, якое мае нацыянальную і антырасійскую канатацыю, выключае выкарыстанне гэтых сімвалаў. Аднак і тут ёсць выключэнні, як паказвае той шасціканцовы крыж, які ўсталяваны на ўшанаванне памяці забітага святара ў вёсцы Шылавічы.

Побач з аспектамі, якія падзяляюць, і маюць на ўвазе нацыянальны падзел ахвяр, існуюць і прыклады ўшанавання памяці, якія аб'ядноўваюць. У вёсцы Выня, якая знаходзіцца ў Мінскай вобласці, побач стаяць каталіцкі, уніяцкі і праваслаўны крыжы, якія сімвалізуюць канфесіі пераследваных жыхароў вёскі. Яшчэ адным прыкладам служаць мемарыяльныя крыжы ахвярам вілейскай турмы ў лесе ля вёскі Касута, што ў Мінскай вобласці. Да разбурэння, якое мела месца ў 2004 г., тут стаялі каталіцкі і праваслаўны крыжы, якія былі з'яднаны адзін з адным агульнай папярэчнай бэлькай. Пасля аднаўлення ў 2008 г. сёння тут стаяць побач шасціканцовы ўніяцкі і чатырохканцовы крыжы. Побач з крыжамі сустракаюцца і драўляныя капліцы ў выглядзе слупоў (напрыклад, у Чэрвені і Пелясе) альбо ўласна капліцы, як у Парку Чалюскінцаў у Мінску, якія адпавядаюць традыцыям, што існуюць перш за ўсё у паўночна-заходняй частцы краіны.

Надпісы на помніках, калі яны былі ўсталяваны Беларускім Народным Фронтам альбо Мартыралогам Беларусі, выкананы амаль выключна на беларускай мове. У першую чаргу пры разглядзе доўгіх надпісаў можна заўважыць розніцу паміж уведзеным у БССР у 1933 г. правапісам пад назвай "наркамаўка", які мае да сёння афіцыйны статус, і неафіцыйным правапісам, які быў распрацаваны ў пачатку 20 ст. і вядомы пад назвай "тарашкевіца". Апошняя форма правапісу лічыцца ў нацыянальна арыентаваных колах апазіцыі "чысцейшай" і таму пры выкарыстанні ёй аддаецца перавага. Надпісы на рускай мове трапляюцца вельмі рэдка, яны замяняюцца беларускімі як, напрыклад, у Гомелі. Часцей за ўсё іх можна знайсці на прыватных памятных знаках, як у выпадку крыжоў у Курапатах.

Мемарыяльныя знакі, усталяваныя польскай меншасцю, маюць большую разнастайнасць форм і сімвалаў. Яны адрозніваюцца ад іншых памятных знакаў перш за ўсё праз выкарыстанне польскай нацыянальнай сімволікі: гербавага арла альбо бела-чырвоных стужак. Да таго ж сустракаюцца і эмблемы розных вайсковых і паўвайсковых арганізацый, якія можна знайсці перш за ўсё на мемарыяльных знаках байцам Арміі Краёвай альбо палеглым у баях вайскоўцам польскіх узброеных сіл.

Нацыянальны падзел, які мае месца пры афармленні памятных знакаў, тлумачыцца тымі ж матывамі як і выкарыстанне ўніяцкіх крыжоў беларускай апазіцыяй. Ушаноўваецца памяць памерлых, якія належаць да ўласнай этнічна вызначанай супольнасці. З погляду на мультынацыянальны склад беларускага грамадства і вельмі размытыя межы паміж асобнымі нацыянальнасцямі належыць удакладняць гэтыя нюансы. Што тычыцца пераважна рэлігійнай маркіроўкі месц масавага пахавання – прыкладам можа служыць праект Пазняка ў Курапатах, які ажыццяўляецца на працягу больш чым дзесяці гадоў – то, нягледзячы на шырокую

падтрымку ў цяперашні час, яна наўрад ці можа служыць справе прызнання ў якасці ўласнай усім грамадствам.

### Перспектывы

Вялікая колькасць кантэкстаў памяці і супольнасцей, якія ў розныя спосабы захоўваюць памяць пра злачынствы камунізму ў Беларусі, паспрыяла таму, што насупраць загаданай дзяржавай амнезіі даследванне гэтай часткі гісторыі не спынілася. Сацыёлаг Барыс Дубін гаварыў пра раздробленасць калектыўнай памяці ў выпадку, які тычыўся захавання памяці пра сталінскія злачынствы ў Расійскай Федэрацыі.

Гэту выснову можна зрабіць і ў дачыненні Беларусі. Памяць прысутная, аднак яна звязана з асобнымі месцамі і расповядамі, чыя вестка мусіць быць прачытана і зразумета. Паводле Дубіна адной з найважнейшых задач з'яўляецца збіранне гэтых асобных аскепкаў, каб зрабіць памяць бачнай для ўсяго грамадства і такім чынам захаваць яе для будучыні. З погляду на палітычную сітуацыю ў Беларусі гэта моцна будзе залежыць ад таго, ці наблізяцца адзін да аднаго вобраз гісторыі Адміністрацыі прэзідэнта і супрацьлеглы яму праект апазіцыі.

Для гэтага існуюць шматабяцальныя прыклады, як паказала развіццё падзей, пачынаючы з 2007 г. Працэс нацыятварэння, які ідзе ў Беларусі асабліва марудна, а разам з ім і стварэнне агульнай версіі гісторыі могуць паскорыцца на фоне адасаблення ад Расіі.[104] Урад, які на працягу некалькіх гадоў імкнецца стварыць нацыянальныую версію гісторыі, не зможа абысці тэму сталінскіх рэпрэсій.[105] Стратэгія замоўчвання, якая выкарыстоўвалася з сярэдзіны 1990-х гг., аказалася нежыццяздольнай. Аднак пакуль не вядома, якое значэнне будзе мець памяць пра ахвяр.

Таму падаецца вельмі важным аб'яднанне розных ландшафтаў памяці, якія існуюць ізалявана адзін ад аднаго. Абмен досведам пра рэпрэсіі паміж беларускімі нацыянальнымі, польскімі, габрэйскімі і іншымі рэлігійнымі групамі, а таксама правядзенне супольных памінальных мерапрыемстваў магло б паскорыць працэс зрастання аскепкаў. Нават калі б з боку ўраду не адбыліся б крокі насустрач, меліся б перадумовы для існавання жывой памяці пра ахвяр сталінізму прынамсі на ўзроўні грамадзянскай супольнасці.

104 Савецкая спадчына як галоўны складнік ідэнтычнасці павінна таксама згубіць сваё значэнне пасля знікнення апошніх ваенных і паваенных пакаленняў. Іх месца зоймуць іншыя гістарычныя рэаліі, якія абапіраюцца на беларускую нацыянальную тоеснасць і гісторыю. Мінская гарадская адміністрацыя вядзе дыскусію па тэме перайменавання некаторых вуліц і станцый метрапалітэну ў цэнтры сталіцы, якія павінны атрымаць замест імён савецкіх дзяржаўных і партыйных функцыянераў свае гістарычныя назвы. Ветэранскія арганізацыі спрабуюць блакаваць гэты працэс. Перайменавання станцыі метро "Плошча Леніна" не адбудзецца? Charter97.org, 27.05.2010.

105 У чэрвені 2010 г. у музеі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава, прысвечаная тэме злачынстваў, якія былі здзейснены ў Катыні. Падобна як і ў выпадку з Курапатамі дырэктар музею сказаў, што памяць пра ахвяр важная таксама і для беларускага грамадства. У Менску шануюць памяць аб трагедыі Катыні 1940 г. Радыё Свабода, 24.06.2010.

## Няма спакою для забітых у Курапатах
## Падзеленая памяць у постсавецкай Беларусі

*Алена Тэмпер*

Усход Еўропы займаецца на працягу вось ужо больш чым дваццаці гадоў посткамуністычнай рэканструкцыяй нацыянальнай прасторы. З выхадам з-пад савецкага панавання нацыі не толькі "вярнулі" сваю гісторыю. Больш за тое, гісторыя сталася асновай для новай постсавецкай ідэнтычнасці. Беларусь, аднак, з'яўляецца выключэннем. Краіна належыць да нямногіх посткамуністычных дзяржаў, дзе афіцыйная інтэрпрэтацыя беларускай гісторыі не супадае з нацыянальнай. Падзел гістарычнай карцінкі на нацыянальную і антынацыянальную прывёў да падзеленай культуры ўшанавання памяці беларускім грамадзтвам.

Нанова створаная пасля 1991 г. нацыянальная гісторыя беларусаў, якая ў першую чаргу акцэнтавала ўвагу на нерасійскім характары краіны, падпарадкоўваецца з часу прыходу да ўлады прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 г. іншым перадумовам. Тое, што беларускае кіраўніцтва моцна трымаецца савецкай мінуўшчыны, уплывае не толькі на трансфармацыю краіны, але і на яе палітыку ў галіне гісторыі і гістарычнай памяці. Беларусь належыць да нямногіх краін Еўропы, якія падзелены ў справе ўшанавання гістарычнай памяці і ў якіх антаганістычныя гістарычныя наратывы спрыяюць расколу грамадзтва.

Якраз гістарычныя юбілеі 2008 г. дазвалялі заўважыць ясную грамадзка-палітычную лінію падзелу, паколькі яны не супадалі з афіцыйным разуменнем гісторыі. 25 сакавіка інтэлектуалы і мастакі, якія належаць да беларускай апазіцыі, святкавалі 90-ю гадавіну заснавання першай беларускай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта дзяржава, створаная пад пратэктаратам занепадаючай Германскай Імперыі кайзера Вільгельма існавала толькі з сакавіка па снежань 1918 г. Нягледзячы на сваё кароткае існаванне, з канца 1980-х гг. Беларуская Народная Рэспубліка мае вялікае сімвалічнае значэнне для беларускага незалежніцкага руху. Па прыкладзе балтыйскіх народных франтоў 19 кастрычніка 1988 г. быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту. Гэта адбылося адначасова з заснаваннем *Мартыралогу Беларусі* – першай беларускай грамадзкай гісторыка-педагагічнай арганізацыі для ўшанавання памяці ахвяр сталінізма, якая разумела сябе беларускім адпаведнікам маскоўскай праваабаронча-гістарычнай арганізацыі *Мемар*ыял.[1]

1 Да заснавальнікаў Мартыралогу Беларусі адносіліся такія інтэлектуалы як Васіль Быкаў, Алег Белавусаў, Міхаіл Дубянецкі, Сяргей Грахоўскі. Апошняя публікацыя пра ўзнікненне Мартыралогу і БНФ: Сяргей Навумчык. Сем гадоў адраджэння. Фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995). Прага, 2006, стар. 11. Аб беларускім адраджэнскім руху ў канцы 1980-х гг. гл. наступныя кнігі: Jan Zaprudnik: Byelorussian Reawakening, у Problems of

Старшынём Мартыралогу Беларусі і Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" стаўся археолаг Зянон Пазьняк. "Адраджэнне" з'яўляецца трэцяй з найстарэйшых нацыянальных арганізацый былых савецкіх рэспублік і адзінай з іх, якая сёння дзейнічае.[2] Стварэнне Мартыралогу Беларусі і Беларускага Народнага Фронту было прамой рэакцыяй на публікацыю Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, якая выйшла з друку 3 чэрвеня 1988 г.

У дадзенай публікацыі аўтары пісалі пра брацкія магілы, якія былі знойдзены імі ў лясным масіве Курапаты пад Мінскам і якія паходзяць з часоў сталінскага масавага тэрору.[3] Знаходка брацкіх магіл ускалыхнула беларускую грамадзкасць далёка па-за коламі інтэлектуалаў і абудзіла яе з летаргічнага сну, у якім яна знаходзілася на працягу дзесяцігоддзяў. Адкрыццё брацкіх магіл у Курапатах сталася прадвеснікам дэмакратычных перамен у Беларусі. Разам з чарнобыльскай катастрофай Курапаты сталіся адным з галоўных складнікаў антысавецкай і постсавецкай версій гісторыі. Яны паскорылі дэлегітымізацыю савецкай сістэмы і паслужылі Беларускай ССР аргументам для выхаду дзяржавы са складу Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і дзяржаўнай незалежнасці.

### Адна краіна – два грамадствы

Амаль праз два дзесяцігоддзі пасля абвяшчэння незалежнасці ў Беларусі не ўдалося злучыць у адну беларускую нацыю розныя колы грамадства. На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь жывуць два паралельных грамадствы з уласнымі сімваламі, мовамі, культурамі ўшанавання памяці і палітычнымі арыентацыямі. Нягледзячы на тое, што абодва яны завуцца беларусамі, іх паняцці аб нацыі грунтуюцца на розных канцэпцыях.

Хаця не існуе яснай дэмаркацыйнай лініі, якая б аддзяляла абедзве групы адна ад адной, аднак большасць насельніцтва, якое арыентавана на Еўропу і крытычна ставіцца да ўлады, жыве ў Беларусі на захадзе краіны – падобна як гэта на працягу доўгага часу было ва Украіне. Нацыянальна арыентаваная апазіцыя лічыць сябе прадаўжальніцай традыцый Вялікага княства Літоўскага – той сярэднявечнай дзяржавы, цэнтр тэрыторыі якой складаўся з беларускіх зямель – а таксама адчувае сябе далучанай да еўрапейскай традыцыі. Большасць беларускага грамадства, якая верная Лукашэнку, ідэнтыфікуе сябе праз памяць пра савецкае грамадства і асабліва пра Вялікую Айчынную вайну, якая разглядаецца часам нараджэння сучаснай беларускай нацыі. Расія захоўвае ў гэтым спосабе бачання савецкую ролю "вялікага славянскага брата", нягледзячы на той факт, што саюз

Communism 4/1989, стар. 36–52. – Astrid Sahm: Von der BSSR zur Republik Weißrußland – Belarus (1988–2001), у Dietrich Beyrau, Rainer Lindner (Hg.): Handbuch der Geschichte Weißrußlands. Göttingen 2001, стар. 178-199. – Тая ж аўтарка. Die weißrussische Nationalbewegung nach der Katastrophe von Tschernobyl (1986–1991). Münster 1994.

2 У 1999 г. Беларускі Народны Фронт (БНФ) раскалоўся на кансерватыўна-хрысціянскае і ліберальнае крылы. Пазьняк стаўся старшынём Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ.

3 Курапаты – дарога смерці, гл. Літаратура і мастацтва, 3.6.1988.

паміж Беларуссю і Расіяй і звязаная з ім страта незалежнасці ўжо даўно не бяруцца ў разлік большасцю беларусаў.[4]

Абодва пазеленыя дыскурсы ўшанавання памяці да таго ж маюць розныя нацыянальныя сімвалы. Нацыянальна-дэмакратычная апазіцыя лічыць сваімі сярэднявечны герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Тыя, хто настальгуе па Савецкім Саюзе, абвяшчаюць беларускімі дзяржаўнымі сімваламі тыпова савецкі герб, які аточаны вянком з калоссяў, і чырвона-зялёны сцяг з бела-чырвоным арнамантам з левага боку.[5]

Вялізная розніца існуе і ў сімволіцы святаў. У той час, як большасць беларусаў, якая вызначаецца схільнасцю да тэндэнцый рэстаўрацыі савецкага мінулага, святкуе Дзень Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі, а Дзень незалежнасці з 1995 г. адзначае 3 ліпеня, у дзень вызвалення Мінску ад нацыянал-сацыялістычнай акупацыі, а не 27 ліпеня, як было замацавана законам у 1991 г., у дзень падпісання Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларускай ССР, якое адбылося ў 1990 г., беларуская апазіцыя стварыла свой уласны канон святаў.[6] Так, Дзень незалежнасці святкуецца 25 сакавіка на ўспамін аб абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, а кожны год у Дзень памяці продкаў Дзяды 29 кастрычніка ўшаноўваюцца ахвяры сталінізму. Не ў апошнюю чаргу цырыманіяльныя інсцэніроўкі святаў з'яўляюцца сведчаннем канкуруючых калектыўных культур ушанавання памяці. Вайсковыя парады, на якія выдаткоўваецца шмат грошай і якія былі традыцыйнымі яшчэ ў савецкія часы, з'яўляюцца характэрнымі для Дня перамогі з часу прыходу прэзідэнта Лукашэнкі да ўлады. Акцыі нацыянальна-арыентаванай апазіцыі, наадварот, праходзяць як мірныя шэсці ці сходы большай часткай пад бел-чырвона-белымі сцягамі. У канцы кожнай акцыі спяваецца рэлігійны гімн беларускай апазіцыі "Магутны Божа".

Дзяржаўныя помнікі і мемарыялы ўяўляюць сабой калектыўную культуру ўшанавання памяці ў Беларусі. Гэта культура вызначаецца балесным досведам, які беларускі народ атрымаў падчас вайны з 1941 па 1945 гг. Брэсцкая крэпасць, Музей Вялікай айчыннай вайны, Курган славы, горад-герой Мінск, Хатынь, Лінія Сталіна – ва ўсе гэтыя месцы прывозяць турыстаў, якія наведваюць краіну. Пры гэтым гістарычная памяць застаецца селектыўнай. У афіцыйнай культуры ўшанавання памяці расповеды пра гераічную партызанскую вайну займаюць цэнтральнае месца. Пра трагізм вайны ў прамовах гаворыцца вельмі мала, замест гэтага гаворка ідзе пра гераізм. Ва ўсім свеце вядомыя такія месцы масавага

4 Aleh Manaeй: Langer Marsch – bloß wohin? Integrationsvorstellungen im Wandel, у Konturen und Kontraste. Belarus sucht sein Gesicht. Berlin 2004 [= OSTEUROPA, 2/2004], стар. 228–238.

5 Пра беларускія дзяржаўныя сімвалы гл. Elena Temper: Belarus verbildlichen: Staatssymbolik und Konstruktion(en) der Nation seit 1990. Diss. Uni Leipzig 2009. Dmitri Semuschin: Wappen und Staatssymbolik der Weißrussen vom Mittelalter bis in die Gegenwart, у Beyrau, Lindner, Handbuch [зноска 1], стар. 49–69. – Яшчэ Staatssymbolik und Geschichtskultur [= OSTEUROPA 7/2003], тут дапаўненне, малюнкі 48–57.

6 Дата была зменена ў выніку спрэчнага рэферэндуму 14 мая 1995 г. Рэферэндум прайшоў паралельна з першым турам выбараў у парламент. У выніку ініцыяванага прэзідэнтам Лукашэнкам плебісцыта руская мова сталася другой дзяржаўнай, былі ўведзены крыху мадыфікаваныя савецкія дзяржаўныя сімвалы, а таксама было вырашана пра эканамічнае набліжэнне да Расіі і пашырэнне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў.

знішчэння людзей, як Асвенцым, Трэблінка, Майданек, але толькі нямногія чулі да сёння пра Трасцянец пад Мінскам – чацьверты па колькасці забітых там людзей пераважна габрэйскага паходжання лагер смерці ў Еўропе.[7]

Савецкая гісторыя ў Беларусі як і ў Расіі і ва Ўкраіне не належыць да мінулага, але з'яўляецца прысутнай у сённяшнім дні і вызначае ландшафт ушанавання памяці. "Асцярожна, дзверы зачыняюцца! Наступная станцыя – Плошча Леніна, Кастрычніцкая, Плошча Перамогі, Пралетарская, Маскоўская, Першамайская!" – чуюць пасажыры Мінскага метрапалітэну. Імёны і дызайн станцый метро, які выкананы ў стылі сацыялістычнага рэалізму, адлюстроўваюць шмат чаго з найноўшай беларускай гісторыі. Назвы вуліц нагадваюць пра рэвалюцыянераў, партызанскіх камандзіраў і падпольшчыкаў. Савецкія святы ў Беларусі да сёння з'яўляюцца дзяржаўнымі. Перад Домам ураду на плошчы Незалежнасці знаходзіцца помнік правадыру сусветнага пралетарыяту Уладзіміру Ільічу Ульянаву-Леніну. Насупраць будынку Камітэту дзяржаўнай бяспекі, які пабудаваны ў стылі сталінскага ампіру, стаіць бюст "жалезнага Фелікса" Дзяржынскага, стваральніка і кіраўніка тайнай паліцыі ЧК, якая па прыкладзе вялікага тэрору, што адбываўся падчас Французкай рэвалюцыі, усімі сродкамі знішчала так званых контррэвалюцыянераў, пры чым акцэнт у іхняй працы часцей рабіўся на запужванне, чымся на пошукі праўды.[8] У той час, калі ва ўсіх іншых краінах-спадкаемцах СССР амаль што ўсе помнікі Дзяржынскаму былі прыбраны – а перш за ўсё быў дэмантаваны помнік у Маскве на Лубянцы перад будынкам КДБ – прэзідэнт Лукашэнка разам з кіраўнікамі органаў дзяржбяспекі і спецпадраздзяленняў краін СНД урачыста адкрыў у кастрычніку 2004 г. новы мемарыял Дзяржынскаму ў горадзе Дзяржынску, раней Койданаве, дзе ён нарадзіўся.[9] Таксама адна з галоўных мінскіх вуліц, даўжыня якой складае чатыры кіламетры, носіць імя кіраўніка ЧК. Напрыканцы мая 2006 г. на тэрыторыі Ваеннай акадэміі ў Мінску быў усталяваны яшчэ адзін помнік Дзяржынскаму, які з'яўляецца невялікай копіяй маскоўскага. Дзяржаўны культ Дзяржынскага ў Беларусі азначае выцісканне памяці пра тысячы ахвяр расстрэльных каманд, "узброенай рукі дыктатуры пралетарыяту", як бальшавікі называлі органы дзяржбяспекі.

---

7 Евгений Цумаров. Тростенец: Полвека беспамятства, у Ігар Кузняцоў, Якаў Басін: Беларусь у 20 ст. Выпуск 3, 2004. Кнігу можна знайсці ў Інтэрнэце homoliber.org – Игорь Кузнецов: Правда о Тростенце, у Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Сборник научных работ, 3/2007, http://homoliber.org/rp0703.html.

8 ЧК было ператворана ў Галоўнае палітычнае ўпраўленне (ГПУ) у 1922 г. Яно выконвала функцыі дзяржбяспекі ў Савецкім Саюзе і належала да Міністэрства ўнутраных спраў. Арганізацыя існавала да 1954 г. і з'ўлялася папярэдніцай КДБ.

9 У 2004 годзе і ў Расіі, у Дзяржынску паблізу Ніжняга Ноўгарада быў усталяваны новы помнік Дзяржынскаму. Ён з'яўляецца копіяй лубянкаўскага і замяняе помнік, які абваліўся ў 2003 г.

## Курапаты 1937 – "Дарога смерці"

*На незабыўных прасторах*
*На незлічоных касцях*
*Мы паказалі чалавецтву*
*Слушны крок і слушны шлях*
*(Тодар Кляшторны)*[10]

1937 год, калі паўсюль у Савецкім Саюзе праходзілі святкаванні 100-годдзя з дня смерці Пушкіна, стаўся сінонімам "вялікага тэрору", савецкай формы цывілізацыйнага прарыву.[11] Пасля таго, як Мікалай Яжоў пераняў кіраўніцтва НКУС, з верасня 1936 г. ва ўсёй краіне пачаліся "чысткі". У наступныя два гады "органы дзяржбяспекі" ў мірны час арыштавалі каля трох мільёнаў чалавек, з якіх паводле ацэнак адзін мільён большай часткай быў знішчаны расстрэльнымі камандамі. Масавыя экзекуцыі адбываліся альбо ў турмах, альбо ў так званых адмыслова створаных для гэтай мэты "экзекуцыйных лагерах". Такія лагеры, большай часткай гэта былі лясныя масівы, меліся ва ўсім Савецкім Саюзе. Адзін з іх быў знойдзены ў 1988 г. у лясным масіве Курапаты на паўночны захад ад Мінска. Падобныя месцы пакарання смерцю меліся таксама паблізу іншых буйных гарадоў. Праз апытанне навочных сведак толькі ў Мінску і наваколлі былі дагэтуль знойдзены пяць месцаў расстрэлу, дзе падчас вялікага тэрору былі забіты дзясяткі тысяч людзей. Першыя знаходкі адбыліся яшчэ ў 1960-х гг., калі будавалася мінская кальцавая дарога, якая праходзіць проста праз лясны масіў Курапаты. У той час гэтыя злачынствы былі прыпісаны нямецкаму Вермахту, які акупаваў краіну з 1941 па 1944 гг. і прынёс насельніцтву жудасныя пакуты. Ахвярамі нібыта былі габрэі з Гамбургу, якія былі прывезены ў Беларусь на прымусовую працу, а затым забіты ў Курапатах. Становішча рэчаў здавалася зразумелым і, такім

10 Тодар Кляшторны быў вядомым беларускім пісьменнікам і перакладчыкам. Ён быў расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у турме НКУС у Мінску.

11 Тэрмін «цывілізацыйны пералом» быў уведзены Данам Дзінарам. Гл. Dan Diner (Hg.): Zivilisationsbruch. Denken nach Auschwitz. Frankfurt/Main 1988, стар. 7–13. – Той самы аўтар. Den Zivilisationsbruch erinnern. Über die Entstehung und Geltung eines Begriffs, у Heidemarie Uhl (Hg.): Zivilisationsbruch und Gedächtniskultur. Das 20. Jahrhundert in der Erinnerung des beginnenden 21. Jahrhunderts. Innsbruck u.a. 2003, стар. 17–35. – Wolfgang Kissel: Der Zivilisationsbruch als Kategorie der russischen Kultur- und Literaturgeschichte, у Eckart Goebel, Wolfgang Klein (Hg.): Literaturforschung heute. Berlin 1999, стар. 153–165. – Па тэме сталінізму гл. таксама наступныя публікацыі: Manfred Hildermeier: „Stalinismus und Terror", у OSTEUROPA 6/2000, стар. 593–605. – Terry Martin: Terror gegen Nationen in der Sowjetunion, у тым самым нумары, стар. 606–616. – Mikola Iwanou: Terror, Deportation, Genozid: Demographische Veränderungen in Weißrußland im 20. Jahrhundert, у Beyrau, Handbuch [зноска 1], стар. 392–408. – Rainer Lindner: Der „Genozid" im kulturellen Gedächtnis der Ukraine und Weißrußlands. Vernichtungstraumata in sowjetischer und nachsowjetischer Zeit, у Forum für Osteuropäische Ideen- und Zeitgeschichte, 2/2003, стар. 109–151. – Jörg Baberowski: Der rote Terror. Die Geschichte des Stalinismus. München 2003. – Memorial: Das Jahr 1937 und die Gegenwart. Thesen von Memorial, у Das Lager schreiben. Varlam Šalamov und die Aufarbeitung des Gulag. Berlin 2007 [= OSTEUROPA, 6/2007], стар. 387–394.

чынам, афіцыйнае расследванне справы не праводзілася. Косці былі вывезены на грузавіках падчас начной акцыі, а працы па пабудове дарогі працягнуты.[12]

Толькі 3 чэрвеня 1988 г. у папулярнай газеце "Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул "Курапаты – дарога смерці".[13] Аўтары Пазьняк і Шмыгалёў, былыя навуковыя супрацоўнікі Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук БССР і кіраўнікі раскопак, сцвярджалі ў артыкуле, што ў Курапатах пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій, якія адбываліся ў перыяд з канца 1930-х па пачатак 1940-х гг. Артыкул атрымаў вялікі розгалас у грамадстве. Ужо сама назва Курапаты прымушала жахацца. Паколькі курапаты-курапаткі – гэта птушкі, якія прызначаны для адстрэлу. Таму ў беларускай мове ёсць выраз "пастраляць як курапатак". Гэта метафарычная асацыяцыя была для Пазьняка вызначальнай для таго, каб назваць менавіта так свой артыкул, бо першапачаткова мясцовасць называлася Брод. Імя Курапаты з'явілася пазней, верагодна, пасля вайны.

На тэрыторыі плошчай каля 30 гектараў былі знойдзены каля 510 брацкіх магіл, у якіх былі пахаваны перш за ўсё беларусы, а таксама палякі, габрэі і літоўцы. Знойдзеныя кулі і гільзы адназначна былі ад рэвальвераў тыпу "Наган" і пісталетаў "ТТ". Абодва тыпы пісталетаў былі на ўзбраенні ў супрацоўнікаў НКУС. Паводле ацэнак генеральнага пракурора БССР Георгія Тарнаўскага, які вёў пешае расследванне справы, гаворка ішла пра каля 30 000 ахвяр. Між тым, сёння колькасць ахвяр ацэньваецца ў 250 000 чалавек.

29 кастрычніка 1937 г. у дзень ленінскага камсамола і ў дваццатую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі ў мінскай турме НКУС "Амерыканка" былі расстраляны больш за 100 чалавек, сярод іх 22 беларускіх і габрэйскіх літаратары, а таксама 52 прадстаўніка інтэлегенцыі.[14] Гэта падзея была пікам масавых рэпрэсій у Беларусі,

---

12 З Курапатаў бачны цень Люцыпара над Беларуссю, у Беларусь – наша зямля, http://nashaziamlia.org/2006/04/12/33.

13 Курапаты – дарога смерці, у Літаратура і мастацтва, 3.6.1988. – З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, А. Іоў. Курапаты. Менск, 1994. – Уладзімір Адамушка. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі. Мінск, 1994, стар. 12ff. – Тарнавский, Х., Соболев, В., Горелик, Е. Куропаты – следствие продолжается. Минск, 1990. David R. Marples: Kuropaty: The Investigation of a Stalinist Historical Controversy, у Slavic Review, Vol. 53, No. 2, 1994, стар. 513–523. Інфармацыю пра апошнія падзеі, артыкулы і фатаграфіі па тэме Курапатаў гл. у Інтэрнэце www.kurapaty.org.

14 Пра ахвяр ночы з 29 на 30 кастрычніка 1937 г.: Леанід Маракоў. Ахвяры і карнікі. Менск, 2007, стар. 3–91. – Кніга складаецца з трох частак. Першая з іх прысвечана ахвярам гэтай ночы. У другой частцы пазначаны імёны людзей, якія былі расстраляны ў перыяд паміж жніўнем 1937 г. і кастрычнікам 1938 г. у так званым крывавым тунэлі смерці ў Мінскай турме НКУС. Апошняя частка змяшчае інфармацыю пра выканаўцаў смяротных прысудаў. – Незвычайная энцыклапедыя Маракова, якая складаецца з 10 тамоў (усяго 15 кніг), змяшчае дэтальную інфармацыю аб біяграфіях больш за 6000 ахвяр-прадстаўнікоў беларускай інтэлегенцыі. Гл. Рэпрэсаваныя літаратары-навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах. (т. 1, т. 2.). Смаленск, 2001. т. 3 (1). Менск, 2003 і т. 3 (2). Менск, 2004. Гл. Рэпрэсаваныя літаратары-навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах. т. 4 (кнігі 1 і 2): Рэпрэсаваныя настаўнікі Беларусі 1917–1954. Менск, 2007. – Тут змешчана інфармацыя пра настаўнікаў, якія сталіся ахвярамі рэпрэсій з 1917 па 1954 гг. Гл. Рэпрэсаваныя літаратары-навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах. т. 5. Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі. 1917–1960. – У гэтай энцыклапедыі ,змяшчаюцца імёны медыцынскіх і ветэрынарных работнікаў, якія сталіся ахвярамі рэпрэсій з 1917 па 1960 гг.

якія закранулі ўсе слаі насельніцтва. І ўсё ж больш за ўсіх у поле зроку сталінскіх расстрэльных каманд патрапілі беларускія сяляне. Агулам сярод ахвяраў рэпрэсій 65 працэнтаў склала сельскае насельніцтва, 15 працэнтаў рабочыя, 5 працэнтаў інтэлігенцыя і 1 працэнт святароў.[15] У афіцыйнай статыстыцы колькасць усіх ахвяр на тэрыторыі БССР налічвае 600 000 чалавек. Незалежныя даследчыкі зыходзяць з таго, што ахвярамі вялікага тэрору сталіся больш за мільён чалавек, пры чым да іх яшчэ трэба палічыць чальцоў іх сям'яў.[16]

Падчас распачатага 14 чэрвеня 1988 г. расследвання злачынстваў было адназначна высветлена, што ў выпадку знойдзеных чалавечых парэшткаў у Курапатах гаворка не ідзе пра габрэяў, якія былі забіты Вермахтам, але пра ахвяр сталінскага тэрору. Падчас гэтага расследвання ў першы раз у гісторыі савецкай юстыцыі дзяржава займалася злачынствамі ўласных органаў бяспекі.

30 кастрычніка 1988 г. 10 000 жыхароў Мінска адгукнуліся на заклік Беларускага Народнага Фронту, якім кіраваў Зянон Пазьняк, і рушылі пад бел-чырвона-белымі сцягамі на першы мітынг у Курапаты, каб ушанаваць памяць ахвяр камуністычных рэпрэсій. Нягледзячы на тое, што дэманстрацыя праходзіла мірна, яна была разагнана арміяй міліцыі і спецпадраздзяленняў, якія прымянілі дубінкі і слезацечны газ. Гэта акцыя выклікала хвалю абурэння ва ўсім СССР.[17]

### Курапаты – палітычная справа

Курапаты далі штуршок да пераацэнкі беларускай гісторыі. Мясцовасць сталася сімвалам барацьбы супраць камуністычнага рэжыму і за незалежную Беларусь. Такім чынам, Курапаты сталіся палітычнай справай. Нягледзячы на тое, што Савет Міністраў БССР прыняў пастанову ад 19 студзеня 1989 г. "Аб увекавечанні ў лясным масіве Курапаты памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937–1941 гг." шляхам усталявання помніка, яна да сёння не была рэалізавана. У той час сімвалічна быў усталяваны валун, на месцы якога, як на ім напісана, павінен быць пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсій.

У сваім энцыклапедычным даведніку Маракоў назваў імёны каля 3000 духоўных асоб, якія сталіся ахвярамі рэпрэсій з 1917 па 1967 гг. Гл. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917–1967 гг. Менск, 2007. – Гл. таксама Игорь Кузнецов. Засекреченые трагедии советской истории. Ростов-на-Дону, 2007 – Аляксандар Лукашук. За кіпучай чэкісцкай работай: з жыцця катаў. Менск, 1997.

15 Што тычыцца ахвяр, то маюцца на ўвазе як расстраляныя, так і рэпрэсаваныя беларускія грамадзяне. Параўн. Уроки прошлого: Завершились общественные слушания »Преступления сталинизма в Беларуси«, http://news.open.by/333/2006-10-27/21023. Гл. таксама Belarus gedenkt den Opfern stalinistischer Repressionen, у Belarusnews.de, www.belarusnews.de/de/sozial/belarus.

16 Игорь Кузнецов. Репресии на Беларуси в 1920–1940-е гг., у Репрессивная политика советской власти в Беларуси, том 2. Минск, 2007. Стар. 5–15.

17 Аб падзеях у Курапатах чытайце ў David R. Marples: Kuropaty: The Investigation of a Stalinistic Historical Controversy, у Slavic Review, 2/1994, стар. 513–523. – Аб наступствах гл.: Astrid Sahm: Transformation im Schatten von Tschernobyl. Umwelt- und Energiepolitik im gesellschaftlichen Wandel von Belarus und der Ukraine. Münster 1999, стар. 71.



Хаця імя Курапаты з 1993 г. унесена ў афіцыйны спіс гістарычнай і культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь як "Месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гг.", усе помнікі, якія там знаходзяцца, былі ўсталяваны паводле прыватнай ініцыятывы розных арганізацый грамадзянскай супольнасці. 1993 г. увайшоў у гісторыю яшчэ і таму, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь вярнуў забароненай у жніўні 1991 г. Камуністычнай партыі яе публічны статус. З таго часу адбываецца публічная рэанімацыя савецкага мнулага. Такім чынам, не адбываецца крытычны перагляд гісторыі.

У лукашэнкавай Беларусі Курапаты не належаць да афіцыйнага канону памяці. Падручнікі па гісторыі не змяшчаюць інфармацыі пра іх, афіцыйныя экскурсіі не праводзяцца. Прэзідэнт краіны таксама яшчэ не дабраўся да Курапатаў. Біл Клінтан з'яўляецца да сёння адзіным дзяржаўным дзеячом, які наведаў Курапаты ў студзені 1994 г. і ўшанаваў памяць ахвяр шляхам усталявання гранітнай лавы, якая мае надпіс: "Беларускаму народу ад народу Злучаных Штатаў Амерыкі для памяці".

Ужо дзесятак разоў лава Клінтана была аб'ектам вандалізму. Магілы таксама шмат разоў раскопвалі ў пошуках золата і пры гэтым наносілі пашкоджанні крыжам, якія былі ўсталяваны грамадзянамі. Ніводнага разу не была заведзена крымінальная справа. Замест гэтага праводзіліся новыя даследванні расстрэлаў, вынікі якіх не былі апублікаваны.[18]

Калі перад прэзідэнцкімі выбарамі 2001 г. была прынята пастанова пашырыць аўтастраду, якая праходзіла ў непасрэднай блізасці ад Курапатаў, сітуацыя

18 Даследванні павінны былі засведчыць пра тое, што забітыя – ахвяры нямецкай акупацыі. Гл. Адам Залеский: … и всё-таки фашисты. У Товарищ, 19.01.1996, http:/katyn.ru. Той самы аўтар. Сталин и коварство его политических противников. Минск, 2002. – Все ли мы знаем о Курапатах?, Рэспубліка, 01.02.1996. – Пляски вокруг куропатских могіл, сайт Хартыі '97, http://charter97.org/bel/news/2002.



*Фота злева:*
*"Лаўка Клінтана"*

*Фота зправа:*
*"Лаўка Клінтана" з заўважна пашкоджанай плітой*

*Фота: Алена Тэмпер*

пагражала эскалацыяй.[19] З гэтай прычыны павінны былі спіліць шмат дрэў у курапацкім лесе. Дарога павінна была прайсці праз Курапаты. На працягу васьмі месяцаў маладыя беларусы, у асноўным чальцы апазіцыйных арганізацый "Малады Фронт" і "Зубр", нясьлі варту ў намётах у сасновым лесе ля мемарыялу.[20] Дэманстранты ўсталявалі на тэрыторыі больш за сто крыжоў і, між іншым, блакавалі будаўнічую тэхніку, каб спыніць работы, якія пачаліся ў дзень другога заступлення на пасаду прэзідэнта Лукашэнкі. Гэта ініцыятыва была падтрымана Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй БНФ, Беларускім Народным Фронтам "Адраджэнне" і Мартыралогам Беларусі.[21] Праз тыдзень пасля наведвання мясцовасці польскімі дыпламатамі ў знак салідарнасці, 7 лістапада, у Дзень Вялікай dкастрычніцкай рэвалюцыі справа дайшла да сур'ёзных сутыкненняў. Амаль што ўсе ўсталяваныя крыжы былі разбураны, сотні супрацоўнікаў міліцыі і байцоў спецпадраздзяленняў Міністэрства ўнутраных спраў без разбору збівалі дэманстрантаў. Пасля гэтага справа дайшла да завядзення супраць курапацкіх актывістаў адміністрацыйных спраў, арыштаў і грашовых штрафаў.

Разгром курапацкай акцыі ў дзень афіцыйнага свята Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі прадэмастраваў рэзкі паварот да савецкага канону каштоўнасцяў у дзяржаўнай гістарычнай палітыцы. Нягледзячы на пратэсты і публічную падтрымку абароны Курапатаў усімі апазіцыйнымі партыямі, а таксама пісьменнікамі, гісторыкамі і іншымі вядомымі беларускімі інтэлектуаламі будаўнічыя работы былі працягнуты.

19 Параўн. Weißrusslands Regierung lässt nahe der Hauptstadt eine Autobahn ausbauen – auf den Leichen von Stalin-Opfern, taz, 23.11.2001, стар. 11.

20 Сяргей Дубавец (рэдактар): Дарога праз Курапаты. Кніга аднаго рэпартажу. Прага, 2002. У кнізе апісана барацьба за Курапаты ў форме дзённіка з фатаграфіямі.

21 Курапаты – наш боль, наша памяць, наша трывога, Народная воля, 10.10.2001. – Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. Варшава, 2002, стар. 93–96.

## Курапаты – помнік і сімвал

*“Успамінайце!” – крычалі адны,*
*“Хопіць!” – лічылі другія.*
*Гюнтэр Грас*[22]

У якасці адказу на пашырэнне аўтастрады восенню 2001 г. паўстала грамадзкая ініцыятыва “За ўратаванне мемарыяла Курапаты”. Гэтай ініцыятыве, якая была падтрымана больш чым трыццаццю грамадзкімі арганізацыямі і шматлікімі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, удалося даць імпульс публічным дэбатам пра стварэнне мемарыялу.

Прадметам дыскусіі з’яўляліся дзве канцэпцыі. Першая канцэпцыя, прапанаваная арганізацыямі “Моладзь за абарону Курапатаў” і “Камітэтам па ўратаванні мемарыялу ў Курапатах” была прадстаўлена грамадзкасці 19 лютага 2002 г. Паводле яе спачатку прадугледжвалася пабудаваць вакол урочышча агароджу з ўваходнай брамай у адпаведнасці з беларускай традыцыяй пахавання памерлых.[23] Цэнтрам будучага мемарыялу павінен быў стаць сяміметровы Крыж пакуты, які быў усталяваны падчас першага мітынгу на Дзяды ў 1989 г. дзеля ўшанавання памяці ахвяр сталінскага тэрору.

Падчас усталявання крыжа адбылася цырымонія яго асвячэння святарамі чатырох найвялікшых канфесій Беларусі: праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і ўніяцкай. У будучыні прапанавалася стварыць капліцы розных канфесій, музей ахвяр сталінізму, а таксама інфармацыйныя стэнды па-за тэрыторыяй ляснога масіву. Як чакалася, меркаваным пабочным эфектам было б спыненне далейшых будаўнічых работ.

Іншая канцэпцыя, якая была распрацавана Беларускім фондам міру, прадугледжвала ўсталяванне манумента дзеля ўшанавання памяці ахвяр рэпрэсій. “Манумент пралітай крыві” у форме падковы, якая павінна была сімвалізаваць паразуменне, шчасце і прымірэнне, сутыкнуўся са шквалам крытыкі. Падкова шчасця. Сімвал з такой пазітыўнай канатацыяй паводле меркавання крытыкаў не мог выражаць пакуты ахвяр.[24]

Паводле бачання Зянона Пазьняка мемарыял у Курапатах павінен быў стаць мемарыяльным месцам, якое б стваралася і фінансавалася самімі беларускімі грамадзянамі. З прычыны негатыўнага стаўлення ўраду да Курапатаў – лічыў Пазьняк – афіцыйны помнік не адпавядаў бы ахвярам і значэнню катастрофы ў калектыўнай памяці.[25] Пачатак такога Народнага мемарыялу беларускай мартыралогіі быў зроблены больш за дваццаць год таму падчас калектыўнага ўсталя-

22 Günter Grass: Ich erinnere mich … Rede im Rahmen der Litauisch-deutsch-polnischen Gespräche über die Zukunft der Erinnerung, in: Günter Grass, Czeslaw Milosz, Wislawa Szymborska, Tomas Venclova: Die Zukunft der Erinnerung. Göttingen 2001, стар. 27–34, гл. стар. 33.

23 Предложена концепция Куропат. Белорусы и рынок, 25.2.2002.

24 З Курапатаў бачны цень Люцыпара над Беларуссю. Гл. Беларусь – наша зямля, http://nashaziamlia.org/2006/04/12/33.

25 Курапаты – наш боль, наша памяць, наша трывога, Народная воля, 10.10.2001, таксама гл. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. Варшава, 2002, стар. 93–96.




*Надпіс на ўваходзе ў мемарыял "Тут у лясным масіве Курапаты знаходзяцца астанкі ахвяр масавых рэпрэсій 1937–1941 г.г. Памяць пра іх будзе жыць у нашых сэрцах"* *Фота: Алена Тэмпер*

вання Крыжа пакуты. 29 кастрычніка 2000 г. БНФ "Адраджэнне" арганізаваў крыжовы шлях праз Мінск у Курапаты. Даўжыня калоны складала каля аднаго кіламетру. Кожны ўдзельнік нёс у руках самаробны крыж, на якім была павязана бел-чырвона-белая стужка.

Затым крыжы, якія з'яўляліся сімвалічнай візуалізацыяй расстраляных, былі ўсталяваны на тэрыторыі Курапатаў. Колькасць крыжоў павялічвалася з кожным годам, такім чынам, паводле Пазьняка ўрочышча павінна было стаць "лесам з крыжоў". Так павінен быў паўстаць жывы мемарыял памерлым. Падобная мемарыяльнае месца, так бы мовіць крыжовы ландшафт, які стала расце, знаходзіцца ў польскім праваслаўным манастыры ў Грабарцы. Тамтэйшая драўляная царква, пабудаваная ў 18 стагоддзі, абкружана незлічонай колькасцю крыжоў.[26] Праект Пазняка знайшоў шырокую падтрымку сярод курапацкіх актывістаў. З аднаго боку, гэта было звязана з параўнальна простай яго рэалізацыяй, з другога – з ідэяй помніка, які стала ствараецца, і яго сімвалічнай функцыяй люстэрка грамадства.[27]

Нягледзячы на той факт, што асноўныя канфесіі Беларусі прызналі Курапаты ў якасці мемарыялу сталінскіх масавых рэпрэсій і надалі Крыжу пакуты сакральнае значэнне праз асвячэнне, ён быў шматразова пашкоджаны. У краіне

26 Кожны год 19 жніўня ў праваслаўнае свята Перамянення Госпадняга тысячы пілігрымаў з Польшчы, Украіны і Беларусі прыходзяць сюды, каб аднавіць сваю веру і прыносяць з сабой малыя і вялікія крыжы, на якіх напісаны іх пажаданні.

27 Зянон Пазьняк. Народны мемарыял Курапаты, http://kurapaty.org//index.php?option=com_content&task=view&id=41&Itemid=1.



*Крыжы на ўскрайку аўтабану* *Фота: Алена Тэмпер*

“праваслаўнага атэіста”, як сам сябе называе прэзідэнт Лукашэнка, да сакавіка 2008 г., нягледзячы на шматлікія пратэсты грамадзян, не была заведзена ні адна крымінальная справа супраць разбуральнікаў помнікаў. Пасіўнасць улад нават заканадаўча абгрунтавана, бо паводле другога пункту 20 артыкулу закону “Аб ахове гістарычнай і культурнай спадчыны” усталяваныя грамадзянамі памятныя знакі не могуць быць унесены ў афіцыйны спіс гістарычнай і культурнай спадчыны – напісаў у лісце курапацкім актывістам пасля чарговага акту вандалізму ў кастрычніку 2007 г. намеснік міністра культуры Уладзімір Грыдзюшка.[28]

29 кастрычніка 2004 г. габрэйская супольнасць Беларусі ўсталявала помнік дзеля ўшанавання памяці ахвяр рэпрэсій. На карычневым гранітным камяні, які быў часткай дэмантаванага ў Мінску ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1962 г. помніка Сталіну, змешчаны надпіс на іўрыце і па-беларуску: “Нашым братам па веры – габрэям, хрысціянам і мусульманам – ахвярам сталінізму ад беларускіх габрэяў”. З той пары зорку Давіда шмат разоў выдалялі, а на памятным знаку малявалі нэанацысцкія лозунгі і свастыкі. І тут ўлады, як звычайна, заставаліся бяздзейнымі. Толькі калі 12 сакавіка 2008 г. невядомыя зламалі больш за трыццаць крыжоў, пракуратура Мінскага раёну завяла першую крымінальную справу супраць вандалаў. Магчыма ўлады адрэагавалі такім чынам на год памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, які якраз праходзіў у папярэднім годзе.

28 Міністэрства культуры. У Курапатах няма гісторыка-культурных помнікаў. На сайце nn.by, 21.11.2007, http://pahonia.org/str/2007-11/405.htm.



*Алея Крыжоў, Курапаты* *Фота: Алена Тэмпер*

**1937 – памятны год вялікага тэрору**

На 2007 г. прыпадала 70-я гадавіна трагічных падзей 1937 г., калі сталінскі тэрор дасягнуў свайго апагею. 23 лістапада 2006 г. Беларускім таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры быў створаны Аргкамітэт ушанавання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій на чале з гісторыкам і даследчыкам таталітарызму Ігарам Кузняцовым. Прапанова арганізатараў абвясціць 2007 г. афіцыйным годам памяці, а 29 кастрычніка – днём памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій не знайшла падтрымкі з боку беларускага ўраду. Аднак больш за пяцьдзясят інтэлектуалаў і шматлікія грамадзкія арганізацыі падтрымалі гэтую ініцыятыву.

Галоўнай падзеяй году памяці сталіся акцыі, якія праводзіліся па ўсёй краіне з мэтай ўшанавання памяці ахвяр рэпрэсій 29 чысла кожнага месяца на месцах масавых экзекуцый. Акрамя Курапатаў і мінскага Парку Чалюскінцаў памінальныя акцыі былі праведзены ў Барысаве, Вілейцы, Валожыне, Слуцку, Бярозе, Гомелі, Мазыры і ўва многіх іншых гарадах. Галоўнай мэтай гэтых і іншых акцый было дасягненне афіцыйнага і грамадзкага прызнання сталінскіх злачынстваў супраць жыхароў Беларусі ў якасці гістарычнага факту.[29]

Аб мерапрыемствах падчас правядзення года памяці паведамлялася ў бюлетэні “Рэха Гулагу”, які калісьці быў прэсавым органам Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, якая дзейнічала ў 1990-х гадах. Усяго выйшла сем выпускаў,

29 На аснове матэрыялаў, падрыхтаваных да года памяці, з’явіўся зборнік публікацый “Пакаянне – злачынствы камуністычнага рэжыму і антытаталітарны супраціў: даследванні, дакументы, сведчанні”, http://represii-by.info/index.php?dn=info&pa=supraciu. Гэта інтэрнэт-старонка прадстаўляе праект партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя “Пакаянне”. Тут сабрана інфармацыя, матэрыялы, фатаграфіі і мультымедыйныя дакументы аб камуністычных рэпрэсіях у Беларусі.

якія накіроўваліся ў музеі, школы, рэдакцыі газет, бібліятэкі і грамадзкія арганізацыі рознага накірунку.

У 2007 г. – годзе памяці ахвяр рэпрэсій – выйшаў з друку выдатны зборнік прац беларускіх і замежных аўтараў па “рэпрэсіўнай палітыцы савецкай улады ў Беларусі”.[30] У трохтомным творы, выдадзеным арганізацыяй “Мемарыял”, змяшчаецца 60 публікацый 35 аўтараў з Беларусі, Ізраіля і Расіі, у якіх даследуецца гісторыя таталітарнага панавання ў Беларусі і развіццё краіны пасля смерці Сталіна 5 сакавіка 1953 г. Кнігі складаюцца з мемуараў, біяграфічных дакументаў і іншых крыніц, якія паведамляюць пра трагічны лёс актывістаў беларускага нацыянальнага руху пачатку 20 ст.

Выбітнай падзеяй сталіся канференцыі па тэме “Камунізм пад міжнародны трыбунал”, якія былі паралельна праведзены 16 чэрвеня 2007 г. у васьмі посткамуністычных краінах – Беларусі, Латвіі, Літве, Эстоніі, Албаніі, Македоніі, Славакіі і Украіне. Матэрыялы канферэнцыі, сярод іх тэксты сямі беларускіх гісторыкаў, павінны быць апублікаваны ў зборніку на англійскай мове.[31] Ініцыятыва правядзення гэтага мерапрыемства зыходзіла ад Літвы, дзе падобная канферэнцыя праводзілася яшчэ ў 2000 г. Не зважаючы на некаторыя цяжкасці, канферэнцыя ў Беларусі прайшла на сядзібе Беларускага Народнага Фронту. Галоўнай тэмай мінскай канферэнцыі быў Вялікі тэрор. Беларускія інтэлектуалы, сярод якіх былі гісторыкі Леанід Лыч, Уладзімер Конан і Эмануіл Іофэ пазнаёмілі грамадзкасць з новымі вынікамі даследванняў і навуковымі публікацыямі.[32]

У год памяці на месцах масавых расстрэлаў былі ўсталяваны шматлікія шыльды і помнікі. Ініцыятыва зыходзіла ад Арганізацыйнага камітэту па ўшанаванні памяці ахвяр сталінізма і Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Дзяржаўныя ўлады ігнаравалі гэтыя мерапрыемствы, пры чым часта на мясцовым узроўні ім рабіліся перашкоды, а самі акцыі не дазваляліся.[33] Пасля васямнаццаці гадоў чакання ўсталявання помніка ў Курапатах арганізацыйны камітэт вырашыў

30 Игорь Кузнецов, Яков Басин (издатели). Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Минск, 2007.

31 Камунізм пад трыбунал, www.charter97.org/bel/news/2007/06/15/tribunal.

32 Параўн. Игорь Кузнецов. Засекреченные трагедии советской истории. Ростов-на-Дону, 2007. – Той жа аўтар і выдавец. Беларусь в 20 стоетии и репрессивная политика советской власти в Беларуси. На homoliber.org, kamunikat.org і pakutniki.narod.org. – Была прадстаўлена падборка матэрыялаў на DVD: «Рэпрэссіі на Беларусі. 1937–2007. Пакаянне.» Дыск змяшчае фільмы «Дарога на Курапаты» (1988) і «Дзікае паляванне-ІІ» (2000, аўтар: Павал Шарамет), а таксама кнігі: И. Кузнецов. Засекреченные трагедии советской истории; З. Пазьняк (рэдактар). Курапаты; Ф. Аляхновіч. У кіпцюрах ГПУ; А. Лукашук. За кіпучай чэкісцкай работай; В. Быкаў. Жоўты пясочак. – У серыі “Беларускі кнігазбор” выйшлі творы пісьменніка Сяргея Грахоўскага (1913–2002). У вершах і аўтабіяграфічных эсэ ён піша пра гады, якія правёў у лагерах ГУЛАГу, калі быў вязнем (1936–1946). Сяргей Грахоўскі. Зона маўчання. Выбраныя творы. Беларускі кнігазбор, т. 37. Мінск, 2007.

33 Дагэтуль ва ўсёй Беларусі былі ўсталяваны 80 мемарыяльных дошак, якія большай часткай размешчаны на крыжах. 27 з іх знаходзяцца ў Мінскай вобласці, а яшчэ дзевяць – на месцах расстрэлаў у горадзе Мінску. Астатнія памятныя знакі ў месцах масавага знішчэння людзей размяркоўваюцца наступным чынам: 17 – у Гродзенскай вобласці, 11 – у Брэсцкай, 8 – у Віцебскай, 6 – у Магілёўскай, 2 – у Гомельскай. Параўн. Як захаваць памяць пра рэпрэсіі? Бюлетэнь аргкамітэта года памяці “Рэха ГУЛАГу”. № 3, ліпень 2007, http://represii-by.info/index.php?dn=articly.





*Выявы святой (фота злева) і ахвяры (фота зправа) на маналіце* *Фота: Алена Тэмпер*

выбіць на курапацкім валуне надпіс "Ахвярам сталінізму". Такім чынам быў канкрэтызаваны ранейшы тэкст, які змяшчаўся на шыльдзе і гучаў: "Ахвярам рэпрэсій 1937–1941 гг." На адваротным баку валуна была замацавана шыльда з надпісам на беларускай мове "У гэтым лясным масіве паводле пастановы Савету Міністраў Беларускай ССР ад 18 студзеня 1989 г. будзе ўсталяваны помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937–1941 гг." Месца замацавання шыльды часта мянялася на працягу больш чым дваццаці гадоў. Таксама і выгляд валуна шмат разоў змянялі. Апошняй зменай было тое, што нехта заняўся вонкавым выглядам каменю, намаляваўшы на ім і на меньшых камянях, што знаходзяцца побач, выявы, якія нагадваюць выявы святых на хрысціянскіх іконах.

Яшчэ ў 1990 г. з'явіўся першы дакументальны фільм пра Курапаты "Дарога на Курапаты". Фільм рэжысёра Міхаіла Жданоўскага і сцэнарыста Аляксандра Лукашука быў узнагароджаны ў 1994 г. найвышэйшай дзяржаўнай узнагародай – Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Аднак ён невядомы шырокім колам грамадзкасці, паколькі яго трансляцыя па дзяржаўным тэлебачанні дагэтуль не была дазволена. За яшчэ адзін дакументальны фільм пра Курапаты пад назвай "Ва ўсе дні" Жданоўскі атрымаў Першы прыз "IV Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм "Магніфікат – 2008".[34] Фільм распавядае пра іконапісца Анатоля Кузняцова, які размалёўвае камяні ў Курапатах, і, такім чынам, выклікае візуальныя ўспаміны аб забітых.

34 Фільм пра Курапаты атрымаў гран-пры "Магніфікату". Гл. сайт nn.by www.nn.by/index.php?c=ar&i=17919.

Арганізатары і ўдзельнікі мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў рамках году памяці, выклалі свае прапановы ў лісце на адрас беларускага ўраду. У ім яны запатрабавалі даць доступ да інфармацыі пра месцы масавых расстрэлаў, якія адбываліся з 1920 па 1950 гг., апублікаваць імёны ўсіх ахвяр, а таксама стварыць цэнтральную базу дадзеных, дзе б змяшчаліся імёны ўсіх людзей, якія сталіся ахвярамі рэпрэсій у тыя дзесяцігоддзі. Навукоўцам павінен быць прадастаўлены вольны доступ да архіваў КДБ і Міністэрства ўнутраных спраў (МУС). Таксама яны патрабавалі, каб пастанова Савету Міністраў ад 1989 г. аб усталяванні ў Курапатах помніка была ўрэшце выканана.[35] Беларускі ўрад дагэтуль захоўвае маўчанне наконт таго, ці вырашыць ён выканаць гэтыя патрабаванні. Была толькі ўсталявана шыльда з інфармацыяй, што Курапаты належаць да гістарычнай і культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь у якасці “месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гг.” і што вандалізм пераследуецца па закону. Між тым, вандалы працягваюць наносіць шкоду на вачах юстыцыі, і пытаннем часу застаецца той факт, ці хопіць вытрымкі актывістам, каб падтрымліваць мемарыял у належным стане.

## Аб карысці і недахопах гістарычнай памяці ў Беларусі

Паводле французкага філосафа і гісторыка Эрнста Рэнана агульная гістарычная спадчына як паяднаўчы кампанент нацыі спазнае ў калектыўнай памяці сваю “найвышэйшую пашану.”[36] Памяць пра агульныя пакуты мае аднак значна большы паяднаўчы патэнцыял, чымся памяць пра радасць і трыюмф, бо “накладае абавязкі” і “патрабуе агульных высілкаў”.[37] Такі агульны досвед пакутаў і звязаныя з ім “абавязкі” і “высілкі” аднак не паспрыялі ў Беларусі стварэнню сучаснай нацыі і яе кансалідацыі.

Версія Лукашэнкі і надалей базуецца на міфе пра “Беларусь-партызанскую рэспубліку” і пра выбітную ролю беларускіх салдат у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюзу. Гэтыя міфы ляжаць у падмурку афіцыйных святкаванняў і помнікаў. Савецкая спадчына ўхваляецца, пры чым перавага аддаецца стварэнню легендаў, а не рэальным фактам.[38] Афіцыйная інтэрпрэтацыя савецкай гісторыі прапускае яе непрыемныя старонкі, не адмаўляючы іх існавання. У адносінах да перыяду сталінізму Лукашэнка спасылаецца на такія гістрычныя падзеі, як Французкая рэвалюцыя, беручы пад увагу яе гвалтоўны характар, спрабуе рэлятывізаваць маштаб сталінскіх злачынстваў. У той час, як у іншых посткамуністычных краінах пачаўся крытычны перагляд гісторыі, які выяўляецца ў навуковых даследваннях і музеізацыі камуністычнага мінулага, у постсавецкай

35 Завершились общественные слушания «Преступления сталинизма в Беларуси», http://pda.news.by/333/2006-10-27/21023.

36 Ernst Renan: Was ist eine Nation? У Was ist eine Nation? Hamburg 1996. Стар. 34–35.

37 Тамсама, стар. 35.

38 Bernhard Chiari: Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrußland 1941–1944. Düsseldorf 1998. – Той жа аўтар. Die Kriegsgesellschaft. Weißrußland im zweiten Welkrieg (1939–1944), у Beyrau, Lindner Handbuch [заўвага 1], стар. 408–426.




*Шыльда з надпісам: "Рэспубліка Беларусь. Гісторыка-культурная каштоўнасць. Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40-я гады XX ст. Прычыненне шкоды караецца па закону"*

*Фота: Алена Тэмпер*

Беларусі праз пяцьдзясят гадоў пасля смерці Сталіна рэанімуецца міф пра яго як "Бацьку савецкай нацыі".[39]

З той пары, калі у 1996 г. група даследчыкаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук мусіла спыніць працу над тэмай сталінскіх рэпрэсій у Беларусі, на дзяржаўным узроўні няма ніводнай установы, якая б займалася гэтай праблематыкай. Якраз наадварот: тэма сталінізму як гістарычнага фенамену знікла як з падручнікаў па гісторыі, так і з поля даследванняў.

Стварэнне ў 2005 г. у Заслаўі мемарыялу "Лінія Сталіна", выказванні Лукашэнкі пра Леніна і Сталіна як "сімвалаў беларускага народу" з нагоды адкрыцця новай Нацыянальнай бібліятэкі ў 2006 г. і паказ па дзяржаўным тэлебачанні фільма "Генералісімус" наглядна дэманструюць, якія гісторыка-культурныя каштоўнасці закладзены ў падмурак афіцыйнай беларускай палітыкі. Што тычыцца спрэчак пра Курапаты і крытычнага перагляду камуністычнага мінулага, то ад рэжыму Лукашэнкі ў бліжэйшай будучыні не варта чакаць змены поглядаў. Таму кансенсус у беларускім грамадстве не будзе дасягнуты. Відавочна, што апазіцыйныя эліты, з аднаго боку, і верная ўраду большасць, што характарызуецца савецкасцю, з другога, не прынеслі аднолькавых ахвяр, дзякуючы якім яны маглі б ператварыцца ў вялікую супольнасць, паяднаную салідарнасцю (Рэнан). У гэтым сэнсе амерыканскі гісторык Грыгоры Іофэ і надалей мае рацыю: "Беларусь: дзяржава, але яшчэ не нацыя". [40]

39 Для азнаямлення з іншым падыходам да камуністычнага мінулага параўн. Музеі акупацыі ў Рызе і Таліне, Музей генацыду ў Вільнюсе, Музей камунізму SocLand і Цэнтр KARTA ў Варшаве, Дом тэрору ў Будапешце, румынскі мемарыял у Сігхэце, Музей камунізму ў Празе. – Stefan Troebst: „Was für ein Teppich?“ Посткамуністычныя культуры ўшанавання памяці ў (Сярэдняй) Усходняй Еўропе, у Volkhard Knigge, Ulrich Mählert (Hg.): Der Kommunismus im Museum. Formen der Auseinandersetzung in Deutschland und Ostmitteleuropa. Köln 2005, стар. 31–54.

40 Грыгоры Ёфэ. Беларусь: дзяржава, але яшчэ ня нацыя. АРХЭ, 4/2007, стар. 116–121.

## Саветызацыя і памяць
## Транснацыянальная памяць пра сталінскія рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі?

*Фелікс Акерман*

Беларусь уяўляе сабой асаблівую пераходную зону ў постсавецкім ландшафце шанавання памяці ва Усходне-Сярэдняй Еўропе. Менавіта захад сённяшняй Рэспублікі Беларусь вызначаецца хуткай зменай польскага, савецкага, нямецкага і зноў савецкага панавання, якая прывяла да гвалтоўнага разбурэння мясцовай структуры грамадзтва падчас Другой сусветнай вайны.[1] Гэты працэс меў вызначальны ўплыў на станаўленне амбівалентнай і транснацыянальнай рэгіянальнай памяці пра савецкія рэпрэсіі. Зыходным пунктам спачатку з’яўлялася тая акалічнасць, што з канца Першай сусветнай да пачатку Другой сусветнай вайны Заходняя Беларусь была часткай Польскай Рэспублікі. Нягледзячы на гетэрагеннае насельніцтва, яна разглядала сябе ў якасці нацыянальнай дзяржавы. Расповеды аб мінулым у рэгіёне, у якім гарады і мястэчкі былі заселены пераважна габрэямі, а вёскі – сялянамі каталіцкага і праваслаўнага веравызнання, былі падпарадкаваны дамінуючаму этнічна-польскаму дзяржаўнаму інтарэсу.[2] Установы беларускай культуры, школы з беларускай мовай выкладання, а таксама беларускія палітычныя партыі былі цалкам выгнаны польскай дзяржавай з публічнай сферы ужо ў другой палове 1920-х гг., каб перадухіліць “нацыянальнае абуджэнне” сялян праваслаўнага веравызнання.

Такім чынам самаідэнтыфікацыя большасці жыхароў, што засталіся тут пасля сканчэння Другой сусветнай вайны, не мела нацыянальных рысаў – сяляне па-ранейшаму лічылі сябе тутэйшымі і вызначалі сваю нацыянальнасць перадусім паводле сваёй канфесійнай прыналежнасці. Габрэйскае насельніцтва гарадоў было знішчана падчас Халакосту, тыя польскія грамадзяне, а таксама невялікая колькасць габрэяў, што выжылі, пакнулі рэгіён у выніку вайны. Беларускія нацыяналісты дэлегітымізавалі сябе перад савецкай будучыняй праз калабарацыю з нямецкімі акупантамі. З-за гэтага на лакальным узроўні адсутнічала большая частка носьбітаў варыянтаў нацыянальнай памяці. Так фарсіраванае з 1944 г. усталяванне савецкай улады парадаксальным чынам прывяло ў Заходняй Беларусі да інтэнсіўнай нацыяналізацыі этнічных беларускіх ідэнтычнасцяў.[3] Так з пункту гледжання сталінскай гістарыяграфіі гістарычным дасягненнем было аб’яднанне ў нацыянальна вызначанай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы

1 Brakel, Alexander, Unter Rotem Stern und Hakenkreuz: Baranowicze 1939 bis 1944. Das westliche Weißrussland unter sowjetischer und deutscher Besatzung, Paderborn u. a. 2009.

2 Чарнякевіч, Андрэй, Вашкевіч, Андрэй. Польскі Гродна: Эвалюцыя горада ў міжваенны час (1919–1939 гг.). АРХЭ 1–2 (2010), стар. 306–384.

3 Ackermann, Felix, Sowjetisierung und Ethnizität: Grodno 1938–1961. Inter Finitimos, 4 (2006), стар. 257–266.

тых абласцей, якія паводле этнаграфічных даследванняў, што адбыліся раней, былі заселены пераважна беларусамі.[4] Моцная ступень саветызацыі сучаснай Рэспублікі Беларусь, невысокая значнасць этнічна-нацыянальных версій гісторыі і захаванне савецкіх рытуалаў не з’яўляецца абсурдным, але ёсць наступствам гістарычнага працэсу, логіка якога можа быць зведзена да наступнай высновы: як раз саветызацыя стварыла ў выніку Другой сусветнай вайны інстытуцыянальныя, дэмаграфічныя і матэрыяльныя асновы суверэннай беларускай дзяржавы.[5] Такім чынам саветызацыю Беларусі можна лічыць не толькі аднапрасторавым працэсам дэнацыяналізацыі, які стаўся пагрозай для беларускай нацыі ў выніку ажыццяўлення фізічнага вынішчэння беларускіх эліт, якое праводзілася ў 1920-х і было працягнута ў 1930-х гг.[6]

Так асаблівасць беларускай культуры памяці палягае ў познім і слабым выяўленні нацыянальных ідэнтычнасцяў, а таксама ў культурнай блізкасці альбо пераходзе да Расіі. Успрыняццё сталінскіх злачынстваў у многіх іншых сярэднееўрапейскіх грамадзтвах цесна звязана з (рэ)канструкцыяй нацыянальнага наратыва.[7] Пры гэтым савецкае ва ўласнай гісторыі разглядаецца як правіла ў якасці чужога. Камунізм агулам інтэрпрэтуецца як чужынскае панаванне, якое з-за яго таталітарнага характару было навязана людзям супраць іх волі. Гэта стратэгія робіць магчымым узмацненне ўласнай ідэнтычнасці праз перанос злога ў гісторыі на ўяўнае іншае. У выпадку з прыбалтыйскімі дзяржавамі і Польскай Рэспублікай гэта супрацьлегласць увасабляецца ў Расіі, якая і сёння ўспрымаецца як пагроза. Адначасова з гэтым гэта праекцыя дае магчымасць абмежаваць уласную гістарычную адказнасць за саветызацыю Сярэдняй Еўропы пэўнай колькасцю супрацоўнікаў адпаведных спецслужб, а таксама кіруючымі кадрамі Камуністычнай партыі. За мінулыя 20 гадоў стала зразумела, што такое дыстанцыянаванне ад савецкага бяспраўя ў самой Расіі не адбылося альбо мела месца толькі часткова.[8] Статус кво расійскай культуры памяці, які з заходняга пункту гледжання лічыцца незадавальняючым, між ншым, тлумачыцца той акалічнасцю, што ў расійскім грамадзтве ў тым, што тычыцца савецкіх злачынстваў, не было і няма іншага, чужога альбо вонкавага ворагу, які б зрабіў магчымым унутранае дыстанцыянаванне. Здаецца, што нават яснае размежаванне паміж ахвярамі і злачынцамі ў расійскім грамадзтве не ўяўляецца

4 У якасці асновы для ўяўлення пра “беларускія тэрыторыі” служылі не афіцыйныя перапісы насельніцтва, а этнаграфічныя карты, якія павінны былі адлюстроўваць распаўсюд такіх меркаваных этнічных прыкмет як мова, звычаі і канфесія. Па гэтай тэме гл. адпаведныя працы Карскага: Карский, Евфимий Ф. Белорусы. У 3-х тамах. 1903–1922, Варшава, Прага.

5 Акерман, Фэлікс: Vom Dorf nach Grodno. Die Sowjetisierung Westweißrusslands als Akkulturationsprozess dörflicher Migranten, гл. Von der „europäischen Stadt“ zur „sozialistischen Stadt“ und zurück? Urbane Transformationen im östlichen Europa des 20. Jahrhunderts, hg. von Thomas M. Bohn, München 2009, стар. 335–359.

6 Пры гэтым Беларусь часта называецца дэнацыяналізаванай: Marples, David R. Belarus: a denationalized nation, Harwood 2000.

7 Verflochtene Erinnerungen. Polen und seine Nachbarn im 19. und 20. Jahrhundert, hg. von Martin Aust u. a., Weimar 2009.

8 Гэта адбылося не паўсюль і было вельмі абмежавана дзяржавай. Прыклад з Пярмі паказвае, што гэта не выключае мясцовыя грамадзянскія ініцыятывы: Der Gulag im russischen Gedächtnis. Spurensuche in der Region Perm, hg. von Ulrike Huhn und Manuela Putz, Bremen 2010.

магчымым, бо ўласная дынаміка грамадзянскай вайны, калектывізацыі, індустрыялізацыі і вялікага тэрору, але таксама і безагляднае задзейнічанне людзкіх жыццяў у барацьбе з нацыянал-сацыялістычнай Германіяй тычылася не толькі соцен тысяч простых грамадзян, але таксама і саміх злачынцаў, якія ажыццяўлялі папярэднія хвалі тэрору. У 1980-х гг. у Беларусі з'явіліся гісторыкі, літаратары і палітыкі, якія падобна да нацыяналістычных дзеячаў у Літве альбо ва Ўкраіне пачалі прадпрымаць вывядзенне на знешні план віны. Таксама ў іх творах, фільмах і прамовах сінонімы Расія і Савецкі Саюз сталіся ўвасабленнем злога, увасабленнем чужынскага панавання.[9] Абранне Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам у 1994 г. і выйграны яго прыхільнікамі рэферэндум пра вяртанне савецкіх дзяржаўных сімвалаў у 1995 г. ясна паказалі, што таксама і пасля 1991 г. нацыянальная нарацыя аб мінулым не ахапіла большую частку грамадзян – яна засталася для іх збольшага чужой. Тлумачэнне гэтага палягае не толькі ў сямі ці пяці дзесяцігоддзях савецкага панавання, але ў нізкай ступені нацыянальнай самаідэнтыфікацыі вялікай часткі беларускага насельніцтва. На ўсходзе краіны вельмі заўважным стаўся той факт, што гаворка ідзе пра пераходныя вобласці, у якіх яснае культурнае адрозненне паміж рускімі і беларусамі адчуваецца не ўсімі грамадзянамі і не лічыцца імі неабходным. У дадзеным тэксце фармулююцца тэзісы, якія тлумачаць, чаму ўспрыняццё савецкіх злачынстваў не сталася нясучым элементам нацыянальнай ідэнтычнасці таксама і ў Заходняй Беларусі. Пры гэтым гаворка ідзе пра супярэчнасць, паколькі якраз тут у нацыянальна сфармуляваным беларускім самаўспрыняцці пануе мацнейшая нацыянальная перспектыва, а саветызацыя ўсё ж пачалася на 20 гадоў пазней, чым на ўсходзе рэспублікі.

Сфармуляваныя тэзісы скіраваны на даследніцкую працу на тэму міжэтнічных дачыненняў у Гродне і наваколлі.[10] Горад знаходзіцца сёння на паўночным захадзе Рэспублікі Беларусь. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны ён быў збяднелым акруговым цэнтрам у Беластоцкім ваяводстве на паўночным усходзе Польскай Рэспублікі. Характэрнай была моцная розніца паміж складам насельніцтва ў гарадах і сельскай мясцовасці, прычым перад Другой сусветнай вайной амаль 80 працэнтаў жыхароў былі сялянамі. У гэтай частцы ваяводства ў сельскай мясцовасці пераважна жылі сяляне праваслаўнага веравызнання, якія лічыліся патэнцыйнымі беларусамі. У большасці гарадоў і мястэчак як мінімум палову жыхароў складалі габрэі. Такім чынам, этнічныя палякі знаходзіліся тут у меншасці, што ўспрымалася пэўнымі палітычна арганізаванымі коламі грамадства, а таксама прадстаўнікамі польскай дзяржавы як пагроза, паколькі тут здавалася амаль немагчымым ажыццявіць дзяржаўную канцэпцыю, сфармуляваную з пункту гледжання польскай нацыі. Вынікам гэтага сталася нягнуткая палітыка ў дачыненні да беларускіх дзеячаў, якія актыўна выступалі за ўласныя мову, школьную сістэму адукацыі і механізмы рэгулявання эканомікі. Разам з унутранымі слабасцямі беларускага руху гэта палітыка прывяла да

9 У Беларусі гэты погляд быў вельмі дакладна сфармуляваны Захарам Шыбекам: Шыбека Захар. Нарысы гісторыі Беларусі. Мінск, 2008.

10 Ackermann, Felix, Palimpsest Grodno. Nationalisierung, Nivellierung und Sowjetisierung einer mitteleuropäischen Stadt 1919–1939, Wiesbaden 2010.

таго, што ў публічнай прасторы такіх гарадоў як Гродна на працягу 1930-х гг. беларуская культура зусім не была прысутная.[11] Адначасова асабліва пасля 1935 г. справа дайшла да радыкалізацыі ўспрыняцця адзін аднаго габрэямі і палякамі. Афіцыйныя акцыі байкоту, дзяржаўныя санкцыі і пагромы стваралі для габрэйскага насельнцтва пагрозлівую сітуацыю, у якой яны не адчувалі сябе часткай польскага грамадзтва.[12] Пры падрабяным разглядзе сітуацыі на захадзе Беларусі ці на ўсходзе Польскай Рэспублікі выяўляецца, што габрэйская супольнасць была сама па сабе вельмі дыферэнцыяванай і стварала розныя стратэгіі, каб, нягледзячы на пагрозу, знайсці перспектыву. Адносіны паміж хрысціянамі каталіцкага і праваслаўнага веравызнання былі, наадварот, абцяжараны спробамі дзяржавы стварыць з дапамогай захадаў зверху праваслаўных палякаў з праваслаўных вернікаў, якія б усведамлялі сябе палякамі ў этнічным сэнсе.[13] У выніку летам 1939 г. гаворка не ішла пра моцную мясцовую супольнасць, у якой раўнавага, агульнае дабро і дэмакратыя былі б агульнымі каштоўнасцямі.

Наступствамі моцнай дыферэнцыяцыі мясцовай супольнасці былі вельмі розныя рэакцыі на савецкую акупацыю Усходняй Польшчы.[14] У Гродне яшчэ да прыходу савецкіх войск справа дайшла да сутыкненняў паміж камуністычнымі дружыннікамі і аддзеламі польскай паліцыі, якія пакуль заставаліся ў горадзе. Абарона горада, наадварот, ажыццяўлялася галоўным чынам польскімі цывільнымі асобамі, паколькі камандаванне польскай арміі перакінула ўсе сілы краіны на фронт, што знаходзіўся на захадзе краіны.[15] Габрэйскае насельніцтва Гродна ведала пра пагрозу свайму існаванню пад нямецкім панаваннем і таму ў асноўным прыязна вітала савецкіх акупантаў, у той час, калі для польскага насельніцтва параза абаронцаў гораду з'яўлялася нацыянальнай трагедыяй. Нягледзячы на гэтыя супярэчнасці, прыход савецкіх войск закранаў ўсіх жыхароў Гродна. Асабліва агульныя канфіскацыі нерухомасці, што знаходзілася ў прыватным уладанні і чыя плошча складала больш за 113 кв. метраў, тычыліся як прадстаўнікоў польскае дзяржавы, так і габрэйскіх і праваслаўных жыхароў.[16] У першыя дні акупацыі прадстаўнікі савецкай дзяржбяспекі мэтанакіравана шукалі прадстаўнікоў польскай дзяржавы, а з-за таго, што да 1939 г. на дзяржаўнай службе знаходзіліся пераважна этнічныя палякі, то гэтыя рэпрэсіі закранaлі перш за ўсё іх. Таксама і наступныя хвалі дэпартацый, пачынаючы з 1940 г., часткова былі накіраваны на такіх прадстаўнікоў дзяржавы, як леснікі і асаднікі, з-за чаго імі былі закранута асабліва вялікая колькасць палякаў. Аднак большая частка

11 Чарнякевіч, Андрэй. Гарадзенскія апосталы. Беларускі нацыянальны рух у Гародні (1918–1920 гг.). Гродна, 1998.

12 Żyndul, J., Zajścia antyżydowskie w Polsce w latach 1935–1937, Warschau 1994, стар. 15 ff.

13 Benecke, Werner, Die Ostgebiete der Zweiten Polnischen Republik. Staatsmacht und öffentliche Ordnung in einer Minderheitenregion 1918–1939, Köln u. a. 1999., стар. 199 ff.

14 Wierzbicki, Marek, Polacy i białorusini w zaborze sowieckim: stosunki polsko-białoruskie na ziemach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941, Warschau 2000, стар. 150–165.

15 Głowacki, A., Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939–1941, Łódź 1998, стар. 35 ff.

16 Хацкевіч, Аляксандр. Арышты і дэпартацыі ў заходніх абласцях Беларусі. 1939–1941 гг. Беларускі гістарычны часопіс, № 1 (1994), стар. 89–94.

насельніцтва была дэпартавана паводле сацыяльна-эканамічных крытэраў, так што адыходзячыя ў чэрвені 1941 г. з Гродна ў Казахстан цягнікі вывозілі зрэз гарадзкой эліты: тут былі прадстаўлены каталікі, габрэі і праваслаўныя.[17] Чым даўжэй цягнулася акупацыя, тым больш нацыяналізацыя ўсіх прадпрыемстваў, а таксама дрэннае становішча з забеспячэннем спрычыняліся да таго, што габрэйскае і беларускае насельніцтва ўсё больш дыстанцыянавалася ад савецкай адміністрацыі – бо яны таксама былі закрануты беспрацоўем, голадам і галечай, гэтаксама як і польскае жыхарства.[18]

Радыкалізацыя адносін паміж габрэямі і палякамі, якая пачалася яшчэ перад вайной, працягвалася і пад савецкім панаваннем. З аднаго боку, злачынныя дзеянні супраць габрэяў караліся па законе, былі створаны публічныя прасторы, з якіх быў выгнаны адкрыты антысэмітызм. З другога боку, многія палякі ўспрымалі сімпатыю габрэйскіх жыхароў да саветызацыі рэгіёну, што мела месца напачатку, як здраду. Нягледзячы на тое, што справа не дайшла да калабарацыі габрэяў з новай уладай, якая магла б быць пацверджана колькасна, ва успрыняцці польскімі жыхарамі габрэяў узмацніліся стэрэатыпы аб габрэйскай камуне.[19] Гэта тэндэнцыя паглыбіла раскол гарадзкой супольнасці, які распачаўся яшчэ ў міжваенным часе.[20]

Адначасова пад савецкім панаваннем, нягледзячы на далучэнне да Савецкага Саюзу, якое было публічна інсцэніравана ў кастрычніку 1939 г., і на атрыманне статусу тытульнай нацыі, не адбылася моцная беларусізацыя. Спробы стварыць на ўсёй тэрыторыі школы з беларускай мовай выкладання не ўдаліся па меншай меры ў гарадах з-за недахопу кваліфікаваных спецыялістаў, а таксама з-за нежадання мясцовага насельніцтва.[21] Ужо у 1939 г. саветызацыя Заходняй Беларусі адбывалася на рускай мове, паколькі кадры, якія былі задзейнічаны тут, не валодалі беларускай і з-за таго, што ў такім горадзе як Гродна было мала жыхароў, якія валодалі ўнармаваным варыянтам гэтай мовы. Такім чынам адносіны паміж саветызацыяй і беларусізацыяй у Заходняй Беларусі з самага пачатку савецкага панавання былі амбівалентныя: з аднаго боку, праз далучэнне абшараў, населеных беларусамі, да ўжо існаваўшай БССР дэ факта былі створаны беларускія дзяржаўныя структуры, з другога боку, саветызацыя не ператварылася ў стварэнне беларускіх нацыянальных культурных практык, як гэта мела месца

17 Drogi śmierci. Ewakuacja więzień sowieckich z Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej w czerwcu i lipcu 1941 r, hg. von Krzysztof Popiński u. a., Warschau 1995, стар. 419. Kowalska, E., Przeżyć aby wrócić! Polscy zesłańcy lat 1940–1941 w ZSRR i ich losy do roku 1946, Warschau 1998, стар. 81 ff.

18 Wierzbicki, Marek, Polacy i Żydzi w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-żydowskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941), Warschau 2001, стар. 121–129, стар. 122–129

19 Wierzbicki, Marek, Polacy i Żydzi w zaborze sowieckim. Stosunki posko-żydowskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941), Warszawa, 2001, стар. 122–179. Pufelska, Agnieszka, Die »Judäo-Kommune«. Ein Feindbild in Polen. Das polnische Selbstverständnis im Schatten des Antisemitismus. 1939–1948, Paderborn 2007.

20 Розенблат, Евгений. Евреи в системе межэтнических отношений в западных областях Беларуси (1939–1941 гг.), гл. Białoruskie Zeszyty Naukowe 13 (2000), стар. 89–104.

21 Śleszyński, Wojciech, Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939–1941. Propaganda i indoktrynacja, Białystok 2001; Szumski, Jan, Szkolnictwo polskie na Białorusi 1939–48. Sowjetyzacja, rusyfikacja, гл. Rozprawy z dziejów oświaty, Warschau 2004.

ва Украінскай ССР.[22] Напрыклад, нашэнне так званых нацыянальных строяў з тыповымі для адпаведных рэгіёнаў Беларусі вышыўкамі ўсё яшчэ лічыцца знакам вясковага паходжання. Такім чынам, іхнае ўжыванне абмежавана там фальклорнымі канцэртамі, а таксама дзяржаўнымі інсцэніроўкамі у той час, як у многіх частках Украіны яны адносяцца да звыклага адзення ўсіх украінцаў і апранаюцца падчас сямейных святаў і рознага роду грамадзкіх мерапрыемстваў. У той час, як у Заходняй Украіне помнікі ахвярам савецкіх рэпрэсій з'яўляюцца галоўнымі памятнымі месцамі, падобныя сімвалы і звязаныя з імі рытуалы ў Заходняй Беларусі знаходзяцца хутчэй на перыферыі гарадзкой прасторы, а таксама па-за грамадзтвам.

У рэтраспектыве савецкае панаванне, падобнае да двухлікага Янусу, Зацямняецца нямецкай акупацыяй рэгіёна. Так, напрыклад, калектыўная памяць пра хвалю савецкіх рэпрэсій з верасня 1939 г. па чэрвень 1941 г. не паддаецца аналізу толькі ў сувязі з вяртаннем Чырвонай Арміі ў ліпені 1944 г., названым жыхарамі другімі саветамі. Нямецкая акупацыя паскорыла сацыяльную дэкампазіцыю такіх гарадоў, як Навагрудак, Брэст і Пінск праз радыкалізацыю вайны супраць Савецкага Саюзу. Халакост меў менавіта тут значныя наступствы ў дэмаграфічным плане. У выпадку з Гродна ў перыяд з чэрвеня 1941 г. па сакавік 1943 г. амаль кожны другі жыхар гораду стаўся ахвярай Халакосту.[23] Таксама і нягнуткая эканамічная палітыка, якая мела характар эксплуатацыі, і тэрор супраць мясцовага хрысціянскага насельніцтва, які ўзмацніўся з 1942 г., сталіся ва ўспрыняцці ахвяр ценем, які ахінуў часы ранейшай савецкай акупацыі. Аднак разам з другім прыходам саветаў у ліпені 1943 г. зноў працягнулася разбурэнне сацыяльнай структуры. Большасць польскіх жыхароў, а таксама вялікая частка тых, хто перажыў Халакост і вярнуўся дамоў, пакінулі Савецкі Саюз у перыяд з 1945 па 1949 гг., выехаўшы ў Польшчу.[24] У выніку гэтага справа дайшла да значнай змены насельніцтва: савецкія партыйныя кадры, супрацоўнікі спецслужбаў і ваеннаслужачыя ў хуткім часе занялі кватэры, якія вызваліся. Падчас савецкай індустрыялізацыі рэгіёну адбыўся масавы зыход з навакольных вёсак у такія гарады, як Гродна. Такім чынам, упершыню ў сучаснай гісторыі сфармавалася беларуская большасць у гарадах. Пры гэтым гаворка не ішла пра носьбітаў мясцовай памяці, якія захавалі веды пра свой рэгіён, але пра мігрантаў з вёскі.[25]

Прымусовая міграцыя большай часткі насельніцтва рэгіёну, якая адбылася падчас Другой сусветнай вайны і пасля яе сканчэння, прывяла да наступнай дэцэнтралізацыі і нацыяналізацыі памяці. Носьбіты польскай нацыянальнай памяці былі пераселены ў Польшчу, дзе іх нацыянальны погляд на падзеі з-за палітыкі ў галіне гісторыі, якую ажыцяўлялі камуністы, на працягу дзесяцігоддзяў

22 Lindner, Historiker und Herrschaft. Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weißrußland im 19. und 20. Jahrhundert, München 1999, стар. 156–180.

23 Fatal-Knaani, Tikva, The Jewish Community in Grodno and its Vicinity During the Second World War and the Holocaust 1939–1943, Jerusalem 2001. (на габрэйскай мове)

24 Вялікі А.Ф. Перасяленне польскага насельніцтва з Гродзенскай вобласці ў Польшчу 1944–1946 гг. Прычыны. Ход. Вынікі, гл. 60-летие образования Гродненской области. Материалы Междунар. науч. конф. 3–4 марта 2004 г. Выдадзены В.А. Белазаровічам. Гродна, 2004, стар. 342–347.

25 Ackermann, Palimpsest Grodno, стар. 245 ff.

не праявіўся публічна. Арганізацыі выгнаных з Крэсаў Усходніх былі створаны толькі ў 1970-х гг., а да канца 1980-х іх уплыў на погляд дзяржавы на мінулае заставаўся маргінальным.[26] З 1989 г. сітуацыя змянілася і новы падзел Польшчы, Пакт Молатава-Рыбентропа, а таксама асабліва масавае забойства ў Катыні сталіся сімваламі савецкіх злачынстваў. Заўважна, што спробы абвясціць абарону Гродна ў верасні 1939 г., якая ажыццяўлялася пераважна цывільнымі асобамі, актам нацыянальнага гераізму засталіся беспаспяховымі. Так чатыры паваенныя дзесяцігоддзі прывялі да таго, што шырокія колы польскага грамадства ўспрымалі Крэсы Усходнія як аморфны ландшафт, штосьці сярэдняе паміж нацыянальнай марай і кашмарам. Памяць пра канкрэтныя залачынствы, якія былі здейснены ў населеных пунктах па-за Вільняй, Катынню і Львовам, нягледзячы на высілкі, напрыклад, Інстытута нацыянальнай памяці (ІНП) амаль незаўважная. Аднак што тычыцца гарадоў кшалту Гродна, то сёння ў Польшчы пра іх успамінаюць пераважна ў нацыянальнай перспектыве, якая выключае ўспаміны іншых жыхароў.[27]

Падобнае назіранне можна зрабіць адносна станаўлення ізраільскага наратыву аб заняпадзе габрэйскага жыцця ў Сярэдняй Еўропе. З аднаго боку, ад'езд тых, хто выжыў, праз Польшчу ў Ізраіль, Лацінскую Амерыку і ЗША прывёў да таго, што разам з імі эмігравала і мясцовая памяць пра нацыянал-сацыялістычныя і савецкія рэпрэсіі. Тыя, хто выжыў, выязджалі пераважна ў Ізраіль і ЗША праз Польшчу і Францыю.[28] Ізраільская паваенная гісторыяграфія прымала Шоа ў якасці зыходнага пункту ў стварэнні ідэнтычнасці, і размяркоўвала мясцовыя гісторыі паміж гераічнымі ўчынкамі і пакутамі габрэйскага народу. Генацыд быў у гэтым спосабе апавядання апошняй кропкай трагічнага развіцця падзей. Такім чынам, увага факусіравалася на сітуацыі канкрэтнай габрэйскай грамады і яе праследзе. Этапам пагрозы пасля напружанага міжваеннага часу было таксама разбурэнне габрэйскіх супольнасцяў, забарона публічных рэлігійных практык, а таксама канфіскацыя маёмасці ў шматлікіх габрэйскіх сем'яў падчас савецкага панавання.[29] З іншага боку, Халакост закрануў вялікую колькасць супольнасцяў на ўсходзе Польшчы, а пакуты, перажытыя пад нямецкай акупацыяй былі невымерна большыя, таму ў калектыўнай памяці савецкія рэпрэсіі з'яўляліся хутчэй эпізодам, чым асобным раздзелам гісторыі. Эміграцыя тых нешматлікіх габрэяў, што засталіся, мела сваім наступствам тое, што з-за яе адбылося амаль поўнае выключэнне Халакосту з дзяржаўнай савецкай памяці пра вайну. З-за сталай прысутнасці этнічных палякаў на паўночным захадзе БССР польскае пытанне, наадварот, заставалася актуальным і пасля сканчэння перасялення.[30]

26 Renikowa, Wanda, Pamięć Grodna 1919–1939. Katalog wystawy, Warschau 1999.
27 Daszyński, Roman, Grodno. Jedna kula – jeden Polak,in: Gazeta Wyborcza 19.9.2009, стар. 12.
28 Між іншым аб гэтым сведчаць тры публікацыі ўспамінаў: Zandman, Felix und Chanoff, David, Niemals die letzte Reise, München 1999. Blumstein, Alexandre, A little house on mount carmel, London 2002. Bielicka, Chasja, Mein Leben als Partisanin, München 2008.
29 Кловский, Даниил. Дорога из Гродно. Самара, 1994, стар. 268 ff.
30 Карпюк, А. Выбраныя творы. Мінск, 2007, стар. 525–527.

Перанос савецкіх расповядаў пра Вялікую Айчынную вайну на захад Беларусі адбыўся пасля 1944 г. стэрэатыпна, без рэгіянальных і лакальных дастасаванняў.[31] Такім чынам, сярод мясцовага насельніцтва, якое складалася пераважна з сялян каталіцкага і праваслаўнага веравызнання, справа дайшла да рэакцый адчужэння. Насельніцтва было не толькі сведкай савецкіх рэпрэсій з 1939 па 1941 гг. і пасля 1944 г. – яно ў вялікай ступені было закранута гвалтоўнай калектывізацыяй сельскай гаспадаркі. Большая частка жыхароў Заходняй Беларусі не прысутнічала ў савецкіх міфах пра Вялікую Айчынную вайну. Паколькі яны тры гады жылі пад нямецкай акупацыяй, то знаходзіліся пад калектыўным падазрэннем у калабарацыі. Таму многія жыхары Заходняй Беларусі ўспрымалі савецкую і нямецкую акупацыі як неаддзельныя адна ад адной падзеі. Для многіх з іх гаворка ішла пра змену двух рэжымаў, якія прымянялі гвалт і ўспрымаліся як пагроза. Мэтанакіраванае выключэнне польскага, габрэйскага, а таксама лакальных аспектаў з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны выключала *дэ факта* і лакальную памяць пра мінулыя дзесяцігоддзі.[32] Гэта сімвалічнае выключэнне з савецкага грамадства мела ўплыў на той факт, што ў асобных сем’ях успаміны пра рэпрэсіі актыўна захоўваліся ў сферы прыватнага.

Тым не менш, можна сказаць, што ў такіх гарадах як Гродна, дзе сёння 25 працэнтаў жыхароў усё яшчэ складаюць палякі, якія такім чынам чуйныя да пэўных постсавецкіх ўзораў расповеду, саветызацыя памяці зайшла вельмі далёка. Лакальнае веданне пра канкрэтныя падзеі, злачынцаў і ахвяр з розных перыядаў савецкага панавання вельмі нязначнае і абмяжоўваецца адносна малой колькасцю асоб. Тлумачэнне гэтага фенамену палягае ў саветызацыі, якую, як раней гаварылася, можна параўнаць з двухлікім Янусам. Такім чынам гаворка не ідзе толькі пра адзін гвалтоўны захоп чужога рэгіёну. Савецкая палітыка большай часткай базавалася на добраахвотным прыняцці прапаноў, якія да таго былі сфармаваны дзяржавай. Так большая частка праваслаўных мігрантаў з прылеглых да Гродна вёсак была гатова пакінуць у мінулым тое, што рабіла іх беларусамі.[33] Той факт, што гарады Беларусі сёння размаўляюць па–руску, тлумачыцца гэтай формай паводзінаў: каб не быць ідэнтыфікаваным у якасці мігранта з вёскі, беларусы адмаўляліся ад усяго, што рабіла іх беларусамі ў вачах савецкіх жыхароў гораду. Да гэтага ў першую чаргу адносілася мова, якая моцна асацыявалася *з вёскай*. У адрозненне ад прыстасавання да савецкай гарадской супольнасці мігранты атрымалі магчымасць удзелу ў савецкіх інстытуцыях, якія яны выкарыстоўвалі перадусім для атрымання адукацыі, здабыцця працы і дасягнення адноснага дабрабыту. Вынікам быў той факт, што як і ўва ўсім Савецкім Саюзе сацыялізацыя адбывалася выключна ў дзяржаўных установах. У Гродна пасля 1944 г. з’явілася вялікая колькасць тэхнікумаў і інстытутаў, з

31 Ackermann, Palimpsest Grodno, стар. 295–306.

32 Chiari, Bernard u. Maier, Robert, Weißrussland. Volkskrieg und Heldenstädte: Zum Mythos des Großen Vaterländischen Kriegs in Weißrussland, гл. Flacke, Mythen, том 2, стар. 737–756.

33 Ackermann, Felix, Vom Dorf nach Grodno. Die Sowjetisierung Westweißrusslands als Akkulturationsprozess dörflicher Migranten, гл. Von der „europäischen Stadt“ zur „sozialistischen Stadt“ und zurück? Urbane Transformationen im östlichen Europa des 20. Jahrhunderts, hg. von Thomas M. Bohn, München 2009, стар. 335–359.

1978 г. тут нават быў адкрыты дзяржаўны ўніверсітэт – тады гэта было выключным выпадкам для гораду, насельніцтва якога складала 200 000 чалавек.[34] Сацыялізацыя большасці актывістаў, якія пасля 1991 г. знаходзіліся на беларускіх нацыянальных пазіцыях, адбылася ў савецкіх установах. Таксама і ўяўленне пра каштоўнасць нацыі, яе менталітэт, гістарычную веліч, трагедыі большая частка беларускай эліты атрымала ў савецкіх інстытуцыях. Як на ўсходзе, так і на захадзе краіны адныя і тыя ж савецкія ўстановы прадастаўлялі рэсурсы, карыстаючыся якімі новае пакаленне беларускіх навукоўцаў узялося за распрацоўку крытычных пытанняў уласнай гісторыі. Збор культурнага капіталу стаўся магчымым дзякуючы передусім дзяржаўным музеям, інстытутам і вышэйшым навучальным установам. Саветызацыя і нацыяналізацыя ў Беларусі прынцыпова не з'яўляюцца супрацьлегласцямі, бо Савецкі Саюз актыўна ўлічваў нацыянальнасць як крытэр пры арганізацыі палітыкі і культуры. Так, якраз савецкая нацыянальная палітыка шляхам утварэння *дэ юрэ* і *дэ факто* структур нацыянальных рэспублік, саветаў, акадэмій, а таксама праз інстытуалізацыю нацыянальнасці як катэгорыі для ўліку насельніцтва стварыла важную падставу да таго, што сёння больш за 80 працэнтаў жыхароў Беларусі падчас перапісаў насельніцтва вызначаюць сябе беларусамі. Адначасова для большасці насельніцтва этнанацыяналістычны погляд на мінулае ўласнай краіны не мае сэнсу, паколькі вызначальны для сённяшняга выгляду Рэспублікі Беларусь паваенны час не ўспрымаецца з этнічна-нацыянальнага пункту гледжання.[35]

Асаблівасць захаду краіны палягае ў тым, што позняе развіццё альтэрнатыўных савецкаму пунктаў гледжання цягам 1980-х гг. было цесна звязана з фармуляваннем розных нацыянальных пытанняў. Так, у Гродне публічнае патрабаванне прызнання правоў польскай меньшасці ішло побач з публічным патрабаваннем запросаў беларусаў, якія былі вытрыманы ў нацыянальным духу і з 1989 г. усё больш дыстанцыянаваліся ад Савецкага Саюзу.[36] Ва ўспрыняцці такіх мясцовых дзейнікаў, як пазнейшы кандыдат на пасаду прэзідэнта Аляксандр Мілінкевіч, лёсы польскага і беларускага народаў так цесна звязаны, што гаворка пра канкурэнцыю даўно не ідзе.[37] Больш за тое, ёсць погляд, што моцная польская меньшасць добра ўплывае на культурнае развіццё беларускіх пытанняў і наадварот. У дачыненні да савецкіх рэпрэсій гэта азначае, што прадстаўнікі польскай меньшасці і беларускай апазіцыі, якая ўтварылася ў 1994 г., публічна падтрымліваюць адно аднаго. Таксама пераплятаюцца і жыццёвыя шляхі некаторых актывістаў з абедзвюх груп.[38]

Напрыканцы трэба зазначыць, што слабая прысутнасць дзяржаўнай памяці пра ахвяр саветызацыі ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь не знаходзіцца ў

34 Гродно. Энциклопедический справочник. Выдадзены Іванам П. Шамякіным і інш. Мінск, 1989.

35 Да падобнай высновы, якая аднак мае моцную нарматыўную ацэнку, прышоў Дэвід Марплз: Marples, David R., Belarus: a denationalized nation, Harwood 2000.

36 Gawin, Tadeusz, Zwycięstwa i Porażki, Białystok 2003, стар. 54–95.

37 Милинкевич, Александр. Судьба гродненских замков: трагедии и величие. Гродненская Правда, 18.8.1990, стар. 3.

38 Паказальным прыкладам з'яўляецца рэдактар часопісу Magazyn Polski Андрэй Пачобут, які раней працаваў у беларускай газеце "Пагоня" і за гэту дзейнасць быў пакараны турэмным зняволеннем.

яўнай супярэчнасці да існавання арганізацый грамадзянскай супольнасці, якія займаюцца ўшанаваннем памяці пра савецкія рэпрэсіі.[39] У выпадку з гэтымі двума дзейнікамі гаворка ідзе пра дзве розныя групы насельніцтва. Былыя савецкія кадры, якія прыбылі на захад Беларусі пасля 1944 г. і прывезлі свае ўласныя думкі і свой уласны свет успамінаў, а таксама іхныя дзеці складаюць сёння больш за адну пятую частку мясцовага насельніцтва. Яны маюць вялікі ўплыў на палітыку, армію і адміністрацыю. Многія жыхары рэгіёну таму не бачаць ніякіх супярэчнасцяў, бо многія савецкія практыкі існуюць і сёння. Яны самі і іх бацькі перасяляліся ў гарады Заходняй Беларусі большай часткай пасля 1944 г. Тое, што на першы погляд уяўляецца расколам паміж савецкай і нацыянальнай спадчынай, з'яўляецца структурнай прыкметай беларускага грамадства. Нацыянальныя і савецкія стратэгіі расповеду, а таксама практыкі ўшанавання памяці ўсё ж поўнасцю не выключаюць адныя другіх.[40] Паколькі савецкае выклікала нацыянальнае ў яго сённяшняй форме, нацыянальная памяць пра савецкія рэпрэсіі таксама з'яўляецца часткай постсавецкага наратыву – у гэтых адносінах усход і захад Беларусі ніяк не адрозніваюцца. Аднак належыць разглядаць памяць пра савецкія рэпрэсіі на гэтым пераходным абшары як транснацыянальны фенамен, а адпаведныя формы шанавання памяці тымі жыхарамі рэгіёну, якія выехалі пасля сканчэння Другой сусветнай вайны ў Польшчу, Ізраіль і ЗША, у якасці часткі падзеленай агульнай спадчыны.

39 Як і ў выпадку з гродзенскай інтэрнэт-газетай гаворка ідзе пра апазіцыйныя выказванні, якія разглядаюцца ўсімі ўдзельнікамі як палітычныя нападкі. Аднак некаторыя з іх працуюць у дзяржаўных установах. Гл. http://harodnia.com, 15.7.2010.

40 Ackermann, Palimpsest Grodno, стар. 331 ff.




*Крыж памяці Івану Яршову, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

# КУРАПАТЫ (МІНСК)

## Мемарыял ахвярам рэпрэсій „Курапаты”

***Мінск***. Мемарыял “Курапаты” размешчаны на паўночнай ускраіне горада. Тут знаходзіцца месца пахаванняў, дзе з 1937 па 1941 гг. НКВД пакарала смерцю дзесяткі тысяч людзей. З часу адкрыцця брацкіх магіл летам 1988 г. шматлікія аб’яднанні і партыі рупяцца аб ператварэнні гэтай мясцовасці ў нацыянальны мемарыял. Дагэтуль дадзены намер не мог быць здзейснены з-за супраціву ўраду, які да сёння афіцыйна не ўхваліў ушанаванне памяці ахвяр сталінскага тэрору.

І ўсё ж такі назва “Курапаты” лічыцца ў шырокіх колах беларускага грамадскасці сінонімам злачынстваў сталінізма. У 1970-х гг. мінскі археолаг Зянон Пазьняк пачаў займацца даследваннем гісторыі месца пахаванняў у Курапатах. Ён праводзіў і збіраў інтэрв’ю са сведкамі тых часоў у навакольных вёсках, з дапамогай якіх ён мог пацвердзіць існаванне брацкіх магіл. І толькі напрыканцы 1980-х ён атрымаў магчымасць азнаёміць шырокія колы грамадскасці з вынікамі сваёй працы. У маі1988 г. невялікая група археолагаў, у склад якой разам з Пазьняком уваходзілі Яўген Шмыгалёў, Мікола Крывальцэвіч і Алег Іоў, змагла правесці першыя раскопкі з дазволу вайсковай пракуратуры. Апублікаваная ў пачатку чэрвеня 1988 г. у газеце “Літаратура і мастацтва” справаздача аб выніках раскопак выклікала шок у шырокіх колах насельніцтва. Злачынствы сталінізма, якія да таго часу з’яўляліся табу, вярнуліся ў грамадзкую свядомасць. Пад ціскам грамадзкасці была створана камісія па даследванні дадзенай тэмы, да якой разам з прадстаўнікамі ўраду і пракуратуры таксама належалі Пазьняк, а таксама пісьменнік Васіль Быкаў і мастак Міхаіл Савіцкі.

Яшчэ летам 1988 г. адбыліся раскопкі, падчас якіх было знойдзена шмат магіл. На аснове дадзеных вынікаў паўстала новая справаздача, якая з’явілася ў прэсе ў студзені 1989 г. У ёй дзяржаўная камісія сцвярджала, што ў Курапатах ляжаць парэшткі як мінімум 30 000 чалавек, што былі пакараныя смерцю НКВД. Адначасова Пазьняк падкрэсліў, што паводле яго меркавання колькасць забітых складае больш за 250 000 чалавек. З прычыны растучага недаверу да дзяржаўных улад ужо за некалькі месяцаў да таго з мастакоў, пісьменнікаў і навукоўцаў стварылася аб’яднанне “Мартыралог Беларусі”, якое ў сваю чаргу выступала за незалежнае даследванне сталінскага мінулага. Канфлікты з дзяржаўнай уладай дасягнулі апагею ў дзень памяці продкаў у 1988 г., калі памінальная акцыя, на якую сабраліся многія тысячы чалавек, была гвалтоўна разагнана міліцыяй. Прагрэсуючы за-

няпад улады прымусіў дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва вясной 1989 г. афіцыйна прызнаць злачынствы і паабяцаць надаць месцу пахаванняў статус нацыянальнага мемарыялу. У якасці першага доказу дадзеных саступак у студзені 1989 г. па ініцыятыве Савету Міністраў БССР было ініцыявана ўсталяванне памятнага каменю. Памінальная акцыя ў наступным годзе прайшла ўжо без інцыдэнтаў. Першыя памятныя знакі, сярод якіх быў шасьціметровы крыж пакутнікаў, былі пранесены на руках падчас шэсця ў Курапаты, якое налічвала каля 50.000 чалавек, і там усталяваны.

Вясной 1990 г. пачалося часовае ўладкаванне месца пахаванняў. Побач з крыжом пакутнікаў была ўсталявана шыльда вышынёй у чатыры і шырынёй у шэсць метраў, адначасова на некаторых магілах былі пастаўлены крыжы.

Аднак спрэчкі аб гісторыі Курапатаў працягваліся. Нягледзячы на прынятую пастанову аб расследаванні, архівы Міністэрства ўнутраных спраў і КГБ заставаліся закрытымі, у выніку чаго было немагчыма выкарыстаць дакументы падчас расследвання. З-за гэтага было немагчыма высветліць імёны ахвяр. Да таго ж дзяржаўная камісія па расследванні паведаміла летам 1991 г., што нягледзячы на папярэднія дадзеныя, расстрэлы нібыта ажыццяўляліся падчас нямецкай акупацыі з 1941 па 1944 гг. Затым пад кіраўніцтвам вайсковай пракуратуры былі праведзены новыя даследванні, якія мелі на мэце пацвердзіць дадзеную версію. Ператварэнне мясцовасці, дзе знаходзіліся магілы, у мемарыял трэба было адкласці да канчатковага высвятлення абставінаў. Паводле заявы чальцоў камісіі ў Курапатах расстрэльвалі дэпартаваных з Гамбургу габрэяў нямецкія вайсковыя аддзелы. Нягледзячы на шматгадовыя архіўныя пошукі, падчас якіх праводзіліся кансультацыі з экспертамі з Ізраілю і Германіі, не былі знойдзены доказы, якія б пацвярджалі гэтае падазрэнне. Не зважаючы на гэтыя спрэчкі 30 лістапада 1993 г. мясцовасць была ўключана ў спіс нацыянальных помнікаў гісторыі і культуры ў якасці мемарыялу ахвярам палітычных рэпрэсій.

Следчая камісія ўсё ж настойвала на канчатковым высвятленні пытання і ў кастрычніку 1997 г. прыняла пастанову правесці новыя раскопкі, да якіх зноў былі прыцягнуты і археолагі з Акадэміі Навук. Падчас праведзеных ў маі 1998 г. эксгумацый зноў былі адкрыты дзесяткі брацкіх магіл, адбылося даследванне парэшткаў судмедэкспэртызай. На падставе знойдзеных артэфактаў зноў было ўстаноўлена і не выклікала сумневу, што расстрэлы маглі ажыццяўляць толькі савецкія органы дзяржбяспекі. Упершыню за ўвесь час правядзення работ былі ўстаноўлены імёны двух ахвяр. Да таго ж з'явіліся доказы, што таксама і пасля сканчэння Другой сусветнай вайны Курапаты выкарыстоўваліся ў якасці месца для расстрэлаў. Расследванне ў звязку з расстрэлам нямецкіх габрэяў скончылася такім чынам безвынікова. Дэбаты па Курапатах аднак не прыцягнулі ўвагі грамадзкасці ў такой меры як у канцы 1980-х гг. Пад уплывам развіцця ўнутрыпалітычнай сітуацыі дэбаты аб сталінскіх злачынствах усё больш і больш адыходзілі на перыферыю грамадзкай свядомасці.

Змены адбыліся восенню 2001 г., калі паводле ўказу прэзідэнта пачаліся работы па пашырэнні дарогі, якая праходзіла праз месца пахаванняў. Напрыканцы верасня розныя арганізацыі і апазіцыйныя партыі аб'ядналіся разам у рамках ініцыятывы па захаванні

Курапатаў ("За ўратаванне Курапатаў") і з дапамогай шырокай кампаніі ў прэсе намагаліся спыніць гэтыя работы. Апазіцыйныя моладзевыя арганізацыі паклікалі да жыцця аб'яднанне "Моладзь за Курапаты", якое з верасня 2001 г. арганізавала ва ўрочышчы сталую варту. Не зважаючы на гэтыя пратэсты, былі распачаты будаўнічыя работы. У наступныя тыдні адбыліся цяжкія сутыкненні паміж сіламі бяспекі і дэманстрантамі, якія ў сваю чаргу спрабавалі мірным чынам спыніць будаўнічыя работы. Адзін малады чалавек атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні ў выніку начнога падпалу намёту ўдзельнікаў варты, які не быў расследаваны. Нягледзячы на прыкладзеныя высілкі, пашырэнне аб'язной дарогі не ўдалося спыніць. Будаўнічыя работы былі скончаны праз год. У якасці адзінай саступкі быў пабудаваны падземны пераход, праз які можна прайсці да месца пахаванняў. У звязку з гэтымі падзеямі па ініцыятыве розных арганізацый, рэлігійных супольнасцей і сваякоў ахвяр у Курапатах былі ўстаноўлены шматлікія новыя крыжы, якія сёння нагадваюць пра забітых.

З пачаткам масавага тэрору ў 1937 г. савецкая дзяржбяспека ў БССР пачала шукаць падыходзячую мясцовасць, дзе можна было б непрыкметна караць смерцю многія тысячы людзей. Іншыя раскіданыя па Мінску месцы расстрэлаў як, напрыклад, сённяшні парк Чалюскінцаў і Лошыца здаваліся не падыходзячымі для гэтай мэты.

У чэрвені-ліпені 1937 г. быў абраны лясны масіў Курапаты, які знаходзіўся за горадам, цягам наступных тыдняў ён быў абгароджаны плотам з дошак вышынёй у тры метры. Абшар памерам каля 30 гектараў знаходзіўся недалёка ад былой вёскі Брод, жыхары якой з жніўня 1937 г. маглі чуць, як адбываюцца начныя расстрэлы. Вязняў турмаў НКВД расстрэльвалі спачатку па начах, затым іх прывозілі цягам цэлага дня і адразу ж забівалі ў выкапаных брацкіх магілах. Паводле паведамленняў навочных сведкаў кольасць расстрэлаў узрасла ў перыяд з зімы 1937 па вясну 1938 гг. Колькі людзей былі забіты ў Курапатах на працягу гэтых месяцаў, дагэтуль не высветлена.

Пасля ўключэння былых польскіх тэрыторый Заходняй Беларусі ў склад СССР паводле пакту Молатава-Рыбентропа восенню 1939 г. масавыя расстрэлы зноў былі працягнуты. Закрануты былі ў першую чаргу прадстаўнікі польскай сацыяльнай і палітычнай эліты, якія этапаваліся ў цэнтральную турму БССР у Мінск, а затым расстрэльваліся ў Курапатах. Такім чынам больш за 4.500 польскіх вайскоўцаў і цывільных асоб з лагераў ваеннапалонных на тэрыторыі Заходняй Беларусі трапілі ў звязку са злачынствамі ў Катыні вясной 1940 г. у Мінск, дзе яны былі пакараныя смерцю. Расстрэлы спыніліся толькі пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз летам 1941 г. і адступлення савецкіх войск. З-за недахопу паліва жыхары навакольных вёсак разабралі плот, што быў зроблены з дошак, і знайшлі брацкія магілы. Нямецкія акупацыйныя ўлады не выявілі зацікаўленасці да Курапат. На працягу ваенных гадоў лес паступова выкарчоўвалі. Пасля вызвалення Мінску летам 1944 г. супрацоўнікі савецкай дзяржбяспекі пачалі знішчаць сляды злачынстваў. Магілы, над якімі прасела зямля, былі часткова засыпаны ў 1950-х гг., а ўся мясцовасць была засаджана лесам. У 1960-х гг. была пабудавана дарога,

праз месца знаходжання магіл таксама прайшоў газаправод. Знойдзеныя падчас гэтых работ парэшткі людзей былі прыбраны. У 1970-х гг. паўсталі новабудоўлі, якія даходзілі да самых Курапат. У наступныя гады лясны масіўператварыўся ў месца адпачынку для іх жыхароў, якое знаходзілася непадалёк.

**Надпіс**
на ўказальніку / на беларускай мове

Тут у лясным масіве
Курапаты знаходзяцца /
астанкі ахвяр масавых рэпрэсій
1937–1941 гг. /
Памяць пра іх будзе жыць
у нашых сэрцах

**Месца знаходжання**
на паўночны захад ад мікрараёна »Зялёны Луг«, Мінск

## Крыж памяці »Пакутнікам за Беларусь«

***Курапаты***. Памятны крыж пакутнікам Беларусі стаўся першым мемарыяльным знакам, які быў усталяваны ў Курапатах. Драўляны крыж вышынёй 6,5 метраў быў пранесены ў дзень памяці продкаў Дзяды ў 1989 г. разам з шэсцем ад будынку КГБ у цэнтры Мінску да Курапатаў. Больш за 50.000 тысяч чалавек далучыліся да гэтага маршу, які суправаджаўся вялікімі сіламі міліцыі.

Асаблівы ўдзел ва ўсталяванні крыжа ўзялі археолаг Зянон Пазьняк, які праводзіў раскопкі на месцы пахаванняў, а таксама старшыня Мартыралогу Беларусі Мая Кляшторная. Абедзве арганізацыі – Мартыралог Беларусі і Беларускі Народны Фронт – ініцыявалі стварэнне мемарыялу. Ён стаіць на невялікім узгорку з палявых камянёў, які сімбалізуе гару Галгофу – якая ў сваю чаргу азначае пакуты беларусаў. На скрыжаванні бэляк крыжа размешчаны вянок з калючага дроту, які нагадвае пра цярновы вянец Хрыста. На папярэчыне пазначаны гады 1937 і 1941. У п'едэстал умантавана сціплая дошка. Крыж шматразова быў пашкоджаны, але зноў і зноў рэстаўраваўся коштам розных арганізацый. У кастрычніку 2007 г. крыж быў звалены невядомымі і пры гэтым разламаны на некалькі частак. З нагоды 70-х угодкаў масавага тэрору, распачатага ў Савецкім Саюзе ў 1937 г., 25 кастрычніка 2007 г. ён быў складзены ў адно цэлае з дапамогай сталевых палос, якія выразна пазначаюць месцы пашкоджанняў.

**Надпіс**

Пакутнікам Беларусі

## Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій

***Курапаты***. Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій быў усталяваны ў студзені 1989 г. па ініцыятыве ўраду Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Шыльда, што была размешчана на камені, паведамляла, што дадзены мемарыяльны камень павінен быць галоўным памятным знакам будучага мемарыялу ўсім ахвярам палітычнага пераследу ў Беларусі.

Усталяванню камня папярэднічалі моцныя спрэчкі паміж дзяржаўнай уладай і апазіцыйным рухам, які змагаўся за стварэнне мемарыялу з часу адкрыцця



*Крыж памяці »Пакутнікам за Беларусь«* *Фота: Алена Тэмпер*



*Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій, Курапаты (Здымка 2009 г.) Фота: Алена Тэмпер*



*Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій пасля апаганьвання ў 2006 г., Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

ў 1988 г. мясцовасці, дзе знаходзіліся брацкія магілы. Падчас першага масавага выступу людзей з нагоды дня памяці продкаў Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. у Курапатах сілы міліцыі спрабавалі гвалтоўна разагнаць мітынг. Многія ўдзельнікі былі арыштаваны, дзесяткі атрымалі цялесныя пашкоджанні. Гэтыя брутальныя дзеянні выклікалі буру пратэстаў у грамадстве, якія змусілі ўрад стварыць камісію па расследванні злоўжыванняў. Пасля гэтых падзей 18 студзеня 1989 г. быў прыняты закон, які прызнаваў за Курапатамі статус месца ўшанавання загінуўшых і прадугледжваў стварэнне мемарыялу. Гэтыя абяцанні аднак не былі выкананы цягам наступных гадоў. Апазіцыйныя партыі і розныя арганізацыі неаднаразова патрабавалі ад ураду пачаць будаўніцтва, якое было абяцанае на шыльдзе, што была замацаваная на камені.

У жніўні 2004 г. шыльда з надпісам была скрадзена невядомымі. Пасля таго, як расследванне, якое ажыццяўлялася міліцыяй, не дало вынікаў, вядомы скульптар Алесь Шатэрнік стварыў новую шыльду. У прысутнасці дыпламатаў з краін Еўрапейскага Звязу і Злучаных Штатаў яна была прэзентавана грамадскасці ў дзень памяці продкаў 29 кастрычніка 2005 г. У пачатку снежня 2005 г. невядомыя апаганілі месца пахаванняў і пашкодзілі пры гэтым шмат памятных знакаў ва ўрочышчы. Незадоўга да таго ўсталяваная шыльда была зноў скрадзена, яе замянілі толькі ў кастрычніку 2007 г. Стары тэкст атрымаў пры гэтым дадатак "ахвярам сталінскага рэжыму".

**Надпісы**

На беларускай мове. Надпіс, зроблены ў 1989 годзе



*Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій, (Здымка 2003 г.)* *Фота: Ірына Кашталян*

У гэтым лясным / масіве ў адпаведнасці з пастановай Савета / Міністраў Беларускай ССР / ад 18 студзеня 1989 г. будзе / пабудаваны помнік / ахвярам рэпрэссій 1937–1941 гг.

На беларускай мове / цяперашні надпіс

Ахвярам сталінскага рэжыму. У гэтым лясным масіве ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Беларускай ССР ад 18 студзеня 1989 г. будзе пабудаваны помнік ахвярам рэпрэссій 1937–1941 гг.

Калі ты маеш Бога ў сэрцы, / то не дапусціш новых КУРАПАТАЎ

## Крыж памяці палякам-ахвярам Курапатаў

***Курапаты***. Злева ад алеі, якая вядзе на вышыню ўзгорка, знаходзіцца памятны крыж у напамін пра тых палякаў, якія сталіся ахвярамі сталінскага тэрору на тэрыторыі тагачаснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР) і былі забіты ў Курапатах. Зялёны металічны крыж вышынёй у тры метры быў усталяваны ў 1993 г. арганізацыяй “Страж польскіх магіл”. Перад крыжам пасля 1993 г. было пабудаванае надмагілле, у якое ўмантаваныя дзве мемарыяльныя дошкі.

Польскае насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь паміж 1917 і 1953 гг. пацярпела ад розных рэпрэсій. Калі НКВД летам 1937 г. праводзіла так званую “польскую аперацыю”, у тагачаснай БССР з фармулёўкамі “шпіянаж на карысць Польшчы” і “прыналежнасць да меркаваных польскіх контррэвалюцыйных арганізацый” былі арыштаваны каля 200 000 чалавек. Амаль што ўсе гэтыя арыштаваныя былі засуджаны да вышэйшай меры пакарання і пасля пакараны смерцю.



*Крыж памяці палякам-ахвярам Курапатаў, Фота: Алена Тэмпер*

Галоўнае кіраўніцтва НКВД БССР, якое выкарыстоўвала Курапаты ў якасці месца масавых расстрэлаў, забіла там паміж 1937 і 1938 гг. многія тысячы людзей польскае нацыянальнасці. Да сёння былі ўстаноўлены імёны 4300 ахвяр. З пачаткам Другой сусветнай вайны ў 1939 г. і падчас савецкай акупацыі Усходняй Польшчы на цяперашніх заходнебеларускіх абшарах былі арыштаваны і адпраўлены ў Мінск многія тысячы палякаў. Колькасць засуджаных да вышэйшай меры пакарання і забітых у Курапатах у гэтыя гады дагэтуль не ўстаноўлена. Магчыма, Курапаты адыгрывалі асаблівую ролю ў звязку з забойствам польскіх вайскоўцаў і цывільных асоб у Катыні. Пошукі ў архівах паказалі, што, верагодна, вясной 1940 г. каля 3.000 польскіх вайскоўцаў былі этапаваныя ў Мінск паводле загаду кіраўніка НКВД Лаўрэнція Берыі, дзе іх павінны былі расстраляць. Канчатковае расследванне гэтых падзей дагэтуль не было праведзена.

**Надпісы**

На польскай мове. На верхняй шыльдзе, размешчанай на крыжы

Polakom / pomordowanym /
w Kuropatach / 1937–1941
Палякам, забітым у Курапатах
у 1937–1941 гг.

На польскай мове. На ніжняй шыльдзе, размешчанай на крыжы

Wymordowanym Rodakom /
w Kuropatach / Sybiracy / Mińsk
Mazowiecki 17. IX. 2000
Суайчыннікам, знішчаным у Курапатах.
Былыя вязні. Мінск Мазавецкі 17.IX.2000

## Памятны камень яўрэям і татарам, ахвярам рэпрэсій

***Курапаты***. Мемарыяльны камень у напамін пра забітых габрэяў і татараў, якія сталіся ахвярамі сталінскага тэрору і былі пакараныя смерцю ў Курапатах, быў адкрыты 29 кастрычніка 2004 г. Ініцыятыва зыходзіла ад аб’яднання “За ўратаванне Курапатаў” і беларускага аддзялення арганізацыі “Мемарыял”. Ва ўсталяванні каменю ўзялі ўдзел таксама габрэйскія і мусульманскія арганізацыі Беларусі.

Камень, зроблены з чырвонага граніту, мае ўверсе зорку Давіда і менору. Пад імі знаходзіцца надпіс на беларускай мове і мове ідыш, у якім паведамляецца пра праследваных іудзеяу, хрысціян і мусульман. Камень быў зроблены са знойдзеных парэшткаў помніка Сталіну, які да 1962 г. стаяў на Кастрычніцкай плошчы ў цэнтры Мінску. Праз некалькі тыдняў пасля адкрыцця ў сярэдзіне снежня помнік быў пашкоджаны невядомымі разам з іншымі крыжамі. На камені былі намаляваны антысеміцкія заклікі і свастыкі, якія былі выдалены толькі праз некалькі тыдняў сябрамі мінскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту.

**Надпіс**
На беларускай мове і на мове ідыш

НАШЫМ АДЗІНАВЕРЦАМ – ІЎДЗЕЯМ, / БРАТАМ ПА КНІЗЕ – ХРЫСЦІЯНАМ І МУСУЛЬМАНАМ / АХВЯРАМ СТАЛІНІЗМУ / АД БЕЛАРУСКІХ ГАБРЭЯЎ

אין אנדענק פון די יידן און אודזערע
ברידער קריסטן און מוסלמענער קרבנות
פונעס סטאליניזם פור די רעשטלער פור
די רייסישע יידן

## Помнік ахвярам рэпрэсій – ад Злучаных Штатаў Амерыкі

***Курапаты.*** Мемарыяльны знак быў адкрыты падчас дзяржаўнага візіту прэзідэнта Злучаных Штатаў Біла Клінтана ў Беларусь 15 студзеня 1994 г. Амерыканская амбасада ініцыявала ўсталяванне памятнага знаку ў форме лавы, створанага скульптарам Алесем Шатэрнікам. Яна складаецца з шэрай паліраванай гранітнай пліты, якая пакладзена на два нізкія пастаменты. На баках размешчаны надпісы на беларус-



*Памятны камень яўрэям і татарам, ахвярам рэпрэсій Фота: Марыюш Проскень*



*Пасля апаганьвання ў 2005 г.*
*Фота: Ірына Кашталян*

кай і ангельскай мовах, а таксама дата ўсталявання. На гранітнай пліце да таго ж размяшчаўся лаўровы вянок, які быў скрадзены за прамінулы час. Летам 2001 г. мемарыяльны знак быў упершыню пашкоджаны невядомымі, якія таксама раскалолі пліту. З нагоды гадавіны адкрыцця мемарыяльнага знаку 15 студзеня 2002 г. рэканструяваны помнік быў зноў усталяваны і прэзентаваны грамадзкасці ў прысутнасці амерыканскага амбасадара Майкла Козака. На ўспамін пра апаганьванне Алесь Шатэрнік вырабіў невялікую пліту, якая знаходзіцца справа ад знаку і нагадвае пра дадзены выпадак. Аднак ужо напрыканцы мая 2003 г. зноў адбыўся акт ванадалізму, у выніку якога мемарыяльны знак быў моцна пашкоджаны. Амерыканская амбасада запатрабавала ад беларускага ўраду гарантаваць бяспеку мемарыяльнага знаку і прыгразіла ў адваротным выпадку дэмантаваць яго. Падчас ліквідацыі пашкоджанняў усталяваная ў папярэднім годзе дадатковая шыльда была заменена масіўным камнем, на якім размешчаны новы надпіс. Узнаўленне адбылося пры ўдзеле амерыканскай амбасады, амбасадар якой прысутнічаў пры адкрыцці новага мемарыяльнага знаку 18 сакавіка 2004 г. 30 лістапада 2005 г. на тэрыторыі месца пахаванняў невядомымі былі зноў пашкоджаны мемарыяльныя знакі. Атрымаў пашкоджанні таксама і памятны знак амерыканскага прэзідэнта. Да сёння ён быў мэтай атак вандалаў больш за дзесяць разоў.




*Помнік ахвярам рэпрэсій, Курапаты (2010)* *Фота: Алена Тэмпер*

**Надпіс**
На беларускай і англійскай мовах

Ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі / народу Беларусі дзеля памяці / From the people of the United States of America to the people of Belarus in remembrance

На беларускай і англійскай мовах, на шыльдзе побач з мемарыяльным знакам

Гэты мемарыяльны знак быў падараваны / беларускаму народу Прэзідэнтам Злучаных / Штатаў Уільямам Джэферсанам Клінтанам / 15 студзеня 1994 года. Пашкоджаны невядомым вандаламі / ў летку 2001 года, адрэстаўраваны пера / усталяваны 15 студзеня 2002 года Амбасадарам / Злучаных Штатаў Майклам Козакам /
This memorial bench was presented to the people / of Belarus by United States President / William Jefferson Clinton on January 15th. 1994 Damaged by unknown vandals in the summer / of 2001, it was repaired and rededicated on / January 15, 2002 by United States Ambassador / Michael Kozak

## Ікона »Маці Божая Курапацкая«

***Курапаты***. Крыж з іконай плачучай Дзевы Марыі быў усталяваны ў дзень памяці продкаў Дзяды 2 лістапада 2003 г. па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту. Крыж з іконай быў выраблены мастаком Алесем Марачкіным. Пад іконай змешчана прысвячэнне, якое нагадвае пра забітых у Курапатах ахвяр сталінскага тэрору. Ікона была пашкоджана невядомымі ў 2005 і 2006 гг. і адрэстаўравана з нагоды 70-х угодкаў масавага тэрору ў кастрычніку 2007 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Маці Божая Курапацкая / усіх нявінна расстраляных



Ікона „Маці Божая Курапацкая” *Фота: Алена Тэмпер*



*Крыж памяці археолагам, Курапаты*
*Фота: Алена Тэмпер*

## Крыж памяці археолагам

***Курапаты***. Мемарыяльны крыж археолагам быў усталяваны 30 кастрычніка 2001 г. па ініцыятыве чальца Акадэміі Навук Беларусі (НАН РБ) Міколы Крывальцэвіча ад імя ўсіх археолагаў НАН РБ. Як археолаг Крывальцэвіч браў удзел у першых раскопках у Курапатах, якія праводзіліся ў 1988/89 гг. Фінансаванне ажыццяўлялася з ахвяраванняў і сродкаў аб'яднання "Беларускае слова". На масіўным крыжы ўсталявана шыльда з імёнамі навукоўцаў Сяргея Дубінскага, Аляксандра Кавалені і Аляксандра Ляўданскага.

Разам са сваімі блізкімі супрацоўнікамі і намеснікамі Каваленям і Дубінскім Ляўданскі кіраваў археалагічнай секцыяй Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР). Усе тры навукоўцы былі арыштаваны летам 1937 г. паводле фармулёўкі "Стварэнне беларускай падпольнай нацыялістычнай арганізацыі" і затым пакараны смерцю 27 жніўня 1938 г.

Сяргей Дубінскі нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 г. у вёсцы Наройкі. У 1914 г. ён скончыў Пецярбуржскі ўніверсітэт, дзе вывучаў гісторыю і археалогію. У 1924 г. Дубінскі стаўся чальцом новастворанай гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульту, які пазней быў ператвораны ў Акадэмію Навук БССР, у прэзідыум якой ён быў абраны ў 1929 г. Дзяржбяспека ўпершыню арыштавала Дубінскага летам 1930 г. паводле фармулёўкі "чалец Саюзу Вызвалення Беларусі", аднак ён неўзабаве быў адпушчаны на свабоду. Ён пераехаў у Ленінград, дзе працаваў у якасці чальца Акадэміі Навук да свайго вяртання ў Мінск. НКВД зноўку арыштавала Дубінскага ў ліпені 1937 г. і пакарала яго смерцю 27 жніўня 1938 г. Сяргей Дубінскі быў рэабілітаваны ў 1958 г.

Аляксандр Каваленя нарадзіўся 21 лютага 1895 г. у Кашанцах Гродзенскай вобласці. У 1915 г. ён скончыў духоўную семінарыю ў Слуцку. Пасля рэвалюцыі 1917 г. ён распачаў вывучэнне гісторыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску, які скончыў у 1929 г. Ужо падчас сваёй вучобы ён браў удзел у археалагічных раскопках у Тураве і

вызначыўся пры гэтым здабыццём першых навуковых заслуг. У 1932 г. ён быў запрошаны працаваць у якасці навуковага супрацоўніка ў Інстытут археалогіі пры Акадэміі Навук БССР. У маі 1937 г. Каваленя быў арыштаваны, а 25 жніўня 1938 г. засуджаны да пакарання смерцю. Прысуд быў выкананы ў Мінску праз два дні. Аляксандр Каваленя быў рэабілітаваны 16 кастрычніка 1958 г.

Аляксандр Ляўданскі нарадзіўся 29 жніўня 1893 г. у Юр'еве Мінскай вобласці. Ён скончыў сваё навучанне прафесіі археолага ў 1922 г. у смаленскім філіяле Маскоўскага археалагічнага інстытуту, дзе працаваў у якасці выкладчыка да 1925 г. У тым самым годзе ён атрымаў пасаду ў смаленскім музеі. У 1927 г. Ляўданскі пераехаў у Мінск, дзе працаваў у якасці навуковага супрацоўніка гісторыка-археалагічнага аддзялення Акадэміі Навук БССР. Адначасова ён выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. Па ініцыятыве Ляўданскага былі праведзены значныя палявыя даследванні па гісторыі Беларусі ранняга перыяду, якія прынеслі яму міжнароднае прызнанне. НКВД арыштавала яго 19 мая 1937 г. і засудзіла да пакарання смерцю 25 жніўня 1937 г. Прысуд быў выкананы ў Мінску праз два дні. Аляксандр Ляўданскі быў рэабілітаваны 7 мая 1958 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Беларускім археолагам /
Сяргею Дубінскаму /
Аляксандру Кавалені /
Аляксандру Ляўданскаму /
расстраляным 27 жніўня 1937 г.



*Крыж памяці Адаму Наркевічу, Курапаты*
*Фота: Алена Тэмпер*

## Крыж памяці Адаму Наркевічу

***Курапаты.*** Памятны крыж Адаму Наркевічу быў усталяваны сваякамі ў сакавіку 2004 г. Чорны металічны крыж мае багата ўпрыгожаную шыльду, якая нагадвае пра лёс забітага.

Адам Наркевіч нарадзіўся ў 1866 г. у Бабруйскім павеце. НКВД арыштавала яго 21 жніўня 1938 г. у Бабруйску. Ён быў этапаваны ў цэнтральную турму БССР у Мінску, дзе суд-тройка засудзіў яго на смерць 11 лістапада 1938 г. Прысуд быў выкананы ў Курапатах 29 лістапада 1938 г., а яго цела закапана ў брацкай магіле. Адам Наркевіч быў рэабілітаваны паводле рашэння трыбуналу Беларускай вайсковай акругі 8 красавіка 1958 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Наркевіч Адам Іванавіч / 1866 г. нараджэння / Арыштаваны 21.VIII.1938 г. Бабруйскім РОНКВД па пастанове асабовай тройкі НКВД БССР ад 11.XI.1938 г. прыгавораны да / растрэлу. Растраляны ў Мінску (м. КУРАПАТЫ) 29.XI.1938 г. / Рэабілітаваны 8.IV.1958 ваенным трыбуналам Беларускага / ваеннага округа. Успамін аб табе ў нашых сэрцах застанецца назаўсёды.

## Крыж памяці Антону і Францішку Васілеўскім і Марыі Баравік

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Антону, Францішку Васілеўскім і Марыі Баравік быў усталяваны сваякамі ў 2002 г. Чорны чатырохканцовы крыж мае чорную металічную шыльду з надпісам белага колеру.

**Надпіс**
На беларускай мове

Васілеўскія / Антон / -1868–1940- / Баравік Марыя / -1900–1951- / Францішак / -1908–1941-
Wasileuski / Anton / -1868–1940- / Barawik Maryja / -1900–1951- / Franzischak / -1908–1941-

## Крыж памяці Багуславу Вензыку

***Курапаты.*** Крыж памяці Багуславу Вензыку (польск. Bogusław Wężyk)



*Крыж памяці Антону і Францішку Васілеўскім і Марыі Баравік, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

быў усталяваны 1 лістапада 2001 г. па ініцыятыве Яны Янушчак (польск. Jana Januszczak) з мінскага аддзялення арганізацыі Саюзу палякаў Беларусі. Драўляны крыж вышынёй два метры мае барочную шыльду з надпісам, які паведамляе пра лёс Вензыка.

Багуслаў Вензык нарадзіўся 30 лістапада 1920 г. у Аляксандраполі (сёння Гюмры, Арменія). Яго сям'я пераехала пасля Першай сусветнай вайны ў Польшчу, дзе ён вучыўся ў Данцыгскай марской акадэміі.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу ў 1939 г. Вензык апынуўся ў савецкіх Баранавічах (польск. Baranowicze). Разам з іншымі ён пачаў збіраць інфармацыю пра акупацыйныя войскі для руху супраціву, які якраз пачынаў арганізоўвацца. Разам з гэтымі звесткамі група, якая складалася з дзесяці асоб, натавала імёны тых людзей, якія былі дэпартаваныя альбо арыштаваныя НКВД. Да таго ж яны збіраліся падрываць чыгуначныя шляхі, каб перашкодзіць ажыццяўленню дэпартацый. У сярэдзіне мая 1940 г. Вензык, Яна Янушчак і іншыя сустрэліся ў Лідзе, каб спланаваць далейшыя дзеянні. Затым пра існаванне групы было данесена ў НКВД. 18 мая 1940 г. Вензыка арыштавалі разам з іншымі. Цягам наступных дзен тайная паліцыя затрымала таксама і іншых меркаваных і сапраўдных чальцоў групы. Да пачатку чэрвеня 1940 г. каля 20 асобаў знаходзіліся ў турме НКВД. У студзені 1941 г. у Мінску адбыўся працэс, які вёў надзвычайны вайсковы трыбунал. Абвінавачванне гучала як "стварэнне антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі". З 18 абвінавачаных чатыры асобы былі прысуджаны да васьмі, а адна – да пяці гадоў зняволення ў лагерах, дзесяць тых, што засталіся, сярод іх і Багуслаў Вензык, былі засуджаныя да смяротнага пакарання. 17 студзеня 1941 г. прысуд быў выкананы ў Курапатах, а целы закапаныя ў брацкай магіле. Яна Янушчак была засуджана да зняволення ў лагерах і спачатку заставалася ў цэнтральнай турме ў Мінску. Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. разам з іншымі вязнямі турмы яна была эвакуіравана на ўсход. Яна сталася навочнай сведкай так званага мінскага маршу смерці, падчас якога ў перыяд з 25 па 26 чэрвеня 1941 г. сотні палітычных вязняў былі забіты



*Крыж памяці Багуславу Вензыку, Курапаты*
*Фота: Алена Тэмпер*

паблізу Чэрвеня пад Мінскам. Яе ўспаміны былі апублікаваны ў 1999 г. у ЗША і Польшчы.

**Надпіс**
На польскай мове

BOGUSŁAW WĘŻYK / syn Andrzeja i Jadwigi z Godlewskich / Ur. 30 listopada 1920 r. w Alek sandropolu (Armenia) / Uczeń Państwo[wej] Szkoły Morskiej w Gdyni / Zginął 17 lutego 1941 r. w Mińsku / Wieczne odpoczywanie racz mu dać Panie!
Багуслаў Вензык, сын Андрэя і Ядзвігі з Гадлеўскіх. Нарадзіўся 30 лістапада 1920 г. у Александропалі (Арменія). Навучэнец Дзяржаўнай марской школы ў Гдыні. Знік 17 лютага 1941 г. у Мінску. Вечны спачынак дай яму, Божа!

## Крыж памяці братам Кішкурнам

***Курапаты.*** Крыж памяці братам Кішкурнам быў усталяваны 20 жніўня 2002 г. Уладзімерам Кішкурнам, старшынём мінскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту, і яго жонкай Валянцінай Трыгубовіч. Ён нагадвае пра ягоных бацьку і дзядзьку, якія былі забіты НКВД у Курапатах 10 лістапада 1938 г.

Войцех Кішкурна, бацька Уладзіміра Кішкурны, нарадзіўся ў 1889 г. у вёсцы Рудня Мінскай вобласці. Пасля заключэння Рыжскага міру ў 1921 г. вёска адышла да Польшчы. Войцех Кішкурна разам са сваім братам Язэпам перасяліўся ў Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў 1935 г. Разам са сваёй сям'ёй ён атрымаў кватэру ў Мінску і працаваў у якасці работніка ў грамадскай страўні. Пасля таго, як у пачатку 1938 г. Язэп Кішкурна быў арыштаваны НКВД, быў увязнены таксама і ягоны брат Войцех. Абодва яны былі абвінавачаны ў шпіянажы на карысць польскай разведкі, прысуджаны да пакарання смерцю, а 9 студзеня ці 10 лістапада 1938 г. расстраляны ў Курапатах. Вайсковая



*Крыж памяці братам Кішкурнам, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

пракуратура рэабілітавала Войцеха Кішкурну ў 1959, а Язэпа Кішкурну – у 1968 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

КІШКУРНА ІОСІФ ІВАНАВІЧ 1888 г. н. /
вёска РУДНЯ ПЛЕШЧАНІЦКАГА р-на /
РАССТРАЛЯНЫ 9 СТУДЗЕНЯ 1938 г. /
КІШКУРНА ВОЙЦЕХ ІВАНАВІЧ 1895 г. н. /
вёска БАРСУКІ ПЛЕШЧАНІЦКАГА р-на /
РАССТРАЛЯНЫ 10 ЛІСТАПАДА 1938 г. /
АХВЯРЫ БАЛЬШАВІЦКАГА ТЭРОРУ /
РЭАБІЛІТАВАНЫЯ У 1968 г. і 1959 г.

## Крыж памяці забітым беларускім святарам



*Крыж памяці забітым беларускім святарам, Курапаты Фота: Алена Тэмпер*

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж быў усталяваны 30 кастрычніка 2002 г. па ініцыятыве архіепіскапа Юрыя з Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы, якая ўзнікла ў ЗША, адкалоўшыся ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Ён нагадвае пра прадстаўнікоў гэтай канфесіі, якія былі арыштаваны, сасланы і пакараны смерцю ў працэсе праследу рэлігійных супольнасцей у 1920-я і 1930-я гг.

Пасля распаду Расійскай Імперыі ў 1918 г. частка беларускай праваслаўнай царкоўнай іерархіі спрабавала стварыць незалежную ад Маскоўскага Патрыярхату аўтакефальную праваслаўную царкву. У 1922 г. такая царква была заснавана на сінодзе ў Мінску. У 1938 г. дадзеная рэлігійная супольнасць была забаронена ў Савецкім Саюзе. Епіскапы, святары, а таксама звычайныя вернікі падвергліся праследу з боку дзяржбяспекі. Вялікая колькасць прыхільнікаў царквы была пакарана смерцю падчас масавага тэрору 1937/38 гг.

Падчас нямецкай акупацыі ў 1942 г. у Мінску зноў была паклікана да жыцця аўтакефальная праваслаўная царква. З адыходам нямецкіх войск ў 1944 г. яна мусіла спыніць сваю дзейнасць. На эміграцыі спробы захаваць царкву рабіліся спачатку ў Германіі, пасля ў Паўночнай Амерыцы. У 1948 г. была заснавана Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, якая і да сёння існуе ў дыяспары. У рамках руху за незалежнасць у 1990 г. рабіліся захады адрадзіць аўтакефальную праваслаўную

царкву, не зважаючы на супрацiў Расiйскай Праваслаўнай Царквы i Рымска-Каталiцкага Касцёлу.

**Надпiс**
На беларускай мове

БЕЛАРУСКIМ / СЬВЯТАРАМ / Ад / Архiяпiскапа / Юрыя (Рыжага) / БАПНЦ / Амерыканскi сусьветны патрыярхат / 22. 10. 2002 г.

## Крыж памяцi загiнулым за Бога i Айчыну

***Курапаты.*** Усталяваны ў дзень памяцi продкаў Дзяды 2 лiстапада 2002 г. памятны крыж знаходзiцца непадалёк ад мемарыяльнага каменю Савета Мiнiстраў Беларускай Савецкай Сацыялiстычнай Рэспублiкi (БССР) на ўзгорку ва ўрочышчы Курапаты. На iм размешчана драўляная шыльда з надпiсам па-беларуску лацiнскiмi лiтарамi. Усталяванне крыжа было iнiцыявана каталiцкай парафiяй з Талачыну i Шляхецкай лiгай Вялiкага княства Лiтоўскага пад кiраўнiцтвам Алеся Стральцова. Падчас шэсця чальцы лiгi пранеслi яго з цэнтра Мiнска ў Курапаты i ўсталявалi там у напамiн аб пераследзе каталiцкай супольнацi, а таксама ў памяць пра беларускiх шляхцiцаў-ахвяр рэпрэсiй.



*Крыж памяцi загiнулым за Бога i Айчыну, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

**Надпiс**
На беларускай мове i на лацiне

Roquiescat in pace /
Usim palehłym dla Boha i Ajczyzny
u Kurapatach / ad katolikau miesta
Tałaczyn / ad Ligi Monarchicznaj Wialikaha
Kniastwa Litouskaha / Miensk Mahyleu
Tałaczyn Krupka Chałapieniczy /
Hrodna Waukawysk
Kojdanau Maładeczna /
Klecak Roś Pinsk

## Крыж памяцi ахвярам Гродненскай турмы НКВД

***Курапаты.*** Дзеля ўшанавання памяцi вязняў турмы НКВД у Гродне (польск.: Grodno) 29 кастрычнiка 2004 г. высiлкамi аб'яднання «За ўратаванне Курапатаў» i гiсторыка Iгара Кузняцова быў усталяваны мемарыяльны крыж. Ён знаходзiцца па-над брацкай магiлай, якая была знойдзена ў 1998 г. падчас раскопак у Курапатах. Падчас археалагiчных даследванняў былi знойдзены дзве квiтанцыi, якiя былi выдадзены гродненскiм НКВД двум вязням замест сканфiскаваных у iх грошай летам 1940 г. На падставе дадзеных дакументаў былi высветлены iмёны

двух з 74 забітых, якія былі закапаны ў брацкай магіле: Мойша (ідыш: Мойше) Крамер і Мардыхай (ідыш: Мордехай) Шулькес. На ўшанаванне памяці ўсіх расстраляных НКВД па-над брацкай магілай быў усталяваны крыж памяці Крамера і Шулькеса. Летам 2007 г. крыж усё яшчэ знаходзіўся на гэтым месцы, аднак замацаваная на ім шыльда знікла за прамінулы час. Сёння яна знаходзіцца ў экспазіцыі габрэйскага музея ў Мінску.

**Надпіс**
На беларускай мове

НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ Ў 1940 Г. /
КАТЫ З НКУС БССР РАССТРА /
ЛЯЛІ 74 БЯЗВІННЫХ АХВЯРЫ /
ВЯДОМЫ ІМЁНЫ ТОЛЬКІ /
ДВУХ З ІХ: /МОЙША КРАМЭР /
МАРДЫХАЙ ШУЛЬКЕС

## Крыж памяці ахвярам генацыду

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж ахвярам генацыду быў фундаваны Францішкам Бартулем, старшынём беларускага Фонду Пётры Крэчаўскага і каталіцкага навуковага аб'яднання "Рунь". Устанавілі яго напрыканцы жніўня 2002 г. Ён нагадвае пра ўсіх людзей, бязвінна закатаваных у Курапатах.

Францішак Бартуль нарадзіўся ў 1918 г. на беларуска-латышскім памежжы. Падчас Другой сусветнай вайны ён эміграваў у Вялікую Брытанію. У Італіі ён далучыўся да польскай арміі генерала Андэрса і змагаўся ў яе шэрагах у якасці афіцэра да канца вайны ў 1945 г. У паваенныя гады ён вярнуўся ў Лондан, дзе далучыўся да ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні.

У 1946 г. Бартуль разам з іншымі беларусамі-эмігрантамі Вялікабрытаніі заснаваў каталіцкае навуковае аб'яднанне "Рунь". У канцы 1940-х гг. ён перасяліўся ў ЗША, дзе прысвяціў сябе працы на ніве беларускай культуры на эміграцыі. Між іншым, ён заснаваў Фонд Пётры Крэчаўскага, чыім старшынём з'яўляўся на працягу многіх гадоў. Францішак Бартуль памёр 6 снежня 2005 г. у Манхасэце, ЗША.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам генацыду / Францішак / Бартуль



*Крыж памяці ахвярам генацыду, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

## Крыж памяці ахвярам генацыду

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж ахвярам генацыду быў фундаваны ў жніўні 2002 г. Пятром Драбышэўскім, беларусам з ЗША, і ўсталяваны напрыканцы жніўня таго ж году. Драўляны крыж вышынёй у два метры мае маленькую чорную шыльду з надпісам, які змяшчае імя фундатара.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам генацыду /
Пятро / Драбышэўскі



*Крыж памяці Феліксу Вінцэвічу, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

## Крыж памяці Феліксу Вінцэвічу

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж памяці Фелікса Вінцэвіча быў усталяваны яго сваякамі прыкладна ў 2003 г. Металічны крыж з упрыгожаннямі мае шыльду, на якой пазначаны імя і даты жыцця забітага.

Пра лёс Фелікса Вінцэвіча вядома няшмат. Мяркуецца, што яго жонкай была Яніна Вінцэвіч, якая нарадзілася ў 1907 г. у Пухавічах Мінскай вобласці.



*Крыж памяці ахвярам генацыду, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

Як і яе муж яна працавала настаўніцай у адной з мінскіх школ. У 1937 г. Фелікс Вінцэвіч быў арыштаваны НКВД. Няясна, ці ён быў забіты ў Курапатах, ці двума гадамі пазней загінуў у адным з лагераў ГУЛАГу. Яніна Вінцэвіч была арыштавана 23 снежня 1945 г. і пакарана трыма гадамі зняволення ў лагеры за сваю працу ў якасці настаўніцы падчас нямецкай акупацыі. У выніку амністыі яна выйшла на волю ў 1947 г. Прысуд Яніне Вінцэвіч быў адменены паводле рашэння Вярхоўнага Суду БССР ад 13 чэрвеня 1961 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Вінцэвіч / Фелікс /
1902–1937

## Крыж памяці Феліцыяну Садоўскаму

*Курапаты.* Мемарыяльны крыж Феліцыяну Садоўскаму быў усталяваны ва ўрочышчы Курапаты напрыканцы кастрычніка 2001 г. яго ўнукам Лявонам Садоўскім. Чорны крыж вышынёй у два метры мае металічную шыльду, якая змяшчае імя і даты жыцця забітага.

Крыж быў усталяваны Лявонам Садоўскім падчас мітынгу пратэсту супраць пашырэння дарогі праз Курапаты. У лістападзе 2001 г. адзін з мінскіх судоў прысудзіў яго да грашовага пакарання за ўдзел у несанкцыянаваній дэманстрацыі, а таксама за няўзгодненае ўсталяванне крыжа.

Феліцыян Садоўскі нарадзіўся ў 1908 г. у вёсцы Аспікі Мінскай вобласці. Пасля сканчэння вясковай школы



*Крыж памяці Феліцыяну Садоўскаму, Курапаты Фота: Ірына Кашталян*

ён перасяліўся ў Табуры, дзе працаваў у калгасе, што спецыялізаваўся на свінагадоўлі. НКВД арыштавала яго 24 жніўня 1937 г. З-за таго, што па нацыянальнасці ён быў паляк, яго абвінавацілі ў шпіянажы на карысць польскай разведкі, а 9 лістапада 1937 г. Садоўскі быў прасуджаны да вышэйшай меры пакарання надзвычайным судом. Ён быў расстраляны 20 лістапада 1937 г. у Курапатах і пахаваны ў адной з брацкіх магіл. Феліцыян Садоўскі быў рэабілітаваны паводле пастановы трыбуналу Беларускай вайсковай акругі ад 15 снежня 1958 г.



*Крыж памяці Фёдару Рабаву, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

**Надпіс**
На беларускай мове

Садоўскі / Феліцыян / Францавіч /
1908–1937

## Крыж памяці Фёдару Рабаву

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Фёдару Рабаву быў усталяваны ва ўрочышчы Курапаты паміж 2004 і 2005 гг. яго сваякамі. Чорны металічны крыж мае ўпрыгожаную металічную шыльду з надпісам.

Фёдар Андрэевіч Рабаў нарадзіўся 15 красавіка 1889 г. у вёсцы Бярозаўка Бярэзінскага раёну Мінскай вобласці. Ён скончыў базавую школу і да арышту працаваў у калгасе "Чырвоны бераг" у сваёй роднай вёсцы. НКВД арыштавала Рабава 26 снежня 1937 г. па абвінавачванні ў "антысавецкай прапагандзе". Надзвычайны суд-тройка прыгаварыў яго 30 снежня 1937 г. да смяротнага пакарання. Ён быў расстраляны ў Курапатах 8 сакавіка 1938 г., а яго цела было пахавана ў адной з брацкіх магіл. Прэзідыум Мінскага абласнога суду рэабілітаваў Фёдара Рабава ў 1957 г.

**Надпіс**
Russisch

Рябов Фёдор Андреевич /
Березинский
р-н Маческий с / с / дер. Березовка /
род. 1889 г. расстрелян – 1938 г. /
– Реабилитирован 2. 1957 г.
Рабаў Фёдар Андрэевіч. Бярэзінскі р-н,
Мачаскі с/с, в. Бярозаўка, нар. у 1889 г.,
расстраляны ў 1938 г.,
рэабілітаваны ў лютым 1957 г.

## Крыж памяці Івану Яршову

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Івану Яршову быў усталяваны ў дзень памяці продкаў 30 кастрычніка 2003 г. яго ўнучкай Дыянай Мікульскай. Сціплы

драўляны крыж быў прадастаўлены разам з іншымі памятнымі крыжамі аб'яднаннем "За ўратаванне Курапатаў". На ім змешчана шыльда з прысвячэннем Яршову.

Іван Яршоў нарадзіўся 23 красавіка 1889 г. у вёсцы Узяжэскае Куйбышаўскай вобласці Расіі. Пасля Першай сусветнай вайны ён перасяліўся ў Слуцк, дзе працаваў на мясцовай электрастанцыі, пакуль не быў арыштаваны НКВД. Разам з іншымі яго абвінавацілі ў прыналежнасці да меркаванай контррэвалюцыйнай арганізацыі "Брацтва рускага права". Надзвычайны суд прыгаварыў яго 27 снежня 1937 г. у Слуцку да вышэйшай меры пакарання. Смяротны прыгавор быў выкананы 21



*Крыж памяці Івану Яршову, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

студзеня 1938 г. Ён быў рэабілітаваны паводле рашэння Вярхоўнага Суду БССР ад 19 чэрвеня 1938 г.

Дыяна Мікульская зацікавілася лёсам свайго дзеда пасля смерці маці. Пазней яна знайшла газетны артыкул, надрукаваны вясной 1938 г., у якім афіцыйна паведамлялася пра пакаранне смерцю яе дзеда Івана Яршова. Паколькі ў яго роднай вёсцы не знайшлося прыдатнага месца, Дыяна Мікульская вырашыла ўсталяваць мемарыяльны крыж у Курапатах.

**Надпіс**
На беларускай мове

Яршоў / Іван Фёдаравіч /
Нар. 23. VI. 1899 / Растраляны ў Слуцку /
24. 1. 1938

## Крыж памяці Мацею Яманту

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Мацею Яманту быў усталяваны ў лістападзе 2003 г. яго сваякамі. Драўляны крыж вышынёй ў паўтары метры мае шыльду з імём і датамі жыцця памерлага.

Мацей Ямант (польск. Maciej Jamontt) нарадзіўся ў 1881 г. у вёсцы Дакудава (польск. Dokudów) Гродзенскай воласці. Ён быў сынам шляхціца беларуска-польскага паходжання, які здавен жыў у гэтай мясцовасці. Яго брат Баніслаў Ямант (польск. Bronisław Jamontt) быў вядомым польскім мастаком. Пасля сканчэння навучання ва ўніверсітэце, Мацей Ямант стаўся юрыстам і перасяліўся ў Вільню, якая ў той час належыла да Польшчы, дзе працаваў у якасці адваката да пачатку Другой сусветнай вайны. Пасля



*Крыж памяці Мацею Яманту, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*



*Крыж памяці Мікалаю Жарскаму, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

прыходу Чырвонай Арміі ў верасні 1939 г. ён быў арыштаваны НКВД і перавезены ў Мінск. НКВД засудзіла Ямантa на смерць і пакарала яго ўвесну 1940 г. у Мінску. Яго цела ляжыць у адной з брацкіх магіл у Курапатах.

**Надпіс**
На польскай мове

MACIEJ JAMONTT / 1881–1940 / Ave Maria
Мацей Ямант / 1881–1940 / Авэ Марыя!

## Крыж памяці Мікалаю Жарскаму

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж памяці Мікалая Жарскага быў усталяваны яго сваякамі. Драўляны крыж вышынёй два метры мае шыльду, якая нагадвае пра забітага.

Мікалай Жарскі нарадзіўся ў 1888 г. у вёсцы Замошша на Вілейшчыне. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу ў 1939 г. ён быў арыштаваны НКВД вясной 1941 г. Мяркуецца, што Мікалай Жарскі быў расстраляны ў Мінску.

**Надпіс**
На беларускай мове

Жарскі Мікалай /
Юстынавіч /
(Вілейскі р-н, в.Замошша) /
нарадзіўся 1907 г. /
арыштаваны 1941 г.
(сакавік)



*Крыж памяці Міхаілу Сычу, Курапаты*
*Фота: Ірына Кашталян*

## Крыж памяці Міхаілу Сычу

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Міхаілу Сычу быў усталяваны яго сваякамі. Чорны металічны крыж вышынёй у два метры мае паліраваную металічную шыльду, якая змяшчае прысвечаны яму надпіс.

Міхаіл Сыч нарадзіўся ў 1886 г. у Юхнавічах Мінскай вобласці. Ён скончыў базавую школу і да свайго арышту 20 ліпеня 1938 г. працаваў у калгасе імя Яжова ў сваёй роднай вёсцы. Ён быў польскага паходжання, таму НКВД абвінаваціла яго ў шпіянажы на карысць польскай разведкі. Надзвычайны суд (тройка) засудзіў Сыча 3 лістапада 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Ён быў расстраляны ў Курапатах 22 лістапада 1938 г., а яго цела пахавана ў брацкай магіле. Трыбунал Беларускай вайсковай акругі рэабілітаваў Міхаіла Сыча рашэннем ад 2 ліпеня 1959 г.

**Надпіс**
На рускай мове

Сыч / Михаил Стефанович / Род. 1886 г. /
22. XI. 1938 г. / уроженец д. Юхновичи /
Путчинского с / с, Минской обл.
Сыч Міхаіл Стэфанавіч нарадзіўся ў 1886 г.,
22.XI.1938 г., ураджэнец вёскі Юхнавічы,
Путчынскага сельсавета, Мінскай вобласці

## Крыж памяці Сафіі Аніхоўскай-Маевай

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Сафіі Аніхоўскай-Маевай быў усталяваны прыкладна ў 2005 г. яе сваякамі. Выраблены з металічных перакладзін блакітнага колеру крыж мае пасярэдзіне белую шыльду, якая нагадвае пра забітую.

Сафія Аніхоўская-Маева нарадзілася 23 сакавіка 1902 г. у вёсцы Старыца Мінскай вобласці ў сям'і селяніна. Пасля сканчэння школы яна працягнула вучобу і скончыла яе, атрымаўшы прафесію настаўніцы. Яе брат Аляксандр Аніхоўскі, выкладчык аднаго з тэхнікумаў Мінску, быў арыштаваны ОГПУ ў 1930 г. і адпраўлены ў высылку. Пасля свайго вяселля Сафія Аніхоўская-Маева перасялілася ў Барысаў, дзе пачала працаваць настаўніцай у сярэдняй школе № 7. НКВД арыштавала яе 17 снежня 1937 г. па абвінавачванні ў “шпіянажы”. Яна была адпраўлена ў цэнтральную турму БССР у Мінск, дзе была засуджана тройкай да пакарання смерцю 21 студзеня 1938 г.



*Крыж памяці Сафіі Аніхоўскай-Маевай, Курапаты* *Фота: Ірына Кашталян*

Сафія Аніхоўская-Маева была расстраляна 25 лютага 1938 г. у Курапатах. Трыбунал Беларускай вайсковай акругі рэабілітаваў яе рашэннем ад 14 ліпеня 1958 г.

**Надпіс**
На рускай мове

Учительница /
Анихонская-Маева /
София Георгиевна /
28. 03. 1902–25. 02. 1938
Настаўніца Аніхонская-Маева Сафія Георгіеўна 28.03.1902–25.02.1938

## Крыж памяці Вацлаву Сапацко

***Курапаты.*** Мемарыяльны крыж Вацлаву Сапацко (польск. Wacław Sopocko) быў усталяваны яго сваякамі. Ён знаходзіцца паблізу крыжа палякам-ахвярам рэпрэсій.

Вацлаў Сапацко нарадзіўся ў 1888 г. на тэрыторыі былых польскіх усходніх абшараў. НКВД арыштавала яго ў 1940 г. на тэрыторыі сучаснай Заходняй Беларусі. Ён быў расстраляны 17 лютага 1941 г. у Мінску, а яго цела пахавана ў брацкай магіле ў Курапатах.

**Надпіс**
На польскай мове

WACŁAW / SOPOCKO /
5. 12. 1888–17. 02. 1941
Вацлаў Сапацко /
5.12.1888–17.02.1941

## Памятны крыж жыхарам Браслаўшчыны-ахвярам рэпрэсій

***Курапаты.*** 4 красавіка 2009 г. Кастусь Шыдлоўскі і Уладзімір Міцкевіч з Браслава ўсталявалі драўляны памятны крыж, які ўшаноўвае памяць ахвяр рэпрэсій. Такім чынам яны сімвалічна ўшанавалі памяць усіх ахвяр палітычнага пераследу са сваёй малой радзімы. Чатырохканцовы крыж мае надпіс на беларускай мове.

**Надпіс**
На беларускай мове

Браслаўшчына –
ахвярам рэпрэсій




*Крыж памяці Вацлаву Сапацко, Курапаты* *Фота: Алена Тэмпер*

## Крыж ахвярам бальшавіцкага тэрору

*Мінск.* Мемарыяльны крыж ахвярам бальшавіцкага тэрору быў усталяваны на ўскрайку лошыцкага парку свіслацкім аддзяленнем мінскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту і аб'яднаннем Мартыралог Беларусі. Драўляны крыж вышынёй у пяць метраў быў спраектаваны вядомым мастаком Міколам Купавам. Ён нагадвае пра брацкую магілу, у якой спачываюць ахвяры НКВД. Напрыканцы 1990-х гг. пачалася забудова тэрыторыі гаражамі, таму знайсці крыж складана.

Лошыцкі парк знаходзіцца на паўднёвай ускраіне Мінска. У 19 стагоддзі тут паўстаў маёнтак з вялікім паркам, які быў канфіскаваны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1917 г. Падчас грамадзянскай вайны з 1918 па 1920 гг. тэрыторыя выкарыстоўвалася ў розных мэтах, пакуль у сярэдзіне 1920-х гг. не была падзелена. На адной частцы парку размясцілася сельскагаспадарчая даследчая ўстанова, у той час, калі "белая дача" – былая шляхецкая рэзідэнцыя ў паўночнай частцы парку – была перададзена ОГПУ, пазней перайменаванаму у НКВД. Тут размясціўся аддзел спецыяльнага прызначэння, які займаўся парыхтоўкай савецкіх развед вальных і дыверсійных груп. У 1920-х і 1930-х гг. дадзеныя групы перакідваліся праз савецка-польскую мяжу, якая праходзіла непадалёк ад Мінску, і павінны былі займацца там антыпольскай падпольнай дзейнасцю. У сваю чаргу шмат людзей з Польшчы хацела перабрацца ў Савецкі Саюз, дзе яны спадзяваліся на лепшае жыццё, паверыўшы камуністычнай прапагандзе. Савецкая дзяржбяспека сустракала іх з недаверам, бачучы ў іх патэнцыйных шпіёнаў і ворагаў. Сотні арыштаваных уцекачоў траплялі, такім чынам, на "белую дачу". Невядомая колькасць гэтых уцекачоў была расстраляна і пахавана ў пяшчанай яме ў паўночна-усходняй частцы парку.

Пасля прыходу нямецкіх войск у Мінск у 1941 г. маёнтак у Лошыцы быў заняты мінскім акруговым камісарам. Падчас акупацыі там была расстраляна невядомая колькасць габрэяў і партызан, якіх хавалі ў іншай яме. Напачатку 1990-х гг. магілы НКВД у Лошыцы былі знойдзены, а інфармацыя пра іх даведзена да ведама грамадзкасці. Аднаку адрозненне ад Курапатаў тут не адбыліся эксгумацыі і даследванні. Каб захаваць памяць пра пахаваных там людзей, розныя грамадзкія арганізацыі рупіліся пра ператварэнне тэрыторыі ў мемарыял.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам бальшавіцкага тэрору

**Месца знаходжання**
Лошыцкі парк, Мінск

## Капліца ахвярам АДПУ / НКУС

***Мінск.*** Невялікая капліца ахвярам ОГПУ/ НКВД была пабудавана ў 1990 г. у Парку Чалюскінцаў паводле ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту, Мартыралогу Беларусі і пісьменніка Васіля Хомчанкі. Спраектаваны паводле распрацовак Уладзіміра Слабодчыкава мемарыяльны знак вышынёй у два



*Капліца ахвярам ОГПУ/НКВД, Мінск*
*Фота: Усевалад Сіняк*

метры зроблены з дрэва, у яго цэнтры знаходзіцца чатырохканцовы крыж. Фінансаванне ажыццяўлялася за кошт арганізацый, якія бралі ўдзел у яго ўсталяванні.

Тэрыторыя сённяшняга Парку Чалюскінцаў знаходзілася перад Другой сусветнай вайной па-за межамі Мінску. У гэтай мясцовасці, якая называлася лесам Ваньковіча, з канца 1920-х гг. знаходзілася закрытая тэрыторыя, якая выкарыстоўвалася ОГПУ. З таго часу і да прыходу нямецкіх войск летам 1941 г. там адбываліся пакаранні смерцю. Паводле меркаванняў гісторыкаў большая частка расстраляных тут людзей была пакараная смерцю да стварэння месца расстрэлаў у Курапатах напрыканцы 1920-х і ў пачатку 1930-х гг. Дакладная лічба ахвяр палітычнага пераследу, якія спачываюць у сённяшнім Парку Чалюскінцаў невядомая, аднак мяркуецца, што яна складае некалькі тысяч. У непасрэднай блізкасці ад закрытай тэрыторыі паміж 1928 і 1933 гг. быў створаны Парк Чалюскінцаў, які выкарыстоўваўся як месца адпачынку. Падчас Другой сусветнай вайны на тэрыторыі сённяшняга парку знаходзіўся лагер для ваеннапалонных, створаны нямецкім Вермахтам, у якім ад голаду, холаду і хвароб памерлі тысячы ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Іх целы былі закапаны ў ананімных брацкіх магілах. Пасля вызвалення Мінска ў 1944 г. тэрыторыя лагеру і былая закрытая зона былі далучаны да Парку Чалюскінцаў. Парэшткі забітых падчас ваенных гадоў людзей былі перанесены ў брацкую магілу, якая знаходзіцца паблізу брацкіх магіл, створаных НКВД. З мэтай ўшанавання памяці загінуўшых чырвонаармейцаў у 1955 г. быў створаны невялікі мемарыял, а самі магілы абкладзены камянямі.



*Помнік ахвярам ГУЛАГа, Мінск* *Фота: Валянціна Вяргей*

**Надпіс**
На беларускай мове
У гэтым лесе /
ў 20–30 гады /
зьнішчалі / бязьвінных людзей

**Месца знаходжання**
Парк Чалюскінцаў, Праспект Незалежнасці, Мінск

## Помнік ахвярам ГУЛАГа

***Мінск.*** Мемарыяльны камень ахвярам ГУЛАГу на мінскіх Паўночных могілках быў усталяваны ў 1990 г. старшынёй Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычнага пераследу Зінаідай Тарасевіч. Магіла яе бацькі Антона Тарасевіча, які з 1930 па 1942 гг. адбываў зняволенне ў ГУЛАГу, былаператворана ў мемарыял, які нагадвае пра пераслед іх сям'і. Помнік выраблены з чывонага граніту. З аднаго канца ўзвышаецца надмагільны камень, які нагадвае пра лёсы чальцоў сям'і. Перад ім ляжыць чырвоны простакутнік, які прысвечаны Антону Тарасевічу. Магіла маці Зінаіды Тарасевіч Таццяны Зенчык, якая знаходзіцца ў Сёмкавым Гарадку, была таксама ператворана ў мемарыяльнае месца.

Антон Тарасевіч нарадзіўся 4 сакавіка 1904 г. у Мінскай вобласці ў сям'і селяніна. Падчас калектывізацыі гаспадарка бацькоў была канфіскавана, а сям'я саслана ў Архангельскую вобласць. Тут ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Таццянай Зенчык, сям'я якой таксама была выслана з Беларусі на расійскую Поўнач. Там у 1937 г. у пасёлку Ахтама Архангельскай вобласці Расіі нарадзілася іх дачка Зінаіда Тарасевіч. Калі пачалася Другая сусветная вайна, Антон Тарасевіч быў прызваны ў Чырвоную Армію. Пасля сканчэння

вайны ён, ужо стаўшыся інвалідам, вярнуўся ў Беларусь, дзе спачатку пасяліўся ў свайго брата. З яго дапамогай ён пісаў прашэнні аб памілаванні на імя старшыні Савету Міністраў Калініна, у якіх хадатайстваваў аб вызваленні сваёй жонкі і дзяцей. У 1946 г. прашэнне было задаволена і сям'я вярнулася ў Мінск. Антон Тарсевіч памёр 15 кастрычніка 1989 г. у Мінску.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тарасевіч /
Антон Міхайлавіч /
4. III. 1904–15. X. 1989 /
Ахвяра генацыду,
вязень ГУЛАГа (1930–1942) /
ахвяра вайны (1942–1944),
інвалід вайны /
Вечная памяць вязням ГУЛАГа /
Сцяпан Міхайлавіч 1890 –1948 /
Іосіф Міхайлавіч 1895–1966 /
і загінуўшым у ГУЛАГе /
Тарасевіч Ганна Васільеўна 1895–1932 /
Сямён Міхайлавіч 1898 –1937 /
Шаліма Фёдар Міхайлавіч 1886 –1930 /
Ад Вашай дачкі, унучкі, /
пляменніцы, вязня ГУЛАГа
(1937–1945)

**Месца знаходжання**
Паўночныя могілкі, Мінск

## Помнік Максіму Гарэцкаму

*Мінск*. Помнік Максіму Гарэцкаму быў адкрыты на плошчы Свабоды ў цэнтры гораду 18 лютага 1993 г. з нагоды 100-х угодкаў з дня нараджэння пісьменніка. Ініцыятарамі яго ўсталявання выступілі мінскія гарадзкія ўлады, якіх падтрымалі розныя арганізацыі і аб'яднанні.

Максім Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 г. у Малай Багацькаўцы Мсціслаўскага раёну Магілёўскай вобласці. Ён быў старэйшым сынам у сялянскай сям'і. Яго брат Гаўрыла Гарэцкі быў геолагам і этнографам. У 1913 г. ён скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках і стаў працаваць ва ўстанове па зямельным кадастры ў Вільні. Яшчэ падчас сваёй вучобы ён пачаў друкавацца ў беларускай газеце "Наша Ніва". У 1914 г. пабачыла свет яго першая кніга апавяданняў "Рунь", пасля чаго Гарэцкі быў прызваны ў Расійскую Армію. Пасля ўдзелу ў баях на фронце ва Усходняй Прусіі ў 1916 г. ён быў пераведзены ў вайсковае вучылішча ў Петраград, дзе заставаўся да дэмабілізацыі ў 1917 . У той самы год ён пачаў вывучаць археалогію ў Смаленску. Адначасова ён зноў пачаў працаваць у якасці рэдактара газеты. З гэтай мэтай Гарэцкі пераехаў у Мінск у 1919 г., дзе пісаў артыкулы для "Звязды" – газеты беларускіх камуністаў. Падчас наступу Чырвонай Арміі ў Польшчы рэдакцыя была перанесена ў Вільню, дзе ў наступныя гады ён працаваў настаўнікам і выкладчыкам беларускай мовы. Адначасова ён працаваў рэдактарам і выдаўцом газет сацыялістычнага кірунку. З-за гэтай дзейнасці Гарэцкі быў арыштаваны польскай паліцыяй у 1922 г. Пасля вызвалення ў кастрычніку 1923 г. ён перасяліўся ў Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, дзе выкладаў літаратуру і беларускую мову ў Беларускім дзяржаўным і Камуністычным універсітэтах. У 1929 г. Гарэцкі стаўся чальцом толькі што заснаванай Акадэміі Навук Беларусі. Яго раманы і апавяданні выдаваліся вялікімі накладамі ў 1920-х гг. Разам з тым



*Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму, Мінск* *Фота: Ірына Кашталян*

яго заслугай было выданне беларуска-рускіх слоўнікаў і літаратуразнаўчых прац. Разам з Якубам Коласам ён лічыцца заснавальнікам сучаснай беларускай літаратуры. 18 ліпеня 1930 г. яго арыштавала ОГПУ. Ён быў абвінавачаны ў прыналежнасці да "Саюзу вызвалення Беларусі". Паводле рашэння вышэйшай калегіі ОГПУ ў Маскве ад 10 красавіка 1931 г. Гарэцкі быў высланы ў Вяцкую вобласць Расіі тэрмінам на пяць гадоў. Пасля сканчэння тэрміну высылкі ў 1935 г. ён не вярнуўся ў БССР, а працаваў у якасці выкладчыка ў Кіраве Калужскай вобласці (Расія). 4 лістапада 1937 г. Гарэцкі зноў быў арыштаваны НКВД. Суд (тройка) Смаленскай вобласці прысудзіў яго да смяронага пакарання за нібыта "контррэвалюцыйную дзейнасць", пасля чаго ён быў расстраляны 10 лютага 1938 г. у Вязьме. Максім Гарэцкі быў рэабілітаваны 15 лістапада 1957 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Максіму / Гарэцкаму /
класіку беларускай /
літаратуры /
да 100-годдзя з дня /
нараджэння /
18 лютага 1993 г.

**Месца знаходжання**
плошча Свабоды, Мінск

## Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму

***Мінск.*** Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму знаходзіцца на магіле гэтага вядомага беларускага гісторыка злева ад уваходу на мінскія вайсковыя могілкі. Ужо праз год пасля самазабойства Ігнатоўскага, якое ён здзейсніў пасля допыту ў ОГПУ, у сярэдзіне 1932 г.

на яго магіле быў устаноўлены сціплы помнік. З нагоды 110-й гадавіны з дня нараджэння У. Ігнатоўскага 19 красавіка 1991 г. помнік быў заменены новым, усталяванне якога ініцыявалі розныя арганізацыі, сярод якіх быў Інстытут гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. З таго часу магілу Ігнатоўскага ўпрыгожвае чырвоны гранітны помнік вышынёй два метры, на якім змешчаны яго выява і надпіс.

Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у Такарах, на тэрыторыі сённяшняй Брэсцкай вобласці. Ён рана стаўся староннікам сацыялістычна-рэвалюцыйных ідэй, што прывяло яго да выключэння з гістарычнага факультэту Санкт-Пецярбуржскага ўніверсітэту пасля рэвалюцыі 1905 г. Сваю вучобу ён скончыў толькі ў 1911 г. у Тарту. Да пачатку Першай сусветнай вайны Ігнатоўскі працаваў настаўнікам у Вільні і Мінску. У 1915 г. ён заснаваў аганізацыі “Наш Край” і “Маладая Беларусь”, якія займаліся вывучэннем беларускай гісторыі, звычаяў і культуры. Ігнатоўскі быў сябрам розных сацыял-рэвалюцыйных і сацыял-дэмакратычных партый, пасля распаду альбо забароны якіх у 1920 г. ён перайшоў у КП(б)Б or Камуністычную партыю бальшавікоў Беларусі. Ён належыў да айцоў-заснавальнікаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а ў 1920-х гг. браў удзел у працы па пабудове сацыялістычнай беларускай дзяржавы. З 1921 па 1926 гг. ён займаў пасаду міністра адукацыі БССР. У 1920-х гг. ён стаўся ідэолагам і пачынальнікам беларусізацыі. Асаблівыя заслугі Ігнатоўскі меў у справе стварэння Акадэміі Навук Беларусі, першым прэзідэнтам якой ён стаўся ў 1928 г. Адначасова ён кіраваў Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. Заслуга Ігнатоўскага ў галіне гістарычнай навукі палягае ў тым, што ён упершыню зрабіў спробу грунтоўнай перыядызацыі і інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі з нацыянальнага пункту гледжання. Тое, што ён надаваў асаблівую ўвагу нацыянальнаму аспекту, было выкарыстана супраць яго, калі палітыка беларусізацыі скончылася ў 1928/29 гг. У снежні 1929 г. з падачы партыйнага кіраўніцтва ў БССР была распачата кампанія супраць “нацыяналістаў” і “нацдэмаў”. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі абвінаваціў яго ў тым, што ён – “праваднік нацыянальна-дэмакратычнай контррэвалюцыі” і выключыў яго са сваіх шэрагаў. Цягам наступных тыдняў ОГПУ некалькі разоў арыштоўвала яго і кожнага разу прад’яўляла яму на допытах гэтыя абвінавачванні. Ігнатоўскі не вытрымаў ціску, які рабіўся на яго, і скончыў жыццё самагубствам 4 лютага 1931 г. ва ўласнай кватэры. На яго пахаванні на мінскіх Вайсковых могілках прысутнічала шмат калег з Акадэміі Навук Беларусі, многія з якіх пазней таксама былі арыштаваны і расстраляны. Яго жонка як “жонка ворагу народу” была выслана ў Казахстан у 1937 г., сыны Ігнатоўскага Юры і Валянцін былі расстраляны.

**Надпіс**

На беларускай мове

Першы / Прэзідэнт /
Беларускай / акадэміі / навук /
Нарком / асветы / БССР

Усевалад /
Макаравіч / Ігнатоўскі /
19. IV 1881 / 4. II. 1931

**Месца знаходжання**

Вайсковыя могілкі, вул. Міхайлава, Мінск

## Мемарыяльная дошка Усеваладу Ігнатоўскаму



*Мемарыяльная дошка Усеваладу Ігнатоўскаму Мінск (2007) Фота: Ірына Кашталян*

***Мінск.*** Мемарыяльная дошка Усеваладу Ігнатоўскаму была ўсталявана з нагоды 110-й гадавіны з дня яго нараджэння 19 красавіка 1991 г. Яна змяшчалася на знешнім баку сцяны будынку, дзе з канца 1920-х гг. знаходзілася сядзіба Інстытуту Беларускай Культуры (Інбелкульту), папярэдніка сённяшняй Акадэміі Навук. З 1925 г. Ігнатоўскі быў чальцом, а з 1927 г. – старшынём гэтай установы. Мемарыяльная дошка была ўсталявана намаганнямі розных арганізацый, а таксама паводле афіцыйнай пастановы тагачаснага кіраўніка рэспублікі Вячаслава Кебіча. Каб абараніць зробленую з бронзы шыльду ад вандалаў і крадзяжу, яе знялі, і цяпер яна захоўваецца ў самім будынку.

Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся 19 красавіка 1881 году ў Такарах, на тэрыторыі сённяшняй Брэсцкай вобласці. Ён рана стаўся прыхільнікам сацыялістычна-рэвалюцыйных ідэй, што прывяло яго да выключэння з гістарычнага факультэту Санкт-Пецярбуржскага ўніверсітэту пасля рэвалюцыі 1905 г. Сваю вучобу ён скончыў толькі ў 1911 г. у Тарту. Да пачатку Першай сусветнай вайны Ігнатоўскі працаваў настаўнікам у Вільні і Мінску. У 1915 г. ён заснаваў арганізацыі “Наш Край” і “Маладая Беларусь”, якія займаліся вывучэннем беларускай гісторыі, звычаяў і культуры. Ігнатоўскі быў чальцом розных сацыял-рэвалюцыйных і сацыял-дэмакратычных партый, пасля распаду альбо забароны якіх у 1920 г. ён перайшоў у КП(б)Б ог Камуністычную партыю бальшавікоў Беларусі. Ён належаў да айцоў-заснавальнікаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а ў 1920-х гг. браў удзел у працы па пабудове сацыялістычнай беларускай дзяржавы. З 1921 па 1926 гг. ён займаў пасаду міністра адукацыі БССР. У 1920-х гг. ён стаў ідэолагам і

пачынальнікам беларусізацыі. Асаблівыя заслугі Ігнатоўскі меў у справе стварэння Акадэміі Навук Беларусі, першым прэзідэнтам якой ён стаўся ў 1928 г. Адначасова ён кіраваў Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. Заслуга Ігнатоўскага ў галіне гістарычнай навукі палягае ў тым, што ён упершыню зрабіў спробу грунтоўнай перыядызацыі і інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі з нацыянальнага пункту гледжання. Тое, што ён надаваў асаблівую ўвагу нацыянальнаму аспекту, было выкарыстана супраць яго, калі палітыка беларусізацыі скончылася ў 1928/29 гг. У снежні 1929 г. з падачы партыйнага кіраўніцтва ў БССР была распачата кампанія супраць "нацыяналістаў" і "нацдэмаў". Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Беларусі абвінаваціў яго ў тым, што ён – "правадыр нацыянальна-дэмакратычнай контррэвалюцыі" і вы-ключыў яго са сваіх шэрагаў. Цягам наступных тыдняў ОГПУ некалькі разоў арыштоўвала яго і кожнага разу прад'яўляла яму на допытах гэтыя абвінавачванні. Ігнатоўскі не вытрымаў ціску, які аказваўся на яго, і скончыў жыццё самагубствам 4 лютага 1931 г. ва ўласнай кватэры. На ягоным пахаванні на мінскіх Вайсковых могілках прысутнічала шмат калег з Акадэміі Навук Беларусі, многія з якіх пазней таксама былі арыштаваны і расстраляны. Яго жонка як "жонка ворагу народу" была выслана ў Казахстан у 1937 г., сыны Ігнатоўскага Юры і Валянцін былі расстраляны.

**Надпіс**
На беларускай мове

У гэтым будынку ў /
1925–1930 гг. працаваў /
вядомы беларускі /
вучоны, старшыня Ін-та /
беларускай культуры, /
першы прэзідэнт /
Беларускай акадэміі /
навук / Ігнатоўскі /
Усевалад /
Макаравіч / 1881–1931 г. г.

**Месца знаходжання**
вул. Рэвалюцыйная 13, Мінск

## Мемарыяльная дошка Гаўрылу Гарэцкаму

***Мінск***. Мемарыяльная дошка Гаўрылу Гарэцкаму была ўсталявана ў 1989 г. на знешнім баку сцяны Акадэміі Навук Беларусі. Ініцыятыва ўсталявання дошкі зыходзіла ад супрацоўнікаў Акадэміі Навук, а ў першую чаргу ад работнікаў Інстытуту навук аб зямлі (сёння Інстытут геахіміі і геафізікі).

Гаўрыла Гарэцкі нарадзіўся 10 красавіка 1900 г. у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёну Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Яго брат Максім Гарэцкі быў вядомым беларускім пісьменнікам. Як і ён Гаўрыла Гарэцкі скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, дзе пасля працаваў з 1917 па 1919 гг. Пасля ён перасяліўся ва Уфімскую губерню, дзе пачаў працаваць геолагам. У 1920 г. ён пачаў вучобу ў сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, дзе заснаваў аб'яднанне беларускіх студэнтаў. З прычыны гэтай дзейнасці ў 1922 г. Гарэцкі ўпершыню трапіў у поле зроку дзяржбяспекі, якая арыштавала яго восенню таго ж году, аднак праз некалькі тыдняў зноў вызваліла. У верасні 1924 г. ён скончыў вучобу і ў наступным годзе перасяліўся ў Мінск,



*Мемарыяльная дошка Гаўрылу Гарэцкаму, Мінск* *Фота: Ірына Кашталян*

дзе выкладаў ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1928 г. ён стаўся чальцом Акадэміі Навук Беларусі. ОГПУ арыштавала яго 24 ліпеня 1930 г. па абвінавачванні ў прыналежнасці да антысавецкай "работніцка-сялянскай партыі". 30 мая 1931 г. судовая калегія ОГПУ БССР прысудзіла Гарэцкага да дзесяці гадоў зняволення ў лагерах. Да свайго вызвалення 5 кастрычніка 1934 г. ён адбываў прымусовыя работы на будаўніцтве Беламорскага каналу. У наступныя гады ён браў удзел у розных геалагічных экспедыцыях. З пачаткам масавага тэрору ў 1937 г. ён зноўку два разы арыштоўваўся НКВД, аднак не быў пакараны. Гарэцкі працягваў займацца навуковай дзейнасцю, а ў 1946 г. абараніў дысертацыю. Вынесены яму ў 1931 г. прысуд быў скасаваны 22 красавіка 1958 г. трыбуналам Беларускай вайсковай акругі. У 1965 г. яму вярнулі ўсе яго акадэмічныя званні. З 1969 па 1985 гг. Гарэцкі кіраваў аддзелам геалогіі Інстытута навук аб зямлі Акадэміі Навук Беларусі. У 1972 г. ён атрымаў ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі БССР. Памёр ён 20 лістапада 1988 г. ў Мінску.

**Надпіс**
На беларускай мове

У інстытуце геахіміі / і геафізікі АН БССР / з 1968 па 1988 г. г. працаваў / вядомы геолаг / заслужаны дзеяч / навукі БССР / акадэмік АН БССР /' Гаўрыла Іванавіч / Гарэцкі

**Месца знаходжання**
Інстытут геахіміі і геафізікі Нацыянальнай акадэмій навук Беларусі, вул. акадэміка В. Ф. Купрэвіча 7, Мінск

## Помнік Янку Купалу

*Мінск.* Помнік Янку Купалу знаходзіцца на ўваходзе ў аднайменны парк, які месціцца ў цэнтры Мінску. Напрыканцы 1980-хгг. тут праходзілі першыя публічныя акцыі ўшанавання памяці ахвяр сталінізму ў Беларусі. Выбітны паэт, любімы народам, на працягу ўсяго свайго жыцця знаходзіўся ў сталым канфлікце з партыяй і дзяржаўнай уладай, якія не маглі забараніць яго творы з прычыны яго шырокай вядомасці. Стаўленне да Купалы і яго творчасці ў Савецкім Саюзе ніколі не было пазбаўлена спрэчных момантаў. З гэтай прычыны яго помнік быў свядома абраны месцам правядзення публічных акцый, мэтай якіх было звяртанне ўвагі на злачынствы сталінізму ў Беларусі. Да сёння парк імя Янкі Купалы з'яўляецца месцам, адкуль пачынаюцца штогадовыя акцыі ўшанавання памяці ахвяр сталінізму ў Мінску. Парк імя Янкі Купалы быў закладзены ў працэсе адбудовы горада Мінска пасля Другой сусветнай вайны. Праз некаторы час у 1959г. адчыніўся мемарыяльны музей, які знаходзіцца на тэрыторыі, дзе стаяў дом паэта. Хаця ў той час парк ужо быў названы ў гонар Купалы, помніка паэту яшчэ не было. Толькі ў 1972г. з нагоды 90-й гадавіны з дня нараджэння паэта 7 ліпеня быў ўрачыста адкрыты помнік, які ўяўляе сабой вялікую статую, створаную скульптарамі Анатолем Анікейчыкам, Львом Гумілеўскім і Андрэем Заспіцкім паводле праекту архітэктараў Юрыя Градава і Леаніда Левіна.

Янка Купала, сапраўднае імя якога Іван Луцэвіч, нарадзіўся 7 ліпеня 1882г. у Вязынцы Вілейскага павету. Ён паходзіў са збяднелай шляхецкай сям'і, якая зарабляла сабе на жыццё, працуючы на арандаванай гаспадарцы. З-за таго, што бацькі часта мянялі месца жыхарства, Янкі Купала не змог атрымаць адпаведную школьную адукацыю. Пасля смерці бацкі ў 1902г. ён зарабляў на жыццё, беручыся за розныя працы, якія яму траплялiся. Разам з тым ён пачаў займацца і літаратурнай дзейнасцю. Пры дапамозе свайго сябра ён атрымаў месца бібліятэкара ў бібліятэцы навукоўца Барыса Даніловіча ў Вільні ў 1908г. У тым жа годзе выйшла першая невялікая кніга яго вершаў, якая адразу ж прынесла яму вядомасць. Некаторы час Янка Купала працаваў рэдактарам беларускай газеты "Наша Ніва", пасля чаго паехаў вучыцца ў Санкт-Пецярбуржскім універсітэце. Пасля сканчэння вучобы ў 1913г. ён вярнуўся ў Вільню, дзе працягнуў сваю дзейнасць у "Нашай Ніве". У пачатку Першай сусветнай вайны Купала быў пакліканы ў расійскую армію, з якой быў дэмабілізаваны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў 1919г. вярнуўся ў Мінск. У наступныя гады Купала ўзяў чынны ўдзел у стварэнні розных установ культуры ў новазаснаванай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Негледзячы на сваё пазітыўнае стаўленне да сацыялістычных ідэй, у 1920-я гг. ён захоўваў крытычную дыстанцыю да новых уладароў. Пасля заснавання таварыства вольных літаратараў "Мы" у 1921г. Купала ўпершыню трапіў у поле зроку ОГПУ. Таварыства было ліквідавана з-за сваёй неадпаведнасці генеральнай лініі партыі, а Купала атрымаў таўро "паэта-шавініста". Дзякуючы падтрымцы беларускай культуры падчас ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі Купала змог працягнуць сваю літаратурную дзейнасць і здабыў шырокую вядомасць. У 1925г. яму было



*Помнік Янку Купалу, Мінск* *Фота: Ірына Кашталян*

прысвоена ганаровае званне народнага паэта, а ў 1928 г. ён быў прыняты ў новазаснаваную Акадэмію Навук БССР. Летам 1930 г. Купала быў арыштаваны ОГПУ як "буржуазны нацыяналіст". Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да тайнай арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі". Пасля допытаў, якія доўжыліся некалькі тыдняў, 20 лістапада 1930 г., знаходзячыся ў турме, ён зрабіў спробу скончыць жыццё самагубствам. Пасля гэтага Купалу выпусцілі на волю, прымусіўшы публічна пакаяцца ў прэсе за "памылкі", зробленыя ім у сваіх творах, якія выйшлі раней. Тым часам яго маці і сястру пазбавілі ўласнасці падчас правядзення калектывізацыі ў галіне сельскай гаспадаркі. У сваіх творах, якія былі апублікаваны ў наступныя гады, Купала спрабаваў прытрымлівацца афіцыйных установак. У 1934 г. яго пынялі ва Усесаюзны саюз пісьменнікаў. Негледзячы на гэта, Купала заставаўся пад наглядам дзяржбяспекі, якая спрабавала арыштаваць яго ў 1937 г., але гэтым разам гэта спроба не мела поспеху. Перад нападам Германіі на Савецкі Саюз ён з'ехаў ў Маскву, дзе правёў апошнія месяцы свайго жыцця. Ён памёр у Маскве 28 чэрвеня 1942 г. пры дагэтуль невысветленых абставінах. Купала знайшоў спачын на Ваганькаўскіх могілках у Маскве, а ў 1962 г. урна з яго прахам была перапахавана на Вайсковых могілках у Мінску.

**Месца знаходжання**
Парк імя Я. Купалы, Мінск



*Крыж ахвярам гвалту 1939–1953, Баранавічы* *Фота: Руслан Равяка*

# ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ

## БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### Крыж ахвярам гвалту 1939–1953

***Баранавічы.*** Першы мемарыяльны крыж ахвярам палітычнага пераследу быў усталяваны напрыканцы 1989 г. перад будынкам тагачаснай адміністрацыі раёну на бульвары Хейнола. Гэта месца было абрана з-за яго сімвалічнага значэння. Лічылася, што тут знаходзяцца магілы ахвяр савецкай акупацыі 1939–1941 гг. Адсюль быў таксама бачны будынак, дзе знаходзіўся Баранавіцкі акруговы камісарыят, адкуль з 1941 па 1944 гады адбывалася кіраванне палітыкай вынішчэння, што праводзілася немцамі. Згодна з пастановай Баранавіцкага гарсавета крыж быў прыбраны ў 1991 г., бо гарсавет быў супраць ўшанавання памяці ахвяр савецкіх злачынстваў. Пасля пратэстаў грамадскасці ў якасці кампрамісу для крыжа было вызначана новае месца ў скверы паміж вуліцамі Дзяржынскага і Смаленскай. Замест ранейшага драўлянага крыжа быў усталяваны шасціметровы металічны крыж, на якім змешчаны цярновы вянец і надпіс.

Да пачатку Другой сусветнай вайны горад Баранавічы (польск.: Baranowicze) уваходзіў у склад Польшчы. У верасні 1939 г. Чырвоная Армія заняла горад, які ў адпаведнасці з пактам Молатава-Рыбентропа ад гэтага моманту належаў да Савецкага Саюзу. Адразу пасля прыходу савецкіх войск пачаліся арышты і дэпартацыі былой польскай сацыяльнай і палітычнай эліты. Перш за ўсё гэтыя рэпрэсіі закранулі палякаў і габрэяў, якія жылі ў горадзе. З 1939 па 1940 гг. з Баранавіцкай вобласці ў Сібір і Казахстан было выслана больш за 29 000 чалавек. Перад нападам Германіі на Савецкі Саюз у сярэдзіне чэрвеня было дэпартавана больш за тысячу чалавек. Галоўным чынам гэта былі габрэйскія ўцекачы з занятых нямецкім войскам абшараў. НКВД мела ў горадзе турму папярэдняга следзтва, у якой можна было размясціць каля 500 вязняў. У пачатку лета 1941 г. там было зняволена больш за тысячу чалавек. Хаця турму павінны былі эвакуяваць 23 чэрвеня 1941 г. з прычыны наступу нямецкіх войск, гэтай акцыі перашкодзіла бамбаванне гораду, таму вязні змаглі ўцячы. 27 чэрвеня 1941 г. нямецкія войскі занялі горад. У Баранавічах было створана гета. Амаль што ўсе 10 000 габрэяў, якія жылі ў горадзе да вайны, сталіся ахвярамі Халакосту. На фоне палітыкі тэрору, якую праводзілі немцы, пачынаючы з 1942/43 гг. распачаўся моцны рух су-

праціву, які ладзіўся перш за ўсё Арміяй Краёвай і савецкімі партызанамі. Пасля вызвалення Баранавічаў летам 1944 г. зноў пачаліся рэпрэсіі супраць мясцовага насельніцтва. У першую чаргу да другой паловы 1940-х гг. вялі баі з савецкімі сіламі бяспекі аддзелы Арміі Краёвай. Побач з імі ў Баранавіцкай вобласці таксама дзейнічалі беларускія групы супраціву. У будынку турмы, які падчас нямецкай акупацыі выкарыстоўваўся ў якасці вайсковай школы, НКВД зноўку зрабіла турму, якая была закрыта толькі ў сярэдзіне 1950-х гг.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам гвалту 1939–1953

**Месца знаходжання**
у парку, паміж вул.
Дзяржынскага
і Смаленскай, Баранавічы,
Брэсцкая вобласць

## Помнік ахвярам рэпрэсій жыхарам Брэстчыны

***Брэст.*** У дзень памяці ахвяр палітычнага пераследу, 30 кастрычніка 1993 гг. брэсцкай суполкай Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій і яе старшынём Мікалаем Левашкевічам быў адкрыты мемарыяльны знак ахвярам палітычнага пераследу з Брэста і ваколіцаў. Помнік, які ўяўляе сабой дзевяціметровую бетонную канструкцыю з праваслаўным крыжам па-над ёй, знаходзіцца на гарадзкіх Трышынскіх могілках. Помнік, які спраектавалі А. Кітлер і Уладзімер Харсюк, мае на левым баку выяву жанчыны, што стаіць на каленях, а на правым – надпісы на рускай і беларускай мовах. Фінансаванне помніка ажыццяўлялася са сродкаў брэсцкай гарадзкой адміністрацыі, а таксама шляхам ахвяраванняў.

Да пачатку Другой сусветнай вайны горад Брэст (да 1921 г. Брэст-Літоўск) уваходзіў у склад Польшчы. Пасля нападу Германіі на Польшчу ў верасні 1939 г. нямецкія войскі занялі горад у сярэдзіне таго ж месяца. Выконваючы дамоўленасць аб межах, якія былі вызначаны паводле пакту Молатава-Рыбентропа, немцы сышлі у канцы верасня 1939 г., пасля чаго ў горад увайшлі савецкія войскі. Адразу пасля змены ўлады пачалося стварэнне новай адміністрацыі, а таксама пераслед былой палітычнай і сацыяльнай эліты. НКВД стварыла ў горадзе самую вялікую турму на тэрыторыі заваяванай Заходняй Беларусі. Хаця яна была разлічана на 2680 вязняў, у чэрвені 1941 г. тут змяшчалася каля 4000 чалавек. Разам з арыштамі НКВД таксама праводзіла маштабныя дэпартацыі. З мэтай выдалення ўсіх варожых “элементаў” толькі ў 1940 г. з тагачаснай Брэсцкай вобласці на ўсход было выслана больш за 15.000 чалавек. Падчас нападу Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. у горадзе, які знаходзіўся непасрэдна ля дэмаркацыйнай лініі, адбываліся цяжкія баі. Калі восенню 1944 г. савецкія войскі вызвалілі горад ад немцаў, дзяржбяспека зноўку пачала арыштоўваць і адпраўляць у лагеры ГУЛАГу тысячы людзей. Агульная лічба ахвяр сталінскіх рэпрэсій дагэтуль невядомая.

**Надпіс**
На беларускай і рускай мовах

Вечная памяць /
ахвярам палітычных рэпрэсій, якія /
бязвінна загінулі ў турмах, лагерах, /
ссылках, рудніках, лесапавалах, /
прыісках ГУЛАГа./
Опять поминальный приблизился час /
Я вижу, я слышу, я чувствую Вас … /
Хотелось бы всех поимённо назвать /
Да отняли списки и негде узнать. /
«Реквием» А. Ахматова.

**Месца знаходжання**
вул. Маскоўская,
Трышынскія могілкі, Брэст,
Брэсцкая вобласць

## Могілкі салдатаў Булак-Булаховіча

***Брэст.*** Месца пахавання салдат Булак-Балаховіча было закладзена на Брэсцкіх вайсковых могілках у 1920 г., калі ў горадзе знаходзіўся лазарэт войск генерала-удзельніка грамадзянскай вайны Станіслава Булак-Балаховіча (польск.: Stanisław Bułak-Bałachowicz), які змагаўся з Чырвонай Арміяй на чале сваіх аддзелаў. Палеглых салдат хавалі паасобку ці ў брацкіх магілах, якія пазначаліся каменнымі крыжамі. Пасля



*Помнік ахвярам рэпрэсій жыхарам Брэстчыны, Брэст* *Фота: Валянціна Вяргей*

дэмабілізацыі арміі Булак-Балаховіча ў 1921 г. месца пахавання было далучана да польскіх вайсковых могілак, за ім працягваў ажыццяўляцца догляд. Пасля заняцця Усходняй Польшчы ў 1939 г. і далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюзу ўшаноўваць памяць гэтых аддзелаў забаранялася, таму пасля Другой сусветнай вайны пра могілкі забыліся. Толькі напрыканцы 1980-х гг. чальцы брэсцкай суполкі ахвяр палітычных рэпрэсій зацікавіліся гісторыяй "балахоўскіх могілак". Старшыня мясцовай суполкі Мікалай Левашкевіч пачаў разам з іншымі вывучаць біяграфіі пахаваных тут салдат. У 1991 г. польская арганізацыя з Белай Падляскі (Польшча) пачала ажыццяўляць догляд за могілкамі. Пры гэтым ёй аказвалі дапамогу прадстаўнікі польскай меншасці ў Беларусі і яе арганізацыя. У выніку праведзеных работ у 1992 г. былі адноўлены некаторыя з моцна пашкоджаных надмагільных крыжоў. У цэнтры могілак быў усталяваны шасціметровы памятны крыж, а побач з ім – камень. З нагоды 82-й гадавіны Слуцкага збройнага чыну, а таксама на ўспамін аб Палескім паходзе войска Булак-Балаховіча ў 1920/21 гг. 1 снежня 2002 г. злева і справа ад крыжа былі ўсталяваны два новых камяні.

Пасля распаду абвешчанай у сакавіку 1918 г. падчас нямецкай акупацыі Беларускай Народнай Рэспублікі яе ўрад уцёк ад Чырвонай Арміі за мяжу і працягнуў там свае высілкі па стварэнні незалежнай беларускай дзяржавы. Восенню 1919 г. кіраўнік вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Эстоніі Канстанцін Езавітаў звязаўся са Станіславам Булак-Балаховічам. Булак-Балаховіч меў пад сваім камандаваннем дабраахвотніцкую армію, якая да таго змагалася з бальшавікамі ў складзе войскаў генерала Юдзеніча. Падчас грамадзянскай вайны войскі Булак-Балаховіча шмат разоў пераходзілі з аднаго боку на другі і былі вядомы дзякуючы сваёй бескампраміснай партызанскай барацьбе, якая часта суправаджалася габрэйскімі пагромамі. Па ініцыятыве Езавітава Булак-Балаховіч падпарадкаваўся ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанни. Адначасова Булак-Балаховіч звязаўся з польскім галоўнакамандуючым Юзафам Пілсудскім і дамогся пераброскі парэшткаў сваёй арміі з Эстоніі ў Брэст. Там цягам наступных тыдняў пад польскае камандаванне перайшла Першая беларуска-літоўская дывізія, якая складалася галоўным чынам з дабраахвотнікаў і чальцоў розных ваенізаваных падпольных арганізацый. Падчас наступу Чырвонай Арміі на Польшчу ў 1920 г. яе аддзелы паспяхова змагаліся з бальшавіцкімі войскамі. Вызваленне Пінску ў верасні 1920 г. было найвышэйшым пунктам вайсковай кар'еры Булак-Балаховіча, што прынесла яму і яго войскам шырокую вядомасць. Пасля заканчэння палескага паходу ў лістападзе 1920 г. яго войска падлягала дэмабілізацыі пад ціскам Польшчы і заходніх краін. Перад гэтым паміж Польшчай і Савецкім Саюзам пачаліся мірныя перамовы, якія былі прэлюдыяй да завяршэння савецка-польскай вайны. Булак-Балаховіч не згадзіўся з гэтымі патрабаваннямі і працягнуў змаганне супраць Чырвонай Арміі. Ён зноў пайшоў на альянс з беларускім урадам у выгнанні і прадаставіў у яго распараджэнне ў кастрычніку-лістападзе дабраахвотніцкае войска, якое налічвала некалькі тысяч чалавек. У сярэдзіне кастрычніка быў зас-




*Могілкі салдатаў Булак-Булаховіча, Брэст* *Фота: Марыюш Проскень*

наваны Беларускі нацыянальны камітэт, які складаўся з Вячаслава Адамовіча, Паўла Алексюка і Радаслава Астроўскага. З дапамогай войскаў Булак-Балаховіча ён спадзяваўся стварыць беларускую дзяржаву. У лістападзе 1920 г. дабраахвотніцкае войска моцаю ў амаль што дзесяць тысяч чалавек распачало наступ на тэрыторыю Беларусі, занятую савецкімі войскамі. Пасля заняцця Гомеля і Рэчыцы 10 сакавіка 1921 г. Булак-Балаховіч абвясціў у Мазыры аб стварэнні незалежнай беларускай рэспублікі. З чальцоў нацыянальнага камітэту быў створаны ўрад, які аднак застаўся ўрадам толькі на паперы. З прычыны колькаснай перавагі Чырвонай Арміі яго войскі змушаны былі адысці напрыканцы лістапада 1920 г. у кірунку Польшчы, дзе яны былі раззброены і інтэрнаваны 28 лістапада 1920 г. Войска фармальна існавала да заключэння Рыжскага мірнага дагавору ў сакавіку 1921 г., пасля чаго было дэмабілізавана. Булак-Балаховіч перасяліўся ў Варшаву, дзе ў 1940 г. быў пакараны смерцю нямецкім гестапа.

**Надпісы**
На польскай і беларускай мовах

Cmentarz / wojenny /
żołnerzy / polskich / 1920 rok
Тут спачываюць /
беларускія жаўнеры /
войска генерала /
С. Булак-Булаховіча.

Яны ішлі / паміраць / за волю /
Бацькаўшчыны

**Месца знаходжання**
на вайсковых могілках, Брэст,
Брэсцкая вобласць

## Надмагільны помнік святару Вінцэнту Латарэвічу

***Ішкалдзь.*** Надмагільны помнік Вінцэнту Латарэвічу (польск.: Wincenty Łotarewicz) знаходзіцца побач з касцёлам Найсвяцейшай Тройцы ў Ішкалдзі. Чорны гранітны камень з чатырохканцовым крыжам быў усталяваны парафіянамі напачатку 1920-х гг. у якасці сімвалічнага месца супакою польскага ксяндза.

Вінцэнт Латарэвіч нарадзіўся 22 красавіка 1886 г. Пасля сканчэння вучобы ў санкт-пецярбуржскай духоўнай семінарыі ён стаўся вікарыем у Слуцку, а затым з 1915 г. – у Пінску. У 1919 г. Латарэвіч стаўся пробашчам каталіцкай парафіі ў Ішкалдзі (польск.: Iszkołdź). Падчас наступу Чырвонай Арміі вясной таго ж году ён быў арыштаваны бальшавікамі разам з іншымі і змешчаны ў турму мястэчка Мір, якое знаходзілася непадалёк. Там Латарэвіч быў расстраляны 19 сакавіка, а яго цела пахавана ў невядомым месцы.



*Надмагільны помнік святару Вінцэнту Латарэвічу, Ішкалдзь*
*Фота: Марыюш Проскень*

**Надпіс**
На польскай мове

Ksiądz Wincenty Łotarewicz / Żyl lat
38. Zamordowany przez wrogów Kościola
19. marca 1919 w zamku Mirskim
Ксёндз Вінцэнт Латарэвіч. Пражыў 38 гадоў. Забіты ворагамі касцёла 19 сакавіка 1919 г. у Мірскім замку

**Месца знаходжання**
Ішкалдзь, Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

## Крыж памяці ахвярам дэпартацый 1940 г.

***Новая Мыш.*** Крыж памяці ахвярам дэпартацый 1940 г. быў усталяваны ў 1989 / 90 гг. побач з уваходам у каталіцкі храм дадзенага населенага пункту. Драўляны крыж з'явіўся дзякуючы старанням тагачаснага пробашча Валянціна Новака (польск.: Walentyn Nowak), падтрыманага жыхарамі вёскі. Усталяванне крыжа не было дазволена ўладамі, таму ён стаўся прадметам спрэчак і канфліктаў. Для абароны ад пашкоджанняў пазней ён быў перанесены да сцяны храму, дзе знаходзіцца і па сёння. Чатырохметровы драўляны крыж не мае ніякага надпісу.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі на ўсходнія польскія тэрыторыі ў верасні 1939 г. мястэчка Новая Мыш (польск.: Nowa Mysz) было далучана да БССР. Непасрэдна пасля яго заняцця савецкімі войскамі пачаўся пераслед палітычнай і сацыяльнай эліт. У горадзе, населеным пераважна палякамі і габ-



*Касцёл, Новая Мыш* *Фота: Марыюш Проскень*

рэямі, гэтыя дзве групы насельніцтва сталіся тымі, хто прыняў галоўны цяжар праследу. Вясной 1940 г. савецкае дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва прыняла пастанову пра масавую дэпартацыю меркаваных ворагаў новых уладароў. НКВД было даручана правесці гэтую акцыю. Першая дэпартацыя, якая адбылася напачатку 1940 г., закранула перадусім польскіх асаднікаў, якія ў міжваенным часе пасяліліся на тагачасных усходніх абшарах. Праз тры месяцы былі сабраны і высланы на ўсход перш за ўсё чальцы сем'яў тых, хто быў арыштаваны ці знаходзіўся ў савецкім палоне. Апошняя дэпартацыя, якая была праведзена ў чэрвені-ліпені 1940 г. закранула ў першую чаргу ўцекачоў, якія перабраліся ў Савецкі Саюз з занятых немцамі тэрыторый. З ўсёй тагачаснай Баранавіцкай вобласці, да якой адносілася і Новая Мыш, паводле дакументаў савецкай дзяржбяспекі былі дэпартаваны 29.113 чалавек. Дэпартаваныя траплялі ў спецпасяленні на поўначы Расіі, у Казахстан альбо ў лагеры ГУЛАГу. Шмат хто з іх не пераЖЫЎ высылкі. Толькі напрыканцы 1940-х гг. некаторыя з іх вярнуліся на радзіму.

**Месца знаходжання**

Касцёл Аб'яўлення Панскага, Новая Мыш, Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

## Помнік Сямёну Дубовіку

***Рэчыца.*** Помнік Сямёну Дубовіку быў усталяваны ў 1970-х гг. у горадзе, дзе нарадзіўся гэты беларускі партыйны дзеяч. Бронзавы бюст Дубовіка ўзвышаецца на амаль што двухметровым пастаменце, які змяшчае прысвечаны

яму надпіс. Невялікі помнік абкружаны невысокай агароджай, дэталямі якой з'яўляюцца стылізаваныя штыхі.

Сямён Дубовік нарадзіўся 16 лютага 1888 г. у вёсцы Нароўшчына, якая сёння ўваходзіць у склад Рэчыцы, у сям'і селяніна. У 1909 г. ён пераехаў у ЗША, аднак з-за ўдзелу ў рэвалюцыйнай дзейнасці разам з іншымі рускімі эмігрантамі быў высланы ва Уладзівасток. Там яго арыштавала руская паліцыя. Дубовіку пашчасціла ўцячы, а ў 1912 г. ён нелегальна трапіў на ленскія залатыя прыіскі, дзе стаўся сведкам падаўлення хваляванняў працоўных царскімі войскамі. Ён зноў здолеў уцячы, а затым пасяліўся ў Маскве, дзе ўступіў у Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю. У 1914 г. Дубовік зноў быў арыштаваны па абвінавачанні ў сацыялістычнай прапагандзе, а ў 1917 г. выступаў супраць Часовага ураду. Яму пагражала высылка, якую перадухіліла Кастрычніцкая рэвалюцыя. З пачаткам грамадзянскай вайны ён служыў у якасці палiткамісара на розных франтах заходняга тэатру вайсковых дзеянняў, а з пачаткам савецка-польскай вайны быў прызначаны камандзірам розных бальшавіцкіх партызанскіх злучэнняў на тэрыторыі сённяшняй Заходняй Беларусі. Пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору ў 1921 г. па даручэнні Камінтэрну Дубовік быў накіраваны па польскія тэрыторыі, дзе ў якасці сувязнога паміж Польскай камуністычнай партыяй і Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі павінен быў арганізоўваць падпольную працу. У 1923 г. Дубовік быў прызначаны кіраўніком Брэсцкага абласнога камітэту КПЗБ. Польскія ўлады арыштавалі Дубовіка 6 ліпеня 1924 г. і засудзілі яго да чатырох гадоў зняволення. Пасля вызвалення ён перасяліўся ў БССР, дзе працаваў у Цэнтральным камітэце Камуністычнай партыі Беларусі ў якасці прадстаўніка КПЗБ. У 1932 г. Дубовік быў пазбаўлены пасадаў і высланы ў Алтайскі край, дзе знайшоў працу ў якасці рэдактара газеты "Палярная зорка". 21 жніўня 1937 г. яго арыштавала НКВД і 18 кастрычніка 1937 г. засудзіла па абвінавачанні ў меркаванай контррэвалюцыйнай прапагандзе да пакарання смерцю. Пры-



*Помнік Сямёну Дубовіку, Рэчыца*
*Калекцыя Ірыны Кашталян*

суд быў выкананы 28 кастрычніка 1937 г. Прысуд Сямёну Дубовіку быў скасаваны Ваенным трыбуналам Сібірскай вайсковай акругі ў 1957 г.

**Надпіс**
На рускай мове

Дубовик / Семен / Андреевич / Родился 4 февраля 1888 г. / в д. Наровщина Речицкого / сельсовета, / Член РСДРП с 1912 г. / партбилет № 208 619 / Участник Октябрьской / Революции, / комиссар Красной Армии / в годы Гражданской Войны, / один из создателей / Компартии / Западной Белоруссии, / избран первым секретарем / первого состава / Брестского / окружкома КПЗБ / (март 1923 г.)

Дубовік Сямён Андрэевіч нарадзіўся 4 лютага 1888 г. у вёсцы Нароўшчына Рэчыцкага сельсавета, член РСДРП з 1912 г., партбілет № 208619. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, камісар Чырвонай Арміі ў гады Грамадзянскай вайны, адзін са стваральнікаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, быў абраны першым сакратаром першага складу Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ (сакавік 1923 г.)

**Месца знаходжання**
Рэчыца, Камянецкі раён,
Брэсцкая вобласць

## Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму

***Такары***. Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму быў урачыста адкрыты 21 верасня 2005 г. у месцы нараджэння гэтага беларускага гісторыка. На пафарбаваным у чорны колер пастаменце ўзвышаецца валун чырвонага колеру, на якім замацавана шыльда з выявай Ігнатоўскага і прысвечаным яму надпісам.

Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у Такарах, якія сёння знаходзяцца на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. Ён быў прыхільнікам сацыяльна-рэвалюцыйных ідэй, што прывяло яго да выключэння з гістарычнага факультэту Санкт-Пецярбуржскага ўніверсітэту пасля рэвалюцыі 1905 г. Сваю вучобу ён змог скончыць толькі ў 1911 г. у Тарту. Да пачатку Першай сусветнай вайны Ігнатоўскі працаваў настаўнікам у Вільні і Мінску. У 1915 г. ён заснаваў арганізацыі “Наш край” і “Маладая Беларусь”, якія займаліся даследваннем беларускай гісторыі, культуры і звычаяў. Ігнатоўскі быў чальцом розных сацыял-рэвалюцыйных і сацыял-дэмакратычных партый, пасля распаду ці забароны якіх у 1920 г. ён уступіў у КП(б)Б ці Камуністычную партыю бальшавікоў Беларусі. Ігнатоўскі быў адным з айцоў-заснавальнікаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а ў 1920-х гг. браў удзел у пабудове сацыялістычнай беларускай дзяржавы. З 1921 па 1926 гг. ён займаў пасаду міністра асветы БССР. У 1920-х гг. ён стаўся ідэолагам і пачынальнікам палітыкі беларусізацыі. Асаблівыя заслугі ён здабыў падчас стварэння Акадэміі Навук Беларусі, першым прэзідэнтам якой ён быў абраны ў 1928 г. Адначасова ён кіраваў Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. Заслуга Ігнатоўскага ў галіне гістарычнай навукі палягае ў тым, што ён упершыню зрабіў спробу грунтоўнай перыядызацыі і інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі з нацыянальнага пункту гледжання. Тое, што ён надаваў асаблівую ўвагу нацыянальнаму аспекту, было выкарыстана супраць яго, калі



*Помнік Усеваладу Ігнатоўскаму, Такары* *Фота: Наталля Лісейчыкава*

палітыка беларусізацыі скончылася ў 1928/29 гг. У снежні 1929 г. з падачы партыйнага кіраўніцтва БССР была ініцыявана кампанія супраць "нацыяналістаў" і "нацдэмаў". Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Беларусі абвінаваціў яго ў тым, што ён быў "правадыром нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі", і выключыў яго са сваіх шэрагаў. Цягам наступных тыдняў НКВД некалькі разоў арыштоўвала яго, абвінавачваючы на допытах у вышэйзгаданых правінах. Ігнатоўскі не вытрымаў ціску, які аказваўся на яго, і 4 лютага 1931 г. у сваёй кватэры скончыў жыццё самагубствам. На яго пахаванні на Мінскіх вайсковых могілках прысутнічала шмат калег з Акадэміі Навук Беларусі, многія з якіх пазней таксама былі арыштаваны і расстраляны. Яго жонка была выслана ў 1937 г. як "жонка ворагу народу" у Казахстан, а сыны Ігнатоўскага Юры і Валянцін былі расстраляны.

**Надпіс**
На беларускай мове

У в. Такары / нарадзіуся / знакаміты / вучоны- /

гісторык / дзяржауны і грамадскі /
дзеяч Беларусі. /
1920 г. – наркам земляробства /
1921 г. па 1926 г. – наркам / асветы БССР. /
Першы прэзыдент Беларускай /
Акадэміі навук. /
Ігнатоўскі /
Усевалад Макаравіч /
1881–1931

**Месца знаходжання**
Такары, Камянецкі раён,
Брэсцкая вобласць

## Помнік польскім ахвярам нямецкай і савецкай агрэсіі

*Кобрын*. На на могілках у двары касцёла ўспення Дзевы Марыі ў Кобрыне (polnisch: Kobryń) 13 верасня 2008 г. былі пахаваны парэшткі 55 польскіх вайскоўцаў і цывільных асоб, якія загінулі ў верасні 1939 г. Парэшткі памерлых былі пахаваны па ініцыятыве польскай "Рады па ўшанаванні ахвяраў і пакутнікаў" з удзелам беларускіх узброеных сіл. Падобным чынам былі перапахаваны парэшткі 13 польскіх жаўнераў, безыменныя магілы якіх да гэтага знаходзіліся на каталіцкіх могілках гораду. Усе яны загінулі 17–18 верасня 1939 г. у баях з нямецкімі войскамі. Акрамя таго, адбылася эксгумацыя парэшткаў 42 асоб з брацкай магілы паблізу вёскі Падзяменне (польск.: Podziemienie). На гэтым месцы былі забіты польскія вайскоўцы і цывільныя асобы пасля прыходу Чырвонай Арміі. Тут таксама былі пахаваны парэшткі генерала Станіслава Салагуб-Давойны (польск.: Sołohub-Dowoyno), які падчас савецкай акупацыі выступіў супраць рабаванняў, а затым быў расстраляны непадалёк ад свайго дому ў Зёлаве (польск.: Ziołowo) 26 верасня 1939 г.

**Месца знаходжання**
перад касцёлам, вул. Першамайская, 80, Кобрын, Брэсцкая вобласць

## Мемарыяльнае пахаванне сям'і Мілачэўскіх

*Кобрын.* На каталіцкіх могілках Кобрына (польск.: Kobryn) у 1990-х гг. была ўсталявана сімвалічная магіла сям'і Мілачэўскіх (польск.: Miłaczewski). Яна нагадвае пра тых чальцоў сям'і, якія былі арыштаваны альбо загінулі пасля заняцця Усходняй Польшчы Чырвонай Арміяй у верасні 1939 г. Мілачэўскія належылі да старажытнага шляхецкага роду і мелі ў гэтай мясцовасці буйныя землеўладанні. Надмагільны помнік з чорнага каменю мае форму простакутніка і ўзвышаецца на месцы, дзе знаходзіцца чатырохканцовы крыж. Ён быў усталяваны сваякамі.

**Надпіс**
На польскай мове

Władysław Miłaczewski, 1901–1940,
właściciel majątku Zaderć, porucznik
25. pułku Ułanów, kawaler orderu Virtuti
Militari, oraz Krzyża Walecznych. Aresztowany
we wrześniu 1939 r. przez NKWD.
Zaginął. Grób symboliczny.
Bolesław Miłaczewski, 1902–1940?,
właściciel majątku Bulkowo.
Aresztowany 18. 09. 1939 przez NKWD.
Zaginął. Grób symboliczny.
Janina z Polubińskich Miłaczewska,
1873–1940, właścicielka majątku Stara Wieś
Konstantyn Miłaczewski, 1903–1940,
właściciel majątku Stara Wieś




*Мемарыяльнае пахаванне сям'і Мілачэўскіх, Кобрын* *Фота: Марыюш Проскень*

Уладыслаў Мілачэўскі, 1901–1940, уладальнік маёнтку Задзерць, паручнік 25-га ўланскага палка, кавалер ордэну Virtuti Militari, а таксама Крыжа за адвагу. Арыштаваны НКВД у верасні 1939 г. Знік. Сімвалічная магіла.
Баляслаў Мілачэўскі, 1902–1940?, уладальнік маёнтку Булькава, арыштаваны НКВД 18.09.1939 г. Знік. Сімвалічная магіла.
Яніна з Палюбінскіх Мілачэўская, 1873–1940, уладальніца маёнтка Старая Весь
Канстанцін Мілачэўскі, 1903–1940, уладальнік маёнтка Старая Весь

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках, Кобрын, Брэсцкая вобласць

## Мемарыяльнае пахаванне Вацлава Пянткоўскага

Мядзведзічы. На каталіцкіх могілках вёскі Мядзведзічы (польск.: Niedzwiedzica) у 1990-х гг. была ўсталявана сімвалічная магіла каталіцкага святара Вацлава Пянткоўскага. Абеліск з чорнага паліраванага граніту, які складаецца з двух частак, мае надпісы, прысвечаныя Пянткоўскаму. Магіла абкружана невысокай агароджай. Па-над ёй узвышаецца вялікі чатырохканцовы крыж. Магіла была створана парафіянамі.

Вацлаў Пянткоўскі нарадзіўся 21 красавіка 1902 г. у Ясінаўцы (Польшча). У 1926 г. ён паступіў у Пінскую духоўную семінарыю, дзе праз пяць гадоў быў высвечаны на святара. Да пачатку Другой сусветнай вайны ён апекаваўся парафіямі ва Усходняй Польшчы. Падчас савецкай і нямецкай акупацый Пянткоўскі выконваў святарскую паслугу ў Брэсце. Пасля сканчэння вайны ў 1945 г. і канчатковага далучэння Усходняй Польшчы да Савецкага Саюзу Пянткоўскі быў прызначаны генеральным вікарыем Пінскай дыяцэзіі 31 снежня 1946 г. Ён і надалей выконваў паслугу каталіцкага святара ў розных парафіях. З 1948 г. ён быў пробашчам парафіі ў Мядзведзічах, дзе 20 студзеня 1950 г. быў арыштаваны МГБ. Праз абласную вязніцу ў Баранавічах ён быў дастаўлены ў мінскую цэнтральную турму. Яго абвінавацілі ў настройванні парафіі супраць калектывізацыі і шпіянажы на карысць Ватыкану. 21 кастрычніка 1950 г. Пянткоўскі быў прысуджаны да пакарання дзесяццю гадамі зняволення ў працоўна-папраўчых лагерах, якое адбыў у Казахстане. Вясной




*Мемарыяльнае пахаванне Вацлава Пянткоўскага, Мядзведзічы* *Фота: Марыюш Проскень*

1956 г. ён быў вызвалены датэрмінова як інвалід, яму дазволілі вярнуцца ў Мядзведзічы. Ён таксама атрымаў дазвол ад уладаў выконваць паслугу пробашча парафіі. У 1970-х гг. Пянткоўскі патаемна арганізоўваў у Мядзведзічах тэалагічныя і філасофскія семінары. Ён памёр 30 лістапада 1991 г. Вацлаў Пянткоўскі быў рэабілітаваны паводле пастановы Брэсцкай абласной пракуратуры 23 лістапада 1994 г.

**Надпіс**
На польскай мове

D. O. M. Ksiądz Infułat
Wacław Piątkowski,
21. IV. 1902–30. XI. 1991.
Wikariusz Generalny Diecezij Pinskej,
wieloletni więzień GUŁAGu,
obrońca wiary i Kościoła,
wychowawca wielu kapłanów.
Długoletni proboszcz parafii w
Niedzwiedzice – Dopoczywaj w Panu,
nauczycielu

D. O. M. ксёндз інфулат Вацлаў Пянткоўскі,
21. IV. 1902–30. XI. 1991. Генеральны
вікарый Пінскай дыяцэзіі, шматгадовы
вязень ГУЛАГу, абаронца веры і Касцёла,
Выхавальнік вялікай колькасці капланаў.
Шматгадовы пробашч парафіі ў
Мядзведзічах. Спачывай ў Бозе,
настаўнік

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках,
Мядзведзічы, Ляхавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

## Памятны крыж ахвярам з Пінскай турмы

*Вулька*. Памятны крыж ахвярам з Пінскай турмы быў усталяваны ў 1992 г. у лесе злева ад дарогі на Сошну паблізу вёскі Вулька. Усталяванне адбылося паводле ініцыятывы пінскай суполкі Мартыралога Беларусі, якая таксама ажыццявіла фінансаванне гэтай справы. Асаблівы ўдзел ва ўсталяванні ўзяў гісторык Аляксей Дуброўскі. Драўляны чатырохканцовы крыж вышынёй тры метры быў знішчаны невядомымі прыкладна ў 2004 г. Сёння па-над брацкай магілай узвышаецца шасціканцовы драўляны крыж, усталяваны з дазволу мясцовых улад дзесці ў 2008 г.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу ў выніку пакту Молатава-Рыбентропа ў 1939 г. Пінск стаўся цэнтрам новастворанай адміністратыўнай адзінкі. Савецкая дзяржбяспека пераняла вязніцу, якая фармальна была разлічана на 500 вязняў. Паводле афіцыйных дадзеных у сярэдзіне чэрвеня 1941 г. тут знаходзіліся 511 вязняў. Незадоўга перад нападам Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. у Пінскай вобласці былі арыштаваны 2662 чалавекі – большай часткай прадстаўнікі польскага і габрэйскага насельніцтва, а таксама ўцекачы з тэрыторый, занятых Германіяй. Пасля пачатку нямецка-савецкай вайны было загадана эвакуяваць таксама і пінскую турму. Паколькі горад знаходзіўся на некаторай адлегласці ад фронту, перамяшчэнне вязняў адбывалася больш арганізавана, чым у іншых мясцовасцях, блізкіх да перадавой. Паводле дакументаў дзяржбяспекі на ўсход былі эвакуаваны каля 900 вязняў з Пінскай вобласці. Аднак і тут НКВД пачало забіваць многіх – перш за ўсё палітычных – вязняў. Яны былі расстраляны ў скляпеннях турмы, а таксама на тэрыторыі прылеглай кашары. Пасля адыходу Чырвонай Арміі ў пачатку ліпеня ў турме былі знойдзены целы забітых. Агулам ахвярамі расстрэлу НКВД у Пінску сталіся каля 140 асобаў. Яшчэ да прыходу нямецкіх войск напачатку ліпеня савецкая дзяржбяспека спрабавала схаваць частку целаў забітых. Забітыя вывозіліся на грузавіках у лес паблізу вёскі Вулька і там закопваліся. За гэтай акцыяй назіралі мясцовыя жыхары. Пасля прыходу нямецкіх войск мясцовая камендатура дала дазвол адкрыць магілы 12 ліпеня 1941 г. Паводле розных звестак былі знойдзены каля 53–60 забітых. Паколькі не было магчымасці ідэнтыфікаваць целы, парэшткі забітых былі пакінуты на тым самым месцы. Па-над брацкай магілай быў усталяваны драўляны крыж, які ў 1943 г. знішчылі савецкія партызаны. Пасля вызвалення летам 1944 г. месца трапіла ў забыццё. Толькі напачатку 1990-х гг. мясцовыя краязнаўцы пачалі даследваць злачынствы НКВД у Пінску. Вынікам гэтых даследванняў сталася ўрэшце ўсталяванне памятнага крыжа. Забойствы былі у 2003 г. прадметам даследвання польскага Інстытуту нацыянальнай памяці з Познані. Да судовых працэсаў супраць адказных за злачынствы справа аднак не дайшла.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам сталінізму / червень 1941

**Месца знаходжання**
злева ад дарогі на вёску Сошна, Вулька, Пінскі раён, Брэсцкая вобласць

## Крыжы памяці Раману Скіркунту

***Парэчча.*** Дзеля ўшанавання памяці Рамана Скірмунта (polnisch: Roman Skirmunt) на старых польскіх вайсковых могілках у 2000 г. былі ўсталяваны два памятныя крыжы. Яны былі змешчаны там падчас аднаўленчых работ на салдацкіх могілках, якія праводзіліся па ініцыятыве Фонду Рамана Скірмунта. Ужо напачатку 1990-х гг. па ініцыятыве пінскага журналіста Вячаслава Ільянкова праводзіліся пошукі месца знаходжання магіл Рамана Скірмунта і яго сваякоў.

Раман Марыян Скірмунт нарадзіўся 25 красавіка 1868 г. у вёсцы Парэчча. Яго сям'я належала да старога польска-беларускага шляхецкага роду, які меў шматлікія зямельныя ўладанні. Маёнтак Парэчча, у якім нарадзіўся Раман Скірмунт, быў галоўнай рэзідэнцыяй сям'і. Скірмунт атрымаў школьную адукацыю высокага ўзроўню ў класічнай гімназіі ў Рызе, якую ён скончыў у 1874 г. Ён рана далучыўся да народніцкага руху. У рамках свайго ўдзелу ў гэтым руху ён некаторы час кіраваў мінскім сельскагаспадарчым таварыствам, якое выступала за паляпшэнне жыццёвых умоў сялян. Пасля рэвалюцыі 1905 г. у 1906 г. ён увайшоў у першую Дзяржаўную Думу Расіі ў якасці надзвычайнага прадстаўніка Мінскай губерні. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён узначаліў Беларускі нацыянальны камітэт у Петраградзе, які восенню 1917 г. вёў перамовы з Часовым урадам аб аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай Імперыі. Скірмунт вярнуўся вясной 1918 г. у заняты немцамі Мінск, дзе разам з іншымі ўзяў удзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. Пры гэтым ён не быў прыхільнікам канцэпцыі беларускай дзяржавы, але хутчэй выступаў за стварэнне наднацыянальнай польска-беларуска-літоўскай канфедэрацыі. На кароткі час ён стаўся прэзідэнтам рэспублікі,






*Польскі крыж памяці Раману Скіркунту, Парэчча (зл.); Шыльда на крыжы (зп)* *Фота: М. Проскень*

пасля чаго выйшаў са складу ўраду ў маі 1918 г. Пасля распаду Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1919 г. Скірмунт накіраваўся ў Варшаву, дзе разам з іншымі стварыў польска-беларускае таварыства. Яго родная вёска адышла да Польшчы паводле мірнага дагавору 1921 г. Ужо будучы польскім грамадзянінам, ён працягнуў сваю палітычную кар'еру, стаўшыся сенатарам ў парламенце другой Польскай Рэспублікі ў 1930 г. Пасля нападу Германіі на Польшчу Скірмунт выехаў да сваёй сям'і ў Парэчча. Там праз некалькі дзён ён быў заспеты Чырвонай Арміяй. Разам з мужам сваёй сястры Алены Раман Скірмунт быў арыштаваны, а 7 кастрычніка 1939 г. расстраляны НКВД у нявядомым месцы паблізу сваёй вёскі. Паводле іншых звестак Скірмунт быў арыштаваны мясцовай Чырвонай Гвардыяй, а крыху пазней пакараны смерцю. Маёнтак, якім валодала сям'я, быў канфіскаваны ў 1940 г., а ў выніку вайсковых дзеянняў падчас Другой сусветнай вайны ён быў амаль што цалкам разбураны.




*Беларускі крыж памяці Раману Скіркунту, Парэчча Фота: Марыюш Проскень*

**Надпісы**
На беларускай мове на папярэчнай бэльцы крыжа

Раман Скірмунт
1868–1939

На польскай мову /
на шыльдзе ўверсе крыжа

Na wyzyrach myśli i uczuć tam byłych
dom SKIRMUNTY. Wieczne odpoczywanie
racz im dać Panie! Mordercom okaż
milosierdzie

На вышынях думак и пачуццяў там быў іх
дом Скірмунты. Вечны спакой дай ім,
Божа! Забойцам акажы міласэрнасць

На беларускай мове на шыльдзе, што месціцца ўнізе крыжа

Раман Скірмунт
(25.04.1868–28.10.1939)
Дэпутат I Дзяржаўнай
Думы Расійскай Імперыі.
Лідер беларускай партыі народных
сацыялістаў. Старшыня Беларускага
нацыянальнага камітэта (1917).
З красавіка па верасень 1918 г.
Прэзідент Беларускай Народнай
Рэспублікі (БНР). 28.10.1939 забіты
мясцовымі бальшавікамі.
„Імя твае свабода і незалежнасць Беларусі"

**Месца знаходжання**
старыя польскія вайсковыя могілкі, Парэчча, Пінскі раён, Брэсцкая вобласць

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### Памятная дошка палякам-ахвярам рэпрэсій

***Гродна.*** На будынку Саюзу палякаў Беларусі ў пачатку 1990-х гг. была ўсталявана памятная дошка палякам-ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Гродна (польск.: Grodno) быў да пачатку Другой сусветнай вайны адным з цэнтраў польскага культурнага жыцця ў Беларусі.

**Надпіс**
На польскай мове

PAMIĘCI / POLAKOW/
WYSIEDIONYCH /
POMORDOWANYCH /
ZMARŁYCH W ŁAGRACH /
W LATACH TERRORU /
STALINOWSKIEGO
Памяці палякаў, выселеных, забітых, памерлых у лагерах у часы сталінскага тэрору

**Месца знаходжання**
на будынку СПБ, вул. Дзяржынскага 32, Гродна, Гродзенская вобласць

### Абразы новапакутнікаў

***Гродна.*** Абразы новапакутнікаў былі асвечаны ў гродненскім саборы з нагоды канферэнцыі епіскапаў у жніўні 2000 г. Да сённяшняга дня яны з'яўляюцца адзінымі ў Беларусі абразамі, якія нагадваюць пра перaслед духавенства Рускай Праваслаўнай Царквы. Абразы, напісаныя ў Свята-Елізавецінскім манастыры ў Мінску, былі на пэўны час зняты падчас рамонтных работ, якія праходзілі ў саборы ў 2003 г., а ў 2006 г. зноў вернуты на месца.




*Памятная дошка палякам-ахвярам рэпрэсій, Гродна* *Фота: Марыюш Проскень*



*Абразы новапакутнікаў на калоннах сярэдняга нефа, Гродна* *Фота: Марыюш Проскень*

Восем абразоў можна ўбачыць у цэнтральнай частцы сабору, дзе яны змешчаны на калонах малітоўнай залы. На першых чатырох абразах выяўлены высокапастаўленыя прадстаўнікі Рускай Праваслаўнай Царквы. Сярод іх святы Ціхан, Патрыярх Усяе Русі (памёр у 1925 г.), пакутнік Веньямін, Мітрапаліт Санкт-Пецярбуржскі (расстраляны ў 1922 г.), пакутнік Уладзімір, Мітрапаліт Кіеўскі (расстраляны ў 1918 г.) і пакутнік Пётр, Мітрапаліт Круціцкі (расстраляны ў 1937 г.). На чатырох іншых абразах выяўлены пакутнік Паўлін (руск.: Павлин), архіепіскап Магілёўскі (расстраляны ў 1937 г.), Іаанн, архіепіскап Рыжскі (загінуў у 1934 г.), Гермаген, епіскап Табольскі (Расія) (загінуў у 1918 г.) і Мітрафан, архіепіскап Астраханскі (загінуў у 1919 г.).



*Кафедральны сабор звонку*
*Фота: Марыюш Проскень*

**Месца знаходжання**
ў Свята-Пакроўскім кафедральным саборы, Гродна,
Гродзенская вобласць



*Мемарыял ахвярам Катыні, Гродна* *Фота: Марыюш Проскень*

## Мемарыял ахвярам Катыні

***Гродна***. Мемарыял ахвярам Катыні быў адкрыты 25 мая 1994 г. на вайсковых могілках у Гродне. Ён з’явіўся дзякуючы ініцыятыве Саюзу палякаў Беларусі, якая была падтрымана Радай захавання памяці аб змаганні і пакутах, польскім урадам, а таксама Каталіцкі Касцёлам. Праект быў падрыхтаваны архітэктарам Іванам Мазнічкам (польск.: Iwan Maźniczka), а ажыццявіў яго інжынер Рышард Кацынела (польск.: Ryszard Kacynela). Мемарыял складаецца з нізкага пастаменту чырвонакарычневага колеру, на якім усталяваны тры таблiцы з надпісамі на беларускай і польскай мовах, якія ўшаноўваюць памяць ахвяр. На іх знаходзіцца чорная паліраваная гранітная пліта, на якой змешчаны імёны 171 польскага грамадзяніна. Гэтыя грамадзяне паходзілі з тэрыторыі сённяшняй Заходняй Беларусі і былі пакараныя смерцю ў Катыні. Па-над помнікам узвышаецца двухметровы крыж. Ужо напачатку лета 1990 г. на вайсковых могілках была адкрыта сімвалічная магіла ахвяраў Катыні, якая пазней была перабудавана ў мемарыял.

**Надпіс**
На польскай мове

STAROBIELSK /
OSTASZKÓW /
KATYŃ /
1940 / 1990 /
MIESZKAŃCOM GRODNA /
OFICEROM /
WOJSKA POLSKIEGO /
ROZSTRZELANYM /
W OBOZACH STALINOWSKICH



*Мемарыял ахвярам Катыні, Namenstafeln, Гродна* *Фота: Марыюш Проскень*

Старабельск, Асташкаў, Катынь, 1940–1990. Жыхарам Гродна, афіцэрам польскага войска, растраляным ў сталінскіх лагерах

Kozielsk – Katyń
Ppor Bakuli Stanisław / Ppor Batko Jan / Chor Belop Stanisław / Por Bielski Stanisław / Kpt Bilewski- … Józef / Kpt Biłmin Stanisław / Ppor Borzuchowski Tadeusz / Ppor Bujnowski Zygmunt / Por Burza Józef / Por Chyliński Stanisław / Ppor Cichocki Heronim / Ppor Ciesła Edward / Ppor Fedorowicz Zygmunt / Por Filner Władysław / Ppor Fischnof Emil / Kpt Gajewski Ludwik / Mjr Hamirski Marian W. / Pchor Hewi … Aleksander / Mjr Herzod Stefan / Por Horbowy Zygmunt / Por Jankowski Tadeusz / Ppor Jasiewicz Karol / Kpt Jurkowski Konrad / Ppor Kaplański Henryk E. / Mjr Kiszyński Stanisław / Ppor Koperski Tadeusz / Rtm Kozieł-Poklewski W. / Pplk Krogulski Stanisław / Por Kryciński Henryk / Por Kunda Edmund / Ppor Kwiatkowski Marian / Ppor Lacki Antoni / Por Lewoniec Stanisław / Kpt Łapiński Kazimierz / Kpt Łęgowski Wacław / Ppor Łukaszewicz Władysław A. / Kpt Machnacz Zygmunt / Por Maciesza Stefan / Por Malejka Leon / Por Mazur Jan / Ppor Mazur Stanisław / Kpt Michalski Ludwik / Ppor Morawski Józef E. /

Ppor Nieć Mieczysław L. / Por Nowik Stefan / Por Nowochodzki Jerzy / Ppor Orsicz Eustachy / Ppor Pachnewicz Wacław M. N. / Por Pastwa Wacław / Ppor Piekarski Stefan / Ppłk Pietrzyk Stanisław / Kpt Piko Władysław / Kpt Piwowarczyk Stanisław / Kpt Płatek Franciszek / Ppor Pobudejski Józef / Kpt Polak Jan B. / Ppor Ryś Jerzy P. / Ppor Radziwiłowicz Hieronim / Mjr Rahden Leon E. / Kpt Sempkowski Józef / Ppor Skalimowski Adam / Pchor Staroszczuk Roman / Ppor Steplewski Jan / Por Szymanowski Mieczysław / Por Topolewski Stefan / Ppor Walczak Stefan / Ppor Walczak Florian / Sierż Weit Witold / Ppor Wieloński Tadeusz I. / Ppor Wieluński

Zygmunt I. / Mjr Wilczyński Władysław / Kpt Winowski Karol / Ppor Wiśniewski Alfred / Kpt Wiśniewski Marian R. / Por Wodzianicki Stanisław / Kpt Wojciechowski Eugeniusz / Kpt Wojciuk Józef / Ppor Wroniak Stanisław / Ppor Wróbel Piotr / Por Wyskoczył Mikolaj / Ppor Zakrewski Jósef / Por Zakrewski Leon / Por Zalewski Jakub Z. / Ppor Żołędziowski Roman S. /

Starobielsk – Charków
Por Andruszkiewicz Jan / Płk Arwaniti Włodzimierz / Ppor Bielajew Aleksy / Ppor Bieszczad Jan K. / Kpt Burski Antoni / Ppor Czubar Feliks / Mjr Drwota Franciszek K. / Ppor Danowski Antoni A. / Kpt Dzikowski Bohdan / Kpt Ejczun Józef / Ppor Fell Leon / Ppłk Filipowicz Paweł P. / Ppor Gawina Kazimierz / Ppor Głowacki Mieczysław / Por Godlewski Marian / Ppor Hofman Leon / Kpt Horbaczewski Stanisław / Kpt Jabłoński Józef / Por Jaczyniec Władysław / Ppłk Janowski Mieczysław / Mjr Jarosz Andrzej / Por Jaskłowski Stefan / Ppor Jędrzejewski Henryk T. / Ppor Kozlicki Jerzy / Ppłk Krechowicz Dionizy / Kpr Kużas Wacław / Chor Lewandowski Józef / Mjr Łakiński Edmund / Ppor Łazarewicz Konstanty S. / Ppłk Łojak Tadeusz / Mjr Maciejewski Kazimierz / Ppor Michajłów Bolesław / Ppor Morze Józef / Ppor Musiał Jan K. / Płk Obertyński Tomasz / Mjr Ożóg Eugeniusz / Ppor Palukaitys Karol K. / Ppor Powilański Witold J. / Ppor Prystrom Leonard / Kpt Radziszewski Tomasz / Por Rolski Władysław / Kpt Romanowski Edward / Por Roykiewicz Wacław / Kpt Ruszar Józef A. / Ppor Rutkowski Stanisław

Ppor Sarosiek Witold / Kpt Schreiber Rudolf A. / Por Skucha Edward / Kpt Smolski Ksawery / Mjr Suchorzewski Leon / Mjr Szczęścikiewicz A. Wiktor / Mjr Szutkowski Julian / Ppor Śpiewak Stanisław / Por Tarasiewicz-Tarasiuk S. / Mjr Toroń Jan / Kpt Trojanowski Zbignew / Mjr Truskowski Michał H. / Ppłk Waśkiewicz Bolesław / Por Wolny Dobrosław / Por Wolski Marian W. / Kpt Woropay-Hordziewicz P. / Ppor Wroniak Stanisław / Por Zdrojewski Zygmunt / Ppor Żukowski Jan /

Ostaszków – Miednoje
Pol Chaniewicz Bronisław / Pol Czartoryski Jan / Pol Denysryn / Pchor Durmaj / Pol Gajdel Antoni / Pol Jadach Stanisław / Pchor Jędrych / Pol Jndrzejczyk Antoni / Pol Kowalewski Tadeusz / Ulan Kozłowski Julian / Pol Kőning Adam / Pol Łotowski Karol / Pol Murmyło Andrzej / Pol Naparty Władysław / Pol Pawłowski Adolf / Pol Płoński / Pol Puszczewicz Władysław / Pol Uziębło Jerzy / Kpr Wojcechowski Stefan / Pol Wrona Mieczyław / Pol Zając Franciszek / Pol Żelazko Aleksander / Żand Żukowski Edward

Казельск – Катынь
Падпаручнік Бакулі Станіслаў, падпаручнік Батко Ян, харунжы Беляп Станіслаў, паручнік Бельскі Станіслаў, капітан Білеўскіі-.... Юзаф, капітан Білмін Станіслаў, падпаручнік Бажухоўскі Тадэвуш, падпаручнік Буйноўскі Зыгмунт, паручнік Бужа Юзаф, паручнік Хылінскі Станіслаў, падпаручнік Ціхоцкі Геранім, падпаручнік Цесла Эдвард, падпаручнік Федаровіч Зыгмунд, паручнік Фільнер Уладзіслаў, падпаручнік Фісхноф Эміль, капітан Гаеўскі Людвік, маёр Хамірскі Марыян В., падхарунжы Хеві…Аляксандр, маёр Герзож Стэфан, паручнік Гарбовы Зыгмунт, паручнік Янкоўскі Тадэвуш, падпаручнік Ясевіч Караль, капітан Юркоўскі Конрад, падпаручнік Капланскі Генрык Е., маёр Кішынскі Станіслаў, падпаручнік Каперскі Тадэвуш, ротмістар Козел-Паклеўскі В., падпалкоўнік Крогульскі Станіслаў, паручнік Крыцінскі Генрык, паручнік Кунда Эдмунд, падпаручнік Квяткоўскі Марыян, падпаручнік Ляцкі Антон, паручнік Леванец Станіслаў, капітан

Лапінскі Казімір, Капітан Лэнгоўскі Вацлаў, падпаручнік Лукашэвіч Уладзіслаў А., капітан Махнач Зігмунт, паручнік Мацеша Стэфан, паручнік Малейка Леан, паручнік Мазур Ян, падпаручнік Мазур Станіслаў, капітан Міхальскі Людвік, падпаручнік Мараўскі Юзаф Е.

Падпаручнік Нець Мечыслаў Л., паручнік Новік Стэфан, паручнік Наваходзкі Юры, падпаручнік Орсіч Яўстахій, падпаручнік Пахневіч Вацлаў М. Н., паручнік Паства Вацлаў, падпаручнік Пекарскі Стэфан, падпалкоўнік Петжык Станіслаў, капітан Піка Уладзіслаў, капітан Піваварчык Станіслаў, капітан Платэк Францішак, падпаручнік Пабудэйскі Юзаф, капітан Поляк Ян Б., падпаручнік Рысь Юры П., падпаручнік Радзівіловіч Геранім, маёр Рагдэн Леан Е., капітан Сямпкоўскі Юзаф, падпаручнік Скалімоўскі Адам, падхарунжы Старашчук Раман, падпаручнік Стэплеўскі Ян, паручнік Шыманоўскі Мечыслаў, паручнік Тапалеўскі Стэфан, падпаручнік Вальчак Стэфан, падпаручнік Вальчак Фларыян, сяржант Вейт Вітольд, падпаручнік Велонскі Тадэвуш І., падпаручнік Велунскі Зігмунт, маёр Вілчынскі Уладзіслаў, капітан Віноўскі Караль, падпаручнік Вісьнеўскі Альфрэд, капітан Вісьнеўскі Марыян Р., паручнік Вадзяніцкі Станіслаў, капітан Вайцэхоўскі Яўген, капітан Вайцюк Юзаф, падпаручнік Уроняк Станіслаў, падпаручнік Урубель Пётр, паручнік Выскачыў Мікалай, падпаручнік Закрэўскі Юзаф, паручнік Закрэўскі Леан, паручнік Залеўскі Якуб З., падпаручнік Жалендзёўскі Раман С.

Старабельск – Харкаў
паручнік Андрушкевіч Ян, палкоўнік Арваніці Уладзімір, падпаручнік Беляеў Аляксей, падпаручнік Бешчад Ян К., капітан Бурскі Антон, падпаручнік Чубар Фелікс, маёр Дрвота Францішак К., падпаручнік Даноўскі Антон А., капітан Дзікоўскі Багдан, капітан Эйчун Юзаф, падпаручнік Фелі Леан, падпалкоўнік Філіповіч Павел П., падпаручнік Гавіна Казімір, падпаручнік Главацкі Мечыслаў, паручнік Гадлеўскі Марыян, падпаручнік Гофман Леан, капітан Гарбачэўскі Станіслаў, капітан Яблонскі Юзаф, паручнік Ячынец Уладзіслаў, падпалкоўнік Яноўскі Мечыслаў, маёр Яраш Андрэй, паручнік Ясклоўскі Стэфан, падпаручнік Енджэеўскі Генрык Т., падпаручнік Казліцкі Юры, падпалкоўнік Крэховіч Дзіянісій, капрал Кужас Вацлаў, харунжы Левандоўскі Юзаф, маёр Лакінскі Эдмунд, падпаручнік Лазарэвіч Канстанцін С., падпалкоўнік Лояк Тадэвуш, маёр Маціеўскі Казімір, падпаручнік Міхайлаў Баляслаў, падпаручнік Можэ Юзаф, падпаручнік Мусял Ян К., палкоўнік Абертынскі Тамаш, маёр Ожуг Яўген, падпаручнік Палюкайціс Караль К., падпаручнік Павілянскі Вітольд, падпаручнік Прыстром Леанард, капітан Радзішэўскі Тамаш, паручнік Рольскі Уладзіслаў, капітан Раманоўскі Эдвард, паручнік Райкевіч Вацлаў, капітан Рушар Юзаф А., падпаручнік Руткоўскі Станіслаў, падпаручнік Саросек Вітольд, капітан Шрайбер Рудольф А., паручнік Скуха Эдвард, капітан Смольскі Ксаверы, маёр Сухаржэўскі Леан, маёр Шчэнсцікевіч А. Віктар, маёр Шуткоўскі Юліян, падпаручнік Спявак Станіслаў, паручнік Тарасевіч-Тарасюк С., маёр Торонь Ян, капітан Траяноўскі Збігнеў, маёр Трускоўскі Міхал Г., падпалкоўнік Васькевіч Баляслаў, паручнік Вольны Дабраслаў, паручнік Вольскі Марыян В., капітан Варапай-Гардзевіч П., падпаручнік Уроняк Станіслаў, паручнік Здраеўскі Зігмунт, падпаручнік Жукоўскі Ян

Асташкаў – Меднае
Паляк Ханевіч Браніслаў, паляк Чартарыйскі Ян, паляк Дэнысрын, падхарунжы Дурмай, паляк Гайдзель Антон, паляк Ядах Станіслаў, падхарунжы Ендрых, паляк Енджэйчык Антон, паляк Кавалеўскі




*Мемарыяльная дошка Арміі Краёвай і ахвярам палітычных рэпрэсій, Ашмяны*
*Фота: Марыюш Проскень*

Тадэвуш, улан Казлоўскі Юліян, паляк Кёнінг Адам, паляк Латоўскі Караль, паляк Мурмыла Андрэй, паляк Напарты Уладзіслаў, паляк Паўлоўскі Адольф, паляк Плонскі, паляк Пушчэвіч Уладзіслаў, паляк Узенбло Юры, капрал Вайцэхоўскі Стэфан, паляк Урона Мечыслаў, паляк Заёнц Францішак, паляк Жэлязка Аляксандр, жандарм Жукоўскі Эдвард

**Месца знаходжання**
вайсковыя могілкі, вул. Белуша, Гродна, Гродзенская вобласць

## Памятная дошка Арміі Краёвай і ахвярам палітычных рэпрэсій

***Ашмяны.*** Памятная дошка Арміі Краёвай і ахвярам палітычных рэпрэсій была ўсталявана ў Ашмянах 18 кастрычніка 1992 г. на знешнім баку сцяны Касцёла Святога Міхала. Яе ўсталяванне было ініцыявана каталіцкай парафіяй і польскім насельніцтвам гораду, якое тым самым ушанавала памяць сваіх сваякоў, якія зазналі пераслед.

Касцёл Святога Міхала знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Ашмянаў. Перад Другой сусветнай вайной пабудаваны ў 1906 г. у стылі неакласіцызму касцёл быў цэнтрам гораду, дзе пражывала пераважна польскае насельніцтва каталіцкага веравызнання. Пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору ў 1921 г. Ашмяны ( польск.: Oszmiana) адышлі да другой Польскай Рэспублікі. З пачаткам Другой сусветнай вайны ў верасні 1939 г. савецкія войскі занялі горад. Хутка пасля гэтага пачаўся пераслед былой сацыяльнай і палітычнай эліты, які ў першую чаргу моцна закрануў польскае насельні-

цтва. Вясной 1940 г. пачаліся масавыя дэпартацыі, ахвярай якіх сталіся многія сотні жыхароў. Агульная колькасць ахвяр савецкай акупацыі 1939–1940 гг. невядомая. Пасля прыходу нямецкіх войск у чэрвені 1941 г. было знішчана ўсё габрэйскае насельніцтва гораду.

У палове 1943 г. пераважна польскія жыхары далучыліся да польскай падпольнай Арміі Краёвай, стварыўшы 8 брыгаду “Тур”, камандзірам якой быў Вітольд Туронак (польск.: Witold Turonek). Падпольшчыкі арганізоўвалі напады на нямецкія акупацыйныя ўстановы, ваявалі з літоўскімі і беларускімі аддзеламі паліцыі, якія знаходзіліся на службе ў немцаў. Разам з тым вельмі часта адбываліся сутычкі з савецкімі партызанскімі атрадамі. Летам 1944 г. брыгада “Тур” далучылася да аперацыі “Вострая Брама”, мэтай якой было вызваленне Вільні. Пасля заняцця гораду савецкімі войскамі паміж польскім у выгнанні і маскоўскім урадамі была дасягнута дамоўленасць аб дэмабілізацыі Арміі Краёвай. 8-я брыгада была афіцыйна зліквідавана 8 ліпеня 1944 г. Пасля таго як праз некалькі дзён НКВД арыштавала афіцэраў Арміі Краёвай, брыгада зноўку арганізавалася і працягнула змаганне супраць савецкіх войск. Тыя змагары, што засталіся, адышлі ў недасяжныя лясныя абшары, адкуль праводзілі свае напады да канца 1944 – пачатку 1945 гг. Кропкавы супраціў доўжыўся нават нашмат даўжэй. Вітольд Туронак быў арыштаваны савецкай дзяржбяспекай і засуджаны да шматгадовага зняволення ў лагерах толькі ў 1948 г. Памёр ён 22 студзеня 1977 г. у Польшчы. Летам 1951 г. пачалася новая хваля пераследу, ахвярай якой сталася перш за ўсё польскае насельніцтва, якое яшчэ не было выслана ў Польшчу. Пасля таго, як рэлігійнае жыццё было спынена ў выніку закрыцця Касцёла Святога Міхала ў 1948 г., павінна была пачацца калектывізацыя ў галіне сельскай гаспадаркі. Побач з дэпартацыяй “кулакоў” у прыцэл дзяржбяспекі трапілі тыя, хто служыў у Арміі Андэрса, сфармаванай у 1941 г. з палітычных вязняў ГУЛАГу і палонных. Гэтыя рэпрэсіі закранулі агулам яшчэ многія сотні чалавек. Толькі напрыканцы 1980-х гг. зноў афіцыйна была адноўлена дзейнасць каталіцкай парафіі, да якой належалі палякі, што тут засталіся. У 1989 г. у Касцёле Святога Міхаіла ўпершыню за апошнія 40 гадоў адбылася імша, а праз год будынак быў афіцыйна перададзены Касцёлу.

**Надпіс**
На беларускай мове

У памяць аб салдатах 8-й брыгады »Тур« Арміі Краёвай (Са злучэння »Ярэмы«), памёршых і замучаных у турмах, канцэнтрацыйных лагерах, ад жыхароў зямлі Ашмянскай, якія змагаліся з нямецкімі акупантамі і сталінскім таталітарызмам за незалежнасць Айчыны

**Месца знахожання**
на касцёле Святога Міхаіла Арханёла,
вул. Гальшанская, Ашмяны,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльная дошка ахвярам Ашмянскай турмы НКВД

***Ашмяны.*** Мемарыяльная дошка ахвярам Ашмянскай турмы НКВД знаходзіцца побач з уваходам у сённяшні Цэнтр пазашкольнай работы ў Ашмянах. Яна была ўсталявана ў чэрвені




*Мемарыяльная дошка ахвярам Ашмянскай турмы НКВД Фота: Марыюш Проскень*



*Былая турма НКВД. Ашмяны Фота: Марыюш Проскень*

1992 г. па ініцыятыве Саюзу палякаў Беларусі і згодна з пастановай гарадзкой адміністрацыі Ашмянаў.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі на польскія ўсходнія абшары ў верасні 1939 г. горад Ашмяны (польск.: Oszmiana) адышоў да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Цягам наступных месяцаў НКВД у першую чаргу пераследвала прадстаўнікоў былой польскай сацыяльнай і палітычнай эліты. Сотні палякаў, беларусаў і габрэяў знаходзіліся ў гэты час у былой турме. Паводле дадзеных НКВД 10 чэрвеня 1941 г. у вязніцы знаходзіліся 266 вязняў. Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз было загадана правесці эвакуацыю вязняў.

Раніцай 23 чэрвеня 1941 г. усе вязні былі сабраны на ўнутраным двары турмы. Кіраўніцтва вязніцы цэлы дзень правярала справы вязняў, каб аддзяліць палітычных ад крымінальнікаў. Некаторыя беларусы, а таксама палякі, якія выдавалі сябе за беларусаў, былі адпушчаны на працягу дня. Астатніх вязняў выводзілі адтуль малымі групамі ў канцы дня, а затым расстрэльвалі ў будынку НКВД, што знаходзіўся побач. Вязні чулі гукі стрэлаў з рэвальвераў і марна спрабавалі бараніцца ад расстрэлу, які іх чакаў. За гэтымі падзеямі таксама назіралі жыхары, што знаходзіліся за мурамі турмы. Раніцай 24 чэрвеня 1941 г. яны сабраліся перад брамай вязніцы, каб атрымаць звесткі пра лёс вязняў. Пры гэтым вартаўнікам паведамілі, што нямецкія войскі верагодна ўжо знаходзяцца на ўскраінах гораду. Пасля гэтага супрацоўнікі НКВД уцяклі з турмы. Пасля гэтых уцёкаў турма была ўзята штурмам, у выніку чаго былі вызвалены вязні, якія засталіся. Начальнік турмы вярнуўся назад ў другой палове дня разам з некалькімі жаўнерамі. Гэта адбылося пасля таго, як чуткі пра наступ нямецкіх войскаў не пацвердзіліся. У гэты момант турма ўжо была пустая, а савецкія падраздзяленні канчаткова пакінулі горад. Пасля прыходу нямецкіх войск у скляпеннях былога будынку НКВД былі знойдзены знявечаныя целы некалькіх дзясяткаў чалавек. Дакладная лічба ахвяр невядомая. У дакументах савецкай дзяржбяспекі маюцца звесткі аб 30 ахвярах, сведкі падзей гавораць, што забітых было больш за 50. Целы былі забраны сваякамі і пахаваны на могілках, што знаходзіліся ў наваколлі.

**Надпіс**
На беларускай мове

У падвале гэтага будынку ў ноч з 23 на 24 чэрвеня 1941 г. была расстраляна група зняволеных Ашмянскай турмы

**Месца знаходжання**
на будынку цэнтра пазашкольнай работы, вул. Савецкая 41, Ашмяны, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльная дошка Сымону Рак-Міхайлоўскаму

***Баруны***. Мемарыяльная дошка Сымону Рак-Міхайлоўскаму была ўсталявана 15 кастрычніка 1993 г. на будынку былога кляштару базыльянаў. Яна нагадвае не толькі пра яго, але і пра польскіх пісьменнікаў Антона Адынца, Ігнація Ходзьку і Юліяна Корсака, якія навучаліся тут напачатку 19 стагоддзя.

Сымон Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся 14 кастрычніка 1885 г. у Максімаўцы Маладзечанскага раёну ў сям'і селяніна. Ён атрымаў настаўніцкую адукацыю ў педагагічным інстытуце Феадосіі, што на паўвыспе Крым. З пачаткам Першай сусветнай вайны ён быў пакліканы ў расійскую армію. Увесну 1918 г. Рак-Міхайлоўскі далучыўся да Беларускай сацыялістычнай грамады, а ў сакавіку таго самага году стаўся чальцом ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Побач з гэтым ён браў удзел у дзейнасці іншых левых партый і груповак, а таксама выкладаў у гродзенскіх гімназіях. У 1920 г. ён быў прызначаны кіраўніком настаўніцкай семінарыі ў Барунах. Ён таксама працягваў займацца палітычнай дзейнасцю, а ў 1922 г. стаўся паслом Польскага Сейму, у якім далучыўся да беларускай фракцыі. У гэтай якасці ён стаўся сузаснавальнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якая мела радыкальную сацыялістычную праграму. Праз гэту дзейнасць ён трапіў у канфлікт з польскімі ўладамі, якія арыштавалі яго 15 студзеня 1927 г. Разам з іншымі чальцамі грамады Рак-Міхайлоўскі быў засуджаны да 12 гадоў турэмнага зняволення. Пасля датэрміновага вызвалення ў 1930 г. ён перасяліўся ў Мінск, дзе ўзначальваў нацыянальны музей. У 1931 г. ён стаўся чальцом Цэнтральнага камітэту




*Мемарыяльная дошка Сымону Рак-Міхайлоўскаму, Баруны Фота: Марыюш Проскень*



*Руіны базыльянскага кляштара, Баруны*
*Фота: Марыюш Проскень*

Камуністычнай партыі Беларусі. Савецкая дзяржбяспека ўпершыню арыштавала яго 16 жніўня 1933 г. па абвінавачанні ў прыналежнасці да "Беларускага нацыянальнага цэнтру". Надзвычайная калегія НКВД засудзіла Рак-Міхайлоўскага на смерць, гэты прысуд быў пазней заменены на пакаранне дзесяццю гадамі зняволення ў лагерах, якое ён адбываў на Салавецкіх астравах. Напачатку верасня 1937 г. НКВД перавяло яго ў Мінск, дзе ён быў засуджаны да пакарання смерцю 14 лістапада 1938 г. Рак-Міхайлоўскі быў забіты ў Курапатах пад Мінскам 27 лістапада. Яго рэабілітавалі 16 жніўня 1956 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

У пачатку XIX стагоддзя ў гэтым будынку
працавала публічная 6-класная школа
базыліян. Яе выпускнікамі былі польскія
пісьменнікі Антон Адынец, Ігнацій Ходзька, Юльян Корсак. У 1920–1922 гадах
дзейнічала беларуская настаўніцкая
семінарыя, дырэктарам якой быў вядомы
дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі
С. А. Рак-Міхайлоўскі

**Месца знаходжання**
на будынку базыльянскага манастыра, Баруны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

## Памятная капліца ў напамін аб вёсцы Лаўжы і загінулых салдатах Арміі Краёвай

***Лаўжы.*** Памятная капліца ў напамін аб вёсцы Лаўжы (польск.: Lawrze) і загінулых салдатах Арміі Краёвай знаходзіцца па-за сённяшнім населеным пунктам Лаўжы. Яшчэ ў 1993 г. паводле пастановы ашмянскай раённай адміністрацыі і па ініцыятыве былых жыхароў быў усталяваны першы суцільны памятны крыж з металу. Размешчаная на ім шыльда паведамляла на беларускай мове аб лёсе жыхароў і вёскі. 23 ліпеня 1995 г. яго змяніла невялікая капліца з цэглы. Яна была пабудавана дзякуючы высілкам польскай супольнасці і былых жыхароў, якія эмігравалі ў Польшчу пасля 1945 г. Праект пабудовы быў створаны архітэктарам Г. Машкевічам. Чатырохметровая капліца мае ў сярэдзіне фігуру смуткуючай Дзевы Марыі. Спераду на пастаменце размешчана памятная шыльда чорнага колеру. Унізе знаходзіцца крыж з выявай польскага гербавага арла. Неўзабаве пасля пабудовы капліцы быў усталяваны яшчэ адзін каменны крыж, на пастаменце якога пра падзеі нагадвае надпіс на беларускай мове. Комплекс абгароджаны невысокім мурам з бутавага каменю.

Невялікая вёска Лаўжы складалася летам 1944 г. з шасці сядзіб, у якіх жылі ў асноўным палякі. Пасля вызвалення мясцовасці Чырвонай Арміяй асобныя аддзелы Арміі Краёвай пачалі ладзіць супраціў савецкім войскам. Жыхары вёскі забяспечвалі змагароў харчамі і размяшчалі іх у сховах на сваіх сядзібах. Падраздзяленні НКВД асабліва жорстка распраўляліся з байцамі Арміі Краёвай. Аддзел нкусаўцаў знайшоў змагароў зімой 1945 г. і распачаў штурм вёскі ў ноч з 23 на 24 лютага. Большая частка байцоў Арміі Краёвай загінула ў тым баі. Былі забіты васямнаццаць жыхароў вёскі, сярод іх – уся сям'я Дзядулевічаў. Астатнія былі змушаны пакінуць свае дамы. Некаторых з іх

НКВД адправіла ў лагеры ГУЛАГу за “падтрымку бандытаў”, іншыя перасяліліся ў Польшчу альбо пасяліліся ў навакольных вёсках. Будынкі вёскі былі цалкам спалены, а мураваныя пабудовы пазней зраўняны з зямлёй.

**Надпіс**
На польскай мове / на капліцы

W tym miejscu była wieś Lawrze. W nocy z 23 na 24 lutego 1945 roku została spacyfikowana przez wojska NKWD. Zginęli mieszkańcy wsi Lawrze oraz stacjonujący Oddział Samoobrony AK. Cześć ich pamięci. Od rodaków

У гэтым месцы была вёска Лаўжы. У ноч з 23 на 24 лютага войскамі НКВД была знішчана. Былі забіты жыхары вёскі Лаўжы, а таксама знішчаны дыслакаваны аддзел самаабароны Арміі Краёвай. Пашана іх памяці. Ад суайчыннікаў

На беларускай мове / на камяні

Жыхарам вёскі Лаўжы, загінуўшым у час баявых дзеянняў 23. 2. 1945 г.

**Месца знаходжання**
Лаўжы, Ашмянскі раён,
Гродзенская вобласць



*Помнік Рычарду Кнобельсдорфу, Жупраны*
*Фота: Марыюш Проскень*

## Помнік Рычарду Кнобельсдорфу

***Жупраны***. Помнік каталіцкаму святару Рычарду Кнобельсдорфу быў урачыста адкрыты перад касцёлам у Жупранах у 1928 г. Па-над магілай Кнобельсдорфа ўзвышаецца чырвоны гранітны крыж. У 1995 г. з нагоды 75-й гадавіны з дня яго смерці ён быў адрэстаўраваны парафіянамі.

Рычард Кнобельсдорф (польск.: Ryszard Knobelsdorf) нарадзіўся ў 1866 г. Ён прыняў сакрамэнт святарства ў 1889 г. у Вільні. З 1909 г. ён стаяў на чале парафіі ў Жупранах (польск.: Żuprany). У 1920 г. Кнобельсдорф быў капеланам польскай самаабароны ў Вільні, якая змагалася з наступаючымі бальшавіцкімі войскамі. Пасля заняцця тэрыторыі Чырвонай Арміяй Кнобельсдорфа выдалі і ён быў арыштаваны. Ён быў дастаўлены ў турму Беластока (Польшча). Пасля паразы бальшавіцкіх войскаў пад Варшавай летам 1920 г. Кнобельсдорф быў забіты паблізу Беластоку 20 жніўня 1920 г. Яго цела было эксгумавана ў 1924 г. дзякуючы падтрымцы кіраўніка польскай дзяржавы Юзафа Пілсудзкага, які быў яго стрыечным братам, а затым перапахавана ў магіле ля касцёла ў Жу-




*Часткова знішчаны надпіс на пастаменце, Жупраны* *Фота: Марыюш Проскень*

пранах. Праз чатыры гады тут паўстаў помнік. Пасля прыходу савецкіх войск ва Усходнюю Польшчу ў 1939 г. надпіс "забіты бальшавікамі" быў сцёрты, каб перадухіліць разбурэнне помніка. Ён не быў адноўлены і падчас рэстаўрацыі 1995 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Ś.P. X. Ryszard Knobelsdorf.
Proboszcz Żuprański. […]
Smiercią Meczeńską.
Zm. dn. 20. VIII. 1920 r. w. 54 r. życia.
Светлай памяці Рычарда Кнобельсдорфа, пробашча Жупранскага. Пакутніцкай смерцю памёр 20. VIII. 1920 г. у 54 гады.

**Месца знаходжання**
перад касцёлам святых апосталаў Пятра і Паўла, Жупраны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

## Помнік памяці ахвяр бальшавізма

***Рандзілаўшчына***. Пра пяць чалавек, забітых бальшавікамі падчас савецка-польскай вайны ў кастрычніку 1920 г., нагадвае помнік, узведзены на каталіцкіх могілках у 1920-х гг. У падмурак піраміды, якая завяршаецца чатырохканцовым крыжам, умантаваная шыльда з надпісам.

**Надпіс**
На польскай мове

Tu spoczywają zwłoki Malewskiego Bolesława, Czerechowicza Adama, Rutkowskiego Piotra, Jewfimika Wincentego i Horotko Jana. Zamordowanych przez bolszewików dnia 1 / X. 1920 roku.
Тут ляжаць парэшткі Малеўскага Баляслава, Чараховіча Адама, Руткоўскага Пётра,



*Помнік памяці ахвяр бальшавізма, Рандзілаўшчына* *Фота: Марыюш Проскень*



*Крыж памяці жыхарам, якія загінулі ў 1939–1945 гг., Галынка* *Фота: Марыюш Проскень*

Яўфіміка Вінцэнта і Гароткі Яна, забітых бальшавікамі 1.X.1920 г.

**Месца знаходжання**
на паўднёва-заходняй ускраіне каталіцкіх могілак, Рандзілаўшчына, Дзятлаўскі раён, Гродзенская вобласць

## Памятны крыж жыхарам, якія загінулі ў 1939–1945 гг.

***Галынка***. На вясковых могілках знаходзіцца чатырохканцовы памятны крыж, які нагадвае пра жыхароў Галынкі (польск.: Hołynka), якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны. Да падмурку помніка прымацавана шыльда, а таксама стылізаваныя свяча і крыж. Вёска Галынка адышла пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору ў 1921 г. да Польшчы. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г. яна адышла да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспулікі, у складзе якой засталася і пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1944 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Pomordowanym mieszkańcom Parafii Hołynka w latach 1939-1945 w holdzie pamięci rodacy.
Забітым жыхарам парафіі Галынка у 1939–1945 гг. у даніну памяці суайчыннікі

**Месца знаходжання**
На касцёльных могілках, Галынка,
Гродзенскі раён,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльныя пахаванні ахвяраў бальшавікоў 1939 г.

***Індура***. У цэнтры старых могілак у мястэчку Індура ў 2001 г. была закладзена магіла шасці польскіх вайскоўцаў, якія былі забіты мясцовай Чырвонай Гвардыяй падчас наступу Чырвонай Арміі ва Усходняй Польшчы ў 1939 г. Побач знаходзіцца магіла Тадэвуша Урсын-Нямцэвіча (польск.: Tadeusz Ursyn-Niemcewicz), які таксама быў забіты мясцовымі камуністамі 26 верасня 1939 г. Аб’яднанне “Страж польскіх магіл” (Польшча) прафінансавала стварэнне невялікага мемарыялу. Абедзве магілы пазначаны чорнай гранітнай плітой, на якой змешчаны надпісы на польскай мове. Чорны чатырохканцовы крыж, усталяваны арганізацыяй “Страж польскіх магіл”, узвышаецца па-над помнікамі.

Падчас прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г. у некаторых населеных пунктах была створана так званая Чырвоная Гвардыя. Групы, якія складаліся з мясцовых камуністаў і спачуваючых ім асоб, раззбройвалі польскія вайсковыя падраздзяленні і ліквідавалі мясцовую адміністрацыю яшчэ да прыходу савецкіх войск. У заходнебеларускім мястэчку Індура, дзе перад Другой сусветнай вайной жыло пераважна габрэйскае насельніцтва, адразу пасля 17 верасня 1939 г. сфармавалася Чырвоная Гвардыя, якая складалася большай часткай з габрэйскіх і беларускіх яго жыхароў. На тле этнічных і сацыяльных супярэчнасцей міжваеннага часу польская адміністрацыя была ліквідавана, а некаторыя яе супрацоўнікі былі арыштаваны. У навакольных вёсках таксама адбыліся арышты і спантаныя экзекуцыі.Так, як



*Мемарыяльныя пахаванні ахвяраў бальшавікоў 1939 г., Індура* *Фота: Марыюш Праскень*




*Надпіс на памятнай дошцы*
*Фота: Марыюш Проскень*

у вёсцы Малая Бераставіца (польск.: Brzostowica Mała), дзе мясцовыя камуністы забілі каля 50 цывільных асоб, пераважна палякаў. У самой Індуры былі забіты шэсць польскіх вайскоўцаў, а таксама прадстаўнікі польскай эліты. Сярод іх быў і Тадэвуш Урсын-Нямцэвіч, які меў зямельныя ўладанні ў навакольных вёсках. Забітыя былі пахаваны на індурскіх могілках. Пасля 1989 г. польскі Інстытут нацыянальнай памяці (ІНП) праводзіў расследванне па справе забойстваў у Індуры і наваколлі. Радай па ўшанаванні памяці аб змаганні і пакутніцтве" ("Radą Ochrony Pamięci Walk i Męczeństwa") было ініцыяванае ўсталяванне помнікаў ахвярам, якое ўрэшце адбылося ў Індуры стараннямі аб'яднання "Страж польскіх магіл" у 2001 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Świętej pamięci sześciu oficerów i żołnierzy Wojska Polskiego zamordowanych w Indurze przez bolszewików w 1939 r. /
Rodacy, A. D. 2001
Светлай памяці шасці афіцэраў і салдатаў польскага войска, забітых ў Індуры бальшавікамі ў 1939 г. Суайчыннікі., 2001.

Tadeusz Ursyn-Niemcewicz, urodz. 15. 02. 1901 w Kniaziewiczach. Zamordowany 26. 09. 1939. R. I. P. Syn Witold
Тадэвуш Урсын Нямцэвіч, нарадзіўся 15.02.1901 у Князевічах. Забіты 26.09.1939. Спачывай з мірам. Сын Вітольд

**Месца знаходжання**
старыя каталіцкія могілкі, Індура, Гродзенскі раён, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны камень святарам Вінцэнту Барсуку, Ізідору Сейчко і Яну Храбашчу

***Капцёўка***. Мемарыяльны камень з паліраванага чырвонага граніту, які знаходзіцца ля касцёлу Унебаўшэсця Панны Марыі ў Капцёўцы (польск.: Kopciówka), нагадвае пра каталіцкіх святароў Вінцэнта Барсука, Ізідора Сейчко і Яна Храбашча. Паміж 1936 і 1945 гг. яны ўзначальвалі мясцовую парафію. Памятны камень быў усталяваны парафіянамі.

Вінцэнт Барсук нарадзіўся ў 1899 г. у Олішках пад Беластокам (Польшча). У 1925 г. ён быў высвечаны на святара. У наступныя гады ён быў пробашчам розных парафій на польскіх усходніх абшарах. Пасля прыходу савецкіх войск у 1939 г. і з пачаткам нямецкай акупацыі ў 1941 г. ён застаўся выконваць святарскую паслугу ў Брэсцкай вобласці, а ў 1942 г. стаўся



*Мемарыяльны камень святару Вінценту Барсуку і Ізідору Сейчко, Капцёўка*
*Фота: Марыюш Проскень*



*Мемарыяльны камень Яну Храбашчу*
*Фота: Марыюш Проскень*

пробашчам парафіі ў Капцёўцы. Тут пасля вызвалення ў 1945 г. ён быў арыштаваны НКВД і дастаўлены ў гродзенскую турму. Яго абвінавацілі ў тым, што падчас нямецкай акупацыі ён агітаваў жыхароў вёскі супраць савецкіх партызанаў. 29 кастрычніка 1946 г. ён быў засуджаны да васьмі гадоў зняволення ў працоўных лагерах і дэпартаваны ў каргапольскі лагер у Архангельскай вобласці. У 1948 г. Барсук быў вызвалены. Ён пераехаў у Польшчу, дзе памёр 31 студзеня 1980 г. у Мальбарку.

Ізідор Сейчко нарадзіўся ў 1871 г. Ён прыняў сакрамэнт святарства ў 1895 г. у Вільні. Быў пробашчам парафіі ў Капцёўцы паміж 1940 і 1942 гг. Яго далейшы лёс невядомы. Ян Храбашч нарадзіўся 20 кастрычніка 1906 г. у Якубаве (Польшча). Ён вучыўся ў семінарыі ў Вільні і прыняў сакрамэнт святарства ў 1933 г. З 1936 па 1939 гг. ён быў пробашчам каталіцкай парафіі ў Капцёўцы. З красавіка 1939 г. Храбашч адначасова быў капеланам у польскім войску. Выконваючы гэту функцыю, ён браў удзел у баях супраць Чырвонай Арміі ў 1939 г. Пасля таго, як Польшча капітулявала, ён вярнуўся ў сваю парафію, якая знаходзілася на занятых савецкімі войскамі абшарах. У сакавіку 1940 г. ён быў арыштаваны НКВД і адпраўлены ў беластоцкую турму. У снежні таго ж году Храбашч быў накіраваны ў працоўны лагер, які знаходзіўся ля Архангельску. У 1941 г. ён быў вызвалены падчас амністыі для польскіх вязняў і далучыўся да сфармаванай у Савецкім Саюзе польскай арміі генерала Уладыслава Андэрса. Памёр ад тыфусу 26 сакавіка 1946 г. ва Узбекістане.

**Надпіс**
На польскай мове

Ks. Wincenty Borsuk, ur. 07.07.1897 r. w Oliszkach par. Choroszcz, święcenia kapłańskie w 1925 r. w Wilnie. Proboszcz parafii Kopciówka w latach 1942–1945. Więziony w latach 1945–1948, zwolniony i deportowany do Polski. Zm. 31. 01. 1980 w Malborku.
Pochowany na czementarzu w Franknowie.
Ks. Izydor Seyczko, ur. 1871 r., świecenia kapłanskie w 1895 r. w Wilnie, Proboszcz parafii Kopciówka w latach 1940–1942.
Miejsce i data smierci nieznana.
Ks. Jan Chrabaszcz, ur. 20. 10. 1906 r. w Jakubowie par. Imielno, świecenia kapłanskie

w 1933 r. w Wilnie, Pierszy Proboszcz i budowniczy kosciola w Kopciówce w latach 1936–1940, w 1939r. kapelan 4 pulku Ułanów, Aresztowany w 1940 r. i zesłany do Archangielska, zm. 26. 03. 1942 r. w Uzbekistanie

Ксёндз Вінцэнт Барсук, нарадзіўся 07.07.1897 г. у Олішках парафіі Харошч, прыняў сакрамент святарства ў 1925 г. у Вільні. Пробашча парафіі Капцёўка у 1942–1945 гг. Зняволены ў 1945-1948 гг., вызвалены і дэпартаваны ў Польшчу. Памёр 31.01.1980 г. у Мальбарку. Пахаваны на могілках у Франкнове.

Ксёндз Ізідор Сейчко, нарадзіўся ў 1871 г., прыняў сакрамент святарства ў 1895 г. У Вільні, пробашча парафіі Капцёўка ў 1940-1942 гг. Месца і дата смерці невядомая.

Ксёндз Ян Храбашч, нарадзіўся 20.10.1906 г. у Якубаве парафіі Імельна, прыняў сакрамент святарства ў 1933 г. у Вільні, першы пробашч і будаўнік касцёла ў Капцёўцы ў 1936-1940 гг., у 1939 г. капелан 4 палка ўланаў, арыштаваны ў 1940 г. і сасланы ў Архангельск, памёр 26.03.1942 г. ва Узбекістане

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках, Капцёўка, Гродзенскі раён, Гродзенская вобласць

## Памятны камень ахвярам верасня 1939 г.

***Квасоўка.*** На каталіцкіх могілках вёскі Квасоўка (польск.: Kwasowka) у 1989 г. быў усталяваны помнік сямі жыхарам вёскі, якія былі забіты 20 верасня 1939 г. Ініцыятыва яго ўсталявання зыходзіла ад Казіміра Шоты (польск.: Kazimierz Szota), сына забітага Уладзіслава Шоты (польск.: Władysław Szota). Паводле



*Памятны камень ахвярам верасня 1939г, Квасоўка* *Фота: Марыюш Проскень*

яго ініцыятывы парэшкі забітых былі эксгумаваны і перазахаваны на вясковых могілках. Імёны забітых пазначаны на памятным камені з чорнага граніту, побач з якім стаіць чатырохканцовы крыж.

У дзень прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г. чальцамі Чырвонай Гвардыі ў Квасоўцы былі арыштаваны прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі. Праз тры дні на вясковай плошчы адбыўся паказальны працэс, на якім былі засуджаныя да пакарання смерцю як “ворагі народа” бурмістар і іншыя арыштаваныя. Уладзіслаў Шота, Уладзіслаў Гаманоўскі, Леанард Палкоўскі, Міхаіл Красінскі, Станіслаў Скаржынскі, Андрэй Мозка, а таксама прадстаўнікі сем’яў Сапотніцкіх і Адамчэўскіх былі затым расстраляны па-за населеным пунктам паблізу каналу. Целы былі закапаны на яго беразе. У 1940 г. шмат сваякоў забітых былі дэпартаваны у Сібір.

**Надпіс**
На польскай мове

Władysław Szota, Władysław Homanowski,
Leonard Polkowski, Michaił Krasinski,
Stanisław Skarżynski, Andrzej Mocko,
Sapotnicki, Adamczewski
Tu spoczywają zwłoki zamordowanych
20. IX. 1939 r. Pokoj ich duszom

Уладзіслаў Шота, Уладзіслаў Гаманоўскі,
Леанард Палкоўскі, Міхаіл Красінскі,
Станіслаў Скаржынскі, Андрэй Мозка,
Сапотніцкі, Адамчэўскі. Тут ляжаць
парэшткі забітых 20. IX. 1939 г. Спакой
іх душам. Памяць ад сем’яў забітых.

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках, Квасоўка,
Гродзенскі раён,
Гродзенская вобласць

## Памятны крыж жыхарам, якія загінулі ў 1939–1945 гг.

***Лабна.*** У двары касцёла ў вёсцы Лабна знаходзіцца чатырохканцовы памятны крыж, які нагадвае пра тых жыхароў Лабны (польск.: Łabno), якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны. Да пастаменту прымацаваны шыльда, а таксама стылізаваныя свечка і крыж.

Вёска Лабна адышла да Польшчы паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г. яна была далучана да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, у складзе якой засталася пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1944 г.

**Надпіс**
На польскай мове



*Памятны крыж жыхарам, якія загінулі ў 1939–1945 гг., Лабна* *Фота: Марыюш Проскень*

Pomordowanym mieszkańcom
Parafii Łabno
w latach 1939–1945 w
hołdzie pamięci rodacy.
Забітым жыхарам
парафіі Лабна у
1939–1945 гг.#
у даніну памяці суайчыннікі.

**Месца знаходжання**
На касцёльных могілках, Лабна, Гродзенскі раён, Гродзенская вобласць

## Пахаванне забітых польскіх пасяленцаў

***Лерыполь***. Пахаванне забітых польскіх асаднікаў было закладзена ў 1990-х гг. у лесе паблізу Лерыполя. Яно было створана па ініцыятыве польскай меншасці рэгіёна, якая была падтрымана польскімі арганізацыямі.

22 верасня 1939 г. Чырвоная Гвардыя арыштавала польскіх асаднікаў у вёсцы Лерыполь. Чырвоная Гвардыя была ство рана з сялянаў-беларусаў вёскі, якія хацелі завалодаць гаспадаркамі сваіх суседзяў. Раніцай 22 верасня Ян Томчык, Тадэвуш Слівінскі, Уладзіслаў і Тадэвуш Гурніцкія, Станіслаў Баршч, Антон Паўлікоўскі, Ігнаці Зарэмбскі, Ян Чыж, Павел Мрочка і Ян Месалеўскі былі забраны са сваіх дамоў. Сказаўшы ім, што іх вядуць на сход, іх расстралялі па-за вёскай. Некаторыя чальцы іх сем'яў уцяклі з падворкаў і знайшлі прытулак у навакольных вёсках, напрыклад, у Заволеўцы. Пра гэтыя падзеі там нагадвае невялікі помнік.

**Месца знаходжання**
недалёка ад вёскі, Лерыполь, Гродзенскі раён, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны камень ахвярам сталінскіх рэпрэсій

***Сапоцкін***. Побач з уваходам у касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Сапоцкіне стаіць вялікі шэры валун, шыльда на якім нагадвае пра ахвяр сталінізму. Камень быў усталяваны паводле ініцыятывы каталіцкай парафіі ў 2000 г. У касцёльным двары таксама размешчаны падобны памятны знак, які ўшаноўвае памяць 70 жыхароў мястэчка, якія былі забіты нямецкімі войскамі 15 чэрвеня 1944 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Ofiarom zbrodni stalinowskiej z lat
1939–1955 w holdzie cześći i pamięci
Ахвярам сталінскіх злачынстваў 1939–
1955 гг. ў даніну пашаны і памяці

**Месца знаходжання**
перад Касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, Сапоцкін, Гродзенскі раён, Гродзенская вобласць

## Крыж памяці Юзафу Альшына-Вільчынскаму

***Сапоцкін***. Памятны крыж на ўспамін пра забойства генерала Юзафа Альшына-Вільчынскага і яго ад'ютанта Мечыслава Стржэмскага быў урачыста адкрыты 19 жніўня 1991 г. на могілках мястэчка Сапоцкін (польск.: Sopockinie). Ён быў устаноўлены па ініцыятыве "Саюзу палякаў Беларусі", які паклапаціўся аб стварэнні сімвалічнай магілы з крыжам і памятнай шыльдай на магільнай пліце.




*Мемарыяльны камень ахвярам сталінскіх рэпрэсій, Сапоцкін* *Фота: Марыюш Праскень*

Юзаф Канстанты Альшына-Вільчынскі нарадзіўся 27 лістапада 1980 г. у Звержынцы непадалёку ад Замосця (Польшча). Скончыўшы вывучаць архітэктуру ў Львове, ён пайшоў служыць у аўстра-венгерскую армію, у шэрагах якой падчас Першай сусветнай вайны змагаўся на ўсходнім фронце. Яшчэ ў жніўні 1914 г. Альшына-Вільчынскі ўступіў у Польскі легіён, у шэрагах якога паказаў сябе з лепшага боку падчас баявых дзеянняў. Пасля распаду Аўстра-Венгрыі ён далучыў падначаленыя яму войскі да польскай арміі. Паміж 1920 і 1923 гг. Альшына-Вільчынскі браў удзел у змаганні з украінскімі і савецкімі войскамі, пасля чаго быў пераведзены ў Верхнюю Сілезію, якая знаходзілася на нямецка-польскім памежжы. У 1927 г. ён атрымаў званне брыгаднага генерала, а ў студзені 1938 г. стаўся начальнікам Гродзенскага вайсковага округу (польск.: Grodno). З пачаткам Другой сусветнай вайны ён быў адказны за абарону паўночна-усходніх абшараў Польшчы. З прычыны нападу немцаў яго войскі спачатку былі перакінуты на поўдзень да моманту пераходу Чырвонай Арміяй тагачаснай польскай ўсходняй мяжы 17 верасня 1939 г. Альшына-Вільчынскі выправіўся затым назад у Гродна, дзе спрабаваў арганізаваць абарону горада. З прычыны недахопу персанальных і матэрыяльных рэсурсаў польскія войскі змаглі аказаць Чырвонай Армі, якая дасягнула прадмесцяў Гродна 19 верасня 1939 г., толькі нязначны супраціў. 22 верасня 1939 г. ён загадаў адыходзіць у Літву тым польскім войскам, якія яшчэ заставаліся. Разам з ад'ютантам Мечыславам Стржэмскім, а таксама са сваёй жонкай і дзецьмі Альшына-Вільчынскі ў той жа дзень накіраваўся ў бок літоўскай мяжы. Непадалёк ад Сапоцкіна аўтамабіль быў спынены



*Крыж памяці Юзафу Канстанціну Альшына-Вільчынскаму, Сапоцкін*
*Фота: Марыюш Проскень*

савецкім артылерыйскім падраздзяленнем. Адбыўся кароткі допыт, праведзены камандзірам падраздзялення Чувакіным, які затым загадаў расстраляць Альшыну-Вільчынскага і Стржэмскага. Яго жонцы і вадзіцелю аўтамабіля дазволілі ехаць далей. Забойства Альшыны-Вільчынскага пасля ўзяцця ў палон Чырвонай Арміяй спрычынілася да таго, што ў сярэдзіне 1990-х гг. польскі ўрад распачаў судовае расследванне гэтага выпадку. Шляхам даследвання ў польскіх і расійскіх архівах Польскі інстытут нацыянальнай памяці (ІПН) змог высветліць, што Альшына-Вільчынскі і Стржэмскі былі расстраляны незаконна, бо ўжо былі ў палоне і не аказвалі супраціву. У звязку з гэтымі падзеямі ў Вайсковую пракуратуру Расійскай Федэрацыі ў 2003 г. паступіла заява з просьбай распачаць крымінальную справу супраць тых, хто здейсніў гэта злачынства. Разбіральніцтва было спынена ў 2004 г.

**Надпісы**

На польскай мове / на надмагільным крыжы

gen. bryg. / Józef / Olszyna – / Wilczyński / 27. XI. 1890–22. IX. 1939 / Sow. III. D. O. K. / Grodno

Брыгадны генерал Юзаф Альшына-Вільчынскі (27. XI. 1890–22. IX. 1939), камандзір 3-га ваеннай акругі Гродна

На польскай мове / на надмагільнай пліце

Zolnierzom / Wojska Polskiego / Korpusu och rony / pogranicza / Poległym / za Polsku / 17.–22. wrzes NIA 1939 rok

Салдатам польскага войска
корпуса аховы памежжа,
загінулым за Польшчу
17–22 верасня 1939 г.

**Месца знахожання**
на могілках, Сапоцкін,
Гродзенскі раён,
Гродзенская вобласць

## Памятны крыж выратаваным у верасні 1939 г. палякам

***Саволеўка***. 13 жніўня 1996 г. у вёсцы Саволеўка (польск.: Sawalówka) быў усталяваны невялікі памятны знак, які нагадвае пра забітых падчас прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу польскіх асадніках. З гэтай нагоды была адкрыта мемарыяльная дошка, якая знаходзіцца побач з вялікім чатырохканцовым крыжам. Помнік мае невялікую агароджу. Праз тры дні пасля прыходу савецкіх войск ва Усходнюю Польшчу мясцовая Чырвоная Гвардыя арыштавала 22 верасня 1939 г. у вёсцы Лерыполь польскіх асаднікаў. Адзінаццаць мужчын з гэтай вёскі былі забраны са сваіх хат пад маркай удзелу ў сходзе, а затым расстраляны. У наступны дзень чырвонагвардзейцы забілі падобным чынам сем польскіх асаднікаў у вёсцы Будоўля. Некаторыя чальцы іх сем'яў уцяклі і знайшлі прытулак на падворках суседняй вёскі Саволеўкі, што ўратавала ім жыццё. У знак удзячнасці за гэту дапамогу ў 1996 г. нашчадкамі ўратаваных была ўсталявана памятная дошка.

**Надпіс**
На беларускай мове

З удзячнасцю Беларусам, жыхарам вескі
Саволеўка, якія ў верасні 1939 г. ратавалі
польскіх суседзяў. Сем'і асаднікаў з
Будоўлі, Лерыполя і Ракіці

**Месца знаходжання**
Саволеўка, Гродзенскі раён,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны камень забітым польскім пасяленцам

***Жытомля***. На каталіцкіх могілках вёскі Жытомля (польск.: Żydomla) у пачатку 1990-х гг. быў усталяваны памятны камень, які нагадвае пра дзевяць забітых польскіх асаднікаў. Першапачатковы помнік з шэрага граніту быў заменены на іншы, выраблены з паліраванага чорнага каменю.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу Чырвоная Гвардыя пачала пераслед польскіх асаднікаў. У вёсцы Жытомля байцы толькі што створанай Чырвонай Гвардыі Уладзімір Аплевіч, Павел Аплевіч і Іван Шырка арыштавалі 22 верасня 1939 г. сем польскіх асаднікаў і аднаго невядомага паліцэйскага, а на наступны дзень забілі іх непадалёк ад вёскі. Іх целы былі пасля пахаваны на вясковых могілках. Уладзімір Аплевіч, які удзельнічаў таксама і ў іншых злачынствах, здейсненых супраць польскіх асаднікаў (у Лерыполі і Будоўлі), быў прызначаны савецкімі ўладамі камендантам мясцовай міліцыі. Пасля выкрыцця растраты ён быў арыштаваны і высланы ў Архангельск у 1941 г. У жніўні 1941 г. ён быў вызвалены падчас агульнай амністыі для польскіх грамадзян і ўступіў у польскую армію генерала Уладыслава Андэрса, якая фармавалася



*Мемарыяльны камень забітым польскім пасяленцам, Жытомля* *Фота: Марыюш Проскень*

на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Там ён быў апазнаны сваякамі ахвяр забойства і паўстаў перад польскім вайсковым судом. Уладзімер Аплевіч быў засуджаны да пакарання смерцю за злачынствы, здзейсненыя ў верасні 1939 г. Прысуд быў выкананы ў 1942 г.

**Надпіс**
На польскай мове



*Мемарыяльны камень забітым польскім пасяленцам, Жытомля* *Фота: Марыюш Проскень*

Jan Jacielski, Bronisław Przeraziński,
Władysław Janiszewski, Stanisław Szuba,
Piotr Krupa, Jan Zawadzki, Edward Nowak,
Policjant N. N., Zamordowani 23. 09. 1939 r.
bo byli Polakami. Cześć ich pamięci!
Niech Bóg wybaczy oprawcom

Ян Яцельскі, Браніслаў Пшэрадзінскі,
Уладзіслаў Янішэўскі, Станіслаў Шуба,
Пётр Крупа, Ян Завадскі, Эдвард Новак,
невядомы паліцэйскі, забітыя 23.09.1939 г.
бо былі палякамі. Пашана іх памяці

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках,
Жытомля, Гродзенскі раён,
Гродзенская вобласць

## Памятны крыж ахвярам Катыні

***Ліда***. На старых каталіцкіх могілках Ліды 13 красавіка 2010 г. побач з капліцай быў усталяваны шасціметровы

крыж ахвярам Катыні. Нагодай для ўсталявання сталіся 70-я ўгодкі забойства тысяч польскіх вайскоўцаў і цывільных асоб, якое было здейсненае НКВД у 1940 г., а таксама смерць польскага прэзідэнта Леха Качынскага, які загінуў падчас паездкі на жалобныя мерапрыемствы ў Расію. Ініцыятыва зыходзіла ад мясцовай суполкі Саюзу палякаў Беларусі і Польскага культурнага таварыства. Святар каталіцкай парафіі асвяціў крыж. Побач з чатырохканцовым металічным крыжам знаходзіцца невялікі гранітны камень з надпісам.

**Надпіс**
На польскай мове

Katyń /
1940
Катынь 1940

**Месца знаходжання**
на старых каталіцкіх могілках, Ліда,
Лідскі раён, Гродзенская вобласць

## Капліца Св. Рафала Каліноўскага

***Ліда***. Капліца Св. Рафала Каліноўскага, апекуна высланых у Сібір палякаў, была асвечана ў 2007 г. на вуліцы Тухачэўскага побач з касцёлам. Пробашч парафіі Юзаф Ганчыц пайшоў насустрач пажаданням парафіянаў пабудаваць капліцу. Сярод іх было шмат тых, хто быў сасланы ў Сібір, і іх сваякоў. З дазволу мясцовых улад на знешнім баку сцяны касцёла была прымацавана мемарыяльная дошка на ўспамін аб ахвярах дэпартацый, якія ажыццяўляліся з 1939 па 1956 гг. Дошка была выраблена ў Беластоку (Польшча) коштам Рады па ахове памяці аб змаганні і пакутніцтве. Для ўнутранай аддзелкі невялікай капліцы парафіянамі былі ахвяраваны грошы.

**Месца знаходжання**
вул. Тухачэўскага, Ліда,
Гродзенская вобласць

## Помнік Ларысе Геніюш

***Зэльва.*** Помнік Ларысе Геніюш быў пастаўлены 9 жніўня 2003 г. у двары Траецкай царквы ў Зэльве. Арганізацыйны камітэт на чале з Анатолем Белым, у склад якога ўваходзілі вядомыя пісьменнікі і мастакі, а таксама парафіяне, мясцовыя жыхары і былы вязень і паэт Іван Дудка, дарэмна намагаўся ўсталяваць помнік у горадзе, дзе Геніюш правяла апошнія гады свайго жыцця. Толькі зэльвенская царква дазволіла ўсталяваць на царкоўным двары створаны скульптарам Міхасём Іньковым бюст. На пастаменце змешчана цытата з вершу паэткі. На 90-я ўгодкі з дня нараджэння паэткі злева ад ўваходу ў царкву была размешчана невялікая памятная дошка. На могілках ёсць яшчэ адзін помнік, які знаходзіцца на магіле Ларысы Геніюш.

Ларыса Геніюш нарадзілася 9 жніўня 1910 г. у маёнтку Жлобаўцы, які знаходзіцца непадалёк ад Воўпы ў Гродзенскай вобласці. Яна хадзіла ў школу ў Ваўкавыску і скончыла яе ў 1928 г. Пасля заключэння шлюбу з пісьменнікам Янкам Геніюшам яна пераехала ў Прагу, дзе, скончыўшы вучобу, сталася лекаркай. Пасля заняцця Усходняй Польшчы Чырвонай Арміяй у 1939 г. яе бацька быў расстраляны, а маці разам з братамі і сёстрамі саслана ў Казахстан. У



*Помнік Ларысе Геніюш, Зэльва* *Фота: Марыюш Проскень*

Празе Ларыса Геніюш далучылася да ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі на выгнанні. З сакавіка 1943 г. яна кіравала замежным архівам гэтай установы. Да таго ж яна таксама ўдзельнічала ў палітычным жыцці: пісала артыкулы для афіцыйнай эмігранцкай прагерманскай прэсы. Некаторы час яна была рэдактаркай газеты “Раніца”, якая распаўсюджвалася сярод беларускіх ваеннапалонных у нямецкіх лагерах. Пасля вызвалення Чэхаславакіі ў 1945 г. яна засталася ў Празе. Чэшская дзяржбяспека арыштавала Ларысу Геніюш разам з яе мужам 5 сакавіка 1948 г. Праз тыдзень яны былі перададзены КГБ. Прайшоўшы праз вязніцы ў Вене і Львове, яны трапілі ў цэнтральную турму БССР у Мінску ў канцы 1948 г. Кіраўнік дзяржбяспекі БССР Цанава асабіста дапытваў Геніюш, каб даведацца пра месца знаходжання эмігранцкага архіву. У студзені 1949 г. Вярхоўны Суд БССР засудзіў яе да 25 гадоў зняволення ў лагерах, якое яна адбывала ў Інце, Абезі, а затым у Мардовіі (Расія). У 1956 г. яна разам з мужам была часткова рэабілітавана, а яе пакаранне скарочанае да васьмі гадоў пазбаўлення волі ў лагерах. Пасля вызвалення ў 1957 г. абодва вярнуліся ў горад, дзе нарадзіўся муж – Зэльву. Яна выйшла з чэхаславацкага грамадзянства, але адмовілася прыняць савецкае. З прычыны вядомасці Геніюш у 1960-х гг. яе дом стаўся месцам сустрэчы маладых пісьменнікаў і паэтаў. Разам з вядомым паэтам Максімам Танкам у 1967 г. яна выдала кнігу паэзіі “Невадам з Нёмана”, аднак праз усё жыццё з-за забароны не магла працаваць па сваёй прафесіі. Ларыса Геніюш памерла 7 красавіка 1984 г. у Зэльве.

**Надпіс**

На беларускай мове



*Помнік ахвярам камунізму (Ян Крынскі), Зэльва* *Фота: Марыюш Проскень*

»Божа, барані Беларусь« /
Ларыса Геніюш

**Месца знаходжання**
у двары царквы, Зэльва, Гродзенская вобласць

## Помнік ахвярам камунізму

***Зэльва.*** Помнік ахвярам камунізму быў узведзены ў 1993 г. па-над мерканай магілай каталіцкага святара Яна Крынскага. Ініцыятарамі яго ўсталявання сталіся пробашч каталіцкай парафіі Зэльвы і Саюз палякаў Беларусі.

Ян Крынскі (польск.: Jan Kryński) нарадзіўся 8 сакавіка 1861 г. у Кузьніцы (Польшча). Ён навучаўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, а ў 1884 г. атрымаў святарскія свячанні. У наступныя гады ён выконваў святарскую паслугу ў розных парафіях сённяшняга беларуска-польскага памежжа, пасля чаго ў 1923 г. яму была даручана парафія ў Зэльве. З пачаткам Другой сусветнай вайны ў палове верасня 1939 г. мясцовыя камуністы з вёсак ля Зэльвы арганізавалі паўстанне перад прыходам Чырвонай Арміі. Ім удалося ўзяць горад пад свой кантроль. Служачыя былой адміністрацыі і святар Ян Крынскі былі арыштаваны і змешчаны ў склеп мясцовай пякарні. Раніцай 21 верасня Крынскі, святар праваслаўнага прыходу Давід Якубсон, а таксама Оскар Мейшутовіч і Уладзіслаў Ігнатоўскі былі расстраляны. Іх целы былі адвезены ў лясны масіў непадалёк ад горада і там закапаны на беразе ракі Зэльвянкі.

**Месца знаходжання**
Зэльва, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльнае месца загінулым салдатам Арміі Краёвай

***Нецеч***. Мемарыяльнае месца загінулым салдатам Арміі Краёвай знаходзіцца на могілках вёскі Нецеч (польск.: Nieciecz). Помнік уяўляе сабой сабой двухметровы валун-абеліск, па-над якім узвышаецца чорны чатырохканцовы крыж. На пастаменце ў 1990-я гг. была змешчана мемарыяльная шыльда у напамін аб загінулых у 1941–1945 гг. у Наваградскай акрузе салдатах 77 пяхотнага палку Арміі Краёвай. Перад помнікам стаяць шматлікія каменныя крыжы–сімвалічныя магілы палеглых.

Да 1939 г. 77-ы пяхотны полк Польскай Арміі размяшчаўся ў цэнтры акругі – Лідзе. З пачаткам Другой сусветнай вайны і савецкай акупацыі Усходняй Польшчы вайсковая частка была ліквідавана. Перад прыходам Чырвонай Арміі летам 1944 г. яна зноў была сфармавана ў асноўным з байцоў Арміі Краёвай паводле загаду польскага экзыльнага ўраду. Разам з 78-м пяхотным, 23-м, 26-м і 27-м кавалерыйскімі палкамі 77-ы пяхотны полк уваходзіў у навагрудзкую падакругу Арміі Краёвай. Саладаты 77-га пяхотнага палку між іншым бралі ўдзел у аперацыі Арміі Краёвай «Вострая Брама», якая праводзілася з мэтай вызвалення Вільні ад нямецкай акупацыі. Аперацыя доўжылася з 7 па 13 ліпеня 1944 г. Праз дзень Чырвоная Армія ўвайшла ў горад, а НКВД пачало арышты жаўнераў і афіцэраў Арміі Краёвай. У наступныя дні былі арыштаваны некалькі тысяч польскіх жаўнераў, якія бралі ўдзел у аперацыі «Вострая Брама». 17 ліпеня НКВД і Чырвоная Армія арыштавалі афіцэраў Арміі Краёвай са штабоў віленскай і навагрудскай акругаў. Частка байцоў Арміі Краёвай, якія яшчэ знаходзіліся на волі, адступіла ў Польшчу



*Мемарыяльнае месца загінулым салдатам Арміі Краёвай, Нецеч* *Фота: Антон Астаповіч*

альбо працягнула змаганне з савецкімі войскамі. Апошнія падраздзяленні Арміі Краёвай праіснавалі ў Навагрудскай акрузе да сярэдзіны 1945 г.

**Надпіс**
На польскай мове

ŻOŁNIERZOM I I IV BATALIONU 77 PUŁKU PIECHOTY ARMII KRAJOWEJ POLEGŁYM ZA POLSKIĘ NA ZIEMI NOWOGRÓDZKIEJ 1941–1945
Салдатам I і IV батальёна 77 пяхотнага палка Арміі Краёвай, якія загінулі за Польшчу на Наваградскай зямлі ў 1941–1945 гг.

**Месца знаходжання**
каталіцкія могілкі,
Нецеч, Лідскі раён,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльная дошка загінулым салдатам Арміі Краёвай

***Нецеч***. Мемарыяльная дошка загінулым салдатам Арміі Краёвай (АК) была ўсталявана 31 кастрычніка 2004 г. у касцёле св. Міхаіла Арханёла ў Нецечы. Яе ўсталяванне было ініцыявана былым салдатам АК Рышардам Мержвам, які змагаўся ў шэрагах падраздзялення «Рангер». Дошка была асвечана каталіцкім святаром Ляонам Лішыкам (польск.: Leon Liszyk).

Падчас фармавання АК вясной 1944 г. у склад 77-га пяхотнага палку ў якасці 4-га батальёну была ўключана група «Рагнер», якая дагэтуль дзейнічала самастойна. Пачынаючы з 1943 г. пад камандванне Чэслава Заянчкоўскага («Рагнера») сабралася некалькі сотняў байцоў, якія, дзякуючы сваім акцыям, здабылі вядомасць у Лідскім раёне. Група «Рагнер» змагалася не толькі з нямецкімі акупацыйнымі войскамі, але і з савецкімі партызанскімі атрадамі. Негледзячы на акцыю раззбраення і арыштаў байцоў АК, распачатую савецкай дзяржбяспекай пасля аперацыі «Вострая Брама» летам 1944 г., байцы 4-га батальёну працягвалі напады на толькі што створаную савецкую адміністрацыю і падраздзяленні Чырвонай Арміі. Дзякуючы



*Мемарыяльнае месца загінулым салдатам Арміі Краёвай, Нецеч* *Фота: Антон Астаповіч*

падтрымцы мясцовага насельніцтва група «Рагнер» дзейнічала да пачатку снежня 1944 г. Савецкая дзяржбяспека, спецпадраздзяленні НКВД і часткі рэгулярнай арміі пачалі ў апошнія дні лістапада шырокамаштабную вайсковую акцыю з мэтай разгрому групы «Рагнер». Пасля таго, як у вёсках Нецеч і Клюкавічы (польск.: Klukowicze) былі арыштаваны некалькі змагароў АК, а таксама было знойдзена месца схову групы, 3 снежня 1944 г. адбыліся баі паміж савецкімі войскамі і змагарамі АК, у выніку якіх Заянчкоўскі і чатыры іншых байца былі забіты, а два іншыя – арыштаваны. Негледзячы на тое, што аддзел «Рагнер» быў разбіты, тыя яго байцы, якія выжылі, працягнулі супрацў у складзе іншых падпольных фармацый да канца 1940-х гг.

**Надпіс**
На польскай мове

W hołdzie żołnierzom IV bat. »Ragnera«
77 p. p. Armii Krajowej poległym,
pomordowanym, zaginionym i zmarłym
w więzieniach, łagrach i obozach,
mieszkańcom Ziemi Lidzkiej, którzy walczyli
z hitlerowskim okupantem i stalinowskim
totalitaryzmem o niepodległość Ojczyzny
żołnierze IV bat. »Ragnera« i rodziny

У даніну памяці салдатам IV батальёна
"Рагнера" 77 пяхотнага палка Арміі
Краёвай, загінулым, забітым, зніклым і
памерлым ў турмах, лагерах, жыхарам
Лідчыны, якія змагаліся з гітлераўскім
акупантам і сталінскім таталітарызмам
за незалежнасць Айчыны. Салдаты IV
батальёна "Рагнера" і сем'і

**Месца знаходжання**
у будынку касцёла Св. Міхаіла Арханёла, Нецеч, Лідскі раён, Гродзенская вобласць

## Помнік Тамашу Калінскаму

***Міжэрычы***. Помнік польскаму святару Тамашу Калінскаму быў урачыста адкрыты на могілках вёскі Міжэрычы (польск.: Międzyrzecz) у 1992 г. Ён быў усталяваны паводле ініцыятывы святара Яна Банкоўскага і каталіцкай парафіі вёскі, каб нагадваць пра забойства Калінскага жаўнерамі Чырвонай Арміі ў 1939 г. Саюз палякаў Беларусі падтрымаў гэтую ідэю. 27 чэрвеня 2004 г. з нагоды гадавіны з дня смерці Калінскага непадалёк ад царквы ля дарогі на Міжэрычы быў усталяваны памятны крыж, які пазначае месца, дзе ў 1939 г. быў расстраляны Калінскі.

Тамаш Калінскі нарадзіўся 20 сакавіка 1892 г. у Крынках Гродзенскай вобласці. Ён хадзіў у школу ў Сакалоўцы, якая сёння належыць да Польшчы, і ўжо ў юнацтве пазнаёміўся з польскім нацыянальным рухам. У 1913 г. ён паступіў у духоўную семінарыю ў Вільні, адкуль у пачатку Першай сусветнай вайны ўцёк у Бабруйск. Падчас вайны Калінскі працягнуў сваю вучобу ў Жытоміры, які сёння знаходзіцца ва Ўкраіне, і быў высвечаны на дыякана.

Маючы гэты сан, у 1918 г. ён прыбыў ў Сідру, якая знаходзілася непадалёк ад яго роднай вёскі – сёння гэта Польшча – дзе служыў да свайго прызначэння вікарыем ў Гродне. У наступныя гады Калінскі працаваў на ніве польскага школьніцтва, а таксама займаў розныя пасады ў Каталіцкім Касцёле. У 1926 г. ён быў пераведзены ў парафію ў Нараўцы (польск.: Narewka), дзе служыў на працягу дзесяці гадоў, пакуль не быў пераведзены ў парафію ў Міжэрычах перад пачаткам Другой сусветнай вайны. Пасля прыходу Чырвонай Арміі на польскія ўсходнія

абшары Калінскі застаўся на акупаванай саветамі тэрыторыі. Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 г. Калінскі быў арыштаваны адступаючымі савецкімі войскамі раніцай 25 чэрвеня 1941 г. Ён быў арыштаваны разам з арганістам Паўлам Звяжэвічам (польск.: Zwierzewicz) па абвінавачванні ў тым, што нібыта з касцёлу вёскі вялася стральба па Чырвонай Арміі. Негледзячы на тое, што касцёл быў зачынены і ў ім не знайшлі зброі, камандзір адвёў убок Калінскага і Звяжэвіча і расстраляў іх. Целы засталіся ляжаць на дарозе ў Межавічы. Пасля адыходу савецкіх войск жыхары вёскі, якія назіралі за падзеямі, пахавалі забітых. Тамаш Калінскі быў пахаваны 27 чэрвеня на касцёльным двары пасля таго, як Міжэрычы ўжо былі заняты нямецкімі войскамі.

**Надпіс**
На польскай мове

Ks. Tomasz Kaliński,
Proboszcz Międzyrzecza,
Kapelan Harcerstwa i Wojska Polskiego.
Zamordowany podczas służby Bogu i
Ojczyźnie w 1941 roku.
Męczennikowi za wiarę i polskość
parafianie i rodacy Związku Polaków na
Białorusi w 1992 roku
Ксёндз Тамаш Калінскі,
пробашч Міжэрычаў, капелан
гарцэрства і польскага войска,
забіты падчас службы Богу і Айчыне ў
1941 г.

**Месца знаходжання**
на могілках, Міжэрычы,
Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць



*Помнік Тамашу Калінскаму, Міжэрычы* *Фота: Марыюш Проскень*

## Крыж памяці ахвярам рэпрэсій

*Слонім*. Памятны крыж ахвярам рэпрэсій знаходзіцца ў двары царквы Св. Тройцы ў Слоніме. Ён быў усталяваны парафіянамі напачатку 1990-х гг. на ўспамін аб ахвярах сталінізму. За мінулы час усялякі напамін пра тое, чаму ён быў усталяваны, быў знішчаны

**Месца знаходжання**
Царква Св. Тройцы, Слонім,
Гродзенская вобласць



*Крыж памяці ахвярам рэпрэсій, Шылавічы*
*Фота: Усевалад Сіняк*

## Магіла Яна Вэбера

*Слонім*. Магіла каталіцкага святара Яна Вэбера была створана ў 1920 г. у двары касцёла св. Апостала Андрэя. У 1934 г. яна атрымала сваю сённяшнюю форму – саркафагу з пяшчаніку з выявай Хрыста, які быў адноўлены на сродкі парафіі і польскай меншасці ў 1990-х гг.

Ян Вэбер нарадзіўся ў 1878 г., скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні, дзе быў высвячаны на святара ў 1901 г. Перад Першай сусветнай вайной ён займаў розныя пасады ў касцёльнай іерархіі ў Друі і Слоніме. У 1918 г. Вэбер працаваў ў польскім самакіраванні, якое было створана яшчэ падчас нямецкай акупацыі. Пасля сканчэння вайны Вэбер падтрымліваў стварэнне польскіх вайсковых аддзелаў, якія фармаваліся для змагання з наступаючай Чырвонай Арміяй. Пасля прыходу бальшавіцкіх войск у Слонім у пачатку 1919 г. Вэбер быў арыштаваны і змешчаны ў слонімскую турму 27 студзеня. Разам з ім былі арыштаваны іншыя каталіцкія святары і служачыя польскай адміністрацыі. Праз два дні Вэбер быў расстраляны ў лясным масіве непадалёк ад дарогі на Баранавічы. За пакараннем смерцю назіралі мясцовыя жыхары, якія пахавалі яго цела пасля адыходу Чырвонай Арміі. Вэбер з пашанай быў пахаваны ў двары слонімскага касцёла. У 1934 г. да помніка далучылі статую Хрыста, якая была адноўлена ўжо ў наш час. Пасля вызвалення Слоніма і яго далучэння да Савецкага Саюзу ў 1944 г. магіла была зраўняна з зямлёй, а ўсё, што нагадвала пра Вэбера, знішчылі.

**Месца знаходжання**
перад касцёлам Святога Андрэя Апостала, Слонім, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны крыж ахвярам рэпрэсій

***Шылавічы.*** Мемарыяльны крыж ахвярам рэпрэсій быў усталяваны мясцовымі жыхарамі ў верасні 1999 г. на старым царкоўным двары ў вёсцы Шылавічы. На шасціканцовым драўляным крыжы змяшчаецца шыльда, а на папярэчыне – надпіс, які нагадвае пра забойства мясцовага праваслаўнага святара ў 1939 г.

Пасля прыходу савецкіх войскаў ва Усходнюю Польшчу ў 1939 г. вёска Шылавічы была занята Чырвонай Арміяй. Яшчэ падчас адыходу польскіх войскаў месцамі ствараліся атрады так званай Чырвонай Гвардыі. У іх склад уваходзілі перш за ўсё камуністы, якія дагэтуль знаходзіліся ў падполлі. Яны бралі ўладу на месцах у свае рукі, а таксама прымалі захады супраць польскіх асаднікаў і касцёлу, якія лічыліся прыгнятальнікамі шырокіх колаў насельніцтва. У Слонімскім павеце кіраўніцтва Чырвонай гвардыяй узяў на сябе Фёдар Кавалеўскі – камуніст, які незадоўга да гэтага быў вызвалены з турмы. Разам з іншымі гвардзейцамі Кавалеўскі прыбыў у вёску Шылавічы ў канцы верасня 1939 г. і арыштаваў там праваслаўнага святара Міхаіла (Андрэя) Куца. Кавалеўскі і яго саратнікі па-зверску збілі святара. Усё насельніцтва вёскі было сагнана, каб назіраць за гэтым спектаклем. Гэтай жа ноччу сям’я Куцаў была расстраляна непадалёк ад вёскі разам з мясцовым ляснічым.



*Надмагільны помнік Яну Вэберу, Слонім* *Фота: Марыюш Проскень*



*Крыж памяці ахвярам рэпрэсій, Слонім*
*Фота: Усевалад Сіняк*

**Надпіс**
На беларускай мове

Кресту твоему поклоняемся, Владыко
На вечныя гады /
памяці ўсіх замуча- /
ных і забітых у ча- /
сы бязбожных га- /
ненняў

**Месца знаходжання**
на царкоўных могілках,
Шылавічы, Слонімскі раён,
Гродзенская вобласць

## Помнік святару Андрэю Цікоту

***Жодзішкі.*** Помнік грэка-каталіцкаму святару Андрэю Цікоту быў урачыста адкрыты 1 лістапада 2003 г. на могілках у мястэчку Жодзішкі. Ён быў узведзены па ініцыятыве грэка-каталіцкай парафіі, якая стварыла сімвалічную магілу памерламу ў 1952 г. у лагеры пад Тайшэтам (Усходняя Сібір) святару. Скульптар і каваль Юрась Мацко вырабіў чатырохканцовы крыж, які змешчаны на камені, апрацаваным Уладзімірам Панцялеевым. Валун мае таксама і шыльду з надпісам.

Андрэй Цікота нарадзіўся 5 снежня 1891 г. на беларуска-літоўскім памежжы. Пасля сканчэння школы ў Ашмянах Цікота паступіў у каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні ў 1909 г., адкуль перавёўся ў Пецярбуржскую духоўную акадэмію ў 1913 г. Там ён вывучаў тэалогію і філасофію. У 1914 г. Цікота атрымаў святарскія свячанні. У 1917 г. ён вярнуўся ў Беларусь, дзе быў святаром спачатку ў Маладзечне, а пасля ў Мінску. Цэлы год ён быў выкладчыкам мінскай духоўнай

семінарыі, дзе працаваў да 1920 г. Цікота вырашыў завяршыць святарскую дзейнасць і ў той самы год уступіў у ордэн марыянаў у Марыямпалі (Літва). Адтуль у 1921 г. ён быў накіраваны ў Амерыку, дзе выконваў душпастырскае служэнне для літоўскай дыяспары. Летам 1923 г. Цікота вярнуўся ў Літву, дзе атрымаў ад біскупа Матулевіча (літ.: Matulajstis) даручэнне стварыць першы беларускі кляштар у Друі, якая тады ўваходзіла ў склад Польшчы. Негледзячы на супраціў польскіх улад, а таксама ўнутры самой каталіцкай царквы, яму ўдалося заснаваць беларускую парафію і аднавіць грэка-каталіцкі абрад. Цікота выконваў не толькі душпастырскае служэнне – ён таксама заснаваў там беларускую школу. У 1933 г. ён быў прызначаны генералам ордэну марыянаў і заставаўся на гэтай пасадзе да 1939 г., служачы ў Рыме. Пасля пачатку Другой сусветнай



*Праваслаўная царква ў Шылавічах*
*Фота: Усевалад Сіняк*

вайны ён стаў на чале каталіцкай місіі ў Харбіне, дзе працаваў у якасці місіянера да 1948 г. 28 снежня таго ж году разам з іншымі беларускімі святарамі з ордэну марыянаў ён быў арыштаваны кітайскімі ўладамі і праз два дні перададзены Савецкаму Саюзу. Некалькі месяцаў – пакуль вялося следства≈– ён знаходзіўся пад арыштам у Чыце, а ў маі 1949 г. на тайным паседжанні ў Маскве НКВД вынесла святару прысуд.

Ён быў засуджаны да 25 год зняволення ў лагерах па абвінавачанні ў стварэнні антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі ў Харбіне і ў шпіянажы на карысць Ватыкану. Пасля знаходжання ў розных лагерах Далёкага Усходу Цікота быў пераведзены ў Тайшэт ў 1951 г. Савецкая дзяржбяспека прапанавала яму перайсці ў праваслаўе і атрымаць годнасць мітрапаліта мінскага. Пасля таго, як хворы Цікота адмовіўся ад гэтай прапановы, яму спынілі аказваць медыцынскую дапамогу. Ён памёр ад знясілення 13 лютага 1952 г. і быў пахаваны ў безыменнай магіле на лагерных могілках.

**Месца знаходжання**
перад Касцёл Найсв. Тройцы,
Жодзішкі, Смаргонскі раён,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны крыж Расціславу Лапіцкаму

***Красны Беражок.*** Мемарыяльны крыж Расціславу Лапіцкаму быў усталяваны 6 сакавіка 2008 г. на беразе ракі Оксна непадалёк ад Вілейкі чальцамі моладзевай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту. Ён стаяў побач з прысвечаным Лапіцкаму камнем, які

быў усталяваны на гэтым месцы годам раней. Шасьціканцовы драўляны крыж вышынёй у тры метры меў надпіс на лаціне. Гэта месца было абрана з тае прычыны, што тут збіраліся чальцы групы супраціву, якую ўзначальваў Лапіцкі. Праз некалькі дзен пасля ўсталявання крыж зваліліі, аднак яго паставілі зноў. Тым часам невядомыя вывезлі камень. У 2009 г. зноў рабіліся спробы ўсталяваць памятныя знакі, аднак іх адразу прыбіралі альбо знішчалі.

Расціслаў Лапіцкі нарадзіўся 1 верасня 1928 г. у вёсцы Касута Вілейскага раёну ў сям'і праваслаўнага святара. Ён паступіў у Віленскую беларускую гімназію, дзе пазнаёміўся з беларускім нацыянальным рухам. Калі пачалася Другая сусветная вайна, сям'я пераехала ў Мядзел, дзе бацька стаўся настаяцелем мясцовага прыходу. Яго старэйшы брат Алег Лапіцкі пачаў навучанне ў Віленскай духоўнай семінарыі. Пасля вызвалення летам 1944 г. Алег Лапіцкі быў арыштаваны НКВД, бо было падазрэнне, што ў асяроддзі семінарыстаў існавала антысавецкая група супраціву. Крыху пазней Расціслава Лапіцкага таксама арыштавалі і засудзілі да пазбаўлення волі за антысавецкую агітацыю. Абодва браты, як і іншыя, хто лічыўся чальцамі групы, былі вызвалены падчас амністыі ў канцы вайны ў пачатку лета 1945 г. Пасля смерці бацькі ў 1946 г. сям'я пераехала ў вёску Мікасецк ля Мядзела, дзе Расціслаў працягваў хадзіць у школу. З прычыны разрухі і рэквізіцый, якія ажыццяўляліся савецкімі ўладамі, у 1949 г. сям' я была змушана ўцякаць ад пагрозы голаду і таму пераехала ў Смаргонь. У мясцовай школе Лапіцкі пазнаёміўся з іншымі школьнікамі, якія з-за штодзённай нястачы і сталінскіх рэпрэсій супраць вясковага насельніцтва аб'ядналіся ў групу супраціву. Разам яны слухалі заходнія радыёстанцыі і распаўсюджвалі інфармацыю сярод сваіх аднакласнікаў. 5 снежня 1949 г. яны наклеілі на грамадскія будынкі ў Смаргоні самаробныя ўлёткі, у якіх перасцерагалі сялян ад уступлення ў калгасы пад лозунгам "Смерць Сталіну!" Пасля гэтага савецкая дзяржбяспека пачала шукаць арганізатараў гэтай акцыі. Ужо праз некалькі дзён былі арыштаваны першыя школьнікі. На допытах іх прымусілі назваць імёны іншых чальцоў групы. Пасля гэтага Расціслаў Лапіцкі ўцёк з Мядзела і схаваўся ў хаце ў вёсцы Мікасецк, дзе раней жыла яго сям'я. Там ён усталяваў кантакт з падпольшчыкамі. Змагары з польскага супраціву павінны былі пераправіць яго праз мяжу ў Польшчу. Перад ажыццяўленнем гэтага плану ў ноч з 1 на 2 лютага 1950 г. Лапіцкі быў арыштаваны савецкай дзяржбяспекай. Чэкісты знайшлі месца, дзе хаваліся чальцы групы, якія яшчэ заставаліся на волі. Школьніка Генадзя Нафрановіча застрэлілі падчас затрымання. Астатнія чальцы групы трапілі ў турмы Вілейкі і Маладзечна. З 17 па 20 ліпеня 1950 г. у судзе Маладзечанскай вайсковай акругі адбыўся працэс. Арыштаваныя былі абвінавачаны ў стварэнні тэрарыстычнай арганізацыі і правядзенні антысавецкай прапаганды. Расціслаў Лапіцкі як кіраўнік групы был асуджаны да пакарання смерцю праз расстрэл. Прысуд быў выкананы 28 кастрычніка 1950 г. Цела был пахаваны ў брацкай магіле непадалёк ад Вілейкі. Астатнія шаснаццаць чальцоў групы былі асуджаны да зняволення ў лагерах тэрмінам ад 8 да 25 гадоў.

**Надпіс**

На беларускай мове

У гэтым месцы /
растраляны /
РАСЦІСЛАЎ ЛАПІЦКІ /
(I. IX. 1928–28. X. 1950)

**Месца знаходжання**
на беразе ракі Оксна,
вёска Красны Беражок,
Вілейскі раён,
Гродзенская вобласць

## Мемарыяльны крыж ахвярам фашызму і камунізму

*Войстам*. Мемарыяльны крыж ахвярам фашызму і камунізму быў усталяваны на могілках Войстама ў 2007 г. Ініцыятарам усталявання вялікага белага каменнага крыжа выступіла каталіцкая парафія вёскі. Да пастаменту прымацавана шыльда, якая нагадвае пра напад Германіі на Польшчу, які адбыўся 1 верасня, а таксама пра ўваход савецкіх войскаў ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Ofiarom Faszyzmu i Komunizmu /
1 i 17 września 1939
Ахвярам фашызму і камунізму
1 і 17 верасня 1939 г.

**Месца знаходжання**
перад касцёлам, Войстам,
Смаргонскі раён,
Гродзенская вобласць



*Мемарыяльны крыж ахвярам фашызму і камунізму, Войстам* *Фота: Марыюш Проскень*

## Крыж памяці ахвяраў таталітарызму

***Ваўкавыск***. Крыж памяці ахвяраў таталітарызму быў усталяваны 14 ліпеня 2007 г. на ўскраіне Ваўкавыску ля дарогі на Слонім. Усталяванне сціплага шасціканцовага драўлянага крыжа было ініцыявана жыхарамі Гродна, Свіслачскага і Мастоўскага раёнаў, а таксама краязнаўцам Віктарам Вайчуком з Ваўкавыску. Крыж быў асвечаны ўніяцкім святаром з Гродна. На месцы, дзе ўзвышаецца крыж, знаходзіўся грэка-каталіцкі храм, які быў зруйнаваны ў паваенныя гады. Мяркуецца, што непадалёк ад гэтага храму савецкай дзяржбяспекай праводзіліся расстрэлы.

Горад Ваўкавыск (польск.: Wołkowysk) адышоў да Польшчы пасля заключэння Рыжскага міру ў 1921 г. З прыходам Чырвонай арміі ва Усходнюю Польшчу 17 верасня 1939 г. Ваўкавыск быў далучаны да БССР і стаўся цэнтрам аднайменага раёну. Перш за ўсё падчас савецкай акупацыі рэпрэсіі закранулі польскае насельніцтва. З 1940 па 1941 гг. невядомая колькасць мясцовых жыхароў была накіравана ў лагеры ГУЛАГу і выслана ў Сібір. Акрамя таго, у Ваўкавыску знаходзілася турма раённага ўпраўлення савецкай дзяржбяспекі. У ёй у чэрвені 1941 г. былі зняволены больш за 300 чалавек. Існуе меркаванне, што невядомая колькасць вязняў была пакарана смерцю ў перыяд з 1939 па 1941 гг. Лічыцца, што іх магілы знаходзяцца побач з месцам, дзе стаяў уніяцкі храм, а сёння ўсталяваны крыж. Калі Германія напала на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г., турму павінны былі эвакуіраваць. Вечарам таго ж дня вязняў пагналі ў кірунку Баранавічаў. Калона вязняў аднак не дабралася да месца прызначэння. Пасля таго, як у наступны дзень Баранавічы былі падвергнуты бамбардаванню, кіраўніцтва тамтэйшай турмы ўцякло. Лёс вязняў ваўкавыскай турмы невядомы. Пасля таго, як Чырвоная армія вызваліла гэту мясцовасць восенню1944 г., Армія Краёва (АК) працягнула супраціў савецкім войскам, які доўжыўся прыкладна да 1949 г. Летам 1945 г. у Ваўкавыску войскі савецкай дзяржбяспекі атакавалі і знішчылі групу байцоў АК. Іх целы былі закапаны на вуліцы Міцкевіча. У самім горадзе быў арганізаваны лагер для ваеннапалонных і інтэрнаваных асобаў № 281, у якім побач з нямецкімі ваеннапалоннымі змяшчаліся сотні змагароў з шэрагаў АК. Адтуль іх накіроўвалі ў лагеры ГУЛАГу.

**Надпіс**
На беларускай мове

У памяць нявінных ахвяраў
XIX–XX стагодзя / На гетым месцы
стаяла Уніцкая царква

**Месца знаходжання**
на ўездзе ў Ваўкавыск з боку Слоніма, Ваўкавыск, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльнае пахаванне Яніны і Тадэвуша Сляшынскіх

***Ваўкавыск.*** Мемарыяльнае пахаванне Яніны і Тадэвуша Сляшынскіх было створана іх сваякамі на каталіцкіх могілках Ваўкавыска (польск.: Wołkowysk) у пачатку 1990-х гг. Сціплая бетонная пліта мае шыльду з надпісам, які паведамляе пра лёс памерлых.

Тадэвуш Сляшынскі нарадзіўся 17 лістапада 1898 г. у Ломжы (Польшча). У міжваенны час ён працаваў настаўнікам у Ваўкавыску. У верасні 1939 г. Сляшынскі служыў у якасці унтэрафіцэра ў Польскім войску. Затым трапіў у палон. Тадэвуш Сляшынскі быў забіты разам з іншымі польскімі вайскоўцамі і цывільнымі асобамі вясной 1940 г. у Катыні. Яго парэшткі былі ідэнтыфікаваны падчас адкрыцця брацкіх магіл, якое праводзілася пад нямецкай акупацыяй, і затым перапахаваны. Яго жонка Яніна загінула ў Ваўкавыску падчас нямецкай акупацыі ў 1942 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Janina Śleszyńska, Nauczycielka,
1900–1942
Tadeusz Śleszyński, Nauczyciel, Ppor. Wojska Polskiego. Zamordowany w Katyniu.
1898–1940
Pamiątka od synów i córki

Тадэвуш Сляшынскі, настаўнік,
падпаручнік польскага войска,
забіты ў Катыні, 1898-1940.
У памяць ад сыноў і дачкі

**Месца знаходжання**
на каталіцкіх могілках, Ваўкавыск, Ваўкавыскі раён, Гродзенская вобласць

## Памятны крыж ахвярам рэпрэсій і вайны

***Пеляса.*** Перад касцёлам св. Лінуса ў пачатку 1990-х гг. быў усталяваны манументальны драўляны крыж вышынёй прыкладна чатыры метры, які быў выканаНы ў традыцыях літоўскай разбы па дрэву. На яго баках прымацаваны дзве шыльды з імёнамі



*Крыж памяці ахвярам рэпрэсій і вайны, Пеляса* *Фота: sevruk@telsgroup.by*

тых жыхароў, якія былі дэпартаваны ў Сібір, далучыліся да руху супраціву альбо сталіся ахвярамі савецкай ці нямецкай акупацый. Дубовы крыж быў усталяваны пры падтрымцы Літоўскага фонду культуры, а таксама на ахвяраванне Саламеі Наркелюнайтэ – журналісткі з ЗША, якая эмігравала туды ў 1944 г. Пеляса (літ.: Pelesa) з'яўляецца адным з цэнтраў літоўскай меншасці ў Беларусі.

У вёсцы Пеляса ўжо на працягу многіх стагоддзяў пражывае літоўскамоўная меншасць. У міжваенную пару населены пункт належаў да Польшчы. Да таго часу адносяцца царква і будынак вясковай школы. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу ў выніку падпісання пакту Молатава-Рыбентропа правы літоўскай меншасці спачатку былі пашыраны. Адначасова ў 1940 г. некаторыя жыхары вёскі былі дэпартаваныя ў Сібір. Падчас нямецкай акупацыі з 1941 па 1944 гг. напружанне на этнічнай глебе – у першую чаргу з палякамі – узмацнілася. Пасля вызвалення гэтай мясцовасці летам 1944 г. нацыянальны літоўскі супраціў савецкаму рэжыму быў працягнуты. Некаторыя жыхары далучыліся да падпольных аддзелаў лясных братоў. У 1952 г. у вёсцы правялі калектывізацыю. У той самы год зачынілі касцёл. Ён выкарыстоўваўся ў якасці складу для ўгнаенняў, а ў 1962 г. быў часткова разабраны. Невядомая колькасць жыхароў была арыштавана і дэпартавана ў канцы 1940 – пачатку 1950 гг. Правы меншасці – напрыклад, права на ўжыванне літоўскай мовы – былі абмежаваны ў наступныя дзесяцігоддзі. 23 верасня 1989 г. храм быў вернуты парафіі, у наступныя гады адбылася яго рэстаўрацыя. На ўспамін аб ахвярах савецкага і нямецкага рэжымаў у касцёльным двары быў усталяваны памятны крыж.

**Месца знаходжання**
перад касцёлам, Пеляса, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

## Мемарыяльныя могілкі загінулым салдатам Арміі Краёвай

***Сурконты.*** Мемарыяльныя могілкі загінулым салдатам Арміі Краёвай (АК), якія знаходзіліся пад камандаваннем Мацея Калянкевіча (польск.: Maciej Kalenkiewicz) "Котвіча" былі закладзены 8 верасня 1991 г. непадалёк ад вёскі Сурконты. Да таго парэшткі 27 забітых на гэтым месцы НКВД 21 жніўня 1944 г. людзей былі эксгумаваны і перапахаваны ў брацкай магіле. Ініцыятыва зыходзіла ад аб'яднання Страж польскіх магіл, якое дамаглося ад савецкіх улад прадастаўлення магчымасці належным чынам уладкаваць магілы змагароў вясной 1990 г. Кожнае месца пахавання было пазначана гранітным кры жом, могілкі абнеслі невысокім мурам.

Падчас наступу Чырвонай Арміі на Захад вясной 1944 г. кіраўніцтва Арміі Краёвай прыняла рашэнне распачаць на ўсходнепольскіх землях паўстанне супраць нямецкіх акупацыйных войск. Аперацыя пад назвай "Бура" пачалася 2 ліпеня 1944 г. За некалькі дзён да таго Чырвоная Армія пачала маштабны наступ з мэтай вызвалення сённяшніх заходнебеларускіх абшараў. Злучэнні акругаў АК "Вільня" і "Навагрудак" (польск.: Nowogródek) пачалі ў сваю чаргу рухацца на Вільню 6 ліпеня 1944 г. Аўтарам гэтай акцыі, вядомай пад назвай "Вострая Брама", быў камандзір

АК у Навагрудку Мацей Калянкевіч, які меў падпольную мянушку "Котвіч". Падчас крывавых баёў у першыя дні ліпеня многія змагары АК загінулі. Аднак паўстанцам удалося вызваліць горад 13-14 ліпеня 1944 г. За чатыры дні да гэтага яны ўсталявалі кантакт з савецкімі войскамі, якія ў сваю чаргу таксама ўзялі ўдзел у баях, задзейнічаўшы невялікую колькасць сваіх сіл. 15 ліпеня савецкія войскі ўступілі ў Вільню і пачалі інтэрнаванне польскіх салдат. Калі на наступны дзень была арыштавана частка афіцэрскага корпусу, салдаты АК атрымалі загад неадкладна спыніць супрацоўніцтва з савецкімі войскамі. Тыя злучэнні, што засталіся, былі сабраны ў лясах пад Вільняй, аднак іх хутка выкрылі і заатакавалі савецкія часткі. Тысячы змагароў АК трапілі ў палон і былі адпраўлены ў лагеры ГУЛАГу. Іншым удалося патрапіць у Цэнтральную Польшчу, дзе падпольная барацьба была працягнута. Толькі меншая іх частка засталася ў лясах. Сярод іх быў Мацей Калянкевіч, які разам з 36 жаўнерамі працягнуў супраціў у размешчанай на поўдзень ад Навагрудку мясцовасці. 21 жніўня 1944 г. гэты аддзел быў знойдзены спецпадраздзяленнямі НКВД непадалёк ад Сурконтаў, пачаўся зацяты бой. Ні адзін з паўстанцаў не застаўся ў жывых. Іх парэшткі былі пахаваныя на гэтым самым месцы ў брацкай магіле.

**Надпіс**
На польскай мове

ŻOŁNIERZOM ARMII KRAJOWEJ / OKRĘGÓW »NÓW« I »WIANO«/ POLEGŁYM ZA POLSKIĘ / POD SURKONTAMI 21 VIII 1944 R. I W PODDUBICZACH 19 VIII 1944 R.

Салдатам Арміі Краёвай акругаў „Nów" і „Wiano", загінулым за Польшчу пад Сурконтамі 21.VIII.1944 г. і ў Паддубічах 19.VIII.1944 г.

**Месца знаходжання**
на ўскраіне вёскі,
Сурконты, Воранаўскі раён,
Гродзенская вобласць



*Мемарыяльныя могілкі загінулым салдатам Арміі Краёвай, Сурконты* *Фота: Марыюш Праскень*



*Крыж памяці пакутнікам за Беларусь, Барысаў* *Фота: Сяргей Сацук*

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### Крыж памяці пакутнікам за Беларусь

***Барысаў***. Крыж памяці пакутнікам за Беларусь быў усталяваны моладзевым рухам "Зубр" у дзень памяці продкаў 2 лістапада 2001 г. на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу "Батарэя" на беразе ракі Беразіна ў Барысаве. Чатырохметровы бярозавы крыж быў знішчаны невядомымі ў ноч з 29 на 30 мая 2003 г., але і да гэтага ён шмат разоў быў пашкоджаны. За прамінулы час быў усталяваны новы драўляны крыж, які сёння можна ўбачыць на тэрыторыі мемарыялу.

Барысаўская батарэя была пабудавана расійскай арміяй у якасці збудавання абарончага тыпу напрыканцы 18 ст. Падчас адступлення Напалеона з Расіі яго войскі былі разгромлены на рацэ Беразіне ля Барысава. Батарэя служыла расійскім войскам у якасці галоўнага апорнага пункта і была моцна пашкоджана падчас баёў. У наступныя дзесяцігоддзі крэпасць заняпала, а ў наваколлі паўсталі жылыя раёны. Са сканчэннем Першай сусветнай вайны і заключэннем Рыжскага міру ў 1921 г. Барысаў увайшоў у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Частка збудаванняў была ператворана ў мемарыял пастановай Савета Народных Камісараў БССР ад 1926 г., іншую частку савецкая дзяржбяспека ператварыла ў закрытую тэрыторыю. Паводле даследванняў гісторыкаў у гэтай мясцовасці ў 1920-я – 1930–я гг. былі пакараны смерцю ад адной да двух тысяч людзей. Адна з самых маштабных экзекуцый адбылася 3 мая 1933 г. пасля таго, як было падаўлена паўстанне, якое было выклікана голадам, узнікшым у выніку правядзення калектывізацыі. Савецкая дзяржбяспека расстраляла тады больш за трыста яго ўдзельнікаў. Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз, які адбыўся летам 1941 г., мясцовасць спусцела, а пра магілы забыліся.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тут з 1919 па 1933 г. г. адбываліся /
растрэлы беларускіх патрыё-/
таў і мірных жыхароў /
Барысаўшчыны

**Месца знаходжання**
Мемарыял „Батарэі",
Батарэйны завулак,
Барысаў,
Мінская вобласць

## Памятны камень габрэям-ахвярам ГУЛАГу

***Барысаў.*** Памятны камень габрэям–ахвярам ГУЛАГу быў урачыста адкрыты ля ўваходу на старыя габрэйскія могілкі ў Барысаве ў 1991 г. Камень з чырвонага граніту вышынёй амаль што два метры быў усталяваны па ініцыятыве аб'яднання «Святло Меноры», якое было створана чальцамі габрэйскай грамады Барысава ў тым самым годзе. Камень быў усталяваны за кошт іх ахвяраванняў. На чорнай металічнай шыльдзе пазначаны імёны 16 габрэяў, якія былі пакараны смерцю альбо сасланы ў ГУЛАГ падчас масавага тэрору 1937/38 гг. За мінулы час камень быў прыбраны і заменены сціплай мармуровай плітой, на якой можна прачытаць імёны 66 габрэяў-ахвяраў сталінізму.

Габрэйская грамада Барысава (рус.: Борисов) існуе з 16 ст. Багацеючы ад гандлю і карыстаючыся перавагамі палітыкі рассялення ў Расійскай Імперыі, у 1900 г. яна складала больш за палову насельніцтва гораду. Колькасць габрэяў у Барысаве паменшылася ў выніку падзей Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. З прыходам савецкіх войск у 1920 г. і далучэннем гораду да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі габрэйская грамада пачала зноў набіраць сілы – яе колькасць дасягнула даваеннага ўзроўню ў 1939 г. Дзякуючы палітыцы беларусізацыі, якая праводзілася ў 1920-х гг., культурнае жыццё актывізавалася і зазнала новы росквіт. Адначасова з гэтым напрыканцы 1920-х гг. пачаўся пераслед габрэйскай рэлігійнай грамады. Апошнім равінам стаўся ў 1927 г. Янкель-Юда Рыжык. Да канца 1930-х гг. усе сем сінагог гораду былі закрыты, многія служыцелі культу арыштаваны і расстраляны. З пачаткам масавага тэрору восенню 1937 г. савецкая дзяржбяспека арыштавала і Рыжыка. Ён быў абвінавачаны ў кіраванні "антысавецкай падпольнай арганізацыяй". На падставе дадзенага абвінавачвання надзвычайны трыбунал НКВД БССР засудзіў яго 4 кастрычніка 1937 г. да смяротнага пакарання. Прысуд быў выкананы ў той самы дзень. Пракуратура Мінскай вобласці рэабілітавала яго паводле пастановы ад 30 лістапада 2000 г. Разам з Рыжыкам у тыя месяцы загінулі альбо былі адпраўлены ў высылку больш за 60 іншых габрэяў-жыхароў гораду. З ліку названых пайменна на мемарыяльнай пліце габрэяў большасць складалі звычайныя служачыя і работнікі, якія былі расстраляны па абвінавачванні ў правядзенні "антысавецкай прапаганды" альбо ў "шпіянажы". Адной з вядомых ахвяр з'яўляецца літаратар Ізі Давідавіч Харык. Ён нарадзіўся 6 сакавіка 1896 г. альбо, паводле іншых звестак, 17 сакавіка 1893 г. у вёсцы Зембін ля Барысава. У Барысаве ён асвойваў прафесію аптэкара. З пачаткам грамадзянскай вайны Харык уступіў у Чырвоную Армію і цягам наступных гадоў пісаў артыкулы для розных габрэйскіх газет. У 1921 г. ён пачаў вывучаць літаратуразнаўства ў Маскве, пасля чаго працаваў у рэдакцыі газеты "Штэрн". У 1927 г. Харык вярнуўся ў Мінск, дзе апублікаваў некалькі апавяданняў і раманаў. На падставе сваіх заслуг у галіне літаратуры ён стаўся чальцом саюзаў пісьменнікаў БССР і Савецкага Саюзу. НКВД арыштавала Харыка разам з іншымі вядомымі габрэйскімі пісьменнікамі і паэтамі 5 чэрвеня

1937 г. Пасля допытаў, якія доўжыліся некалькі тыдняў, 27 кастрычніка 1937 г. адбыўся судовы працэс. Абвінавачванне гучала як “сяброўства ў контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі”, якая нібыта планавала замахі на жыццё савецкіх партыйных функцыянераў. Мяркуецца, што Харык быў расстраляны 28 кастрычніка 1937 г. ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам. Яго жонка Дзіна была таксама арыштавана і адпраўлена ў лагер. Летам 1956 г. Ізі і Дзіна Харыкі былі рэабілітаваны Вайсковай пракуратурай БССР.

**Надпіс**
На рускай мове

Память о земляках-мучениках ГУЛАГа
Памяць пра землякоў-пакутнікаў ГУЛАГа

Агник Михаил Ильич (1890–1937) /
Айзенштадт Борух Иосифович (1890–1937) /
БАРКАН Эйзер Евнович (1894–1937) /
Баскинд Мария Григорьевна (1901–?) /




*Мемарыяльны камень яўрэям-ахвярам ГУЛАГа, Барысаў* *Фота: Ірына Кашталян*

Бейненсон Григорий Моисеевич (1901–?) /
Беленькая Юдифь Соломоновна (1908–?) /
Белькинд Макс Борисович (1906–1937) /
БЕЛЯВИН Берка Иосифович (1894–1938)/
Берман Евсей Маркович (1893–1979) / БОБРОВ Борис Яковлевич (1894–1938) / ВИГДОРЧИК Мендл Вульфович (1887–1938) /
Винницкий Янкель Гиршевич (1895–1975)
Газин Евсей Зеликович (1872–?) /
Герциков Залман Аронович (1892–1977) /
Годес Лазарь Моисеевич (1892–?) /
Горелик Цецилия Борисовна (1898–?) /
Гузовацкер Надежда Фёдоровна (1906–?) /
Гуревич Леонид Наумович (1907–?) /
Давидович Лев Григорьевич (1889–1957) /
ЗЕЛЬЦЕР Израиль Янкелевич (1889–1938) /
Златкин Лейба Иосифович (1898–1951) /
Каган Ольга Анатольевна (1902–1988) /
Каменецкий Гирш Мордухович (1895–1957)/
КАМЕНЬ Израиль Лейбович (1898–1938) /
Киселёв Евсей Моисеевич (1907–1937) /
Клаз Клара Леоновна (1897–1938) /
Клебанов Макс Абрамович (1905–1940) /
Клибанов Александр Ильич (1910–1994) /
Клионский Семён Павлович (1894–1938) /
Карачунская Рахиль Александровна (1898–?) / Кугель Лейб Гершевич (1914–1938) / Лапидус Мовша Самойлович (1916–1937) / ЛЕВИН Наум Абрамович (1890–1937) /
Левин Хаим Шмуйлович (1901–1937) /
Лифшиц Яков Абрамович (1915–1952) /
МАЗО Лейзер Шмуилович (1893–1937) /
МАТЛИН Лейба Гиршевич (1905–?) /
МОИСЕЕВ Лев Абрамович (1897–1937) /
Моисеева Мария Григорьевна (1903–?) /
Райхельсон Владимир Леонтьевич (1903–?) /
Райнес Самуил Маркович (1881–1937) /
РОЗЕНБЛЮМ Борис Израилевич (1895–?)/
РОЗЕНБЛЮМ Лейба Хаимович (1904–1936) /
РОЗЕНБЛЮМ Михаил Александрович (1875–1937) / РОЗЕНБЛЮМ Самуил Ицкович (1897–1937) /
Розенцвейг Вениамин Давыдович (1868–1937) /
Розет Берта Анатольевна (1896–?) /
Рубинштейн Лазарь Михайлович (1903–1938) /
Рыклин Борис (1902–?) /
САПОЖНИКОВ Гирш-Мердух Лейбович (1892–?) /
СИНЕЛЬНИКОВ Генрих Семёнович (1891–1938) /
Соскинд Михаил Макарович (1878–1938) /
Файнгауз Яков Давидович (1891–1941) /
Файн Липа Лейбович (1884–?) /
Фридман Исаак Натанович (1897–1984) /
ХАРИК Исаак Давидович (1896–1937) /
Цейтлин Матвей Борисович (1903–?) /
ШАПИРО Алтер Янклевич (1901–1937) /
Шапиро Исаак Ильич (1895–1940) /
ШАПИРО Макс Ильич (1891–1941) /
ШАПИРО Роман Матвеевич (1888–1937) /
ШУБ Соломон Менделеевич (1895–1938) /
Элькин Мирон Аронович (1899–1936) /
Элькинд Борис Михайлович (1899–1936) /
ЭлькинД Юлий Григорьевич (1902–1938) /
Эпштейн Соломон Маркович (1906–?)
Агнік Міхаіл Ільіч (1890–1937),
Айзенштадт Борух Іосіфавіч (1890–1937),
Баркан Эйзер Еўнавіч (1894–1937),
Баскінд Марыя Рыгораўна (1901–?),
Бейненсон Рыгор Маісеевіч (1901–?),
Беленькая Юдзіф Саламонаўна (1908?),
Белькінд Макс Барысавіч (1906–1937),
Белявін Берка Іосіфавіч (1894–1938),
Берман Яўсей Маркавіч (1893–1979),
Баброў Барыс Якаўлевіч (1894–1938),
Вігдорчык Мендл Вульфавіч (1887–1938),
Вінніцкі Янкель Гіршавіч (1895–1975),
Газін Яўсей Зелікавіч (1872–?),
Герцыкаў Залман Аронавіч (1892–1977),
Годэс Лазар Маісеевіч (1892–?),
Гарэлік Цэцылія Барысаўна (1898–?),
Гузавацкер Надзея Фёдараўна (1906–?),
Гурэвіч Леанід Навумавіч (1907–?),
Давідовіч Леў Рыгоравіч (1889–1957),
Зельцер Ізраіль Янкелевіч (1889–1938),
Златкін Лейба Іосіфавіч (1898–1951),
Каган Вольга Анатолеўна (1902–1988),

Камянецкі Гірш Мордухавіч (1895–1957),
Камень Ізраіль Лейбавіч (1898–1938),
Кісялёў Яўсей Маісеевіч (1907–1937),
Клаз Клара Леонаўна (1897–1938),
Клебанаў Макс Абрамавіч (1905–1940),
Клібанаў Аляксандр Ільіч (1910–1994),
Кліёнскі Сямён Паўлавіч (1894–1938),
Карачунская Рахіль Аляксандраўна (1898–?), Кугель Лейб Гершавіч (1914–1938),
Лапідус Моўша Самойлавіч (1916–1937),
Левін Навум Абрамавіч (1890-1937),
Левін Хаім Шмуйлавіч (1901–1937),
Ліфшыц Якаў Абрамавіч (1915–1952),
Маза Лейзер Шмуйлавіч (1893–1937),
Матлін Лейба Гіршавіч (1905–?),
Маісееў Леў Абрамавіч (1897–1937),
Маісеева Марыя Рыгораўна (1903–?),
Райхельсон Уладзімір Лявонцевіч (1903–?),
Райнес Самуіл Маркавіч (1881–1937),
Разенблюм Барыс Ізраілевіч (1895–?),
Разенблюм Лейба Хаімавіч (1904–1936),
Разенблюм Міхаіл Аляксандравіч (1875–1937),
Разенблюм Самуіл Іцкавіч (1897–1937),
Разенцвейг Веніямін Давыдавіч (1868–1937), Разет Берта Анатолеўна (1896–?),
Рубинштэйн Лазар Міхайлавіч (1903–1938), Рыклін Барыс (1902–?),
Сапожнікаў Гірш-Мердух Лейбавіч (1892–?),
Сінельнікаў Генрых Сямёнавіч (1891–1938),
Соскінд Міхаіл Макаравіч (1878–1938),
Файнгауз Якаў Давідавіч (1891–1941),
Файн Ліпа Лейбавіч (1884–?),
Фрыдман Ісаак Натанавіч (1897–1984),
Харык Ісаак Давідавіч (1896–1937),
Цэйтлін Мацвей Барысавіч (1903–?),
Шапіра Алтэр Янклевіч (1901–1937),
Шапіра Ісаак Ільіч (1895–1940),
Шапіра Макс Ільіч (1891–1941),
Шапіра Раман Мацвеевіч (1888–1937),
Шуб Саламон Мендзялеевіч (1895–1938),
Элькін Мірон Аронавіч (1899–1936),
Элькінд Барыс Міхайлавіч (1899–1936),
Элькінд Юлій Рыгоравіч (1902–1938),
Эпштэйн Саламон Маркавіч (1906–?)

**Надпіс, зроблены ў 1990 г.**
На рускай мове

ЖЕРТВАМ ГУЛАГА
БАРКАН Эйзер 1894–1937 /
БЕЛЯВИН Берка 1894–1938 /
БОБРОВ Шмуэль-Бер 1893–1937 /
ВИГДОРЧИК Мендл 1877–1937 /
ЗЕЛЬЦЕР Израиль 1889–1938 /
КАМЕНЬ Израиль 1898–1938 /
ЛЕВИН Хаим 1901–1937 /
МАЗО Лэйзер 1893–1938
МАГЛИН Лейба 1905–? /
МОИСЕЕВ Лев 1897–1937 /
РОЗЕНБЛЮМ Берка 1895–? /
САПОЖНИКОВ Гирш-Мердух 1892–? /
СИНЕЛЬНИКОВ Генрих 1891–1938 /
ХАРИК Исаак 1896–1937 /
ШАПИРО Алтер 1901–1937 /
ШУБ Соломон 1895–1938 и другие, чьи имена неизвестны.
От общества »Свет меноры«, 1995 год
АХВЯРАМ ГУЛАГУ
Баркан Эйзер (1894–1937),
Белявін Берка (1894–1938),
Баброў Шмуэль-Бер (1893–1937),
Вігдорчык Мендл (1877–1937),
Зельцэр Ізраіль (1889–1938),
Камень Ізраіль (1898–1938),
Левін Хаім (1901–1937),
Мазо Лэйзер (1893–1938),
Маглін Лейба (1905–?),
Маісееў Леў (1897–1937),
Разенблюм Берка (1895–?),
Сапожнікаў Гірш-Мердух (1892–?),
Сінельнікаў Генрых (1891–1938),
Харык Ісаак (1896–1937),
Шапіра Алтэр (1901–1937),
Шуб Саламон (1895–1938)
і іншыя, чые імёны невядомыя. Ад таварыства “Свет меноры», 1995 год

**Месца знаходжання**
старыя яўрэйскія могілкі, Агранамічны завулак, Барысаў, Мінская вобласць

## Мемарыяльная дошка Аляксандру Хацкевічу

***Барысаў***. Мемарыяльная дошка Аляксандру Хацкевічу знаходзіцца на доме, дзе ён жыў, які месціцца на вуліцы, названай у яго гонар. На сціплай каменнай дошцы белага колеру маецца выява чырвонай зоркі, абкружанай лаўровым вянком, і надпіс. Мяркуецца, што яна была ўсталявана ў 1970-х гг.

Аляксандр Хацкевіч нарадзіўся 28 студзеня 1895 г. у вёсцы Навасёлкі, якая сёння належыць да Барысава, у сям'і селяніна. У 14 год ён скончыў школу і наняўся працаваць работнікам лясной гаспадаркі. З пачаткам Першай сусветнай вайны Хацкевіч быў пакліканы ў расійскую армію і служыў у якасці унтэр-афіцэра ў батальёне сувязі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён уступіў у Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП) у сакавіку таго ж году. Пасля заключэння пераміра з краінамі Цэнтральнай Еўропы ў сакавіку 1918 г. ён вярнуўся на сваю радзіму, дзе быў абраны старшынём рэвалюцыйнага камітэту Навасёлак. Адначасова Хацкевіч браў удзел у стварэнні мясцовай суполкі РСДРП. Пасля заняцця Барысава нямецкімі войскамі летам 1918 г. ён сышоў у падполле, дзе заставаўся таксама і падчас польскай акупацыі з 1919 па 1920 гг. Пасля прыходу савецкіх войск летам 1920 г. Хацкевіч займаў важныя пасады ў новастворанымпартыйным і кіраўнічым апараце, а таксама актыўна удзельнічаў у перасследзе меркаваных і сапраўдных праціўнікаў новай улады. У 1921 г. ён камандаваў аддзелам спецыяльнага прызначэння ЧК, які выкарыстоўваўся пры разгроме антысавецкіх падпольных рухаў. У снежні 1922 г. ён браў удзел у падпісанні акту аб стварэнні Савецкага Саюзу ў Маскве ў якасці прадстаўніка Беларускай




*Мемарыяльная дошка Аляксандру Хацкевічу, Барысаў* *Фота: Сяргей Сацук*

Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У 1925 г. Хацкевіч быў прызначаны міністрам унутраных спраў БССР. Праз год ён быў пераведзены ў Маскву, дзе працаваў у якасці прадстаўніка БССР у Савеце Народных Камісараў да 1931 г. У сакавіку 1931 г. ён заняў пасаду міністра фінансаў рэспублікі ў Мінску. У наступныя гады Хацкевіч абіраўся чальцом Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюзу, а таксама ЦК Камуністычнай партыі Беларусі. У 1935 г. ён канчаткова пераехаў у Маскву, дзе працаваў у сакратарыяце па пытаннях нацыянальнасцяў. Падчас масавага тэрору Хацкевіч быў арыштаваны НКВД 24 ліпеня 1937 г., а затым расстраляны па абвінавачанні ў стварэнні тэрарыстычнай групы. Яго рэабілітацыя адбылася ў 1956 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

У гэтым доме ў 1919–1923 г.г. жыў / Хацкевіч/ Аляксандр Ісаакавіч (1895-1938г.г.) – / – актыўны барацьбіт за ўстанаўленне / Савецкай улады на Барысаўшчыне / З 1925 па 1937 год ён з'яўляўся членам / Урада БССР і СССР.

**Месца знаходжання**
вуліца Хацкевіча д. 64,
Барысаў, Мінская вобласць

## Мемарыяльны крыж палякам – ахвярам рэпрэсій у Койданаве

***Дзяржынск.*** У двары касцёла св. Ганны ў Дзяржынску сціплы металічны крыж чорнага колеру нагадвае пра тых палякаў, якія былі забіты альбо дэпартаваны паміж 1936 і 1939 гг. Крыж быў усталяваны арганізацыяй Страж польскіх магіл (Польшча) у 1990-х гг. Унізе размешчана невялікая металічная шыльда.

Пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў 1921 г. горад Койданава (польск.: Kojdanow) адышоў да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З-за таго, што ў горадзе пражывалі пераважна палякі, яму было прадастаўлена самакіраванне ў 1932 г. Адначасова з гэтым 192 гораду было нададзена імя заснавальніка бальшавіцкай тайнай паліцыі Фелікса Дзяржынскага, якое ён носіць па сённяшні дзень.

Горад быў цэнтрам польскай аўтаномнай акругі ў БССР. Існавалі польскія школы, бібліятэкі і іншыя ўстановы, якія мусілі сведчыць пра шырокую




*Крыж памяці палякам – ахвярам рэпрэсій у Койданаве, Дзяржынск Фота: Марыюш Проскень*

культурную аўтаномію. Адначасова ажыццяўляўся пераслед католікаў, а калектывізацыя, якая толькі пачыналася, цягнула за сабой незадаволенасць сельскага насельніцтва. Намер савецкага партыйнага кіраўніцтва саветызаваць насельніцтва праз нацыянальную культурную аўтаномію сутыкнуўся з супрацівам. З 1936 г. ліберальная нацыянальная палітыка была спынена. У тым жа годзе пачалася дэпартацыя палякаў з заходніх памежных тэрыторый Савецкага Саюзу. У Дзяржынску, які знаходзіўся на мяжы з Польшчай, яна таксама закранула мясцовых жыхароў. З пачаткам масавага тэрору ў 1937 г. НКВД правяло так званую польскую акцыю, ахвярамі якой сталася большая частка чальцоў дзяржаўнага і партыйнага апаратаў у аўтаномнай акрузе. У 1938 г. акруга была афіцыйна ліквідавана. Шмат мужчын было арыштавана і расстраляна, большая частка з іх ляжыць у брацкіх магілах Курапатаў пад Мінскам. Іншыя былі дэпартаваны ў Казахстан і Сібір. Невядома, колькі жыхароў Дзяржынску сталіся ахвярамі рэпрэсій. У 1937/38 гг. з Беларусі былі дэпартаваны 20.000 палякаў. Большая частка з іх пражывала ў аўтаномнай акрузе.

Надпіс
На польскай мове

Polakom Kojdanowszczyzny
ofiarom represji z lat 1936–1939.
Rodacy
Палякам Койданаўшчыны,
ахвярам рэпрэсій 1936–1939 гг.
Суайчыннікі

**Месца знаходжання**
перад касцёлам Св. Ганны,
Дзяржынск,



*Касцёл, Дзяржынск* *Фота: Марыюш Проскень*

Мінская вобласць

## Крыж памяці Слуцкага збройнага чыну 1920 г.

***Грозава***. Крыж памяці Слуцкага збройнага чыну 1920 г. быў асвечаны з нагоды 74-х угодкаў збройнага выступу 27 лістапада 1994 г. перад праваслаўнай царквой у Грозаве (раней Грозаў). Ён знахозіцца ў цэнтры населенага пункту насупраць месца, дзе да 1930-х гг. стаяла царква св. Мікалая. Ініцыятарамі ўсталявання крыжа выступілі аб'яднанне Мартыралог Беларусі і Беларускі Народны Фронт. Спраектаваў шасціканцовы крыж вядомы мастак Мікола Купава. Выраблены ён быў скульптарамі Station Бандале-



*Крыж памяці Слуцкага паўстання 1920 г., Грозава* *Фота: Ганна Севасцьянава*

вічам і Уладзімерам Слабодчыкавым. Шасціканцовы крыж вышынёй пяць метраў стаіць на п’едэстале з камянёў. На верхняй папярэчыне ён мае металічную шыльду з гістарычным беларускім гербам “Пагоня”.

Паводле распараджэння Рады Случчыны ў сярэдзіне лістапада 1920 г. быў створаны 2-гі Грозаўскі полк Слуцкай брыгады. У яго шэрагі сталі перш за ўсё сяляне навакольных вёсак, якія павінны былі спыніць наступ Чырвонай Арміі. Камандзірам быў прызначаны Лукаш Семянюк. Пасля пачатку баявых дзеянняў 27 лістапада 1920 г. полк быў уцягнуты ў шэраг цяжкіх баёў, падчас якіх загінула шмат яго байцоў. Напрыканцы снежня 1920 г. парэшткі палку накіраваліся ў Польшчу, дзе былі раззброены і інтэрнаваны.

Са спыненнем наступу савецкіх войскаў і іх выгнаннем пасля “цуду на Віслe” летам 1920 г. савецка-польская вайна ўступіла ў сваю апошнюю стадыю. У сярэдзіне кастрычніка 1920 г. польскі і савецкі ўрады пачалі дамаўляцца аб перамір’і, што скончылася падпісаннем у сакавіку 1921 г. Рыжскага міру. Паміж польскім і савецкім урадамі была дасягнутая дамоўленасць пра дэмаркацыйную лінію, якая павінна была стацца мяжой паміж двума дзяржавамі. Паласа шырынёй у 15 кіламетраў, што праходзіла ўздоўж дадзенай лініі, была абвешчана нейтральнай зонай, з тэрыторыі якой у лістападзе былі выведзены польскія і савецкія войскі. У ліпені 1920 г. горад Слуцк, які знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад Мінску, быў заняты Чырвонай Арміяй, скончылася польская акупацыя, якая цягнулася цэлы год. Як і раней перш за ўсё пакутвала ад буйных рэквізіцый зярна і жывёлы вясковае насельніцтва. Цяжар вайсковага камунізму, ускладзены на сялянаў, якія і без гэтага нацярпеліся падчас рэвалюцыйных і вайсковых нягодаў, перавысіў усялякую меру. Гэтыя захады, якія суправаджаліся прымусам, сталіся прычынай незадавальнення мясцовых жыхароў акупантамі. Пасля таго, як 11 кастрычніка 1920 г. польскія войскі зноў занялі Слуцк, новыя ўлады паклапаціліся пра палёгкі для мясцовага насельніцтва. Так з дазволу польскай адміністрацыі сваю працу аднавіў створаны яшчэ ў 1917 г. Беларускі нацыянальны камітэт. Была дазволена дзейнасць забароненых падчас савецкай акупацыі культурніцкіх і сялянскіх таварыстваў. У пачатку лістапада 1920 г. польская вайсковая адміністрацыя поўнасцю перадала цывільнае кіраванне нядаўна створаным органам самакіравання ў вёсках. 14–15 лістапада адбыўся з’езд сацыял-рэвалюцыйных і нацыялістычных партый і аб’яднанняў, які абраў часовы ўрад – Раду Случчыны. Гэты орган абвясціў незалежнасць Случчыны і падпарадкаваўся ўраду БНР, які з 1918 г. дзейнічаў на выгнанні. Пад кіраўніцтвам Рады распачалося стварэнне цывільнай адміністрацыі. Каб абараніцца ад чаканага наступу савецкіх войск адным з першых захадаў сталася пакліканне да жыцця атрадаў самаабароны, у шэрагі якіх сталі каля чатырох тысяч чалавек.

Гэта вайсковая фармацыя, якая атрымала назву Слуцкай брыгады, складалася з двух палкоў, якія былі сфармаваны ў Слуцку і Грозаве. Гэтыя захады талераваліся яшчэ прысутнымі польскімі вайсковымі ўладамі, бо ў першую чаргу былі скіраваны супраць Савецкай Расіі. 24 лістапада 1920 г. апошнія польскія войскі пакінулі горад і адышлі за дэмаркацыйную лінію. Вайсковыя дзеянні пачаліся падчас

бальшавіцкага наступу праз некалькі дзён. Пасля таго, як 29 лістапада 1920 г. давялося здаць Слуцк, Рада пераехала ў Семежава. У наступныя тыдні справа дайшла да цяжкіх баёў паміж Чырвонай Арміяй і падраздзяленнямі паўстанцаў, якія выклікалі незлічоныя страты з абодвух бакоў. За некаторыя населеныя пункты, як, напрыклад, за Семежава і Вызну (сённяшняя назва: Чырвоная Слабада), адбывалася інтэнсіўнае змаганне. Цягам наступных тыдняў яны шмат разоў пераходзілі з рук у рукі. З прычыны колькаснай перавагі савецкіх войск супраціў Слуцкай брыгады быў зломлены напрыканцы снежня 1920 г. Значная частка аддзелаў самаабароны адышла за дэмаркацыйную лінію, дзе была раззброена і інтэрнавана польскімі войскамі. Некалькі сотняў байцоў засталіся на цяпер ужо савецкай тэрыторыі і працягнулі супраціў у падполлі. У 1920-х і 1930-х гг. удзельнікі гэтага паўстання перасьледваліся савецкай дзяржбяспекай. Многіх з іх НКВД выслала з савецка-польскага памежжа ў лагеры ГУЛАГу, адкуль многія з іх не вярнуліся.

**Надпіс**
На беларускай мове

У Грозаве ў лістападзе 1920 года /
падчас Слуцкага Збройнага Чыну /
быў Утвораны 2гі Грозаўскі полк /
абаронцаў /
Беларускай Народнай Рэспублікі
Памяці палеглых герояў /
антыбальшавіцкага паўстаньня

**Месца знаходжання**
у цэнтры вёскі,
Грозава,
Капыльскі раён,
Мінская вобласць

## Помнік Цішку Гартнаму

***Копыль.*** Помнік Цішку Гартнаму быў урачыста адкрыты 14 мая 2000 г. у цэнтры Копылю на плошчы Леніна. Помнік пісьменніку і палітыку Ц. Гартнаму быў усталяваны ў яго родным горадзе паводле рашэння адміністрацыі Мінскай вобласці. Скульптар Уладзімір Бандарэнка з Копылю стварыў мемарыяльны камень у форме надмагілля, на якім размешчана выява Гартнага і выбіта яго імя.



*Помнік Цішку Гартнаму, Капыль*
*Фота: Капыльская раённая бібліятэка*

Цішка Гартны (сапраўднае імя Зміцер Жылуновіч) нарадзіўся 4 лістапада 1887 г. у Копылі Мінскай вобласці ў сям'і селяніна. Ён атрымаў двухкласную школьную адукацыю, а ў наступныя гады наведваў прыватныя заняткі. Ужо падчас навучання прафесіі гарбара ён пачаў займацца палітыкай і ў 1906 г. уступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю – Грамаду. З 1910 г. ён пісаў для беларускай газеты "Наша Ніва", якая выходзіла ў Вільні, разнастайныя вершы і апавяданні патрыятычнага характару, якія прынеслі яму шырокую вядомасць. Пасля чатырохгадовых вандраванняў па Беларусі, Украіне і Літве ў 1912 г. ён накіраваўся ў Санкт-Пецярбург, дзе пачаў працаваць фрэзероўшчыкам, пасля чаго перайшоў у беларускае выдавецтва. У гэты час былі выдадзены яго першыя творы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Гартны працаваў у левым крыле Беларускай грамады, якая выступала за падтрымку бальшавікоў. У выніку міжпартыйных звадаў Грамада распалася, і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1918 г. Гартны далучыўся да Камуністычнай партыі (бальшавікоў). Адначасова ён быў прызначаны сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыяту ў Маскве. 1 студзеня 1919 г. ён падпісаў маніфест аб заснаванні БССР, а да 3 лютага 1919 г. заставаўся старшынём часовага ўраду новай дзяржавы. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны Гартны займаў шмат кіраўнічых пасад у Мінску, сярод якіх былі пасады дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і намесніка народнага камісара асветы. У тыя гады ён апублікаваў шмат кніг паэзіі і апавяданняў, якія прынеслі яму шырокую вядомасць. Яго галоўны твор – раман "Сокі цаліны" – выйшаў з друку паміж 1922 і 1932 гг. у Мінску. У 1931 г. яго выключылі з партыі пасля таго, як была згорнута палітыка беларусізацыі, і ён атрымаў ярлык "беларускага нацыяналіста". 15 лістапада 1936 г. НКВД арыштавала яго і накіравала ў псіхіятрычную бальніцу ў Магілёве, дзе ён скончыў жыццё самагубствам 11 красавіка 1937 г. Ён быў пахаваны ў невядомай брацкай магіле разам з іншымі палітычнымі праціўнікамі ўлад, якія таксама былі змешчаны ў гэтую бальніцу. У 1955 г. адбылася яго частковая рэабілітацыя, пасля чаго за ім постфактум былі прызнаны грамадзянскія правы, якіх ён быў пазбаўлены. Канчатковае зняццё прысуду адбылося паводле пастановы Вярхоўнага Савету БССР у верасні 1988 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

1887 Цішка Гартны / З. Х. Жылуновіч 1937

**Месца знаходжання**
плошча Леніна, Капыль
Мінская вобласць

## Памятная дошка Цішку Гартнаму

***Копыль.*** Памятная дошка Цішку Гартнаму знаходзіцца ў Копылі на доме, у якім ён нарадзіўся. Яна была ўсталявана па ініцыятыве адміністрацыі Копыльскага раёну ў 1995 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

У гэтым доме нарадзіўся вядомы пісьменнік
і грамадска-палітычны дзеяч старшыня




*Помнік Цішку Гартнаму, Капыль* *Фота: Капыльская раённая бібліятэка*

рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага урада Беларусі 1919г. / Цішка Гартны / (З. Х. Жылуновіч) 1887–1937

**Месца знаходжання**
вул. Жылуновіча 39,
Капыль, Мінская вобласць

## Крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій

***Копыль.*** Крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій быў ўсталяваны па ініцыятыве Мечыслава Паграбіцкага жыхарамі Копылю і навакольных вёсак у 1993 г. Ён нагадвае пра невядомую колькасць людзей з Копылю, а таксама населеных пунктаў Стары Копыль, Кацельнікі, Душава, Рымашы і Печураны, якія былі расстраляны альбо дэпартаваны ў 1930-х гг.

Шасціметровы драўляны крыж знаходзіцца на месцы, дзе да пачатку 1920-х гг. стаяў касцёл св. Роха. Падчас пераследу рэлігійных супольнасцей храм быў зачынены, а пасля зруйнаваны. Напачатку 1930-х гг. НКВД пабудавала на гэтым жа месцы будынак, дзе да прыходу нямецкіх войск у 1941 г. размяшчалася Капыльскае раённае ўпраўленне дзяржбяспекі. З прычыны блізкасці да тагачаснай савецка-польскай мяжы, якая праходзіла за некалькі кіламетраў на захад ад гораду, рэпрэсіі супраць насельніцтва пачаліся ўжо напачатку 1930-х гг. З памежнай зоны высяляліся перш за ўсё палякі, бо ў вачах дзяржбяспекі яны былі патэнцыйнымі ворагамі і шпіёнамі. Сотні людзей сталіся ахвярамі палітычнага пераследу асабліва падчас масавага тэрору ў 1937/38 гг. Мяркуецца, што ў гэты час у скляпеннях упраўлення дзяржбяспекі адбываліся

пакаранні смерцю. Паводле афіцыйных дадзеных у тыя месяцы ў Копылі і наваколлі былі расстраляны 83 чалавекі, аднак мяркуецца, што сапраўдная іх колькасць была большай. Большая частка ахвяр была адпраўлена ў ГУЛАГ альбо ў вобласці, адмыслова прызначаныя для перасялення, адкуль многія з іх не вярнуліся. Падчас нямецкай акупацыі ў 1941–1944 гг. будынак НКВД быў разбураны і ўжо не аднаўляўся. Месца, дзе ён знаходзіўся, з'яўляецца сёння



*Крыж памяці ахвярам сталінскіх рэпрэсій, Капыль Фота: Ірына Кашталян*

часткай тэрыторыі парку ў цэнтры горада.

**Надпіс**
На беларускай мове

Святая памяць /
ахвярам / рэпрэсій /
20–80 гадоў. /
Удзячныя / нашчадкі

**Месца знаходжання**
плошча Леніна, Капыль,
Мінская вобласць

## Крыж у памяць Слуцкага збройнага чыну 1920 г.

***Семежава.*** Крыж у памяць Слуцкага збройнага чыну 1920 г. быў усталяваны з нагоды гадавіны пераносу штаб-кватэры паўстанцаў у Семежава 29 лістапада 1992 г. слуцкімі суполкамі Беларускага Народнага Фронту і Мартыралогу Беларусі. Да чатырохметровага драўлянага крыжа прымацавана ікона Багародзіцы, якую атачае цярновы вянок. Да вертыкальнай бэлькі, вакол якой навязана бел-чырвона-белая стужка, таксама прымацавана невялікая шыльда.

Пасля ўцёкаў Часовага ўраду са Слуцку 29 лістапада 1920 г. мястэчка Семежава сталася на некалькі дзён месцам знаходжання штаб-кватэры паўстанцаў. За два дні да пачатку паўстання ў цэнтры мястэчка, там, дзе сёння знаходзіцца памятны крыж, адбыўся парад Слуцкай брыгады, якая была сфармавана для змагання з Чырвонай Арміяй. З прычыны колькаснай перавагі Чырвонай Арміі паўстанцам прыйшлося часова пакінуць

Семежава 5 снежня 1920 г. Першы Слуцкі полк, які абараняў мястэчка, адступаючы, панёс цяжкія страты ў баях. Пасля контратакі паўстанцаў у ноч з 13 на 14 снежня мястэчка на кароткі час перайшло ў іх рукі, аднак 20 снежня канчаткова было занята савецкім войскамі. Падчас баёў загінула шмат жаўнераў з абодвух бакоў, былі страты таксама і сярод цывільных жыхароў. Забітыя былі пахаваны ў розных частках мястэчка, паколькі афіцыйнае пахаванне было забаронена новымі ўладамі.

**Надпіс**
На беларускай мове

Змагарам за незалежнасць Беларусі.
Лістапад–снежань 1920 г.

**Месца знаходжання**
Семежава, Капыльскі раён,
Мінская вобласць



*Крыж памяці Слуцкага паўстання 1920 г., Грозава* *Фота: Ганна Севасцьянава*

## Мемарыяльнае месца ахвярам сталінскіх рэпрэсій

*Чарнагубава*. На ўшанаванне памяці аб ахвярах сталінскіх рэпрэсій у 1920-х і 1930-х гг. унукам аднаго з расстраляных жыхароў Чарнагубава Станіславам Лісоўскім у 1995 г. пры падтрымцы Беларускага Народнага Фронту, жыхароў Чарнагубава і Згуртавання беларускай шляхты быў створаны невялікі мемарыял. Стварэнне мемарыялу прафінансаваў як сам Станіслаў Лісоўскі, так і іншыя жыхары вёскі. Мясцовы калгас "Зімкавіцкі" таксама падтрымаў гэту ініцыятыву. Мемарыял знаходзіцца на лузе ў цэнтры вёскі.

Побач з сімвалічнай магілай круглай формы стаяць тры стэлы і чатыры мемарыяльных камяні з імёнамі памерлых. Мемарыял быў спраектаваны скульптарам Станіславам Бандалевічам паводле планаў Таццяны Пешкавай. Ён быў урачыста адкрыты ў 1995 г. Найвялікшая драўляная стэла, што стаіць у цэнтры, мае вышыню пяць метраў. У сярэдзіне размешчаны абраз Дзевы Марыі, па-над якім прымацаваны чатырохканцовы крыж. Пад імі знаходзяцца таблiцы, на якіх, між іншым, можна прачытаць верш беларускага паэта, былога вязня Сяргея Грахоўскага. Абапал стэлы, што стаіць у цэнтры, знаходзяцца дзве маленькія, якія маюць спічастыя дахі, па-над якімі размешчаны чатырохканцовыя крыжы. Абедзве стэлы маюць чорныя металічныя таблiцы, на якіх выгравіраваны лічбы "1929" і "1938". Яны абазначаюць пачатак гвалтоўнай калектывізацыі ў 1929 г. і пік масавага тэрору вясной 1938 г. Перад імі можна ўбачыць чатыры чорныя мемарыяльныя камяні, на якіх пазначаны імёны 67 забітых жыхароў вёскі. У сярэдзіне 1990-х гг. Станіслаў Лісоўскі намагаўся высветліць лёс свайго дзеда і яго брата, якія былі арыштаваны ў 1937 г. і зніклі. Вынікам яго пошукаў – запытаў у архівах дзяржбяспекі – сталася інфармацыя, што яго дзед і брат былі расстраляны ў Курапатах пад Мінскам. Тры іншыя браты загінулі ў 1937 г. і, верагодна, мелі падобны лёс. На ўспамін аб загінулых сваяках Лісоўскі першапачаткова хацеў усталяваць крыж на тым месцы, дзе стаяла хата яго дзеда. Аднак ён спачатку паспрабаваў адшукаць інфармацыю пра ахвяр рэпрэсій у сваёй роднай вёсцы Чорнагубава, у чым яго актыўна падтрымалі мясцовыя жыхары. У выніку былі здабыты звесткі пра лёс 67 жыхароў вёскі, якія сталіся ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Агулам 29 з іх былі забіты НКВД падчас масавага тэрору, астатнія 20 былі адпраўлены ў лагеры ГУЛАГу. Гэта надта высокая лічба – бо ў 1930-х гг. населены пункт складаўся толькі з сотні хат – сталася прычынай таго, што з'явілася ідэя стварыць мемарыял для ўшанавання памяці ўсіх жыхароў вёскі, якія зазналі пераслед.

**Надпіс**
На беларускай мове

На гэтым месцы раней /
стаяла хата /
«кулака» Свінкоўскага.

Сялянам /
і былой шляхце /
вёскі Чарнагубава – /
ахвярам палітычных /
рэпрэсій

Мы тут жылі, касілі і аралі. /
А нас, невінаватых, пакаралі, /

За тое, што зямлю і вас любілі, /
Нас больш за паўсотні сейбітаў забілі /
у страшны 37 год … /
Жыві і сцеражыся наш народ Сяргей
Грахоўскі

ВЁСКА / ЧОРНАГУБАВА /
КОПЫЛЬСКАГА / Р
АЁНА МІНСКАЙ /
ВОБЛАСЦІ / Растраляныя, вывезеныя /
за межы Рэспублікі, / адсядзеўшыя тэрмін /
у турмах 1929–1938 г. г. /
Байчык Л. М. / Баркоўскі Б. М. /
Баркоўскі І. І. / Бенька В. П. /
Бенька Ф. П. / Беразоўская Я. К.

Беразоўскі А. К. / Беразоўскі
К. А. / Беразоўскі К. М. / Більдзюкевіч
П. Л. / Булат К. / Грыбоўскі І. Р. / Грыбоўскі
І. А. / Дзічкоўская Б. М. / Дзічкоўская Л. І. /
Дзічкоўская Р. І. / Дзічкоўскі В. І. / Дзічкоўскі
І. / Дубоўскі В. М. / Дубоўскі І. І. / Дубоўскі




*Gedenkstätte für die Opfer der Repressionen, Tscharnahubawa* *Фота: Усевалад Сіняк*

М. А. / Дубоўскі М. А. / Замэцкая Ю. / Замэцкая А. / Зяньковіч А. А. /

Крэпская А. / Крэпская М. С. / Крэпская Ю. І. / Крэпская Я. К. / Крэпская А. К. / Крэпскі А. К. / Крэпскі Б. А. / Крэпскі І. А. / Крэпскі І. К. / Крэпскі С. А. / Кунцэвіч В. К. / Лазоўскі С. / Луцэвіч К. І. / Луцэвіч Э. А. / Машчынскі А. С. / Наркевіч І. А. / Наркевіч М. Ф. / Ніжэвіч М. Ф. / Радкевіч Ф. П. / Саковіч А. М. / Свінкоўская Г.

Свінкоўская Л. / Свінкоўская Ю. І. / Свінкоўскі А. М. / Свінкоўскі І. П. / Свінкоўскі М. А. / Свінкоўскі Ф. М. / Скупская М. І. / Скупская Ч. У. / Скупскі У. К. / Смоліч В. І. / Смоліч З. А. / Смоліч І. А. / Смоліч М. А. / Старжынскі Д. М. / Татур А. І. / Хмялеўскі А. К. / Хмялеўскі Б. К. / Чаркас А. І. / Чарняўскі Д. І. / Ярмалінскі В.

**Месца знаходжання**
у цэнтры вёскі, Чарнагубава, Капыльскі раён, Мінская вобласць

## Крыжы памяці ахвярам рэпрэсій

***Выня.*** Крыжы памяці ахвярам рэпрэсій у вёсцы Выня былі асвечаны святаром з Касцёлу св. Сымона і Алены ў Мінску 10 лістапада 2006 г. Ініцыятыва іхнага ўсталявання сыходзіла ад Станіслава Лісоўскага, які быў падтрыманы былымі жыхарамі вёскі. Разам з Лісоўскім чынны ўдзел ва ўсталяванні ўзяў Канстанцін Кучынскі, які эміграваў з Выні ў ЗША ў 1944 г. Адміністрацыя раёну і сельсавет не бралі ўдзелу ва ўсталяванні крыжа, аднак моўчкі згадзіліся з адкрыццём гэтага невялікага памятнага знаку. Чатырохканцовы крыж на ўспамін аб жыхарах вёскі каталіцкага выравызнання, а таксама два шасціканцовых крыжа на ўспамін аб ахвярах уніяцкай і праваслаўнай канфесіі, нагадваюць на ўскрайку вёскі пра лёс жыхароў, якія былі сасланы, расстраляны альбо арыштаваны ў перыяд з 1920-х па 1940-я гг. Імёны ахвяр выбіты на двух мармуровых табліцах. Сярод загінулых была таксама і маці Станіслава Лісоўскага, якая нарадзілася ў Выні. Да гэтага на ўспамін пра свайго бацьку і іншых пераследваных жыхароў роднай вёскі Лісоўскі пабудаваў мемарыял у Чарнагубаве ў 1996 г.

Вёска Выня складалася напачатку 20-га стагоддзя з прыкладна 140 двароў. Кожны чацьверты жыхар стаўся ахвярай рэпрэсій у перыяд з 1929 па 1938 гг. Большая частка жыхароў была адпраўлена ў высылку падчас калектывізацыі. Сем'і Ганчароў, Канкаловічаў, Козелаў, Пышко і Цітко былі высланы ў Архангельскую і Пермскую вобласці пасля таго, як галовы сям'яў былі арыштаваны і затым расстраляны. Сярод тых, што засталіся, як мінімум чатыры чалавекі сталіся ахвярамі масавага тэрору ў 1937/38 гг. Яны былі забіты ў турмах Мінску і Слуцку.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам палітычных рэпрэсій /
1929–1945 гадоў. /
Вёска Выня, Капыльскага раёна /
Мінскай вобласці

Дзядам Бацькам Дзецям

Землякам-выенцам, загінуўшым /
на савецка-фінскай вайне. / Смуткуем з
заўчаснай смерці. / Ганчар Г. Г. /
Ганчар П. А. /Чалевіч Н. П. / Юха І.

Выенцам-пакутнікам / Недзе ляжаць нявінныя ахвяры – / Дойліды, ратаі, кавалі. / Хоць паплачце Вы над імі, / Хмары, / Каб да Бога душы іх дайшлі.
Р. Барадулін

Крывавіў боль, надзея палымнела, / Сплывалі слёзы воскам на алтар. / О, Беларусь, мой галубочак белы, / Ад чысціні нязлічаных ахвяр. /
Л. Генюш

Вывезеныя ў Сібір, / Казахстан, на Поўнач. / Расстраляныя / ў Мінскай і Слуцкай турмах. / Зняволеныя ў ГУЛАГу СССР. / Бароўская Сцепанія дачка Кастуся / Ганчар Васіль сын Адама / Ганчар Волесь сын Васіля / Ганчар (Юхо) Алена дачка Франца / дзеці: Сабіна / Юзаф / Яніна / Ганчар Ядзвіга дачка Васіля / Ганчар Мікалай сын Васіля / Ганчар Васіль сын Волеся / Герык Ігнась сын Казіміра / Грушевіч Ілья сын Мікалая / Дрожжа Ігнась сын Казіміра / Дрожжа Антон сын Казіміра / Жывіцкі Франц сын Іосіфа / Карповіч Ігнась сын Іосіфа / Казел Кастусь сын Антося / Казел Паўліна / дзеці: Ігнась / Янак / Віця / Юзефа / Казел Юзаф сын Антося / Казел Ясь сын Франца / Казел Ігнась сын Іосіфа, Казел Рыгор сын Яся / Казел Волесь сын Яся / Канкаловіч Юзаф сын Іосіфа / Канкаловіч жонка / дзеці:



*Мемарыял ахвярам рэпрэсій, Выня* *Фота: Ігар Кузняцоў*

Янак / Уладзік / дачка Іосіфа / дачка Іосіфа / Клімовіч Базыль сын Вікенція / Кузміч Волесь сын Пятруся / Лазоўскі Сямён сын Макара / Лазоўская Яніна / Лісоўскі Павел сын Паўла / Лукашэвіч Кастусь сын Васіля / Пышко Волесь сын Вікенція / Пышко Ігнась сын Франца / Пышко Юзаф сын Вікенція / Пышко Томаш сын Вікенція / Пышко Кароль сын Томаша / Пышко Волесь сын Казіміра / Цітко (Сазановіч) Міхаліна / дачка Іосіфа / Цітко Уладзік сын Адама / Цітко Юзаф сын Адама / Цітко Ясь сын Іосіфа / Цвірко Болесь сын Казіміра / Цітко Сцяпан / Хвіцько Ясь сын Волеся / Цітко Уладзік / Харытановіч Вікенцій / сын Вікенція / Харытановіч Уладзік / сын Вінкецыя / Харытановіч Міхась / сын Вікенція / Хвіцко Андрусь сын Волеся / Шенбаум Самуіл сын Рыгора / Юхо Сцяпан сын Іосіфа / Юхо Вольга дачка Сямёна / Юхо Волесь сын Мікалая / Юхо Ганна жонка / Юхо-Юшкевіч Юзаф сын Волеся / Юхо Вікця дачка Волеся / Юхо Ясь сын Мікалая / Юхо Маруся дачка Яся / Юхо Казік сын Мікалая / Юхо Юзаф сын Пятра / Юхо Ігнась сын Іосіфа / Марья жонка / дзеці: Юзэфа / Ядзвіга / Юхо Юзаф сын Дям'яна / Юхо Яніна дачка Пятра / Юхо Пятрусь сын Франца / Юхо Ясь сын Волеся

**Месца знаходжання**
а ўскраіне вёскі, Выня,
Капыльскі раён,
Мінская вобласць



*Мемарыяльная бібліятэка імя Тодара Кляшторнага, Камена*
*Фота: Усевалад Сіняк*

## Бібліятэка-музей імя Тодара Кляшторнага

***Камена.*** 11 сакавіка 2003 г. Каменская сельская бібліятэка атрымала імя Тодара Кляшторнага з нагоды яго 100-гадовага юбілею. У ёй знаходзіцца невялікі музей. Ініцыятыва зыходзіла ад старшыні Саюзу беларускіх пісьменнікаў Алеся Пашкевіча і дачкі паэта Маі Кляшторнай, якія былі падтрыманы іншымі пісьменнікамі і вясковай адміністрацыяй. На невялікай выставе прадстаўлены рукапісы і асабістыя рэчы паэта. Аб'ёмны біяграфічны нарыс інфармуе пра жыццё Кляшторнага.

Тодар Кляшторны нарадзіўся 11 сакавіка 1903 г. у Парэччы. Атрымаў базавую школьную адукацыю. Пасля вайсковай службы Кляшторны спачатку працаваў на фабрыцы ў Воршы, пакуль, пачынаючы з 1925 г., не пачаў рэгулярна пісаць артыкулы у розныя газеты. Першы зборнік яго вершаў выйшаў у 1927 г. у Мінску. Ён уступіў у

літаратурнае аб'яднанне «Маладняк» і стаўся чальцом Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Адначасова Кляшторны пачаў навучанне ў Беларускім дзяржаўным ўніверсітэце, які скончыў у 1931 г. Да свайго арышту ён працаваў рэдактарам розных газет і Дзяржаўнага беларускага радыё. НКВД арыштавала яго 3 лістапада 1936 г. Па абвінавачанні ў прыналежнасці да «нацыялістычнай арганізацыі» ён быў засуджаны да смерці і расстраляны 30 кастрычніка 1937 г. ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам. Яго жонка і дачка былі таксама арыштаваны і высланы ў лагер, які знаходзіўся ў Акмолінскай вобласці Казахстану. Сям'я вярнулася ў Мінск толькі ў 1956 г. У 1957 г. Тодар Кляшторны быў рэабілітаваны Вайсковай пракуратурай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Месца знаходжання**

Каменская сельская бібліятэка,
Камена, Лагойскі раён,
Мінская вобласць

## Помнік пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі

*Маладзечна.* У чэрвені 1993 г. па ініцыятыве маладзечанскай суполкі Беларускага Народнага Фронту разам з прадстаўнікамі «Дэмакратычнага клубу», аб'яднання «Беларускае слова» і іншых арганізацый быў усталяваны помнік ахвярам палітычных рэпрэсій. Ён знаходзіцца на цэнтральнай плошчы гораду насупраць помніка Леніну і былой рэзідэнцыі гаркаму Камуністычнай партыі. Да гранітнага валуна, які, як лічыцца, быў прывезены ў Маладзечна з Салавецкіх астравоў, прымацаваны шасціканцовы крыж і шыльда з надпісам.



*Помнік пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі, Маладзечна* *Фота: Марыюш Проскень*

**Надпіс**
На беларускай мове

Пакутнікам /
за волю /
і незалежнасць /
Беларусі

**Месца знаходжання**
пляц Незалежнасці,
Маладзечна, Мінская вобласць

## Мемарыяльная дошка Браніславу Тарашкевічу

***Маладзечна.*** Мемарыяльная дошка Браніславу Тарашкевічу знаходзіцца на знешнім баку сцяны дому ў Маладзечне, дзе пражываў вядомы этымолаг і журналіст. Сціплая металічная дошка мае прысвечаны яму надпіс.

Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. у вёсцы Мацюлішкі (сёння знаходзяцца ў ваколіцах Вільнюсу, Літва) у сям'і селяніна. Пасля сканчэння школы ў Вільні з 1911 па 1916 гг. ён вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Санкт-Пецярбуржскага ўніверсітэту. Там ён пазнаёміўся з беларускімі эмігрантамі, якія гуртаваліся вакол вядомага даследчыка Браніслава Эпімах-Шыпілы. У 1917 г. Тарашкевіч далучыўся да Беларускай сацыялістычнай грамады, у якой займаў кіруючыя пасады. Праз год ён уступіў у нядаўна заснаваную Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю. Тарашкевіч набыў вядомасць дзякуючы апублікаванню беларускай граматыкі ў 1919 г. У наступныя гады Тарашкевіч стаўся адной з галоўных асоб у беларускім нацыянальным руху. У 1919 г. ён працаваў у Мінскім педагагічным інстытуце, пасля чаго быў прызначаны міністрам адукацыі Сярэдняй Літвы, якая ўжо належыла да Польшчы. Да 1922 г. Тарашкевіч заставаўся ў Вільні, дзе кіраваў тамтэйшай беларускай гімназіяй. У тым жа годзе ён быў абраны ў польскі Сейм, дзе далучыўся да беларускай фракцыі, а з 1925 г. узначальваў Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. У 1927 г. Тарашкевіч разам з іншымі беларускімі палітыкамі быў арыштаваны польскай дзяржбяспекай, пасля чаго на «працэсе 56» яго засудзілі да 12 гадоў пазбаўлення волі. Праз два гады ён быў памілаваны і выпушчаны на волю паводле ўказу польскага прэзідэнта, аднак у лютым 1931 г. яго зноў арыштавалі і засудзілі на восем год турмы. Пасля міжнародных пратэстаў Тарашкевіча вымушаны былі выпусціць. Ён стаўся палітычным уцекачом і эміграваў у Савецкі Саюз. Ён пачаў працаваць у Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве. 5 мая 1937 г. яго арыштавала НКВД па абвінавачанні ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнага Беларускага нацыянальнага цэнтру», а 5 студзеня 1938 г. Надзвычайны трыбунал у Маскве засудзіў яго на смерць. Прысуд быў выкананы 29 лістапада 1938 г. Браніслаў Тарашкевіч быў рэабілітаваны пастановай Вайсковай калегіі Вярхоўнага Суда СССР ад 26 студзеня 1957 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тут у 1923–1931 г. г.
жыў і працаваў вядомы вучоны і
палітычны дзеяч актыўны ўдзельнік
вызваленчага руху працоўных Заходняй
Беларусі Акадэмік АН БССР Тарашкевіч
Браніслаў Адамавіч

**Месца знаходжання**
вул. Тарашкевіча,
Маладзечна,
Мінская вобласць

## Мемарыяльная дошка Алесю Салагубу

***Лебедзева***. Мемарыяльная дошка Алесю Салагубу была змешчана на будынку школы ў 1978 г. Сціплая каменная дошка мае прысвечаны яму надпіс.

Алесь Салагуб нарадзіўся 18 кастрычніка 1906 г. у Зарудзічах Гродзенскай вобласці. У Вільні ён вучыўся ў беларускай гімназіі, а ў сярэдзіне 1920-х гг. апублікаваў свае першыя творы. Салагуб браў ўдзел у сацыялістычным рэвалюцыйным руху. Ён быў сябрам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады). З-за сваёй палітычнай дзейнасці яму было забаронена публікавацца, а ў 1924 і 1927 гг. яго арыштоўвалі польскія ўлады. Пасля вызвалення з турмы ў 1928 г. Салагуб уцёк у БССР праз савецка-польскую мяжу і пасяліўся ў Мінску. Тут ён уладкаваўся выкладчыкам ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Паміж 1931 і 1933 гг. шмат яго твораў было апублікавана ў Мінску. Салагуб быў арыштаваны НКВД 10 жніўня 1933 г. Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнага "Беларускага нацыянальнага цэнтру", засудзілі на смерць, а затым расстралялі 9 студзеня 1934 г. Яго жонка з сынам, якія таксама ўцяклі ў БССР, былі адпраўлены ў высылку. Алесь Салагуб быў рэабілітаваны 18 красавіка 1954 г.

**Надпіс**
На беларускай мове




*Мемарыяльная дошка Алесю Салагубу, Лебедзева* *Фота: Марыюш Проскень*

Тут у 1925–1926 гг. кіраваў гуртком Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады рэвалюцыйны паэт Алесь Салагуб

**Месца знаходжання**
на будынку школы, Лебедзева,
Маладзечанскі раён, Мінская вобласць

## Мемарыяльны камень Сымону Рак-Міхайлоўскаму

***Максімаўка***. Мемарыяльны камень Сымону Рак-Міхайлоўскаму быў усталяваны ў 1983 г. на выездзе з Максімаўкі ў кірунку Радашковічаў. Ён знаходзіцца на месцы, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся гэты пісьменнік і даследчык. На валуне вышынёй амаль два метры прымацавана шыльда з надпісам.

Сымон Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся 14 кастрычніка 1885 г. у Максімаўцы Маладзечанскага раёну ў сям'і селяніна. Ён скончыў педагагічны інстытут у Феадосіі, якая знаходзіцца на паўвыспе Крым. З пачаткам Першай сусветнай вайны ён быў пакліканы ў расійскую армію. Вясной 1918 г. Рак-Міхайлоўскі далучыўся да Беларускай сацыялістычнай грамады, а ў сакавіку таго самага году стаўся чальцом ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Адначасова ён браў удзел у дзейнасці розных левых партый і груповак, а таксама выкладаў у гімназіях Гродна. У 1920 г. ён стаўся дырэктарам настаўніцкай семінарыі ў Барунах. Рак-Міхайлоўскі таксама працягваў займацца палітыкай, а ў 1922 г. быў абраны ў польскі Сейм, дзе далучыўся да беларускай фракцыі. У гэтай якасці ён стаўся адным з заснавальнікаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якая мела радыкальную сацыялістычную праграму. З-за гэтай дзейнасці ён трапіў у канфлікт з польскімі ўладамі, якія загадалі арыштаваць яго 15 студзеня 1927 г. Разам з іншымі чальцамі Грамады 22 мая 1928 г. Рак-Міхайлоўскі быў засуджаны да 12 гадоў турмы. Пасля датэрміновага вызвалення ён перасяліўся ў Мінск ў 1930 г., дзе кіраваў Нацыянальным музеем. У 1931 г. ён стаўся чальцом Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі Беларусі. Дзяржбяспека ўпершыню арыштавала яго 16 жніўня 1933 г. па аб вінавачанні ў прыналежнасці да "Беларускага нацыянальнага цэнтру". Надзвычайная калегія ОГПУ засудзіла Рак-Міхайлоўскага на смерць. Прысуд быў пазней заменены на дзесяць год зняволення ў лагерах, якое ён адбываў на Салавецкіх астравах. НКВД перавяло яго ў Мінск у пачатку верасня 1937 г., дзе 14 лістапада 1938 г. ён быў засуджаны на смерць. Рак-Міхайлоўскі быў расстраляны ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам 27 лістапада. Яго рэабілітацыя адбылася 16 жніўня 1956 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Радзіма Рак-Міхайлоўскага
Сымона Аляксандравіча –
грамадскага дзеяча, удзельніка
вызваленчага руху ў
Заходняй Беларусі

**Месца знаходжання**
на ўездзе з боку Радашковічаў,
Максімаўка, Маладзечанскі раён,
Мінская вобласць

## Мемарыяльная дошка Браніславу Тарашкевічу

***Радашковічы.*** Мемарыяльная дошка Браніславу Тарашкевічу была ўсталявана на будынку былой бальніцы ў Радашковічах паводле пастановы Маладзечанскай раённай адміністрацыі ў 1972 г. Раней у дадзеным будынку пражывала сям'я гэтага мовазнаўцы і палітыка. Сам Тарашкевіч жыў тут у 1923–1931 гг.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тут у 1923–1931 гадах жыў і працаваў
акадэмік АН СССР Тарашкевіч Браніслаў
Адамавіч.

**Месца знаходжання**
на тэрыторыі былой бальніцы,
Радашковічы, Маладзечанскі раён,
Мінская вобласць



*Помнік ахвярам рэпрэсій сям'і Зенчык, Сёмкаў Гарадок* *Фота: Валянціна Вяргей*

## Помнік ахвярам рэпрэсій сям'і Зенчык

***Сёмкаў*** Гарадок. Помнік ахвярам рэпрэсій сям'і Зенчык быў усталяваны ў верасні 1989 г. на магіле Таццяны Зенчык. Яе дачка Зінаіда Тарасевіч, у той час старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, спраектавала надмагільны помнік, які, нагадваючы пра ўсіх ахвяр рэпрэсій, адлюстроўвае лёс сям'і Зенчык. Помнік складаецца з трох вялікіх надмагільных камянёў і трох паліраваных гранітных пліт меншага памеру. Надпісы нагадваюць пра лёсы чальцоў сям'і. Падобным чынам была зроблена магіла бацькі Зінаіды Тарасевіч Антона Тарасевіча на мінскіх Паўночных могілках.

Таццяна Зенчык нарадзілася 12 сакавіка 1913 г. у Чыжоўцы Мінскага раёну ў сям'і селяніна. Вялікая сям'я мела гаспадарку, якая была канфіскавана падчас калектывізацыі. Яе бацька быў арыштаваны, а іншых чальцоў сям'і схапілі ў ноч з 3 на 4 сакавіка 1931 г. і выслалі ў Архангельскую вобласць. Яны прайшлі праз сумна вядомы лагер часовага ўтрымання ў Макарысе, у якім ў жудасных умовах разам з тысячамі іншых дэпартаваных яны чакалі накіравання на новае месца пасялення. У той час памерлі маці Таццяны Зенчык, некалькі яе братоў і сясцёр. Пасля яна была адпраўлена ў пасёлак Ахтама Архангельскай вобласці, дзе павінна была жыць далей. Тут яна пазнаёмілася са сваім будучым мужам Антонам Тарасевічам. У 1937 г. на выгнанні нарадзілася Зінаіда Зенчык. Яе бацька быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію ў пачатку Другой сусветнай вайны ў 1942 г. Пасля сканчэння вайны ён рупіўся пра

вызваленне сваёй жонкі і дзяцей. Яму ўдалося дамагчыся іхнага вызвалення, падаўшы прашэнне на імя тагачаснага старшыні ўраду Калініна. Такім чынам сям'я змагла вярнуцца ў Мінск у 1946 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Зенчык Іван Антонавіч 1868–1928

Зенчык / Таццяна Іванаўна / 12. III. 13–
26. II. 89 / ахвяра генацыду з 4. III. 30 /
Вечная памяць / загінуўшым у лясах Архан-
гельскай / вобласці у 30-е гады
ва узросце / Зенчык Анастасія
Паўлаўна 50 г. / Алена 1 г. Вера 29 г.
Павел 27 г. / Вікенцій 19 г. Валодзя 5 г. /
Антаніна 8 г. Іван 10 г. Кацярына 12 г. /
Ад вашай дачкі, унучкі, пляменніцы

Зенчык Іосіф Іванавіч 1907–1928

**Месца знаходжання**
могілкі, Сёмкаў Гарадок,
Мінскі раён, Мінская вобласць

## Мемарыяльны камень Уладзіміру Жылку

*Макашы.* Мемарыяльны камень паэту Уладзіміру Адамавічу Жылку быў усталяваны на могілках у яго роднай вёсцы напачатку 1990-х гг. Двухметровы камень з апрацаванага чорнага граніту мае выяву Жылкі і прысвечаны яму надпіс.

Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 мая 1900 г. у Макашах, якія тады належылі да Навагрудзкага павета. Падчас Першай сусветнай вайны яго сям'я ўцякла ў Тульскую губерню (Расія). У 1917 г. Жылка вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў Мінску. Ён атрымаў месца ў адным з мінскіх выдавецтваў, у якім выйшлі яго першыя літаратурныя творы. Восенню 1920 г. ён уцёк ад наступаючай Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і вярнуўся да свайго дзеда ў Падлессе, якое знаходзілася непадалёк ад яго роднай вёскі. Пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору ён застаўся ў Польшчы, дзе працаваў у беларускай прэсе. У 1923 г. у Польшчы выйшаў першы зборнік вершаў Жылкі. Пазней ён пераехаў у Вільню, дзе працаваў у адной з кнігарняў. Ён атрымаў стыпендыю ад чэхаславацкага ўраду, дзякуючы якой з 1923 па 1926 гг. змог вучыцца ў Карлавым універсітэце ў Празе. Таксама і тут ён наладзіў кантакты з беларускімі эмігранцкімі арганізацыямі і пісаў артыкулы для газеты "Новы прамень", якая выходзіла ў Празе. Пасля сканчэння ўніверсітэту ў 1926 г. Жылка пераехаў у БССР і пасяліўся ў Мінску. Ён далучыўся да літаратурнага аб'яднання "Маладняк" і працаваў у якасці перакладчыка ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве, а таксама ў якасці рэдактара партыйнай газеты "Звязда". 19 ліпеня 1930 г. ён быў арыштаваны ОГПУ. Як і іншых пісьменнікаў-імігрантаў яго абвінавацілі ў прыналежнасці да "Саюзу вызвалення Беларусі" і засудзілі да пяці гадоў высылкі 10 красавіка 1931 г. Ён адбываў пакаранне ў Кіраўскай вобласці, дзе негледзячы на тое, што быў ссыльным, працягваў працаваць у якасці перакладчыка. Жылка памёр ад сухотаў 1 сакавіка 1933 г. і быў пахаваны на могілках вёскі Уржум.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тут, у в. Макашы / Нясвіжскага
раёна, / 27. V. 1900 г. нарадзіўся /

беларускі савецкі паэт /
Жылка /
Уладзімір /
Адамавіч

**Месца знаходжання**
на вясковых могілках, Макашы,
Нясвіжскі раён,
Мінская вобласць



*Мемарыяльны камень Уладзіміру Жылку, Макашы*
*Калекцыя Ірыны Кашталян*

## Пахаванне ахвяр Нясвіжскага паўстання 1919 г.

***Нясвіж.*** Пахаванне ахвяр Нясвіжскага паўстання 1919 г. было створана 24 сакавіка 1926 г. на каталіцкіх могілках гораду. На вялікім чатырохканцовым гранітным крыжы чырвонага колеру змешчаны надпіс. Крыж быў фундаваны вучнямі і настаўнікамі тагачаснай гімназіі. Пасля 1990 г. помнік быў адрэстаўраваны.

Вясной 1919 г. Нясвіж (польск.: Nieśwież) знаходзіўся пад кантролем Чырвонай Арміі, якая заняла горад пасля адыходу нямецкіх войскаў. Напрыканцы лютага Польская Армія пачала выціскаць бальшавіцкія злучэнні ўсё далей на ўсход. Навіна пра наступ польскіх войскаў прывяла да таго, што перш за ўсё польскія жыхары Нясвіжу пачалі патаемна стварацць рушэнне і вызваляць горад яшчэ да прыходу Польскай Арміі ў сярэдзіне сакавіка 1919 г. На чале камітэту знаходзіўся дырэктар школы Мечыслаў Валністы (польск.: Mieczysław Wolnisty). У ноч з 14 на 15 сакавіка байцы рушэння занялі ўсе найважнейшыя будынкі гораду і ліквідавалі мясцовы савет. Падчас гэтых падзей некаторыя людзі загінулі, сярод іх – начальнік ЧК Тарту і камісары Розэнблюм і Грынблат. Тым часам парэшткі бальшавіцкіх войскаў адышлі да чыгуначных шляхоў, што вялі ў Мінск, і запрасілі падмацавання. 19 сакавіка паўстанне было раздушана, а горад зноў узяты пад кантроль Чырвонай Арміяй. Паколькі наступ Польскай Арміі адбыўся не так хутка, паўстанцы амаль што не аказалі ніякага супраціву. Адразу пасля заняцця Нясвіжу ЧК арыштавала кіраўнікоў паўстання Мечыслава Валністага, Палікарпа Ка-



*Пахаванне ахвяр Нясвіжскага паўстання 1919 г., Нясвіж* *Фота: Марыюш Проскень*

ляду (польск.: Polikarp Kolenda), Станіслава Іваноўскага (польск.: Stanisław Iwanowski), Аляксандра Шыдлоўскага (польск.: Aleksandr Szydłowski) і Нічыпара Янушкевіча (польск.: Niczipar Januszkiewicz). Яны былі дастаўлены ў кляштар бенедыкцінцаў, які выкарыстоўваўся ў якасці турмы, а 24 сакавіка 1919 г. расстраляны ў лесе за горадам. На ўспамін пра гэтую падзею пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў Нясвіжы былі ўстаноўлены два помнікі. Першы знаходзіўся ў цэнтры гораду і быў разбураны падчас Другой сусветнай вайны. Надмагіллі на каталіцкіх могілках засталіся да сённяшняга дня. Пасля 1944 г. з надмагілля былі сцёрты словы „pomordowani przez bolszewików“ (польск: забітыя бальшавікамі).




*Часткова знішчаны надпіс на пастаменце, Нясвіж* *Фота: Марыюш Проскень*

**Надпіс**
На польскай мове

Mieczysław Wolnisty / Polikarp Kolenda / Stanisław Iwanowski / Aleksandr Szydłowski / Niczipar Januszkiewicz […] dnia 19 marca 1919

Мечыслаў Валністы, Палікарп Каляда,
Станіслаў Іваноўскі, Аляксандр Шыдлоўскі,
Нічыпар Янушкевіч, 19 сакавіка 1919 г.
Калі каму і адчынена дарога на неба,
то гэта тым,
хто служыць Айчыне

**Месца знаходжання**
каталіцкія могілкі, Нясвіж,
Мінская вобласць

## Помнік палеглым польскім паліцэйскім

***Нясвіж.*** Помнік палеглым у баях з бальшавікамі паліцэйскім быў урачыста адкрыты 30 жніўня 1926 г. на каталіцкіх могілках Нясвіжу. Адміністрацыя тагачаснага павету ўсталявала помнік на ўспамін пра тых паліцэйскіх і вайскоўцаў, якія сталіся ахвярамі акцый сабатажу савецкіх дыверсійных аддзелаў у памежнай зоне. За помнікам стаяць 15 чорных металічных крыжоў, якія пазначаюць магілы палеглых паліцэйскіх. Увесь мемарыял мае невысокую агароджу.



*Помнік палеглым польскім паліцэйскім, Нясвіж*
*Фота: Марыюш Проскень*

**Надпіс**
На польскай мове

Poległym i zmarłym / kolegom /
funkcjonarjusze / Policij Państw. /
pow. Nieswieskiego /
dnia 30. VIII. 1926
Загінулым і памерлым калегам,
супрацоўнікам дзяржаўнай паліцыі
Нясвіжскага павета
30. VIII. 1926 г.




*Надпіс на пастаменце*
*Фота: Марыюш Проскень*

**Месца знаходжання**
каталіцкія могілкі, Нясвіж,
Мінская вобласць

## Мемарыяльная дошка Мікалаю Каспяровічу

***Ізабалёва***. Мемарыяльная дошка Мікалаю Каспяровічу была ўсталявана на будынку школы яго роднай вёскі летам 2000 г. з нагоды 100-х угодкаў з дня нараджэння гэтага публіцыста і гісторыка. На сціплай дошцы маецца прысвечаны Каспяровічу надпіс.

Мікалай Каспяровіч нарадзіўся 9 мая 1900 г. у вёсцы Ізабалёва Мінскай губерні. Пасля сканчэння мужчынскай гімназіі ў Бабруйску з 1918 па 1920 гг. ён вучыўся ў Педагагічным інстытуце ў Мінску і працаваў настаўнікам у Ігуменскім павеце (сёння Чэрвенскі раён). У 1921 г. Каспяровіч скончыў Інстытут народнай асветы і пачаў выкладаць у Беларускім дзяржаўным універсітэце. У пачатку 1920-х гг. ён працаваў у Міністэрстве асветы БССР, пасля чаго ў 1926 г. быў прызначаны навуковым сакратаром аддзелу краязнаўства ў пазнейшай Акадэміі Навук Беларусі. На гэтай пасадзе ён зрабіўся вядомым праз свае дасягненні, між іншым, дзякуючы таксама і выданню часопіса «Наш Край». 29 чэрвеня 1930 г. Каспяровіч быў упершыню арыштаваны ОГПУ па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюзу вызвалення Беларусі». Разам з іншымі беларускімі навукоўцамі і дзеячамі культуры ён быў засуджаны да пяці гадоў высылкі ў Кемераўскую вобласць (Расія). Пасля адбыцця пакарання ён пасяліўся ў Навасібірску, дзе працаваў перакладчыкам. 28 жніўня 1937 г. НКВД зноў арыштавала яго і засудзіла на смерць 17 снежня 1937 г. Прысуд быў выкананы ў Новасібірску ў той самы дзень. Гэты прысуд да найвышэйшай меры пакарання быў скасаваны 14 лютага 1958 г. Поўная рэабілітацыя адбылася толькі пасля зняцця першай судзімасці 19 верасня 1960 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Каспяровіч Мікалай Іванавіч.
22. V. 1900 26. XII. 1937. Беларускі навуковец, краязнавец.
Нарадзіўся ў вёсцы Ізабалёва

**Месца знаходжання**
на будынку школы, Ізабалёва,
Пухавіцкі раён, Мінская вобласць

## Мемарыяльны камень ахвярам сталінскіх рэпрэсій

***Салігорск***. Мемарыяльны камень ахвярам сталінскіх рэпрэсій быў усталяваны ў лясным масіве на мяжы гораду Салігорску ў 1994 г. Шэры бетонны куб, вышыня якога складае паўтары метры, а шырыня – метр, з'яўляецца творам А. Ралько. Ён мае надпіс, змешчаны пад шасціканцовым крыжам. Камень знаходзіцца па-над меркаванай брацкай магілай, у якой спачывае невядомая колькасць ахвяр палітычнага пераследу перадваеннага часу. Людзі былі забіты і закапаны на гэтым месцы Слуцкім упраўленнем НКВД.

**Надпіс**
На рускай мове

Здесь в этом лесу, в 30-е годы »Отец всех народов« / О. Мандельштам / »Палач народов« / Е. Евтушенко / руками своих сатрапов уничтожал генофонд страны интеллигенцию, коммандиров Красной Армии, их жен, детей свыше 12 ти лет, лучших крестьян. Тысячи узников привозили из

Слуцкой окружной тюрьмы. Пусть пепел безвинно убиенных стучит в наши и ваши сердца … P. S. Исторический лес … В годы Вел. Отеч. Войны здесь действовала партизанская переправа »Север-Юг-Юг-Север«. Вечная память павшим за Родину товарищам партизанам. Пам. Знак установлен в 1994 г. на средства А. Г. Ралько

Тут, у гэтым лесе, у 1930-я гады «бацька ўсіх народаў» (О. Мандэльштам), „кат народаў“ (Я. Еўтушэнка) рукамі сваіх сатрапаў знічтажаў генафонд краіны: інтэлігенцыю, камандзіраў Чырвонай Арміі, іх жонак, дзяцей старэйшых за 12 год, лепшых сялян. Тысячы вязняў прывозілі са Слуцкай акруговай турмы. Няхай попел нявінна забітых грукае ў нашыя і вашыя сэрцы... P.S. Гістарычны лес... У гады Вялікай Айчыннай вайны тут дзейнічала партызанская пераправа „Поўнач-Поўдзень-Поўдзень-Поўнач“. Вечная памяць загінулым за Айчыну таварышам партызанам. Памятны знак устаноўлены ў 1994 г. на сродкі А. Г. Ралько

**Месца знаходжання**
Салігорск,
Мінская вобласць

## Мемарыяльнае месца ў памяць Слуцкага збройнага чыну

***Чырвоная*** слабада. Мемарыяльнае месца ў памяць Слуцкага збройнага чыну 1920 г. знаходзіцца ў цэнтры вёскі Чырвоная Слабада (назва да 1923 г.: Вызна). З пачатку 1990-х гг. розныя арганізацыі і партыі рупіліся пра ператварэнне месца перад царквой Св. Мікалая Цудатворцы ў мемарыял. Лічыцца, што тут пасля сканчэння збройнага чыну зімой 1920/21 гг. былі пахаваны ў брацкіх магілах сотні паўстанцаў. Спачатку ініцыятыва зыходзіла ад тагачаснага настаяцеля праваслаўнага прыходу Станіслава Гнадзько. Пры ўдзеле Беларускага Народнага Фронту і Мартыралогу Беларусі ў 1995 г. перад царквой быў усталяваны першы мемарыяльны крыж, спраектаваны Міколам Купавам. Адкрыццё помніка суправаджалася канфліктам, бо адміністрацыя вобласці і раёну, а таксама частка жыхароў вёскі выказаліся супраць яго ўсталявання. Праз вельмі кароткі час ён быў разбураны невядомымі, а яго парэштکі былі выкарыстаны ў шэрагу з шасці праваслаўных крыжоў, якія былі ўсталяваны на масіўным бетонным фундаманце ў 1997 г. На пастаменце трэцяга крыжа злева змяшчалася ма-



*Былы крыж памяці (1995 г.)*
*Калекцыя Міколы Купавы*

літва за паўстанцаў на рускай мове. Побач знаходзілася невялікая шыльда, якая інфармавала пра паўстанне. Гэта ініцыятыва таксама зыходзіла ад прыходу і Народнага Фронту. Пасля пратэстаў насельніцтва гэты помнік быў дэмантаваны паводле пастановы раённай адміністрацыі ў 1999 г. 2 снежня таго ж году падчас несанкцыяванай памінальнай акцыі зноў быў усталяваны шасціканцовы металічны крыж, да якога была прымацавана шыльда з надпісам, што нагадваў пра паўстанцаў. Таксама і гэты крыж знялі, а на ініцыятараў акцыі наклалі адміністратыўнае пакаранне. Пасля гэтай пакуль што апошняй спробы ўсталявання крыжа ў Чырвонай Слабадзе не засталося ніводнага мемарыяльнага знаку, які б нагадваў пра Слуцкі збройны чын. Нягледзячы на гэтую акалічнасць, штогод у гадавіну Слуцкага збройнага чыну ў гэтым месцы праводзяцца памінальныя мерапрыемствы. Летам 2004 г. чальцы Кансерватыўна-хрысціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту пры падтрымцы гісторыка Уладзімера Навіцкага звярнуліся да абласной і раённай адміністрацый з просьбай аб афіцыйным дазволе на усталяванне новага крыжа. Аднак новы памятны знак дагэтуль не быў усталяваны.

**Надпісы**

На рускай мове (1997)

Крест-Памятник
Помяни, Господи, и со святыми /
упокой во Царствии Твоём всех /
православных новомучеников,
новомуче- /
ниц и исповедников Российских,
Белорус- / ских, Украинских
в годы гонений за веру /
в Господа нашего Иисуса Христа /




*Акцыя памяці ў Чырвонай Слабадзе (2005 г.)* *Фота: Ганна Севасцьянава*

антихристианс
кой безбожной советской /
большевистской коммунистической
властью / убиенных голодом,
морозом, тяжкими ра- / ботами и
пытками замученных, в водах / потоп-
ленных, в огне живыми соженных, /
отравленных, на кол посаженных, в ла/
герях смерти расстрелянных,
повешенных, /живыми в землю
закопанных, зимой холод- /
ной водой в лёд замороженных,
в котлах / живыми сваренных,
иной лютой смертью /
за веру во Христа замученных
Честна перед Господом /смерть
преподобных Его.

Крыж-помнік
Памяні, Божа, і са святымі супакой
у Царстве Тваім усіх праваслаўных
новапакутнікаў, новапакутніц і
спавядальнікаў расійскіх, беларускіх,
украінскіх у гады пераследу за веру ў
Бога нашага Ісуса Хрыста
антыхрысціянскай бязбожнай савец-
кай бальшавіцкай камуністычнай ула-
дай забітых, голадам, марозам, цяжкімі
працамі і катаваннямі замучаных, у во-
дах патопленых, у агні жывымі спаленых,
атручаных, на кол пасаджаных, у лагерах
смерці растраляных, павешаных, жывымі
ў зямлю закопаных, узімку халоднай ва-
дой у лёд замарожаных, у катлах жывымі
звараных, іншай лютай смерцю за веру ў
Хрыста закатаваных. Сумленна перад
Богам смерць святаўлівых Яго

На беларускай мове

Тут, у мястэчку Вызна, і ў навакольных /
вёсках у лістападзе-сьнежні 1920 году /
Слуцкія Паўстанцы /
гераічна змагаліся з бальшавіцкімі
войскамі /
за незалежнасць Беларусі

**Месца знаходжання**
Чырвоная Слабада, Салігорскі раён,
Мінская вобласць

## Памятны знак слуцкім паўстанцам 1920 г.

***Старыя Дарогі***. На ўспамін аб Слуцкім збройным чыне 1920 г. 27 лістапада 2007 г. на даху музею «Спадчына» у Старых дарогах была ўсталявана выява, якая нагадвае пра гэту падзею. Яна з’явілася дзякуючы заснавальніку і фундатару гэтага прыватнага музея гісторыку Анатолю Беламу. Да ўсталявання таксама спрычыніліся аб’яднанне Беларускае добраахвотнае таварыства аховы гістарычных і культурных помнікаў, Беларускі Народны Фронт і Грамадзкі камітэт па ўшанаванні памяці сталінскіх рэпрэсій. У цырымоніі адкрыцця таксама ўзяла ўдзел аташэ Амбасады Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Яна Паўлава. Выпрабленая Уладзімірам Каравацкім выява змяшчае фігуру беларускай святой Ефрасінні Полацкай, якая трымае ў руках гістарычны беларускі герб «Пагоня» з надпісам «Часовая рада Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі» – сімвалам слуцкіх паўстанцаў.

**Надпісы**
На беларускай мове

Героям Слуцкага Збройнага Чыну
Тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла
Бацькаўшчына

**Месца знаходжання**
Музей „Спадчына“, Старыя Дарогі,
Мінская вобласць



*Помнік палякам-жыхарам Рубяжэвіч, Рубяжэвічы* *Фота: Марыюш Проскень*

## Помнік палякам-жыхарам Рубяжэвіч

***Рубяжэвічы***. Помнік палякам-жыхарам Рубяжэвіч (польск.: Rubieżewicze) быў адрэстаўраваны былымі жыхарамі мястэчка, якія сёння жывуць у Польшчы, і вернікамі грэка-каталіцкай парафіі. Па-над узведзеным у 1920-х гг. двухярусным абеліскам, які мае форму піраміды, узвышаецца фігура Ісуса. Пад ёй размешчаны польскі гербавы арол. Да пастамента, вырабленага з камянёў, прымацаваны дзве шыльды.

Перад пачаткам Другой сусветнай вайны ў Рубяжэвічах жыло больш за тры тысячы жыхароў. Большую частку з іх складалі палякі альбо беларусы каталіцкага веравызнання, а траціну – габрэі, праваслаўныя беларусы ці рускія. Падчас грамадзянскай вайны 1917/21 гг. мястэчка шмат разоў мяняла гаспадароў. У гэтыя часы габрэйскае насельніцтва пакутвала ад пагромаў. Пасля заключэння Рыжскага міру ў 1921 г. мястэчка знаходзілася ў складзе Польшчы да той пары, пакуль у верасні 1939 г. не прышла Чырвоная Армія. У наступныя два гады амаль што




*Надпіс на помніку* *Фота: Марыюш Проскень*

ўсё польскамоўнае насельніцтва было выслана савецкай дзяржбяспекай у Сібір. Пасля прыходу нямецкіх войскаў амаль што ўсё габрэйскае насельніцтва сталася ахвярай Халакосту. Калі Рубяжэвічы вызвалілі, тут знаходзілася толькі некалькі сотняў жыхароў. Тыя палякі, якія яшчэ засталіся, пакінулі вёску ў паваенныя гады альбо былі адпраўлены ў высылку.

**Надпіс**
На польскай мове

Serce / Jesusa / daj pokój / całemu / światu
Сэрца Езуса дай спакой усяму свету

Pamięci Polaków. / byłych mieszkańców tych ziem, / zmarłych, zamordowanych i zaginionych / w latach II-giej wojny światowej /
i tych, którzy te ziemie pod przymusem / na zawsze opuścili. / Tablicę ufundowali / w 1997 r. potomkowie / z polski.
Памяці палякаў, былых жыхароў гэтых земляў, памерлых, забітых і зніклых у час Другой сусветнай вайны і тых, хто гэтую зямлю пад прымусам назаўсёды пакінуў. Гэтую шыльду спансіравалі ў 1997 г. нашчадкі з Польшчы

**Месца знаходжання**
перад касцёлам Св. Юзафа,
Рубяжэвічы, Стаўбцоўскі раён,
Мінская вобласць

## Мемарыяльнае месца ахвярам Мінскай дарогі смерці

***Чэрвень.*** У наваколлі Чэрвеня, які знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад Мінска, пачынаючы з 1989 г. з'явіліся чатыры розныя мемарыяльныя месцы, якія нагадваюць пра ахвяр так званай Мінскай дарогі смерці (чэрвень 1941 г.), якія былі забіты падчас эвакуацыі турмы НКВД летам 1941 г.



*Капліца, зробленая Станіславам Бандалевічам, Чэрвень Фота: Усевалад Сіняк*

На адлегласці каля паўкіламетру ад гораду справа ад дарогі на Дуброву знаходзіцца мемарыяльнае месца ахвярам дарогі смерці. Пасля таго, як знайшлі гэту брацкую магілу, у чэрвені 1991 г. быў усталяваны першы мемарыяльны крыж на ўспамін аб Ёнасу Пятруйцісу.

Праз два гады з нагоды 52-х угодкаў трагедыі адбылося ўрачыстае адкрыццё драўлянага помніка-капліцы, пабудаванага паводле праекта вядомага мастака Станіслава Бандалевіча. Гэты мемарыяльны знак быў усталяваны паводле ініцыятывы аб'яднання Мартыралог Беларусі. На чатырохметровым драўляным слупе можна



*Крыж памяці ахвярам-палякам, Чэрвень* *Фота: Усевалад Сіняк*

ўбачыць выяву беларускага гістарычнага гербу «Пагоня». Зверху быў зроблены невялікі дах з чатырохканцовам крыжам над ім. Для ўшанавання памяці літоўцаў, якія былі забіты на гэтым месцы, Асацыяцыя літоўскіх студэнтаў (Лондан) і Таварыства Альгірдаса ўсталявалі сціплы драўляны крыж з надпісам на беларускай і англійскай мовах, які нагадвае пра ахвяр. За мінулы час ён быў заменены шасціканцовым металічным крыжам, на якім змешчаны надпіс толькі па-беларуску. Сваякі палякаў-ахвяр забойства асвяцілі ў той самы дзень металічны крыж, які мае шыльду з адпаведным надпісам. Яго ўсталяванне было ажыццёўлена коштам ахвяраванняў, якія былі сабраны ў Польшчы. Апошні крыж быў усталяваны 26 чэрвеня 1995 г. на ўспамін пра Тадэвуша Гедройца.

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. кіраўнік НКВД Лаўрэнці Берыя загадаў правесці эвакуацыю ўсіх турмаў, якія знаходзіліся на прылеглых да лініі фронту тэрыторыях. У наступны дзень НКВД БССР атрымаў загад пачаць эвакуацыю ўсіх вязняў. Там, дзе з-за хуткага наступу нямецкіх войск правесці эвакуацыю было немагчыма, належыла забіць усіх палітычных вязняў. У ноч з 22 на 23 чэрвеня 1941 г. была эвакуавана цэнтральная турма Мінску, у якой знаходзіліся больш за тысячу вязняў. Гэта было зроблена пасля таго, як забілі некаторую іх частку. Тыя, хто зас-

таўся ў жывых, былі сагнаны ў лес за горадам. У тым месцы НКВД збірала транспарты з іншых турмаў Мінскай вобласці, а таксама з вязніцы ў Каўнасе (Літва). Такім чынам, паводле розных дадзеных назбіралася да дзесяці тысяч чалавек. Яны былі накіраваны невялікімі калонамі на ўсход у напрамку Чэрвеню. На шляху калоны вязняў часта траплялі пад абстрэлы нямецкіх войскаў, падчас якіх некаторыя з іх загінулі. Іншыя скарысталіся з агульнага вэрхалу, каб уцячы. Тым часам ахоўныя падраздзяленні НКВД атрымалі загад пачаць сістэматычнае знішчэнне палітычных вязняў. У выніку гэтага на шляху ў Чэрвень былі забіты многія тысячы людзей. Паводле дадзеных савецкай дзяржбяспекі 26 чэрвеня 1941 г. у перасыльную турму Чэрвеня прыбылі толькі 2200 вязняў. Некалькі соцен з іх – гэта былі перш за ўсё палітычныя вязні – былі аддзелены ад агульнай масы і расстраляны ў розных месцах за некалькі кіламетраў ад гораду. Тыя, што засталіся – гэта, перадусім, жанчыны, дзеці і старыя – былі адпушчаны НКВД на волю. Іншыя былі накіраваны ў штрафныя батальёны Чырвонай Арміі і павінны былі змагацца з наступаючымі нямецкімі войскамі. Толькі невялікая колькасць людзей выжыла падчас гэтых падзей, якія былі названы Мінскай дарогай смерці. Агульная колькасць ахвяр складае ад пяці да сямі тысяч забітых. Да 1980-х гг. даследванне злачынстваў НКВД у Чэрвені не праводзілася. Адно ў асяродку польскай, літоўскай і беларускай эміграцыі захоўвалася памяць пра ахвяр. Толькі напрыканцы 1980-х гг., калі з'явіліся вызвольныя і праваабарончыя рухі, у Польшчы і Літве пачалося публічнае абмеркаванне савецкіх злачынстваў падчас Другой сусветнай вайны. У Беларусі ў той час даследваннем падзей чэрвеня 1941 г. займаўся краязнаўца Уладзімер Дарагуш з Чэрвеню. Пасля адкрыцця брацкіх магіл ахвяр рэпрэсій у Курапатах пад Мінскам і пачаткам грамадзкага абмеркавання сталінскіх злачынстваў летам 1989 г. у мясцовай прэсе з'явіўся першы артыкул Дарагуша, які прыцягваў да сябе ўвагу. Сваякі ахвяр з Беларусі, а перш за ўсё з Польшчы і Літвы, прыехалі ў наступныя гады ў Чэрвень, каб ушанаваць памяць сваіх забітых родзічаў. Арганізацыі былых вязняў з усіх трох краін рупіліся пра ператварэнне знойдзеных дзякуючы паведамленням навочных сведак брацкіх магіл у мемарыяльныя месцы. Спачатку мясцовыя ўлады падтрымлівалі гэту ініцыятыву, аднак з канца 1990-х гг. ушанаванне памяці забітых лічыцца непажаданым. Нягледзячы на гэту акалічнасць, з 1989 г. рэгулярна адбываюцца памінальныя шэсці, што маюць назву «Ігуменскі шлях» і арганізуюцца беларускімі, літоўскімі і польскімі арганізацыямі ахвяр пераследу, а таксама некаторымі партыямі. Спробы ператварыць будынак турмы НКВД, які захаваўся ў Чэрвені, у музей ушанавання памяці ахвяр рэпрэсій, не мелі поспеху з-за супраціву ўлад. У рамках расследвання савецкіх злачынстваў у Польшчы і Літве ў сярэдзіне 1990-х гг. займаліся і гэтай масавай экзекуцыяй вязняў НКВД. Пачатыя працэсы, аднак, былі спынены, бо не было магчымасці знайсці і арыштаваць адказных асобаў.

**Надпіс**

На беларускай мове / на крыжы, усталяваным Таварыствам Альгірдаса

Вы не памёрлі, бо будзеце жыць / у нашых сэрцах / Algirdas Society

На польскай мове / на польскім крыжы

Ofiarom / mińskiej / szosy śmierci / zamordowanym / w 1941 roku / – Rodacy
Ахвярам Мінскай дарогі смерці, забітым у 1941 г. Суайчыннікі

**Месца знаходжання**
0,5 км ад горада, направа ад шашы на вёску Дуброва, Чэрвень, Мінская вобласць

## Мемарыял ахвярам Мінскай дарогі смерці

***Чэрвень.*** У наваколлі гораду Чэрвеню, які знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад Мінску, з 1989 г. з'явіліся чатыры розныя мемарыяльныя месцы, у якіх ушаноўваецца памяць ахвяр НКВД, што былі забіты падчас эвакуацыі турмаў летам 1941 г. За чатырыста метраў ад гораду ля дарогі ў Дуброву знаходзіцца лес, які называецца Цагельня. На ўспамін аб больш чым сотні расстраляных тут вязняў з нагоды 50-х угодкаў масавай экзекуцыі 26 чэрвеня 1991 г. быў усталяваны шасціметровы драўляны крыж. Разам з Беларускім Народным Фронтам і Мартыралогам Беларусі ініцыятарамі яго ўсталявання сталіся перш за ўсё старшыня Мартыралогу Беларусі Мая Кляшторная і жыхар Чэрвеню Уладзімір Дарагуш. Крыж мае абраз Багародзіцы, які прымацаваны пад папярэчнай бэлькай.



*Памятная капліца, зробленая Міколам Купавам, Чэрвень* *Фота: Усевалад Сіняк*

Ён быў выраблены вядомым мастаком Алесем Міранчыкам паводле распрацовак Яўгена Куліка. 26 чэрвеня 1993 г. на пастаменце, які быў змураваны з камянёў, была ўсталявана бронзавая пліта з надпісамі на беларускай, літоўскай і польскай мовах, якія нагадваюць пра пахаваных тут ахвяр. Мемарыяльны крыж быў адрэстаўраваны Уладзімірам Дарагушам і Уладзімірам Чарнаўцом у 1997 г., бо да гэтага быў пашкоджаны вандаламі і таксама пацярпеў ад уздзеяння метэаралагічных умоў. Злева ад яго знаходзіцца пабудаваная ў 1995 г. капліца ў выглядзе драўлянага слупа. Яе праект, рэалізаваны Таццянай Кузьміной, быў распрацаваны вядомым мастаком Міколам Купавам. У чэрвені



*Крыж памяці ва ўрочышчы Цагельня, Чэрвень*
*Фота: Усевалад Сіняк*

1995 г. на ўгодкі масавай экзекуцыі яна была асвечана. З нагоды 58-х угодкаў падзей на ўспамін пра польскіх вязняў была ўрачыста адкрыта капліца ў выглядзе драўлянага слупа, якую спраектаваў Генадзь Матусевіч. Яшчэ адна створаная Матусевічам скульптура была ўсталявана ў той жа дзень у прысутнасці дэпутата літоўскага парламенту. Помнік, усталяваны на пастаменце з камянёў, уяўляе сабой фігуру смуткуючага анёла, які стаіць на каленях.

**Надпіс**
На беларускай, літоўскай і польскай мовах

Ахвярам бальшавіцкага тэрору
Bolševiku teroro aukoms
Ofiarom teroru bolszewickiego

**Месца знаходжання**
урочышча Цагельня,
Чэрвень

## Помнік палякам-ахвярам Мінскай дарогі смерці

***Чэрвень***. Помнік забітым польскім вязням знаходзіцца разам з іншымі памятнымі знакамі ў лесе Цагельня за некалькі кіламетраў ад Чэрвеня. Ён быў урачыста адкрыты з нагоды 58-х угодкаў масавых забойстваў 26 чэрвеня 1999 г. Ініцыятыва яго ўсталявання зыходзіла ад Беларускага Народнага Фронту, Мартыралогу Беларусі, а таксама ад Саюзу палякаў Беларусі і сваякоў вязняў. Фінансаванне ажыццяўлялася за кошт ахвяраванняў, якія былі сабраны перш за ўсё у Польшчы. Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця брала

ўдзел Ёана Станкевіч-Янушчак, якая выжыла падчас масавай экзекуцыі і ўспаміны якой выйшлі з друку ў Польшчы ў тым самым годзе. Створаная скульптарам Генадзем Матусевічам капліца ў выглядзе драўлянага слупа, што мае назву "Піета", уяўляе сабой стылізаваны рэльеф з выявай Дзевы Марыі, якая трымае ў руках паміраючага вязня. Уверсе можна ўбачыць капліцападобнае наверша, у цэнтры якога вісіць звон. Канструкцыя ўмантавана ў пастамент з камянёў, які абкружаны пяццю вялікімі валунамі.



*Помнік палякам-ахвярам Мінскай дарогі смерці, Чэрвень* *Фота: Усевалад Сіняк*

Помнік нагадвае пра тых палякаў, якія знаходзіліся ў турмах савецкай дзяржбяспекі летам 1941 г. і былі забіты ў Чэрвені падчас іх эвакуацыі. Разам з тым ён прысвечаны тым польскім грамадзянам, якія былі забіты ў выніку злачынстваў у Катыні. Пасля ліквідацыі лагераў для польскіх вайсковапалонных у Савецкім Саюзе, а таксама ў выніку пастановы дзяржаўнага і партыйнага кіраўніцтва пакараць іх вязняў смерцю ў сакавіку 1940 г. больш за 4000 чалавек з лагераў Асташкаў і Казельск былі пераведзены ў цэнтральную турму БССР у Мінск. Там цягам наступных месяцаў яны былі расстраляны, а іх целы, верагодна, былі закапаны ў Курапатах.

**Надпіс**
На польскай мове

PAMIĘCI POLAKÓW /
POMORDOWANYCH
24.–27.VI.1941
Памяці палякаў, забітых 24.-27. VI. 1941 г.

**Месца знаходжання**
урочышча Цагельня, Чэрвень

## Крыж памяці Ёнасу Петруйцісу і ўсім літоўскім ахвярам Мінскай дарогі смерці

***Чэрвень***. Крыж памяці Ёнасу Петруйцісу і ўсім літоўскім ахвярам Мінскай дарогі смерці быў усталяваны 26 чэрвеня 1991 г. яго сынам Ёнасам Петруйцісам. Гэта быў адзін з першых крыжоў, якія паўсталі пад Чэрвенем. Петруйціса падтрымаў Саюз былых палітычных вязняў і дэпартаваных Літвы. Да сці-

плага драўлянага крыжа прымацавана металічная шыльда.

Ёнас Петруйціс нарадзіўся 6 лістапада 1891 г. у Расаліме Шаўляйскага павету (Літва). Пасля сканчэння школы ў 1912 г. на працягу кароткага часу ён працаваў супрацоўнікам газеты "Шаліціна", пасля чаго праз год быў пакліканы ў расійскую армію. З пачаткам Першай сусветнай вайны ён быў пераведзены ў Грузію, дзе рабіў кар'еру ў арміі. Вясной 1918 г. Петруйціс вярнуўся з расійска-турэцкага фронту ў Літву, якая тым часам сталася незалежнай. Цягам наступных месяцаў Петруйціс быў камандзірам розных фармаванняў вайсковага тыпу, якія змагаліся за незалежную Літву падчас грамадзянскай вайны 1918/19 гг. У 1920-х гг. ён належыў да афіцэрскага корпусу літоўскіх узброеных сіл, маючы званне палкоўніка. У 1926 г. ён падтрымаў путч аўтарытарнага прэзідэнта краіны Антанаса Смятоны. Пасля палітычных канфліктаў Петруйціс быў пераведзены спачатку ў Алытус, а затым пасля свайго вяселля перасяліўся ў Каўнас. Там яго заспеў прыход Чырвонай Арміі летам 1940 г. У Святы вечар таго ж году Ёнас Петруйціс быў арыштаваны НКВД і змешчаны ў каўнаскую турму. У якасці чальца літоўскага афіцэрскага корпусу ён быў засуджаны да шматгадовага тэрміну пазбаўлення волі па абвінавачанні ў датычнасці да "контррэвалюцыйных злачынстваў". Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. турму павінны былі эвакуяваць. 23 чэрвеня 1941 г. вязняў пагналі ў кірунку Мінска, куды яны прыбылі праз некалькі дзён. Падчас руху калоны непадалёк ад Чэрвеню Петруйцісу ўдалося ўцячы. Пасля прыходу нямецкіх войск восенню1941 г. ён накіраваўся ў Каўнас. Там на працягу наступных месяцаў ён напісаў свае ўспаміны, якія перш за ўсё прысвячаліся жахам савецкай акупацыі і падзеям чэрвеня 1941 г. З-за таго, што гэтыя ўспаміны маглі быць выкарыстаны для вядзення прапаганды, нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі апублікаваць іх у 1942 г. Яны былі апрацаваны і выйшлі ў ЗША пасля сканчэння Другой сусветнай вайны, шмат разоў перавыдаваліся і былі перакладзены на іншыя мовы. Петруйціс памёр у Каўнасе 28 верасня 1943 г.



*Крыж памяці Ёнасу Петруйцісу і ўсім літоўскім ахвярам Мінскай дарогі смерці, Чэрвень*
*Фота: Усевалад Сіняк*

**Надпіс**
На беларускай мове

У навакольным лесе / ляжаць сотні грамадзян / Беларусі, Летувы, Польшчы, / растраляныя бальшавікамі

**Месца знаходжання**
урочышча Цагельня, Чэрвень

## Крыж памяці Тадэвушу Гедройцу

***Чэрвень.*** Крыж памяці Тадэвушу Гедройцу знаходзіцца справа ад дарогі на Дуброву разам з іншымі памятнымі знакамі. Першы драўляны крыж быў усталяваны паводле ініцыятывы чальцоў аб'янання Мартыралог Беларусі Маі Кляшторнай і Алеся Шатэрніка ў 1995 г. Напрыканцы 1990-х гг. ён быў заменены металічным крыжом, які быў усталяваны з дапамогай унука забітага А. Гедройца, а таксама аб'яднання "Ігумен". На папярэчнай бэльцы змешчана імя забітага на беларускай мове, а на прадольнай – на польскай. Пазначана таксама і дата, калі ён быў пакараны смерцю.

Тадэвуш Гедройц (літ.: Tadeusz Giedraitis) нарадзіўся 7 студзеня 1890 г. у Беянах Ковенскай губерні (Літва). Ён




*Крыж памяці Тадэвушу Гедройцу, Чэрвень* *Фота: Усевалад Сіняк*

паходзіў з паважанай літоўска-польскай дваранскай сям'і, якая забяспечыла яму магчымасць вывучаць правазнаўства ў Тарту і Рызе. Пасля заканчэння вучобы ён таксама скончыў Вайсковую акадэмію ў Санкт-Пецярбургу, пасля чаго пачаў працаваць юрыстам. У пачатку Першай сусветнай вайны Гедройц быў пакліканы ў расійскую армію, а ў 1917 г. трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення з палону вясной 1918 г. ён далучыўся да польскіх вайсковых фармаванняў, якія тады змагаліся на баку нямецкай арміі. Пасля абвяшчэння другой Польскай Рэспублікі ў лістападзе 1918 г. Гедройц пайшоў на дзяржаўную службу і працаваў краўніком розных ваяводстваў на польскіх усходніх тэрыторыях. У пачатку 1930-х гг. ён працаваў старшынём судоў Беластоцкага, Замосцкага і Луцкага ваяводстваў. Са зменай унутрыпалітычнага курсу ў сярэдзіне 1930-х гг. і ўсталяваннем аўтарытарнага рэжыму санацыі Гедройц, будучы прадстаўніком умеранага польскага нацыяналізму, далучыўся да створанага ў 1937 г. "Лагера нацыянальнага яднання" (польск. Obóz Zjednoczenia Narodowego). Праз год ён увайшоў у польскі парламент, стаўшыся сенатарам ад Валынскага ваяводства. Калі выбухнула Другая сусветная вайна, Гедройц знаходзіўся ў Лабзове (польск.: Łobzów) Слонімскага павету, дзе быў арыштаваны НКВД пасля прыходу Чырвонай арміі 22 верасня 1939 г. У наступныя месяцы яго як прадстаўніка былой польскай эліты трымалі ў цэнтральнай турме БССР у Мінску, пасля чаго ў 1940 г. адбыўся працэс па яго справе. НКВД засудзіў яго на смерць. Пакараць яго смерцю перашкодзіў напад Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. Разам з іншымі вязнямі мінскай турмы Гедройца пагналі ў кірунку Чэрвеня 23 чэрвеня 1941 г. Праз тры дні ён прыбыў у тамтэйшую перасыльную турму, у той жа дзень быў аддзелены ад масы вязняў і расстраляны. Дакладнае месца, дзе ён быў пакараны смерцю, невядомае, аднак паводле слоў навочных сведкаў лічыцца, што разам з іншымі вязнямі ён быў расстраляны на тым месцы, дзе сёння стаіць крыж на памяць аб ім.

**Надпіс**
На беларускай і польскай мовах

Тадэвуш Гедройц
Tadeusz Giedroyc
26. 6. / 1941

**Месца знаходжання**
урочышча Цагельня,
Чэрвень

## Помнік літоўцам – ахвярам Мінскай дарогі смерці

***Чэрвень***. Помнік літоўцам–ахвярам Мінскай дарогі смерці быў урачыста адкрыты 26 чэрвеня 1991 г. на адлегласці прыкладна шэсцьсот метраў ад Чэрвеня злева ад дарогі на Дуброву. Ён быў усталяваны дзякуючы ініцыятыве Саюзу былых палітычных вязняў і дэпартаваных Літвы. Распрацоўку і выраб драўлянай скульптуры ўзяў на сябе Іпалітас Ушкурніс. Помнік быў прафінансаваны са сродкаў Міністэрства культуры Літвы. Выробленая з ліпавага дрэва скульптура ўяўляе сабой стылізаваную фігуру Ісуса, які трымае на руках мёртвага чалавека. Пад ёй знаходзіцца надпіс "1941 26 VI", які ўказвае на дату, калі адбылася масавая экзекуцыя. Уверсе ўзвышаецца крыж

са смуткуючым Ісусам. Справа ад помніка знаходзіцца дошка, якая нагадвае пра ахвяр на беларускай, літоўскай і рускай мовах.

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. кіраўнік НКВД Лаўрэнці Берыя загадаў эвакуяваць у глыбіню краіны ўсе турмы з блізкіх да фронту тэрыторый. У ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 г. з прычыны таго, што набліжаўся фронт, каўнаскую турму трэба было тэрмінова эвакуяваць. Каля 300 вязняў пашыхтавалі ў калоны і пагналі ў кірунку Мінску. На шляху ў Мінск аддзелы вартаўнікоў НКВД пачалі расстрэльваць вязняў. Вечарам 26 чэрвеня 1941 г. тыя, хто выжыў, прыбылі ў турму папярэдняга расследвання ў Чэрвені. Вязняў падзялілі на палітычных і крымінальнікаў. Апошнія засталіся ў турме і былі накіраваны ў штрафныя батальёны Чырвонай Арміі. Іншым удалося ўцячы на наступны дзень, калі адышлі савецкія войскі. Палітычных вязняў пагналі з гораду ў кірунку Барысава, пашыхтаваўшы іх у невялікія калоны, а пасля забілі. Сярод іх знаходзіліся некаторыя чальцы скінутага літоўскага ўраду, як, напрыклад, намеснік прэм’ер-міністра Казюс Бізаўскас, былы міністр унутраных спраў Стэпонас Руштэйка, былы намеснік міністра абароны Балюс Гедрайціс і брыгадны генерал Юліус Чаплыкас. Сярод іншых паймённа вядомых ахвяр-літоўцаў колькасцю больш за трыццаць асоб былі пісьменнікі, журналісты і навукоўцы.



*Помнік літоўцам-ахвярам Мінскай дарогі смерці, Чэрвень* *Фота: Усевалад Сіняк*

**Надпіс**
На беларускай, літоўскай і рускай мовах

Ахвярам рэпрэсій
Represijų aukoms
Жертвам репрессий

**Месца знаходжання**
600 м на паўднёвы ўсход ад гораду, злева ад шашы на вёску Дуброва, Чэрвень

## Памятны камень ахвярам рэпрэсій 1930–1940х гадоў

***Чэрвень.*** Памятны камень ахвярам рэпрэсій 1930–1940-х гг. быў усталяваны гарадской адміністрацыяй Чэрвеня за горадам ля шашы на Дуброву ў 1990 г. На сціплым чырвона-карычневым камяні змешчаны надпіс. Такім чынам гарадзкая адміністрацыя Чэрвеня ўсталявала ўласны помнік ахвярам так званай Мінскай дарогі смерці 1941 г.



*Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій 1930–1940х гадоў, Чэрвень Фота: Усевалад Сіняк*

**Надпіс**
На рускай мове

Жертвам /
репрессий /
30–40 годов
Ахвярам рэпрэсій
1930-40-х гг.

**Месца знаходжання**
ад шашы на вёску Дуброва, Чэрвень

## Мемарыяльнае месца ахвярам рэпрэсій 1930–1940-х гадоў

***Чэрвень.*** Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій 1930–1940-х гг. быў усталяваны ў 1991 г. гарадзкой адміністрацыяй Чэрвеня ў лясным масіве на поўнач ад горада ля дарогі на Мар'іну Горку. За год да таго непадалёк быў пастаўлены высокі чатырохканцовы драўляны крыж вышынёй сем метраў, які мае ў сярэдзіне вянка з калючага дроту лічбу "1937". На пастаменце маецца яшчэ адзін надпіс. Ён быў усталяваны аб'яднаннем "Ігумен" і краязнаўцам Уладзімерам Дарагушам, якія такім чынам пазначылі знойдзеныя на гэтым месцы брацкія магілы. У 1930–1940-х гг. НКВД выкарыстоўвала лясны масіў Высокі Стан, які знаходзіцца на поўнач ад горада, у якасці месца, дзе караліся смерцю палітычныя вязні. Пакаранні смерцю здзяйсняліся тут асабліва падчас масавага



*Крыж памяці ахвярам масавага тэрору 1937–1938 гг., Чэрвень Фота: Усевалад Сіняк*

тэрору 1937/38 гг. Колькасць забітых, чые парэшткі спачываюць у гэтым месцы, да сённяшняга дня невядомая. Дагэтуль удалося высветліць імёны 136 жыхароў Чэрвеню і навакольных вёсак, якія былі пакараны смерцю паміж 1937 і 1938 гг. У 1989 г. у звязку з адкрыццём масавых пахаванняў у Курапатах і даследваннем так званай Мінскай дарогі смерці 1941 г. у лясным масіве былі знойдзены дванаццаць брацкіх магіл. Даследванні пацвердзілі, што тут былі пахаваны забітыя НКВД вязні.

**Надпіс**
На рускай мове / на камені

Жертвам /
репрессий /
30–40 годов
Ахвярам рэпрэсій 1930-40-х гг.

На беларускай мове / на крыжы
Ахвярам бальшавіцкага тэрору 1937

**Месца знаходжання**
на поўдзень ад гораду, ад шашы на Мар'іну Горку, Чэрвень

## Крыжы ахвярам Вілейскай турмы

***Касута.*** Крыжы ахвярам Вілейскай турмы знаходзяцца прыкладна за пяцьсот метраў ад вёскі Касута ля шашы на Сосенку. Яны былі ўрачыста адкрыты ў дзень памяці продкаў 2 лістапада 1991 г. Ініцыятыва іх усталявання зыходзіла ад каталіцкай парафіі Вілейкі і Саюзу палякаў Беларусі, якія былі падтрыманы мясцовай арганізацыяй Беларускага Народнага Фронту і гарадзкой адміністрацыяй Вілейкі. Спраектаваныя мастаком Барысам Цітовічам з'ядналыя чатырохканцовы і шасціканцовы крыжы нагадваюць пра прыкладна 60 чалавек, якія былі пакараны смерцю на гэтым месцы ў ноч з 25 на 26 чэрвеня 1941 г. Пад крыжамі размешчаны тры валуны, надпісы на



*Асвячэнне новых крыжоў памяці (2006 г)*
*Фота: Ігар Кузняцоў*



*Крыжы памяці ахвярам Вілейскай турмы, Касута* *Фота: Ігар Кузняцоў*

якіх, зробленыя на польскай і беларускай мове, нагадваюць пра ахвяр. Летам 2004 г. крыжы былі моцна пашкоджаны невядомымі. Іх аднавілі толькі праз тры гады коштам розных грамадзкіх арганізацый. Падчас новага асвячэння крыжоў быў усталяваны яшчэ адзін камень, надпіс на якім, зроблены па-беларуску, нагадвае пра падзеі 1941 г.

Падчас нападу Германіі на Савецкі Саюз, які адбыўся 22 чэрвеня 1941 г., была эвакуавана вялейская турма НКВД, якая знаходзілася за трыццаць кіламетраў на захад ад Касуты. Пасьля таго, як савецкая дзяржбяспека забіла частку вязняў у самой турме, астатніх вязняў, а было іх больш за тысячу, пагналі па дарозе на ўсход у кірунку Барысава. Між тым 24 чэрвеня 1941 г. выйшаў загад расстраляць палітычных вязняў. У ноч на 25 чэрвеня 1941 г. вартаўнікі пачалі аддзяляць іх. Па-за вёскай Касута першая група колькасцю ад 50 да 60 чалавек была адведзена ў лес і там забіта. Іх целы засталіся непахаванымі. За забойствам назіралі мясцовыя жыхары, якія пахавалі забітых на могілках навакольных вёсак пасля адыходу савецкіх войск.

**Надпіс**
На беларускай мове

Памяці ахвяр / турмы ў Вілейцы /
замардаваных / у чэрвені 1941 г.

На польскай мове / на левым камяні

S. Kreuz P. / Oskar Swida / S. Ludwika /
Ur. 1885 r. w Malych Hraniczach /
zm. 1941 w Drodze na Wschód

Светлай памяці Оскара Свіды, сына Людвіка, народжанага ў 1885 г. у Малых Гранічах, памерлага ў 1941 г. па дарозе на ўсход

На польскай мове / на правым камяні

Pamięci ofiar / więzienia w Wilejce / zamordowanych / W CZERWCU 1941 r.
Памяці ахвяр Вілейскай турмы, забітых у чэрвені 1941 г.

**Месца знаходжання**
па дарозе з в. Касута на в. Сосенка, Касута, Вілейскі раён, Мінская вобласць

## Помнік ахвярам Вілейскай турмы

***Вілейка.*** Помнік ахвярам Вілейскай турмы быў асвечаны ў дзень памяці продкаў 16 красавіка 1996 г. Ён знаходзіцца непадалёк ад уваходу на гарадзкія могілкі па-над брацкай магілай, у якой спачываюць некалькі сотняў людзей, забітых з 1939 па 1944 гг. Ініцыятыва ўсталявання каменю зыходзіла ад гарадзкой адміністрацыі Вілейкі, аб'яднання Мартыралог Беларусі і мясцовай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту. Па-над спраектаваным мастаком Барысам Цітовічам амаль двухметровым карычневым валуном узвышаецца багата ўпрыгожаны чорны металічны крыж вышынёй у паўтары метры. На камяні выбіта малітва.



*Былая турма НКВД, Вілейка*
*Фота: Ігар Кузняцоў*

Турма ў Вілейцы была пабудавана ў 1865 г. у якасці вязніцы папярэдняга дазнання былога Вілейскага павета. Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй яна выкарыстоўвалася як месца ўтрымання палітычных праціўнікаў царскага рэжыму. Адным з найвядомейшых вязняў таго часу быў заснавальнік савецкай дзяржбяспекі Фелікс Дзяржынскі. Пасля сканчэння Першай сусветнай вайны гэта тэрыторыя адышла да другой Польскай Рэспублікі, у склад якой уваходзіла да 1939 г. У той час вязніца была пашырана, у ёй маглі змяшчацца каля 350 вязняў. Зноў разам з крымінальнікамі ў Вілейцы трымалі і палітычных. У міжваенны час тут адбывалі пакаранне перш за ўсё чальцы сацыялістычных і сацыял-дэмакратычных партый і аб'яднанняў. З пачаткам Другой сусветнай вайны напрыканцы верасня 1939 г. у Вілейку ўвайшлі савецкія войскі. У снежні 1939 г. гэта тэрыторыя была далучана да БССР, а турма сталася цэнтральнай вязніцай новастворанай адміністрацыйнай адзінкі. Адразу пасля прыходу Чырвонай Арміі распачаўся пераслед былой палітычнай і сацыяльнай – у першую чаргу польскай – эліты. У гэты час у турму паступалі сотні людзей, якіх затым адпраўлялі ў глыбіню Савецкага Саюзу. Тут яшчэ знаходзіліся і тыя вязні, якіх НКВД арыштавала ў Вільні ў кастрычніку 1939 г. да таго, як горад быў перададзены Літве. У чэрвені 1941 г. у Вілейскай турме, разлічанай на прыкладна 300 вязняў, паводле дадзеных НКВД змяшчалася

1023 чалавекі. Такім чынам, у будынку турмы змяшчалася ў тры разы больш вязняў, чым гэта было запланавана. Падчас нападу Германі на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 г. выйшаў загад эвакуяваць вязняў у Разань (Цэнтральная Расія). За мінулы час зноў былі арыштаваны сотні людзей, таму з-за вялікай колькасці вязняў перамясціць усіх было немагчыма. З гэтай прычыны кіраўніцтва турмы пастанавіла расстраляць на месцы ўсіх хворых, а таксама тых, хто не мог ісці. Іншая група колькасцю каля 200 чалавек, якіх НКВД засудзіў на смерць, была ў спешцы сагнана 24 чэрвеня 1941 г. у турэмную капліцу і там забіта. Іх целы былі пакінуты на месцы і знойзены 25 чэрвеня, пасля таго, як у Вілейку прыйшлі нямецкія войскі. Жыхарам дазволілі пахаваць частку забітых сваякоў на могілках. Астатнія забітыя былі пахаваны ў брацкай магіле на тэрыторыі турмы. Падчас нямецкай акупацыі СД і мясцовая паліцыя працягвалі выкарыстоўваць турму. З 1941 па 1944 гг. былі забіты многія сотні людзей – сярод іх перш за ўсё падпольшчыкі, палонныя чырвонаармейцы і габрэі, а таксама простыя жыхары гораду і навакольных вёсак. Пасля вызвалення гораду летам 1944 г. вязніцу спачатку працягвалі выкарыстоўваць. Толькі ў 1964 г. яе закрылі з прычыны неадпаведнасці будынку і ператварылі ў бальніцу. Праз два гады падчас земляных работ будаўнікі знайшлі чалавечыя парэшткі, якія былі прызнаны парэшткамі ахвяр нямецкіх акупантаў і перапахаваны ў брацкай магіле. У 1994 г. падчас будаўнічых работ на тэрыторыі турмы зноў былі эксгумаваны парэшткі некалькіх сотняў чалавек. Ужо было вядома пра падзеі, якія адбыліся тут



*Помнік ахвярам Вілейскай турмы, Вілейка*
*Фота: Віталь Паўлоўскі*

ў чэрвені 1941 г., таму была зроблена спроба ідэнтыфікаваць парэшткі забітых, але яна не прынесла вынікаў. З гэтай прычыны ўсе знойдзеныя парэшткі былі пахаваны ў брацкай магіле на гарадзкіх могілках, дзе быў усталяваны памятны камень на ўспамін аб усіх ахвярах Вілейскай турмы.

**Надпіс**
На беларускай мове

замучаных / і расстраляных у турме / Вілейскай за час існавання яе … / Дабраслаў, Божа, душы / палеглых айцоў, братоў / і сясцёр нашых, імён якіх / пакуль не ведаем

**Месца знаходжання**
шаша на Мядзел, Вілейка, Мінская вобласць

# ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## Крыжы ахвярам рэпрэсій

***Віцебск***. 2 лістапада 2003 г. з нагоды дня памяці продкаў Дзяды Беларускі Народны Фронт усталяваў на Успенскай гары два крыжы ахвярам НКВД. Людзі прынеслі і ўсталявалі крыжы на брацкіх магілах, якія, як мяркуецца, знаходзяцца на гэтым месцы. Пасля гэтага ля Успенскага сабору быў усталяваны яшчэ адзін памятны крыж. Несанкцыяванае ўладамі шэсце спыніла міліцыя, а крыж канфіскавалі. Шмат удзельнікаў шэсця апынуліся пад арыштам. Праз некалькі дзён два іншыя крыжы былі прыбраны па патрабаванні міліцыі. Паколькі ўсе далейшыя спробы ўсталяваць на Успенскай гары мемарыяльныя знакі ахвярам сталінізма не скончыліся поспехам, памінальныя акцыі праходзяць сёння побач з крыжом у гонар св. Ефрасінні Полацкай непадалёк ад Успенскага Сабору.

На месцы, дзе сёння стаіць Успенскі Сабор, у пачатку 15 ст. быў пабудаваны першы храм. У сярэдзіне 18 ст. паводле планаў італьянскага архітэктара Джузэпе Фантана быў пабудаваны прыгожы храм, які стаўся саборам праваслаўнага епіскапа Віцебска пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 19 ст. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. будынак быў канфіскаваны паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР ад 5 ліпеня 1926 г. Нягледзячы на шматлікія рэпрэсіі супраць вернікаў і святароў тут да 1936 г. тайна праводзіліся набажэнствы. З пачаткам масавага тэрору ў 1937 г. храм быў канчаткова закрыты. У працэсе надання новага выгляду цэнтру Віцебска Успенскі Сабор быў узарваны ў 1938 г. Выбух Другой сусветнай вайны перадухіліў забудову гэтай тэрыторыі. Толькі ў 1949 г. на Успенскай гары была пабудавана фабрыка. Пасля пераносу мантажных цэхаў на мяжу горада, якое адбылося ў 1970-я гг., будынкі заняпалі. Іх парэшткі былі дэмантаваны летам 1998 г. 26 верасня 1998 г. Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій заклаў першы камень у падмурак сабору, які планавалі адбудаваць. Будаўнічыя работы, якія фінансаваліся са сродкаў царквы і ахвяраванняў, пачаліся ў 2000 г., яны не завершаны і да сённяшняга дня. У 1920-х гг. у непасрэднай блізкасці ад Успенскага сабору знаходзілася НКВД. У скляпеннях Віцебскай абласной управы НКВД у 1930-х і 1940-х гг. адбываліся расстрэлы тысячаў чалавек. Для пахавання парэшткаў НКВД выкарыстоўвала перш за ўсё дзве закрытыя зоны непадалёк ад населеных пунктаў Вароны і Паляі, дзе пра пахаваных там ахвяр сёння нагадваюць два крыжы. Падчас археалагічных раскопак, якія папярэднічалі пабудове сабору, былі знойдзены парэшткі прыкладна 400 чалавек, якія знаходзіліся ў сутарэннях храму. Даследванні пацвердзілі, што целы забітых былі закапаны тут перад Другой сусветнай вайной. Дагэтуль з'яўляецца спрэчным, ці гэта ахвяры НКВД, якія былі расстраляны тут летам 1941 г. падчас эвакуацыі турмы, якая знаходзілася непадалёк. Гэта тэза, якую падтрымваюць шмат гісторыкаў, прывяла да таго, што на Успенскай га-



*Аднаўленне Свята-Успенскага кафедральнага сабора, Віцебск   Фота: Раман Воранаў, wikipedia.org*

ры праводзіліся шматлікія акцыі па ўшанаванні памяці ахвяр сталінізму. Паводле афіцыйнай версіі гаворка ідзе пра забітых падчас нямецкай акупацыі ахвярах. Яны нібыта былі расстраляны СД, якое працягвала выкарыстоўваць будынак, у скляпеннях былой турмы НКВД летам 1941 г. Паколькі дзяржава не падрымлівае даследвання лёсу ахвяр, грунтоўнае высвятленне пытання дагэтуль не праводзілася.

**Месца знаходжання**
Успенскі сабор, Віцебск,
Віцебская вобласць

## Мемарыяльны камень Міхаілу Буклярэвічу

Усталяваны перад касцёлам у Іказні ў 1995 г. памятны камень нагадвае пра забітага ў 1919 г. святара Міхаіла Буклярэвіча (польск.: Michal Buklarewicz). Яго парэшткі былі перапахаваны на касцёльным двары ў 1920 г. Па-над магілай у міжваенны час знаходзіўся помнік, які быў разбураны падчас Другой сусветнай вайны. У 1995 г. парафіяй быў усталяваны памятны камень, выраблены з чорнага паліраванага граніту. На ім побач з выявай Дзевы Марыі пазначаны імёны і гады жыцця Міхаіла Буклярэвіча і яго малодшай сястры Аліцыі (польск.: Alicja), якая таксама была забіта.

Міхаіл Буклярэвіч нарадзіўся 12 кастрычніка 1884 г. у Лінгах, якія сёння знаходзяцца ў Ашмянскім раёне Гродзенскай вобласці. Ён наведваў школу ў Вільні, пасля чаго пайшоў вучыцца далей і авалодаў прафесіяй аптэкара. У 1904 г. ён паступіў у каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні, дзе ў 1908 г. быў высвечаны на святара. З 1915 г. ён быў пробашчам парафіі ў Іказні. Падчас савецка-польскай вайны



*Мемарыяльны камень Міхалу Буклярэвічу, Ікаізнь* *Фота: Марыюш Проскень*

1919/21 гг. Буклярэвіч удзельнічаў у арганізацыі антыбальшавіцкага супраціву. Пад яго краўніцтвам быў створаны аддзел самаабароны колькасцю 300 чалавек, які ладзіў супраціў наступаючай Чырвонай Арміі. Падчас баёў яго аддзелу ўдалося ўзяць у палон каля 100 латышскіх стралкоў. Негледзячы на гэта бальшавіцкія злучэнні рухаліся наперад, а Міхаіл Буклярэвіч быў арыштаваны як кіраўнік супраціву. Вайсковы трыбунал Чырвонай Арміі засудзіў яго да пакарання смерцю. Ён быў забіты разам са сваёй малодшай сястрой Аліцыяй 27 чэрвеня 1919 г. непадалёк ад вёскі Бігосава Дрысенскага павету (сёння Вярхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці). Пасля адыходу Чырвонай Арміі яго парэшткі былі перавезены на касцёльны двор парафіі ў Іказні, якую ён узначальваў, і пахаваны тут 24 сакавіка 1920 г.

**Надпіс**
На польскай мове

Ksiądz / Michał / Buklarewicz / 12. 10. 1884–27. 06. 1919 / I siostra Alicja / Buklarewicz
Ксёндз Міхаіл Буклярэвіч (12.10.1884–27.06.1919) і яго сястра Аліцыя Буклярэвіч

**Месца знаходжання**
перад касцёлам, Іказнь, Браслаўскі раён, Віцебская вобласць

## Крыж ахвярам сталінізму

***Відзы.*** Насупраць касцёлу Найсвяцейшай Тройцы ў Відзах у сярэдзіне 1990-х гг. быў усталяваны памятны драўляны

крыж ахвярам сталінізму. Каталіцкая парафія Відзаў, якая ініцыявала яго ўсталяванне, ушаноўвае такім чынам памяць чальцоў парафіі, якія сталіся ахвярамі савецкага тэрору паміж 1939 і 1941 гг. Да чатырохметровага драўлянага крыжа прымацавана фігура Ісуса. На пастаменце змешчаны надпіс на польскай мове.

Вёска Відзы (польск.: Widze), якая знаходзіцца на поўдзень ад Браслава ля сённяшняй беларуска-літоўскай мяжы, у міжваенны час належала да Польшчы. У населеным пункце побач адна з адной жылі розныя рэлігійныя і этнічныя меншасці, прычым габрэйская грамада налічвала больш за две траціны жыхароў. З пачаткам Другой сусветнай вайны напрыканцы верасня 1939 г. вёску заняла Чырвоная Армія. Насупраць касцёлу НКВД размясціў сваю раённую ўправу. У наступныя гады пераслед зазнала перш за ўсё польская меншасць, якая налічвала каля 500 чалавек. Рэпрэсіі былі скіраваны перадусім супраць каталіцкай парафіі, якая адбкладалася высокімі падаткамі. Чальцы парафіі збіралі ахвяраванні, каб выплаціць падаткі і тым самым выратаваць ад арышту святара Станіслава Матушчыка (польск.: Stanisław Matyszczyk), які выконваў святарскую паслугу ў Відзах з 1938 г. А. Матушчык працягваў душпастырскую працу сярод каталікоў у Відзах, нягледзячы на гэтую пагрозу. Восенню 1940 г. святар і некаторыя жыхары вёскі былі арыштаваны па абвінавачанні ў стварэнні антысавецкай арганізацыі і затым адпраўлены ў Пастаўскую турму. А. Матушчык трапіў пазней у турму НКВД у Вілейцы, дзе быў засуджаны на восем гадоў зняволення ў лагерах за "антысавецкую пранаганду". Падчас нападу Германіі на Савецкі Саюз, які адбыўся 22 чэрвеня 1941 г., было вырашана эвакуяваць турму і адправіць вязняў на ўсход. Частка вязняў, сярод якіх знаходзіўся Станіслаў Матушчык, была аддзелена ад астатніх і расстраляна ў двары турмы вечарам 22 чэрвеня 1941 г. Паводле іншых дадзеных ён быў эвакуяваны і памёр на шляху на ўсход.



*Памятны крыж ахвярам сталінізму, Відзы*
*Фота: Кастусь Шыдлоўскі*

**Надпіс**
На польскай мове

Pamięci / ofiarom / stalinizmu
Памяці ахвяраў сталінізму

**Месца знаходжання**
Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, Відзы, Браслаўскі раён, Віцебская вобласць

## Крыж памяці змагарам за свабоду

***Фралова.*** Крыж памяці беларускім змагарам за свабоду быў усталяваны 24 кастрычніка 2007 г. непадалёк ад вёскі Фралова прыкладна за 26 кіламетраў ад раённага цэнтру Гарадок. 27 кастрычніка ён быў урачыста асвечаны грэка-каталіцкім святаром айцом Зміцерам Грышанам. Трохметровы металічны крыж, выгляд якога нагадвае крыж беларускай святой Ефрасінні Полацкай, быў усталяваны паводле ініцыятывы руху "За свабоду" і Беларускага Народнага Фронту. Актыўным удзельнікам усталявання крыжа быў старшыня гарадоцкай суполкі руху "За свабоду" Леанід Аўцюхоў. Крыж нагадвае пра пакаранне смерцю дзесяці жыхароў Гарадоцкага павету, здзейсненае бальшавіцкай ЧК у лістападзе 1918 г. 31 кастрычніка 2007 г. крыж быў разбураны невядомымі. Пасля гэтага ініцыятары яго ўсталявання звярнуліся ў міліцыю, якая адмовілася шукаць злачынцаў. Наадварот, супраць Леаніда Аўцюхова была заведзена адміністрацыйная справа з-за таго, што ён усталяваў памятны крыж без дазволу мясцовых улад. Нягледзячы на гэтыя непрыемнасці крыж ля Фралова быў адноўлены. Ён быў усталяваны і асвечаны па ініцыятыве Аўцюхова ля старадаўняй драўлянай капліцы непадалёк ад вёскі Рамні, якая знаходзіцца побач з Фраловым, у чэрвені 2010 г. Невядома, ці застанецца ён стаяць на гэтым месцы.

Пасля заключэння брэсцкага міру ў сакавіку 1918 г. Гарадоцкі павет быў заняты нямецкімі войскамі, якія заставаліся тут да капітуляцыі Германіі ў лістападзе таго ж году. Пасля Кастрычніцкай рэваюцыі 1917 г. у Гарадоцкім павеце былі створаны мясцовы савет і рэвалюцыйны камітэт, якія змянілі старую царскую адміністрацыю. Яшчэ да прыходу нямецкіх войск пачалася канфіскацыя маёмасці буйных землеўладальнікаў і царквы, быў праведзены падзел зямлі і створаны камітэты самадапамогі. Адначасова з гэтым мясцовае насельніцтва было абкладзена вялікімі падаткамі, а шмат мужчын было мабілізавана ў Чырвоную Армію. Гэта выклікала незадаволенасць насельніцтва. Яшчэ ў сакавіку 1918 г. у Гарадоцкім павеце адбыўся невялікі выступ супраць мясцовых бальшавікоў, які прайшоў пад кіраўніцтвам святара і царскага генерала. Бальшавікі раздушылі яго сіламі Чырвонай Арміі. Становішча сялян мала змянілася і падчас нямецкай акупацыі ў 1918 г. Зноў адбываліся рэквізіцыі прадуктаў харчавання і маёмасці. З адыходам нямецкіх войск і ўсталяваннем савецкай улады, якія адбыліся ў кастрычніку-лістападзе 1918 г., у атмасферы чакання новых рэквізіцый зноў зарганізаваўся ўзброены супраціў. Пад лозунгам "Саветы без камуністаў" некалькі сотцен сялян Гарадоцкага павету ўліліся ў шэрагі паўстанцкага войска. 11–17 лістапада 1918 г. ім удалося заняць багата населеных пунктаў. Некаторыя старшыні рэвалюцыйных камітэтаў і мясцовых саветаў былі арыштаваны і расстраляны. Бальшавікі абвясцілі ваеннае становішча, аднак спачатку адышлі з павету, каб запрасіць вайсковай дапамогі ў Віцебску. З прычыны колькаснай перавагі Чырвонай Арміі паўстанцы адмовіліся ад супраціву і без вялікіх баёў склалі зброю. На падставе загаду пра "чырвоны тэрор" дзесяць чалавек: Цімафей Новікаў, Язэп Карныш,

Улас Цімафееў, Сямён Лісіцын, Сягей і Антон Балабанавы, Аляксандр Лапаценка, Міхаіл Сураўнёў, Аляксандр Каганаў, Арцём Кнуроў, Канстанцін Данілаў, Фёдар Гаўрыленка, Міхаіл Сінцоў і Антон Бальшухін былі засуджаны на смерць ЧК Віцебскай губерні і расстраляны напрыканцы лістападу 1918 г. непадалёк ад вёскі Фралова. Іншыя 135 чалавек былі арыштаваны. Гэту гісторыю краязнаўцы ўпершыню адшукалі ў архівах у 1998 г. Былі высветлены імёны ахвяр, а таксама верагоднае месца іх пакарання. Да таго ж удалося знайсці сваякоў двух ахвяр – Аляксандра Лапаценкі і Міхаіла Сураўнёва. Зыходзячы з гэтых дадзеных паўстала ідэя усталяваць крыж у памяць пра забітых.

**Надпіс**
На беларускай мове

Змагарам за СВАБОДУ загінуўшым у лістападзе 1918г.

**Месца знаходжання**
Фралова, цяпер у вёсцы Рамні,
Гарадоцкі раён, Віцебская вобласць

## Мэмарыяльная дошка Клаўдзію Дуж-Душэўскаму

***Глыбокае.*** Мемарыяльная дошка Клаўдзію Дуж-Душэўскаму была ўсталявана на доме, дзе нарадзіўся гэты беларускі палітык і журналіст, 24 сакавіка 2008 г. Дошка белага колеру мае выяву Дуж-Душэўскага і прысвечаны яму надпіс. Яе ўсталяванне ініцыявалі краязнавец з Глыбокага Уладзімір Скрабатун і мясцовая суполка Беларускага Народнага Фронту. Паколькі дзяржаўныя ўлады адхілілі прапанову ўсталяваць дошку, яна была размешчана на доме са згоды яго сённяшняга ўласніка ў якасці прыватнага памятнага знаку. Сярод чальцоў Беларускага Народнага Фронту збіраліся ахвяраванні, каб прафінансаваць выраб і ўсталяванне дошкі, створанай Аляксандрам Мядзельцом.

Клаўдзі Дуж-Душэўскі нарадзіўся 27 сакавіка 1891 г. у Глыбокім. Ён вучыўся ў гімназіі ў Вільні, дзе пазнаёміўся з беларускім рухам. У 1912 г. ён выправіўся ў Санкт-Пецярбург, дзе пачаў вучыцца ва ўніверсітэце. Таксама і ў былой сталіцы імперыі Дуж-Душэўскі падтрымліваў сувязь з ураджэнцамі Беларусі і ўдзельнічаў у выданні газеты "Раніца", якая выходзіла там жа. У 1917 г. ён уступіў у Беларускую сацыялістычную граманду і стаўся чальцом аддзелу па пытаннях уцекачоў Беларускага нацыянальнага камітэту. Дуж-Душэўскі лічыцца стваральнікам бел-чырвона-белага нацыянальнага сцягу – сцягу Беларускай Народнай Рэспублікі, незалежнасць якой была абвешчана ў сакавіку 1918 г. У кастрычніку 1919 г. Дуж-Душэўскі перасяліўся ў Вільню, дзе прыйшоў працаваць у дыпламатычную службу ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні. У 1921 г. ён быў арыштаваны польскімі ўладамі, аднак праз некаторы час яго выпусцілі на волю. Ён эміграваў у Літву і пасяліўся ў Каўнасе, дзе вучыўся да 1927 г. Адначасова з гэтым у 1920-х гг. Дуж-Душэўскі браў удзел у выданні роных беларускіх газет, якія выходзілі ў Літве. Пасля таго, як саветы акупавалі Прыбалтыку ў 1940 г., ён быў арыштаваны НКВД 2 ліпеня таго ж году. Калі 22 чэрвеня 1941 г. Германія напала на Савецкі Саюз, ён выйшаў на волю і працягваў жыць у Каўнасе. У 1943 г. яго арыштавала гестапа, паколькі Дуж-Душэўскі ўдзельнічаў

у выратаванні габрэяў. Да свайго вызвалення ў 1944 г. ён знаходзіўся ў адным з канцэнтрацыйных лагераў у Літве. У той самы год ён заняў пасаду выкладчыка ў Каўнаскім універсітэце. Савецкая дзяржбяспека арыштавала яго ў снежні 1946 г. Пасля паўгадовага знаходжання пад вартай у Вільнюсе яго адпусцілі на волю. Летам 1952 г. яго арыштавалі паўторна і асудзілі да 25 год лагераў, абвінаваціўшы ў "беларускім нацыяналізме". Толькі падчас амністыі 1955 г. Дуж-Душэўскі быў вызвалены і жыў да сваёй смерці 25 лютага 1959 г. ў Каўнасе.

**Надпіс**
на беларускай мове

Тут у 1891 годзе нарадзіўся Клаўдзій
Сцяпанавіч Дуж-Душэўскі –
палітык, асветнік, дойлід

**Месца знахожання**
вуліца Горкага, 22, Глыбокае, Віцебская вобласць

## Помнік ахвярам рэпрэсій

***Андрэеўшчына.*** У дзень памяці продкаў 2 лістапада 1990 г. на Кабылянскай гары непадалёк ад вёскі Андрэеўшчына быў усталяваны драўляны крыж дзеля ўшанавання памяці ахвяр палітычнага пераследу. Неўзабаве пасля ўсталявання ён быў разбураны невядомымі. Пасля гэтага на Дзяды 1991 г. мясцовая суполка Беларускага Народнага Фронту і гарадзкая адміністрацыя Оршы ўрачыста адкрылі мемарыяльны камень, усталяванне якога адбылося паводле іх ініцыятывы. Побач з ім знаходзіцца чорная металічная шыльда з надпісам. Праз некаторы час камень быў пашкоджаны вандаламі, а дошка знікла. Дзякуючы старанням Беларускага Народнага Фронту памятны знак быў адноўлены ў 1997 г. Падчас памінальнай акцыі, якая адбылася на Дзяды 2005 г., побач з мемарыяльным камнем былі ўсталяваны два новыя драўляныя крыжы – адзін каталіцкі, а другі праваслаўны. Ля іх маецца дошка, якая нагадвае пра пахаваных тут ахвяр рэпрэсій. Крыжы былі асвячаны грэкакаталіцкім святаром айцом Андрэем і айцом Чэславам з парафіі Святога Язэпа горада Оршы.

У 1930-х гг. Кабылянская гара выкарыстоўвалася Аршанскай раённай управай савецкай дзяржбяспекі ў якасці месца пакарання смерцю ахвяр палітычнага пераследу. Мяркуецца, што ў сямі ці васьмі брацкіх магілах, якія знаходзяцца на гэтым месцы, спачывае некалькі соцен людзей, якія былі забіты перш за ўсё падчас масавага тэрору 1937/38 гг. Пра месца пахавання забыліся, пакуль падчас пабудовы чыгуначнай станцыі Орша Паўночная тут не знайшлі чалавечыя парэшткі. Аднак далейшае расследванне не праводзілася. Толькі пасля таго як ў 1988 г. у Курапатах пад Мінскам было знойдзена месца пахавання ахвяр рэпрэсій, у Оршы правялі даследванне брацкіх магіл на Кабылянскай гары. Была задзейнічана камісія па даследванні пытання, у склад якой уваходзілі краязнаўцы, чальцы Беларускага Народнага Фронту, а таксама прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі. Даследванні пацвердзілі, што пахаваныя тут памерлыя – ахвяры НКВД. У 1992 г. Аршанская раённая адміністрацыя афіцыйна прызнала гэту мясцовасць месцам пахавання ахвяр палітычных рэпрэсій. У першую чаргу аб ператварэнні мяс-

цовасці ў мемарыяльнае месца рупіліся Беларускі Народны Фронт і сваякі забітых. Пры гэтым абяцаная раней дзяржаўнымі ўладамі дапамога не аказвалася. Усталяваны ў 1992 г. камень нагадвае сёння не толькі пра ахвяр масавага тэрору, але адначасова з'яўляецца мемарыяльным знакам, які ўшаноўвае памяць вязняў ГУЛАГу. У 1930 г. на памежным вакзале Оршы састаўляліся, а па чыгуначным шляху Мінск – Масква, які праходзіць непадалёк, курсіравалі цягнікі, якія везлі тысячы людзей у лагеры ГУЛАГу.

**Надпіс**
На беларускай мове

… Гора Вам, смяючыеся цяпер, / бо заплачаце і зарыдаеце… / Евангелле ад Лукі. / Тут захаваны ахвяры рэпрэсій, / учыненых бязбожным / камуністычным рэжымам / у 1930–1953 гады

**Месца знаходжання**
на Кабылянскай гары, Андрэеўшчына, Аршанскі раён, Віцебская вобласць



*Мемарыяльны камень ахвярам рэпрэсій, Андрэеўшчына* *Фота: Усевалад Сіняк*

## Помнік ахвярам бальшавізму

***Лынтупы.*** Помнік ахвярам бальшавізму быў урачыста адкрыты 8 сакавіка 2008 г. на могілках вёскі Лынтупы. Ён быў створаны па ініцыятыве краязнаўцаў Алеся Гарбуля і Міхася Гіля, якія з 2007 г. клапаціліся аб рэстаўрацыі ўсталяванага ў 1930 г. помніка. Помнік жаўнерам, якія загінулі падчас баёў з Чывонай Арміяй у 1920 г., быў узноўлены паводле праекту мастака Алеся Цыркунова. На цырымоніі асвячэння, якую праводзіў мясцовы каталіцкі святар, прысутнічаў таксама і намеснік польскага амбасадара ў Беларусі. На трохярусным пастаменце ўзвышаецца ўпрыгожаны разьбой дубовы крыж вышынёй у 2,5 метры. На ім маецца распяцце побач з якім размешчаны беларускі гістарычны і польскі гербы. Па-над імі знаходзіцца надпіс “За вашу і нашу свабоду”, выкананы на беларускай і польскай мовах.

**Надпіс**

На беларускай мове/ на крыжы

За нашу і вашу свабоду

На польскай мове / на пастаменце

NIEZNANEMU ŻOŁNIERZOWI /
POLEGŁEMU W OBRONIE OJCZYZNY /
LUDNOŚĆ GMINY ŁYNTUPSKIEJ /
W 10-cio LECIE ODPARCIA /
NAJAZDU BOLSZEWIKÓW / 1920–1930

Невядомаму салдату, які загінуў за Айчыну. Жыхары Лынтупскай гміны з нагоды 10-годдзя абароны ад уварвання бальшавікоў (1920–1930 гг.)



*Помнік ахвярам бальшавізму, Лынтупы* *Фота: Марыюш Проскень*

На беларускай мове / на пастаменце

Невядомым жаўнерам – суайчыннікам, палеглым у абароне Бацькаўшчыны ад бальшавіцкай навалы ў 1920 годзе. Удзячныя нашчадкі

**Месца знаходжання**
на могілках, Лынтупы,
Пастаўскі раён,
Віцебская вобласць

## Крыж памяці ахвярам рэпрэсій

***Наваполацк.*** Крыж памяці ахвярам рэпрэсій быў асвечаны на ўскрайку былых Бельчыцкіх могілак 2 лістапада 1991 г. Ён быў створаны па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту і полацкай грэка-каталіцкай парафіі. Шасціканцовы багата ўпрыгожаны разьбой драўляны крыж нагадвае сваёй формай крыж беларускай святой Ефрасінні Полацкай. Шыльда на ім змяшчала інфармацыю пра гісторыю гэтага населенага пункта. Невядомыя спалілі крыж у 1990-х гг., таму пазней ён быў заменены сціплым шасціканцовым металічным крыжом чорнага колеру.

Вёска Бельчыцы, якая сёння належыць да Наваполацку, перад Другой сусветнай вайной была невялічкім паселішчам. Падчас масавага тэрору 1937/38 гг. Полацкае НКВД закопвала целы забітых вязняў непадалёк ад вясковых могілак. Паводле розных ацэнак у шматлікіх брацкіх магілах спачываюць парэшткі соцен людзей, на ўспамін аб якіх быў усталяваны гэты крыж.



*Крыж памяці ахвярам рэпрэсій, Наваполацк* *Фота: Таццяна Каліноўская*

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам / генацыду /
ад нашчадкаў /
ня страціўшых памяць

**Месца знаходжання**
Бельчыцкія могілкі,
Наваполацк, Полацкі раён,
Віцебская вобласць

## Памятны камень Браніславу Эпімах-Шыпілу

***Залессе.*** Памятны камень Браніславу Эпімах-Шыпілу быў усталяваны ў вёсцы Залессе, якая знаходзіцца у Полацкім раёне, напрыканцы верасня 2006 г. Вялікі валун з прысвечаным Эпімах-Шыпілу надпісам з'явіўся дзякуючы ініцыятыве краязнаўцы Віктара Карасёва.

Браніслаў Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 4 верасня 1859 г. у былым фальварку Судзіловічы, які сёння належыць да вёскі Будзькаўшчына Полацкага раёну, у сям'і шляхціца. Ён скончыў вышэйшую гімназію ў Рызе, пасля чаго ў 1880 г. пачаў вывучаць гісторыю і філалогію ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Пасля сканчэння ўніверсітэту ў 1885 г. ён даваў прыватныя ўрокі і быў рэдактарам часопісу, які выдаваўся ў Санкт-Пецярбурзе. У 1891 г. ён пачаў працаваць бібліятэкарам у тамтэйшым універсітэце. З 1901 па 1907 гг. ён быў супрацоўнікам рымска-каталіцкай акадэміі ў Санкт-Пецярбурзе. Падчас свайго побыту ў Санкт-Пецярбурзе Эпімах-Шыпіла пазнаёміўся з супольнасцю выхадцаў з Беларусі і ў наступныя гады пачаў інтэнсіўна займацца беларускай мовай і літаратурай. У якасці аднаго з лепшых знаўцаў гэтай тэмы разам з іншымі ён заснаваў аб'яднанне «Загляне сонца і ў наша ваконца» у 1906 г. Эпімах-Шыпіла заставаўся ў Пецярбургу і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., пасля чаго стаўся чальцом папярэдніка беларускай Акадэміі Навук – Інбелкульта – і перасяліўся ў Мінск ў 1924 г. Тут ён узяў удзел у выданні аднаго з першых вялікіх слоўнікаў беларускай мовы, які выйшаў у 1927 г. 18 ліпеня 1930 г. разам з іншымі беларускімі навукоўцамі і інтэлектуаламі ён быў арыштаваны ОГПУ па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюзу вызвалення Беларусі». Два месяцы ён заставаўся пад арыштам, аднак быў вызвалены ў сярэдзіне верасня 1930 г. і пасля адмовы ад усіх сваіх пасад вярнуўся ў Ленінград. Ён жыў у беднасці і памёр праз чатыры гады 6 ліпеня 1934 г.

**Месца знаходжання**
Залессе, Полацкі раён,
Віцебская вобласць

## Памятны камень Антону Грыневічу

***Шпакоўшчына***. Памятны камень Антону Грыневічу быў урачыста адкрыты ў вёсцы Шпакоўшчына ў ліпені 2007 г. з нагоды 130-х угодкаў з дня нараджэння гэтага навукоўца. Усталяваны паводле ініцыятывы краязнаўцы Віктара Карасёва валун мае прысвечаны Грыневічу надпіс. Полацкая раённая адміністрацыя дала сваю згоду на ўсталяванне камня пасля шматгадовых старанняў краязнаўцы аб атрыманні дазволу.

Антон Грыневіч нарадзіўся 3 мая 1877 г. у былым маёнтку Іваноўшчына,

які сёння знаходзіцца ў Полацкім раёне. У 1896 г. ён перасяліўся ў Санкт-Пецярбург, дзе працаваў у дзяржаўным гандлі, а таксама ва ўпраўленні забеспячэння ў якасці служачага. Падчас свайго знаходжання ў Санкт-Пецярбурзе Грыневіч усталяваў кантакт з супольнасцю выхадцаў з Беларусі і браў актыўны ўдзел у працы розных культурных аб'яднанняў. Па яго ініцыятыве ў 1910 г. у Пецярбургу было створана беларускае выдавецтва, якое існавала да 1913 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. ён быў чальцом Беларускага нацыянальнага камітэту ў Маскве, дзе працаваў ў аддзеле адукацыі і культуры. У 1919 г. ён вярнуўся ў Мінск, дзе выкладаў у незадоўга да таго заснаванай беларускай гімназіі. У 1920 г. Грыневіч перасяліўся ў Вільню, дзе працягнуў выдаваць беларускую літаратуру. Тут убачылі свет складзеныя ім зборнікі народных песен, якія прынеслі яму славу выбітнага этнолага. У 1925 г. Грыневіч вярнуўся ў БССР і пасяліўся ў Мінску. Ён стаўся кіраўніком аддзелу музыкі ў пазнейшай Акадэміі Навук Беларусі і праводзіў даследванні ва ўсходняй частцы краіны з 1928 па 1933 гг. 6 верасня 1933 г. Грыневіч быў арыштаваны ОГПУ. Як і шматлікіх іншых беларускіх навукоўцаў і інтэлектуалаў таго часу яго абвінавацілі ў прыналежнасці да "Саюзу вызвалення Беларусі". Ён быў засужаны на смерць 9 сакавіка 1934 г. Прысуд быў пасля заменены на дзесяць гадоў зняволення ў лагерах, якое ён адбыў на Салавецкіх астравах. Падчас масавых пакаранняў смерцю вязняў лагераў, якое мела месца восенню 1937 г., ён таксама быў засуджаны НКВД на смерць 25 лістапада 1937 г. Ён быў пераведзены ў Ленінград, дзе яго збіраліся расстраляць. Яго цела было пахавана ў Сандармоху, у месцы знаходжання брацкіх магіл. Рэабілітацыя Антона Грыневіча адбылася паводле пастановы Вайсковай пракуратуры БССР ад 16 жніўня 1956 г.

**Месца знаходжання**
Шпакоўшчына, Полацкі раён,
Віцебская вобласць

## Мэмарыял ахвярам Беразвецкай турмы НКВД

***Мікалаева.*** Мемарыял ахвярам Беразвецкай турмы НКВД быў урачыста адкрыты ў лесе непадалёк ад вёскі Мікалаева напрыканцы 1990-х гг. Ён знаходзіцца па-над брацкай магілай, у якой паводле розных ацэнак пахаваны ад двух да чатырох тысяч ахвяр НКВД, якія былі забіты на гэтым месцы напрыканцы чэрвеня 1941 г. Мемарыял быў створаны па ініцыятыве Рады па ўшанаванні памяці аб змаганні і пакутніцтве польскага ўраду і арганізацыі Страж польскіх магіл. Цэнтральным элементам з'яўляецца высокі чорны чатырохканцовы крыж вышынёй каля пяці метраў, які стаіць перад невысокай бетоннай сцяной. З правага боку да яе прымацаваны дзве чорныя каменныя дошкі, якія нагадваюць пра падзеі на беларускай і польскай мове. Яшчэ на адной меншай дошцы пазначаны імёны спачываючых тут памерлых.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу ў верасні 1939 г. НКВД размясціла турму ў былым карметіцкім манастыры ў Глыбокім (польск.: Głębokie). У наступныя гады яна выконвала ролю вязніцы для новастворанай вобласці, у якой знаходзілася больш за 650 вязняў. На мо-

мант нападу Германіі на Савецкі Саюз у турме знаходзілася 680 чалавек. 23 чэрвеня 1941 г. было загадана яе эвакуяваць. Частка вязняў аднак не была эвакуявана, з-за таго, што іх забілі ў турме. Вартаўнікі расстралялі частку вязняў у іх камерах, іншых сагналі на двор і забілі там. Камеры былі замураваны, каб схаваць знакі злачынстваў. 24 чэрвеня 1941 г. калона, якая складалася з вязняў, пакінула Беразвечча, выправіўшыся ў кірунку Віцебска. Тым часам загад пра эвакуацыю дайшоў да іншых вязніц, таму побач з вязнямі з Беразвечча да калоны далучыліся іх сябры па няшчасці з Літвы і іншых частак краіны. Падчас нямецкіх налётаў некаторыя вязні загінулі, іншым удалося ўцячы. Між тым кіраўніцтва НКВД выдала загад, згодна з якім належыла расстраляць усіх палітычных вязняў, калі іх эвакуацыя ў глыбіню краіны сталася б немагчымай. У ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 г. камандзір этапу загадаў пачаць расстрэлы, калі калона знаходзілася непадалёк ад населенага пункту Вула ля ракі Дзвіна. Лічыцца, што тут было расстраляна каля 714 чалавек, паводле іншых дадзеных гаворка ідзе пра адну ці дзве сотні забітых. Большая частка ахвяр была пахавана ў лясным масіве непадалёк ад вёскі Мікалаева. З прычыны гэтага масавага забойства супраць начальніка турмы савецкай пракуратурай была распачата крымінальная справа. Яго абвінавацілі ў тым, што па яго загадзе неправамерна расстралялі большую частку вязняў, бо яны яшчэ не былі асуджаныя. Умяшальніцтва старшыні Камуністычнай партыі Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі выратавала яго ад пакарання. Пасля прыходу нямецкіх войск брацкія магілы былі знойдзены, і забітых пахавалі на гэтым самым месцы. У 1942 г. па загадзе нямецкіх акупацыйных улад магілы былі адчынены, парэшткі людзей перапахавалі ў брацкай магіле. Паводле сведчанняў сучаснікаў былі



*Мэмарыял ахвярам Беразвецкай турмы НКВД, Мікалаева* *Фота: Марыюш Проскень*

перанесены і перапахаваны парэшткі каля 800 чалавек. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў 1944 г. брацкая магіла была зраўняна з зямлёй. Пасля 1990 г. польскія арганізацыі і аб'яднанні рупіліся ў першую чаргу пра расследванне злачынства. Падчас правядзення расследвання на просьбу польскага ўраду месца пахавання ахвяр рэпрэсій ля Мікалаева пачалі ператвараць у мемарыял.

**Надпіс**
На польскай і беларускай мовах

u pogrzebano kilka tysięcy Polaków i osób innej narodowości, więźniów Berezwecza, / zamordowanych 26. VI. 1941 r. w Nikołajewie. / Pamięci wszystkich ofiar »Drogi śmierci« / Niech spoczywaja w pokoju
Тут пахавана некалькі тысяч палякаў і асобаў іншых нацыянальнасцяў, вязняў Беразвечча, забітых 26. VI. 1941 у Мікалаеве. Памяці ўсіх ахвяр »Дарогі смерці« Н яхай спачываюць у спакоі

**Месца знаходжання**
Мікалаева, Шумілінскі раён,
Віцебская вобласць

## Крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій

***Паляі***. Крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій быў усталяваны на ўскраіне вёскі Паляі ля дарогі з Віцебску на Лёзна 29 ліпеня 2007 г. Усталяванне двухметровага драўлянага крыжа было ініцыявана віцебскай суполкай Беларускага Народнага Фронту, якая на працягу некалькіх гадоў клапоціцца пра захаванне памяці пахаваных тут ахвяраў палітычнага пераследу. Летам 2007 г. урэшце адбылося ўрачыстае адкрыццё крыжа, у якім удзельнічалі таксама іншыя апазіцыйныя партыі і



*Былая турма НКУС у Беразвеччы, зараз Глыбокае* *Фота: Марыюш Проскень*

аб'яднанні. Асвяціў крыж святар Уніяцкай Царквы. Крыж мае шыльду, надпіс на якой нагадвае пра ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Паводле сведчанняў мясцовых жыхароў непадалёк ад вёскі Паляі з 1937/38 г. да лета 1941 г., калі пачалася нямецкая акупацыя, знаходзілася закрытая зона, якая належыла НКВД. На яе тэрыторыі адбываліся масавыя расстрэлы, адказнасць за якія ляжыць на Віцебскай управе НКВД. Колькасць пахаваных тут ахвяр невядомая. Паводле ацэнак ініцыятараў усталявання крыжа гаворка ідзе пра некалькі тысяч ахвяр, якія знайшлі тут месца свайго апошняга спачыну. Ужо напачатку 1990-х гг. ля Паляёў быў усталяваны першы драўляны крыж, які аднак быў знішчаны вандаламі.

Надпіс
На беларускай мове

Ахвярам сталінскіх рэпрэсій /
Дабрашчасныя гнаныя за праўду, бо іх
ёсць царства нябёснае. Мацвей 5:10

**Месца знаходжання**
непадалёк ад вёскі Паляі,
каля аўтамабільнай дарогі Віцебск – Лёзна, Паляі, Віцебскі раён,
Віцебская вобласць

## Крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій

***Вароны***. Памятны крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсій знаходзіцца непадалёк ад возера Бернскае, за 400 метраў ад вёскі Вароны ў кірунку Віцебска. Ён быў усталяваны ў 1989 г. па ініцыятыве Паўла Сырамені і асацыяцыі "Узгор'е" з Віцебску. Да чатырохметровага драўлянага крыжа ў месцы скрыжавання яго бэляк прымацаваны выраблены з калючага дроту цярновы вянок. Пад ім месціцца драўляная шыльда.

Крыж пазначае брацкую магілу, у якой пахавана невядомая колькасць ахвяр палітычнага пераследу, якія былі пакараны смерцю НКВД з 1933 па 1937 гг. Мяркуецца, што ў брацкай магіле спачывае некалькі тысяч людзей, якія былі расстраляны абласным НКВД. Падчас масавага тэрору толькі ў адным Віцебску загінула больш за дзесяць тысяч чалавек.

**Надпіс**
На беларускай мове

Ахвярам /
сталінскіх /
рэпрэсій

**Месца знаходжання**
на беразе возера Бернскае,
у 400 метрах ад в. Вароны,
Віцебскі раён,
Віцебская вобласць



*Крыж памяці ахвярам сталінскіх рэпрэсій, Вароны* *Фота: Мікола Півавар*



*Крыж памяці ахвярам палітычных рэпрэсій, Гомель* *Фота: Вераніка Калеева*

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### Крыж памяці ахвярам рэпрэсій

***Гомель.*** Крыж памяці ахвярам палітычных рэпрэсій быў усталяваны 2 лістапада 1994 г. з нагоды дня памяці продкаў. Яго ўсталяванне было ініцыяванае чальцамі Асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій Гомеля Рыгорам Клімовічам, І. Джыкіным і Іванам Селіванавым. Чатырохметровы крыж быў выраблены паводле праекта Івана Кашкіна. На яго папярэчнай бэльцы маецца надпіс. Спачатку ён быў выкананы на рускай мове, а потым яго перапісалі па-беларуску. Крыж шмат разоў разбураўся вандаламі, але кожнага разу аднаўляўся па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту і аб'яднання палітычных вязняў.

Памятны крыж пазначае месца пахавання людзей, якое знаходзіцца на адлегласці каля дзевяці кіламетраў ад гораду ля дарогі на Чарнігаў (Украіна). У 1930-х гг. там знаходзілася закрытая зона, на тэрыторыі якой НКВД праводзіла масавыя экзэкуцыі. Паводле іншых дадзеных гэта месца выкарыстоўвалася для пакаранняў смерцю яшчэ ў 1920-х гг. Падчас масавага тэрору 1937/38 гг. на гэтым месцы расстрэльваліся многія тысячы людзей, якія спачатку знаходзіліся ў сутарэннях абласной управы НКВД у Гомелі. Агульная колькасць ахвяр да сёння не ўстаноўлена, але паводле слоў гісторыкаў сярод іх знаходзілася багата ўкраінцаў з прылеглай Чарнігаўскай вобласці. У пачатку 1990-х гг. мясцовая асацыяцыя ахвяр палітычнага пераследу пачала рупіцца аб ператварэнні месца пахаванняў людзей у мемарыял. З прычыны супраціву дзяржаўнай улады пабудова мемарыялу не адбылася да сённяшняга дня.

**Надпіс**
На беларускай мове

Адно з месцаў масавых /
расстрэлаў ахвяр /
бальшавіцкай дыктатуры /
ў перыяд 1919–1940 гг.

**Месца знаходжання**
9 км. Чарнігаўская трасса, Гомель,
Гомельская вобласць

### Памятны камень пакутнікам Беларусі

***Гомель.*** Памятны камень пакутнікам Беларусі быў урачыста адкрыты 10 кастрычніка 2007 г. Ён быў усталяваны паводле ініцыятывы Гомельскай раённай

адміністрацыі і асвечаны прадстаўніком праваслаўнай царквы ў Гомелі Сергіем. У цырымоніі адкрыцця бралі ўдзел побач з прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі і супрацоўнікі раённай вайсковай камендатуры. За масіўным гранітным валуном узвышаецца трохметровы шасціканцовы крыж, які нагадвае пра знойдзеныя тут парэшткі людзей. На усходняй ускраіне Гомеля ў чэрвені 2007 г. жыхарамі навакольных вёсак былі знойдзены брацкія магілы. Яшчэ за некалькі год да гэтага тут часта знаходзілі косці, аднак афіцыйнае даследванне брацкіх магіл, якія знаходзяцца ў гэтым месцы, не праводзілася. 52-гі спецыяльны батальён беларускіх узброеных сіл, які атрымаў заданне правесці эксгумацыю ад пракуратуры і абласной адміністрацыі, знайшоў у чэрвені і ліпені 2007 г. парэшткі каля 70 чалавек, якія былі пахаваны ў шматлікіх брацкіх магілах. У першых афіцыйных заявах агучвалася інфармацыя, што гэта парэшткі ахвяр баёў за Гомель, якія адбываліся летам 1941 г. Арганізацыйны камітэт па ўшанаванні памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Беларусі і іншыя арганізацый ставілі пад сумнеў імавернасць гэтай версіі. Брацкія магілы знаходзяцца ўсяго за два кіламетры ад аднаго з іншых буйных месцаў пахавання ахвяр НКВД у гэтым абласным цэнтры. У пачатку чэрвеня 2007 г. прадстаўнікам камітэту было дазволена самастойна правесці раскопкі. Як засведчыла судмедэкспертыза, усе ахвяры былі забіты стрэлам з нагана ў патыліцу, што без сумневу адпавядала практыцы правядзення пакаранняў НКВД. Паколькі ўладамі не было дазволена далейшае расследванне гэтай справы, камітэт стварыў альтэрнатыўную следчую камісію. У наступныя тыдні былі апытаны сведкі з навакольных вёсак, якія таксама паведамілі пра масавыя пакаранні смерцю ў лясных масівах Боркі і Тры Слупы ў 1937/38 гг. Быў накіраваны зварот да ўкранскага ўраду з просьбай падтрымаць старанні па даследванні гэтай справы, бо сярод забітых знаходзіліся таксама і жыхары сённяшняй Чарнігаўскай вобласці (Украіна). Таксама і апублікаваныя напрыканцы лета вынікі даследвання, паводле якіх узрост знойдзеных парэшткаў складаў мінімум 70 год, не прывялі да таго, каб дзяржаўныя ўлады прызналі, што знойдзеныя брацкія магілы з'яўляюцца месцам спачыну ахвяр НКВД. Аддзел гомельскай раённай адміністрацыі, які займаецца пытаннямі ўсталявання помнікаў, пайшоў насустрач просьбам арганізацыйнага камітэту усталяваць уласны мемарыяльны крыж ахвярам сталінізму з нагоды дня памяці продкаў.

**Надпіс**
На беларускай мове

Пакутнікам тваім,
Беларусь

**Месца знаходжання**
налева ад Чарнігаўскай трасы,
Гомель, Гомельская вобласць

## Мемарыяльная дошка ахвярам палітычных рэпрэсій 1937–1938 гг.

***Мазыр.*** Мемарыяльная дошка ахвярам палітычных рэпрэсій умацавана на знешняй сцяне кафедральнага сабору Арханёла Міхаіла. На сціплай чорнай дошцы, якая мае форму ду-

гі, размешчаны шасціканцовы крыж і надпіс, які нагадвае пра забойства ахвяр палітычных рэпрэсій падчас масавага тэрору 1937/38 гг. З нагоды 70-х угодкаў масавага тэрору прадстаўнікі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага Народнага Фронту звярнуліся да епіскапа мазырскага з прапановай стварыць мемарыяльнае месца для ўшанавання забітых. Сёння сутарэнні сабору перабудоўваюцца ў капліцу, якая будзе прысвечана ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

Кафедральны сабор Арханёла Міхаіла быў пабудаваны ў 1745 г. у якасці часткі бернардзінскага кляштару. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1793 г., ён стаўся кафедральным саборам праваслаўнага епіскапа тураўскага і мазырскага. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. апошні епіскап Іаанн (Пашын) адмовіўся ад супрацоўніцтва з новымі ўладарамі і быў арыштаваны ў 1929 г. Пасля гэтага сабор быў зачынены, а ў 1935 г. перададзены НКВД, якое раз-




*Мемарыяльная дошка ахвярам палітычных рэпрэсій 1937–1938 гг., Мазыр* *Фота: Юрась Чаранкоў*



*Труны з парэшткамі ў крыпце, Мазыр* *Фота: Юрась Чаранкоў*

мясціла тут турму. Падчас масавага тэрору 1937/38 гг. у сутарэннях сабору адбываліся экзекуцыі. Паводле няпоўных дадзеных у Мазыры і наваколі было пакарана смерцю каля 2000 чалавек. Целы некаторых ахвяр – хутчэй за ўсё сярод іх былі вязні з двух іншых турмаў гораду – былі таксама закапаны ў храме. Падчас нямецкай акупацыі ў 1941–1944 гг. храм быў перададзены царкве, аднак непасрэдна пасля вызвалення яго зноў закрылі. У пачатку 1990-х гг. сведкі распавядалі пра экзекуцыі ў мазырскім саборы. Пасля гэтага адбыліся неафіцыйныя даследванні, якія праводзіліся царквой, якой было пабяцана перадаць храм, і некаторымі мясцовымі гісторыкамі. У сутарэннях былі знойзены сотні шкілетаў, якія засталіся там пасля экзэкуцый, якія праводзіла НКВД. Насуперак гэтаму гарадская адміністрацыя Мазыра абвясціла, што гэтыя забітыя з'яўляюцца ахвярамі нямецкай акупацыі 1941–1944 гг. Нягледзячы на дадзеную афіцыйную заяву, за прамінулы час на знешняй сцяне сабору царквой была ўсталявана мемарыяльнай дошка. У наступныя гады парэшткі людзей, якія зноў і зноў знаходзілі падчас рэстаўрацыйных работ, збіралі ў двух трунах у скляпеннях, дзе яны знаходзяцца па сённяшні час.

**Надпіс**

На царкоўнаславянскай мове

Упокой Господи / души оусопшихъ /
рабовъ твоихъ / зде убиенныхъ /
и сотвори имъ / вечную память /
1937–1938

Супакой, Божа, душы памерлых
рабоў тваіх тут забітых і ствары
ім вечную памяць
1937–1938 гг.

**Месца знаходжання**
на будынку Кафедральнага сабора Арханёла Міхаіла, вул. Камсамольская, Мазыр, Гомельская вобласць

## Памятны крыж ахвярам палітычных рэпрэсій 1937–1939 гг.

***Рудня.*** Непадалёк ад вёскі Рудня на поўдзень ад раённага цэнтру Мазыр на ўскрайку дарогі знаходзіцца з сярэдзіны 1990-х гг. пяціметровы каменны крыж. Ён пазначае брацкую магілу ахвяр НКВД, якія былі пакараны смерцю і пахаваны на гэтым месцы ў 1930-я гг. Невядома, хто ўсталяваў чатырохканцовы крыж. На папярэчнай бэльцы можна прачытаць лічбы «1937» і «1939», якія акружаны стылізаваным цярновым вянком. Крыж узвышаецца ў канцы невялікай умацаванай пляцоўкі. Пра ахвяр нагадвае невялікая мемарыяльная дошка чорнага колеру, якая прымацавана да двухяруснага пастаменту.

Пра брацкія магілы ля Рудні вядома вельмі мала. Падчас масавага тэрору 1937/38 гг. Мазырскае ўпраўленне савецкай дзяржбяспекі выкарыстоўвала гэту аддаленую мясцовасць для забойства палітычных вязняў. У пачатку 1990-х гг. брацкія магілы былі даследваны і сёння яны лічацца адзінымі афіцыйна прызнанымі ў Мазырскім раёне. Колькасць ахвяр аднак невядома. Паводле афіцыйных дадзеных тут спачываюць каля 500 ахвяр.

**Надпіс**
На беларускай мове

У гэтым лесе у 1937–1939 гг.
праводзіліся масавых растрэлы і пахаванне бязвінных жыхароў Палесся /
Ахвяры неабгрунтаванных палітычных рэпрэсій.

**Месца знаходжання**
на трасе з Мазыра на Рудню,
Міхалкаўскі сельсавет,
Гомельская вобласць

## Мемарыяльны камень Сцяпану Некрашэвічу

***Данілоўка.*** Мемарыяльны камен Сцяпану Некрашэвічу быў урачыста адкрыты ў 1993 г. з нагоды 110-х угодкаў з дня нараджэння гэтага беларускага мовазнаўцы. Карычневы валун знаходзіцца на тэрыторы былога фальварку, які належаў яго бацькам і дзе нарадзіўся Некрашэвіч. Прымацаваная да каменю мемарыяльная дошка нагадвае пра яго.

Сцяпан Некрашэвіч нарадзіўся 8 мая 1883 г. у фальварку Данілоўка Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці ў сям'і шляхціца. Ён навучаўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1913 г. З пачаткам Першай сусветнай вайны Некрашэвіч быў пакліканы ў расійскую армію. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён узначальваў беларускі салдацкі камітэт у Адэсе, які выступаў за шырокую аўтаномію сваёй бацькаўшчыны. У наступныя гады Некрашэвіч выдаваў часопіс для беларусаў, якія знаходзіліся на ўзбярэжжы Чорнага мора. Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай

Рэспублікі ў сакавіку 1918 г. Некрашэвіч стаўся амбасадарам ураду БНР у Паўднёвай Украіне. Пасля сканчэння грамадзянскай вайны ён пераехаў у БССР, дзе актыўна працаваў у галіне школьніцтва. Дзякуючы дасягненням у культуралогіі і мовазнаўстве Некрашэвіч займаў высокія пасады ва ўстановах культуры і дзяржаўным апараце. З 1928 г. ён быў чальцом будучай Акадэміі Навук, а з 1927 па 1931 гг. – чальцом Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР. Шырокую вядомасць прынесла яму выданне руска-беларускага слоўніка ў 1925 г. Гэты слоўнік з'яўляецца нарматыўным да сённяшняга дня. Калі скончылася палітыка беларусізацыі, ОГПУ арыштавала Некрашэвіча 21 ліпеня 1930 г. Разам з іншымі навукоўцамі і інтэлектуаламі ён быў абвінавачаны ў прыналежнасці да "контррэвалюцыйнага Саюзу вызвалення Беларусі". Пасля многіх месяцаў знахожання пад вартай паводле пастановы калегіі ОГПУ ў Маскве 10 красавіка 1931 г. Некрашэвіч быў засуджаны да пяці гадоў ссылкі. Наступныя гады ён правёў ва Удмуртыі, дзе працаваў бухгалтарам у калгасе. У 1936 г. ссылка была падоўжана яшчэ на два гады. У лістападзе 1937 г. НКВД зноў арыштавала яго. Вайсковая калегія Вярхоўнага Суду перакваліфікавала яго прысуд у пакаранне смерцю, для выканання якога Некрашэвіч быў пераведзены ў Мінск. Мяркуецца, што ён быў расстраляны ў Курапатах пад Мінскам 20 снежня 1937 г., а яго цела пахавалі ў брацкай магіле. Калі ў 1957 г. было скасавана смяротнае пакаранне, адбылася частковая рэабілітацыя Некрашэвіча, аднак прысуды 1931 і 1936 гг. былі зняты толькі паводле адпаведнай пастановы ад 1 чэрвеня 1988 г.

**Надпіс**
На беларускай мове

Тут нарадзіўся і жыў беларускі мовазнаўца Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч. 8. 05. 1883–20. 12. 1937

**Месца знахожання**
Данілоўка,
Светлагорскі раён,
Гомельская вобласць

## МАГІЛЕЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### Помнік ахвярам рэпрэсій

***Бабруйск.*** Белы мармуровы камень быў усталяваны ў Бабруйску для ўшанавання памяці ахвяр рэпрэсій. Інцыятыва ўсталяваць памятны знак зыходзіла ад бабруйскай суполкі Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычнага пераследу і яе старшыні Ганны Бакач. Камень быў спраектаваны Ігарам Ахметчыным. Фінансаванне ажыццяўлялася са сродкаў гарадской адміністрацыі Бабруйска. Першапачаткова пра ахвяр камунізму ў горадзе павінен быў нагадваць вялікі манумент. Аднак у сувязі з развіццём палітычных пазей у Беларусі гэты праект быў адхілены, у выніку чаго грамадзкасці быў прэзентаваны толькі мемарыяльны камень, які ўсталявалі на Плошчы Перамогі 15 чэрвеня 1998 г.

**Надпіс**
На рускай мове

Бобруйчанам / – жертвам / необоснованных / репрессий



*Помнік ахвярам рэпрэсій, Бабруйск* *Фота: Наталля Куц*

Бабруйчанам – ахвярам неабгрунтаваных рэпрэсій

**Месца знаходжання**
плошча Перамогі, Бабруйск, Магілеўская вобласць

## Мэмарыяльная шыльда Максіму Гарэцкаму

***Горкі.*** Мемарыяльная шыльда пісьменніку Максіму Гарэцкаму была усталявана на знешнім баку сцяны Сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках у 1992 г. На размешчанай на корпусе № 4 шыльдзе, якая складаецца з двух частак, выяўлены Гарэцкі перад кніжкамі і музычнымі інструментамі. Пад выявай знаходзіцца прысвечаны яму надпіс. Злева можна ўбачыць чалавека ў савецкай уніформе, які нацэліў сваю стрэльбу на звязанага Гарэцкага, выява якога знаходзіцца ў правай частцы дошкі.

Максім Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 г. у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павету Магілёўскай губерні. Ён быў старэйшым сынам у сялянскай сям'і. Яго брат Гаўрыла Гарэцкі быў вядомым геолагам і этнографам. У 1913 г. Гарэцкі скончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, пасля чаго працаваў у зямельным кадастры ў Вільні. Яшчэ падчас сваёй вучобы ён пачаў пісаць артыкулы для беларускай газеты «Наша Ніва». У 1914 г. выйшла з друку першая кніга яго апавяданняў «Рунь», пасля чаго Гарэцкі быў мабілізаваны ў расійскую армію. Пасля ўзелу ў баях на ўсходнепрускім фронце ў 1916 г. ён быў пераведзены ў Петраград для навучання ў вайсковым вучылішчы, дзе заставаўся да сваёй дэмабілізацыі ў 1917 г. У той самы год ён пачаў вывучаць археалогію ў Смаленску. Адначасова з гэтым ён пачаў працаваць рэдактарам газеты. Пасля Гарэцкі пераехаў у Мінск у 1919 г., дзе пісаў атыкулы для «Звязды» – газеты беларускіх камуністаў. Падчас наступу Чырвонай Арміі на польскім фронце рэдакцыя была пераведзена ў Вільню, дзе ў наступныя гады ён працаваў выкладчыкам беларускай мовы. Разам з тым ён быў рэдактарам і выдаўцом газет сацыялістычнага кірунку. З-за гэтай дзейнасці ў 1922 г. Гарэцкі быў арыштаваны польскай паліцыяй. Пасля свайго вызвалення ў кастрычніку 1923 г. ён перасяліўся ў БССР, дзе выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беларускім дзяржаўным і Камуністычным універсітэтах у Мінску. У 1929 г. Гарэцкі стаўся чальцом новазаснаванай Акадэміі Навук Беларусі. Яго раманы і апавяданні знайшлі шырокае распаўсюджанне ў 1920-х гг. Да таго ж ён вызначыўся праз выданне беларускіх слоўнікаў і літаратуразнаўчых прац. Разам з Якубам Коласам ён лічыцца адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры. 18 ліпеня 1930 г. яго арыштавала ОГПУ. Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да "Саюзу вызвалення Беларусі". Паводле пастановы Вярхоўнага калегіюму ОГПУ ў Маскве 10 красавіка 1931 г. Гарэцкі быў адпраўлены ў высылку ў Вяцкую губерню (Расія) тэрмінам на пяць гадоў. Пасля адбыцця пакарання ў 1935 г. ён не вярнуўся назад у БССР, але працаваў у якасці настаўніка ў Кіраве Калужскай губерні. 4 лістапада 1937 г. Гарэцкі зноў быў арыштаваны НКВД. Суд-тройка Смаленскай губерні прысудзіў яго да вышэйшай меры пакарання за нібыта здейсненыя ім "контррэвалюцыйныя злачынствы".

Пасля гэтага 10 лютага 1938 г. ён быў расстраляны ў Вязьме. Рэабілітацыя Максіма Гарэцкага адбылася 15 лістапада 1957 г.

Надпіс
На беларускай мове

У гэтых мурах вучыўся (1908–1913), працаваў загадчыкам кафедры (1926–1928) класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі

**Месца знаходжання**
Сельска-гаспадарчая Акадэмія,
Корпус № 4, Горкі,
Магілеўская вобласць

## Крыж ахвярам бальшавіцкага тэрору

*Магілёў.* Мемарыяльны крыж ахвярам рэпрэсій быў урачыста адкрыты 4 красавіка 1989 г. з нагоды дня памяці продкаў – Радаўніцы – на ўскраіне Магілёва. Ён знаходзіцца непадалёк ад мясакамбіната на ўскраіне кар'еру, у якім у 1920-я і 1930-я гг. савецкая дзяржбяспека расстраляла шмат тысяч людзей. Ініцыятыва ўсталявання васьміметровага памятнага крыжа зыходзіла ад нядаўна пакліканага да жыцця аб'яднання Мартыралог Магілёва і яго старшыні Тамары Раманьковай. Разам з тым у справе бралі ўдзел праваслаўная і каталіцкая парафіі гораду. Крыж, які прыйшоў у нягоднасць з-за ўздзеяння метэаўмоў, быў адрэстаўраваны групай мастакоў у 1998 г.

Брацкая магіла была знойдзена падчас будаўнічых работ у 1987 г. Сваякі тых, хто зазнаў пераслед, пачалі ўскладаць на гэтым месцы кветкі на



*Крыж памяці ахвярам бальшавіцкага тэрору, Магілёў (1990 г.) Фота: Міхась Булавацкі*

ўспамін пра памерлых, хаця лёс тых, хто быў пахаваны тут, спачатку не быў высветлены. Створаная ў 1989 г. камісія па даследванні гэтага пытання эксгумавала з брацкай магілы парэшткі больш чым 500 ахвяр. У выніку гэтых работ было пацвержана падазрэнне, што гэтыя парэшткі – парэшткі ахвяр савецкай дзяржбяспекі перыяду 1920–1930-х гг. Далейшыя пошукі ў архівах

засведчылі, што першымі расстралянымі на гэтым месцы былі прадстаўнікі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Пачынаючы з 1989 г. у гэтым месцы на дзень памяці продкаў рознымі арганізацыямі, а таксама царквой і касцёлам праводзяцца памінальныя мерапрыемствы.

**Месца знаходжання**
праспект Дзімітрава,
Магілеў, Магілеўская вобласць

## Помнік Цішку Гартнаму

***Магілёў.*** Помнік Цішку Гартнаму быў усталяваны групай мастакоў з Магілёва 11 красавіка 1989 г. Драўляная канструкцыя ўяўляе сабой два злучаныя адзін з адным крыжы. На папярэчнай бэльцы змешчана імя гэтага мастака і палітыка, а пад ім можна прачытаць даты яго жыцця. Мемарыяльны знак знаходзіцца ў парку магілёўскай бальніцы, дзе, як мяркуецца, пахаваны Гартны. Штогод у дзень яго нараджэння, пачынаючы з моманту ўсталявання помніка, праводзяцца памінальныя мерапрыемствы, якія ладзяць мясцовыя грамадзкія арганізацыі. У чэрвені 2004 г. аб'яднанне "Беларускае слова" падало ў адміністрацыю Магілёўскай вобласці заяўку аб замене пашкожанага метэаўмовамі помніка на новы. Створаная затым ініцыятыўная група, у склад якой разам з супрацоўнікамі адміністрацыі ўваходзілі і прадстаўнікі грамадзкіх арганізацый, пачала распрацоўваць канцэпцыю помніка. Заданне спраектаваць помнік атрымаў скульптар з Магілёву Уладзімір Кананаў. Аднак адкрыццё новага помніку дагэтуль не адбылося.

Цішка Гартны (сапраўднае імя Змітцер Жылуновіч) нарадзіўся 4 лістапада 1887 г. у Копылі Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. Ён атрымаў двухкласную школьную адукацыю, пасля чаго займаўся з прыватным настаўнікам. Ён пачаў займацца палітыкай яшчэ калі асвойваў прафесію грабара, а ў 1906 г. уступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамаду). Пачынаючы з 1910 г. ён пісаў артыкулы і вершы патрыятычнага зместу для беларускай газеты "Наша Ніва", якая выдавалася ў Вільні. Яны прынеслі яму шырокую вядомасць. Пасля чатырохгадовых вандраванняў па Беларусі, Украіне і Літве ў 1912 г. ён накіраваўся ў Санкт-Пецярбург, дзе пачаў працаваць у якасці фрэзероўшчыка, пакуль не перайшоў на працу ў адно беларускае выдавецтва. У гэты час былі апублікаваны яго першыя творы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён зноў працаваў у левым крыле Беларускай Грамады, якое выступала за падтрымку бальшавікоў. У выніку ўнутрыпартыйных звадак Грамада распалася, і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Гартны ўступіў у Расійскую Камуністычную Партыю (бальшавікоў) у 1918 г. Адначасова ён быў прызначаны сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыяту ў Маскве. 1 студзеня 1919 г. ён падпісаў маніфэст аб заснаванні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а да 3 лютага 1919 г. заставаўся старшынём Часовага ўраду новай дзяржавы. Пасля сканчэння грамадзянскай вайны Гартны займаў розныя краўнічыя пасады ў Мінску: ён быў, між іншым, дырэктарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і намеснікам наркама народнай асветы. У гэты час ён апублікаваў шмат кніг вершаў і апавяданняў, якія прынеслі




*Помнік Цішку Гартнаму, Магілёў (1995 г.)* *Фота: Міхась Булавацкі*

яму шырокую вядомасць. Яго найважнейшы раман "Сокі цаліны" выйшаў паміж 1922 і 1932 гг. у Мінску. У 1931 г. ён быў выключаны з партыі пасля таго, як са сканчэннем палітыкі беларусізацыі яго закляймілі як "беларускага нацыяналіста". 15 лістапада 1936 г. НКВД арыштавала і накіравала яго ў псіхіятрычную бальніцу Магілёва, дзе ён скончыў жыццё самагубствам 11 красавіка 1937 г. Яго цела было пахавана ў невядомай брацкай магіле разам з іншымі палітычнымі вязнямі, якіх НКВД змясціла ў гэту бальніцу. У 1955 г. яго часткова рэабілітавалі, постфактум вярнуўшы грамадзянскія правы, якіх ён быў пазбаўлены падчас арышту. Канчатковае зняццё прысуду адбылося 10 верасня 1988 г. паводле пастановы Вярхоўнага Савету СССР.

**Надпіс**
Цішка Гартны.
1887–1937

**Месца знаходжання**
у парку псіхіятрычнай лякарні,
вул. Надтачэева,
Магілеў,
Магілеўская вобласць

## Мемарыяльны камень братам Сверж

***Баравая***. Мемарыяльны камень братам Сверж быў усталяваны ў 1991 г. братамі Уладзімрам і Сцяпанам Свяржамі, чальцамі бабруйскай суполкі Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычнага пераследу, а таксама Віктарам Свержам, тагачасным польскім консулам у Расіі, у напамін аб іхным дзедзе Мікалаі Сверoccasionally ы. Вялікі шэры валун знаходзіцца ў цэнтры вёскі непадалёк ад былога месца жыхарства сям'і. Камень мае невялікую мармуровую шыльду чорнага колеру, на якой пазначаны імёны і даты жыцця Мікалая Свержа і яго братоў, якія былі расстраляны НКВД 16 лістапада 1937 г.

Мікалай Сверж нарадзіўся ў 1896 г. у Баравой. Ён быў арыштаваны ОГПУ 21 лютага 1932 г. і як "кулак" засуджаны да пакарання пяццю гадамі высылкі. Яго братоў Франца, нар. у 1892 г., і Уладзіміра, нар. у 1901 г., падобны лёс напаткаў у




*Мемарыяльны камень братам Сверж, Баравая* *Фота: Валянціна Вяргей*

пачатку красавіка 1932 г. Таксама і яны былі засуджаны да трох і пяці гадоў высылкі. Бацькоўская гаспадарка была канфіскавана і ўключана ў склад калгасу, які якраз арганізоўваўся. Пасля адбыцця пакарання тры браты, верагодна, вярнуліся назад у Баравую, дзе восенню 1937 г. іх зноў арыштавала НКВД. Мяркуецца, што ўсе яны былі расстраляны 16 лістапада 1937 г. у Магілёве.

**Надпіс**
На рускай мове

Вечная память жертвам /
сталинских репрессий /
1937 года. /
Нашим дорогим отцам /
без вины расстрелянным /
16. XI. 1937 г. /
Сверж Ф. В. 1892 /
Сверж Н. В. 1896 /
Сверж В. В. 1901 /
Сыновья и дочери /
1991

Вечная памяць ахвярам сталінскіх рэпрэсій 1937 г. Нашым дарагім бацькам без віны растраляным 16.XI.1937 г. Сверж Ф.В. (1892), Сверж М.В. (1896), Сверж У.В. (1901). Сыны і дочкі, 1991

**Месца знаходжання**
у цэнтры вёскі, Баравая, Бабруйскі раён, Магілеўская вобласць

## Помнік ахвярам рэпрэсій

***Продзвіна***. На могілках вёскі Продзвіна ў 1995 г. быў урачыста адкрыты памятны камень, які нагадвае пра ахвяр рэпрэсій у вёсках Продзвіна і Баравая. Ён быў усталяваны паводле ініцыятывы бабруйскага філіялу Асацыяцыі ахвяр палітычнага пераследу і яго чальца Ніны Чысцяковай, якой належыць праект помніка. Жыхары вёсак ахвяравалі грошы, каб зрабіць магчымым усталяванне памятнага знаку. На шэрым валуне змяшчаецца чатырохканцовы крыж. Побач знаходзіцца адноўленая дошка, папярэдніца якой была скрадзена ў 1990-х гг. На ёй змешчаны імёны 15 былых жыхароў вёсак, якія сталіся ахвярамі палітычнага пераследу ў 1940-х гг. Помнік абнесены невысокай агароджай.

Падчас сталінскіх рэпрэсій з вёсак Продзвіна і Баравая было дэпартавана альбо забіта больш за 30 жыхароў. Сем'і Свержаў і Бокіх, чые імёны змешчаны на камяні, панеслі асабліва вялікія страты. Большасць з іх была арыштавана і расстраляна падчас масавага тэрору 1937/38 гг. Іншыя былі адпраўлены ў лагеры ГУЛАГу і Крайняй Поўначы падчас ажыццяўлення калектывізацыі.

**Надпіс**
На рускай мове

Жертвам политических репрессий /
невинно расстрелянных в 1937, 1938,
1940-х гг. / д. Продвино, Боровая /
Бокий Александр И. / Бокий Игнатий И. /
Бокий Иосиф М. / Бокий Александр И. /
Бокий Флерка М. / Болбас Роман Е. /
Сверж Козимир М. / Сверж Феликс Р. /
Янковский Александр Г. /
Янковский Федор С. / Ядловский Стась Л. /
Говаровский Альберт К. /
Соколовский Константин А. /
Короткевич Петр Ф. / Сверж Франц М. /
Помним, скорбим
ПР. Чистякова

Ахвярам палітычных рэпрэсій,
нявінна растраляным у

1937, 1938, 1940-х гг. з в. Продзвіна, Баравая:
Бокаму Аляксандру І, Бокаму Ігнацію І., Бокаму Іосіфу М., Бокаму Аляксандру І, Бокаму Флерку М., Болбасу Раману Е., Свяржу Казіміру М., Свяржу Феліксу Р., Янкоўскаму Аляксандру Г., Янкоўскаму Федару С., Ядлоўскаму Стасю Л., Гавароўскаму Альберту К., Сакалоўскаму Канстанціну А., Караткевічу Пятру Ф., Свяржу Францу М. Памятаем, смуткуем. ПР.Чысцякова

**Месца знахожання**
Вясковыя могілкі,
Продзвіна, Бабруйскі раён,
Магілеўская вобласць



*Помнік ахвярам рэпрэсій, Продзвіна* *Фота: Бокі Эдуард*

# Выбраная бібліяграфія

## Агульныя публікацыі па гісторыі Беларусі і палітычных рэпрэсіяў


Beyrau, Dietrich / Lindner, Rainer: Handbuch der Geschichte Weißrusslands, Göttingen 1999.

Chiari, Bernhard (Hrsg.): Die polnische Heimatarmee. Geschichte und Mythos der Armia Krajowa seit dem Zweiten Weltkrieg, München 2003.

Konturen und Kontraste. Belarus sucht sein Gesicht. Osteuropa 2/2004.

Lindner, Rainer: Historiker und Herrschaft. Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weißrussland im 19. und 20. Jahrhundert, München 1999.

Marples, David R.: Belarus. A denationalized nation, Amsterdam 1999.

Marples, David R.: Kuropaty. The investigation of a stalinist Historical Controversy. In: Slavic Review 2/1994, S. 513–523.

Musial, Bogdan: »Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen«. Die Brutalisierung des deutsch-sowjetischen Krieges im Sommer 1941, Berlin 2000.

Pasnjak, Sjanjon / Schmyhaljou, Jauhen / Krywalzewitsch, Mikola / Iou, Ales: Kurapaty, Minsk 1994 (englisch: Paznjak: Kurapaty, Minsk 1994). In deutscher Übersetzung: Kurapaty: Ausgrabung eines Gräberfeldes aus dem Stalinismus; Übersetzung eines 1994 in Minsk erschienenen Grabungsberichts, hrsg. vom Verein für Geschichte des Weltsystems e. V., Hannover 1997).

Popiński, Krzysztof/Kokurin, Aleksandr/Gurjanow, Aleksandr: Drogi Śmierci. Ewakuacja więzień sowieckich z Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej w czerwcu i lipcu 1941, Warszawa 1995.

Sahm, Astrid: Die weißrussische Nationalbewegung nach der Katastrophe von Tschernobyl (Studien zu Konflikt und Kooperation in Osteuropa, Band 1), Münster 1994.

Temper, Elena: Konflikte um Kurapaty. Geteilte Erinnerung im postsowjetischen Belarus. In: Osteuropa, 6/2008, S. 253–266.

Zaprudnik, Jan: Belarus. At a crossroads in history, Boulder 1993.

Адамушка, Уладзімір, Кузняцоў Ігар. Тэхналогія гвалту / Полымя, 1/1995.

Адамушка, Уладзімір: Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі, Мінск 1994.

Антон, Луцкевич: материалы следственного дела НКВД БССР, Подгот. к печати, введение и комментарии В. Н. Михнюка, Н. М. Климовича и А. Н. Гесь, Минск, 1997.

Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1956. Даведнік, Менск 1999.

Валахановіч, Анатоль, Міхнюк Уладзімір: Споведзь у надзеі застацца жывым. Аўтабіягр. Б. Тарашкевіча, рэд. А. С. Ліс, Мінск 1999.

Вішнеўскі, Аляксей: Палітыка-прававы рэжым савецкай дзяржавы (1917–1953 гг.), Мінск 2003.

Врублевский, А. П., Протько Т. С.: Из истории репрессий против белорусского крестьянства 1929–1934 гг., Мінск 1992.

Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956–1991. Пэрсанажы і кантэкст. Даведнік, пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча, Мінск 1999.

Илькевич, Николай, Платонов Ростислав: Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР (Фальсификация органами НКВД уголовных дел в 1937–1938 гг.), Минск 1997.

Касцюк, М.: Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі, Мінск 2000.

Касцюк, М.: Сталіншчына і Беларусь/Беларускі гістарычны часопіс. – 1995. – № 1, С. 9–14; № 2. – С. 98–106.

Кузнецов, Игорь: Без грифа »секретно«, Минск 1997.

Кузнецов, Игорь: История политических репрессий: термины, понятия, определения/Гістарычны Альманах. Том 9/2003.

Кузнецов, Игорь: Политические репрессии на Беларуси в 1917–1952 годах. Гістарычны Альманах. Том 7/2002.

Кузнецов Игорь: Страницы минувшего. Трагедия XX века, Минск 2003.

Кузнецов Игорь: »К ликвидации приступить…« Из истории политических репрессий поляков в 1930–1940-е годы, Минск 2003.

Кузнецов, Игорь: Засекреченные трагедии советской истории, Минск 2006.

Кузнецов, Игорь: История, которую мы не знали, Минск 2007.

Кузнецов, Игорь: Тайны истории, Минск 2004.

Кузняцоў, Ігар: Канвейер смерці, Мінск,1997.

Кузняцоў, Ігар: Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах/Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2000, № 13.

Курапаты. Зборнік артыкулаў, Мінск 2002.

Лінднер, Р.: Гісторыкі і ўлада. нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX стст., СПб 2003.

Лукашук А.: За кіпучай чэкісцкай работай, Мінск 1997.

Міхнюк Уладзімір: Арыштаваць у высылцы. Дакум. Нарыс пра А. Дудара, Мінск 1996.

Нонканфармізм у Беларусі. Даведнік, Дзярновіч Алег, аўтар-уклад., Мінск, 2004.

Пакаянне. Злачынствы камуністычнага рэжыму і антыкамуністычны супраціў (даследванні, дакументы сведчанні). – Праект »пакаянне«, 2007.

Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27–28 лютага 1998 г.), Мінск 1998.

Платонаў, Расціслаў: Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20–30-х гадоў, Мінск, 1998.

Платонаў, Расціслаў: Палітыкі, ідэі, лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30-х гадоў, Мінск 1996.

Помилуйте… Документы по репрессиям 1939–1941 гг. в Вилейской области. Адамушко В. И., Иванова Н. В., Минск 1992.

Протько, Татьяна: Становление советской тоталитарной системы в Беларуси. (1917–1941 гг.), Минск 2002.

Працька, Тацяна: Вынішчэньне сялянства. Вёска Ўсходняй Беларусі пад цяжарам бальшавіцкіх рэпрэсіяў 30-х гадоў, Мінск 1998.

Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Сборник научных работ. Рэдактар: Андреев В. П. Рэдакцыйная калегія: И. Кузнецов. Я. Васин. Вып. 1–3. – Мінск 2007.

Рэабілітацыя: Зборнік дакументаў і нарматыўных актаў па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 1920–1980-х гадоў у Беларусі, укладальнік і аўтар каментарыяў Алег Дзярновіч, Мінск 2001.

Татаренко, А.: Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921–1954-е годы.

Шыбека, Захар: Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002), Мінск 2003.

## Кнігі памяці і некрологи ахвяраў

Dzwonskowski, R.: Leksykon duchowieństwa polskiego represjowanego w ZSSR. 1939–1989, Lublin 2003.

Dzwonskowski, R.: Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR. 1917–1939. Marytrologium, Lublin 1998.

Krahel, Tadeusz: Doświadczeni zniewoleniem. Duchowni archidiecezij wileńskiej represjonowani w latach okupacji sowieckiej. 1939–1941, Białystok 2005.

Krahel, Tadeusz: Niech ich świadectwo nie będzie zapomniane. Kościoła katolickiego na Białorusi w latach 1917–1953, Grodno 2000.

Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий, Минск 1992.

Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920–1950-я гг. ў Заходняй-Сібіры (Сэрыя Беларускі Індэкс Рэпрэсаваны Том 1), Менск 2001.

Маракоў, Л. У.: Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964), Мінск 2009.

Маракоў, Л. У.: Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна – і царкоўнаслужыцелі Беларусі 1917–1967. Энцыклапедычны даведнік у 2-х тамах, Minsk 2007–2008.

Маракоў, Л. У.: Рэпрэсаваныя настаўнікі Беларусі. 1917–1954. Кніга 1, 2, Мінск 2007.

Маракоў, Л. У.: Ахвяры і карнікі. Даведнік, Мінск 2007.

Маракоў, Л. У.: Вынішчэнне. Рэпрэсаваныя беларускія літаратары. Даведнік. Мінск 2000.

Маракоў, Л. У.: Рэпрэсаваныя беларускія літаратары. Энцыклапедычны даведнік у 2 тамах, Мінск 2002.

Маракоў, Л. У.: Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах (15 кнігах). Т. 1. Смаленск 2003, Т. 2, Смаленск 2003, Т. 3, Мінск 2004, Т. 4, Мінск 2005.

Маракоў, Л. У.: Толькі адна ноч, Мінск 2006.

Чаплинский, Осипова: Мартиралог Католической Церкви в СССР, Москва 2000.

## Спіс аўтараў

**Фелікс Акерман**
у 2008 г. абарона дысертацыі ў Еўрапейскім ўніверсітэце Віядрына на тэму "Нацыяналізацыя, нівеліяванне і саветызацыя Заходняй Беларусі на прыкладзе горада Гродна". Аўтар створанага, пратэставанага і ацэненага ў Інстытуце прыкладной гісторыі Універсітэта Франкфурта-на-Одэры праекту "Метады міжкультурнай гісторыка-палітычнай адукацыі". З 2008 г. кіруе праектам Гістарычная майстэрня Еўропа, праграмай фонда "Памяць, адказнасць і будучыня", які спрыяе шматперспектыўнай дыскусіі па праблемах еўрапейскіх культур памяці.

**Ронні Хайдэнрайх**
з 2000 па 2007 гг. навучанне па спецыяльнасці Новая і навейшая гісторыя, Усходняя Еўропа і паліталогія ў Лейпцыгу і Берліне. З 2007 па 2009 гг. супрацоўнік фонда даследаванняў дыктатуры Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі ў межах дакументацыйнага праекта "Месцы памяці камуністычных дыктатур". З 2009 г. навуковы супрацоўнік Мемарыяла "Берлінская сцяна", аддзел даследаванняў і дакументацыі, па падрыхтоўцы вонкавай выставы.

**Анна Камінскі**
у 1993 г. абарона дысертацыі на званне кандыдата філасофскіх навук; з 1993 па 1998 гг. супрацоўніцтва ў розных даследчыцкіх, выставачных і іншых праектах у Берлінскім Інстытуце параўнаўчых сацыяльных даследаванняў, ва ўніверсітэце Мюнстэра, мемарыяле Заксенгаўзен і Нямецкім гістарычным музеі па тэмах "Перапрацоўка ГДР"; з 1998 г. навуковы супрацоўнік, з 2001 г. кіраўнік фонда даследаванняў дыктатуры Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі. Аўтар шматлікіх публікацый па тэмах: штодзённая і спажывецкая гісторыя, тлумачэнне культуры і палітыкі памяці пры камуністычных дыктатурах.

**Ірына Кашталян**
у 1996-2002 гг. навучанне на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ), у магістратуры Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. У 2006 г. па ідэалагічных прычынах дысертацыя, абароненая ў БДУ па тэме "Штодзённае жыццё беларускага грамадства (1944-1953)", не была зацверджана Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй Рэспублікі Беларусь. З 2008 г. стыпендыят Нямецкай службы акадэмічных абменаў, аспірант Свабоднага ўніверсітэта Берліна, працягвае даследаванне па тэме "Рэпрэсіўныя фактары ўнутранай палітыкі СССР і штодзённае жыццё беларускага грамадства 1944-1953 гг." Заангажавана ў роз-

ныя грамадскія і навуковыя праекты недзяржаўных арганізацый; даследчык найноўшай гісторыі Беларусі, спецыялізуецца па вуснай і штодзённай гісторыі, а таксама гісторыі палітычных рэпрэсій.

**Ігар Кузняцоў**
кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры дыпламатычнай і консульскай службы факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

**Алена Тэмпер**
у 2004–2009 гг. сябра Лейпцыгскай даследчыцкай акадэміі (РАЛ); у 2009 г. абарона дысертацыі на званне кандыдата філасофскіх навук, дысертацыя па тэме "Беларусь вобразная: дзяржаўная сімволіка і стварэнне нацыі пасля 1990 г."; з 2009 г. навуковы супрацоўнік Гуманітарнага цэнтра гісторыі і культуры Усходняй і Сярэдняй Еўропы у Лейпцыгскім універсітэце; з кастрычніка 2010 г. навуковы кіраўнік гэтай арганізацыі.

## Імянны паказальнік

## Геаграфічныя паказьнік